*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС*

**2** (964)

*ЛЮТЫ*

# ПОЛЫМЯ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2010

## *ЗМЕСТ*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»

Мікола Фядосік



# Служу Радзіме

*Аповесць*

## Частка першая

## АДКАЗНАСЦЬ

### *Вучэбка*

**Ура!** Паўгода вучобы ў сяржанцкай школе засталося ў мінулым.

Я бязмежна рады гэтаму факту, а таксама ўсцешаны тым, што накіраваны ў праслаўлены гвардзейскі полк, раскватараваны ў старажытным Полацку. Да гэтых радасцей дадаецца і яшчэ адна — туды ж накіраваны і мой сябра Валянцін, зямляк. Не з маіх Лучыцаў, а з Рэчыцы. Нехта, не памятаю, прапеўку склаў, даведаўшыся, што ён з горада над Дняпром: *«Рэчыца-Рэчыца, у мяне муж алкаголік, ды не лечыцца...»* Валік не крыўдзіўся на «сачыненне» саматужнага паэта, нешта склаў і на яго. Той і замоўк.

Мы з Валікам пад уражаннем падзей: учора падняліся на адну прыступку нашага вайсковага жыцця. Нам прысвоілі абодвум званні малодшых сяржантаў. Звычайна тое рабілася, як мы ведалі, падчас прыбыцця на месца пастаяннай службы, але для нас зрабілі выключэнне... Чаму? А таму хаця б, што вучобу скончылі на «выдатна». А гэта табе не казыраць левай рукой да брыля... Так жартаваў наш старшына Савошкін...

Мы лычкі яшчэ не прышылі, паспеецца, але ў думках ужо бачылі сябе ў пагонах з дзвюма чырвонымі палоскамі. На сэрцы — радасць, узнёсласць, здаецца, і крылы за плячыма выраслі, узмахні — і паляціш над вяршынямі сосен і бяроз, вымкнешся ў блакіт неба... Эх, юнацтва мройнае, бесклапотнае, шчаслівае... Мрояў у галаве — процьма, а жаданняў — не пералічыць! І ўсе хлопцы, што побач, робяцца самымі дарагімі на свеце. І мы разумеем, чаму

---

**Фядосік Мікалай Міхайлавіч** *нарадзіўся 1 мая 1947 года ў вёсцы Лучыцы Петрыкаўскага раёна. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут і аспірантуру. Працаваў на Гомельскім хімічным заводзе — электраманцёрам, сакратаром камітэта камсамола, пасля — на партыйнай рабоце. З 1985 па 1999 год — генеральны дырэктар Гомельскага вытворчага аб'яднання пластмасавых вырабаў. Цяпер узначальвае дзяржаўнае прадпрыемства «Эксперт-Паслуга».*

*Кандыдат тэхнічных навук. З апавяданнямі выступаў у рэспубліканскім перыядычным друку.*

аддавалі жыцці на вайне байцы, калі іх сябры траплялі ў безвыходныя сітуацыі і іх трэба было ратаваць: сэрцамі радніліся. Так і ў нас: пройдзе час, дык і ўвогуле вайсковыя сябры радней за брата роднага стануць.

Мы ходзім па страявым пляцы, па спартыўным гарадку, завітваем у вучэбныя класы і адчуваем, як нахлыньвае на нас дрыготкая радасць, замешаная на шкадаванні: паўгода мы высільваліся — бегалі кросы, праліваючы сотні патоў, стралялі, пераадольвалі паласу перашкод, з процівагазамі праходзілі загазаваную мясцовасць, — а сёння мы не ведаем, куды падзець сябе... Напружанасць — фізічная і маральная — знікла, і мы яшчэ не можам уцяміць, што нам ужо не трэба тут высільвацца, што не прагучыць строгая каманда старшыны, каб мы не расслабляліся, не размаўлялі паміж сабой...

Адчуванне такое, што мы беглі, беглі па нейкім маршруце, а потым аказалася, што нам і бегчы нікуды не трэба... Сышлі з дыстанцыі і аддыхваемся. Ну і няхай, сілы зберажом для далейшых пераходаў.

— Бывай, Прыекуле! — вымаўляе Валянцін прачулыя словы, і голас, здаецца, у яго дрыжыць.

— Бывай, цяжкая, але такая цікавая часіна! — дапаўняю я яго, і гавару шчыра, бо гэтая прыбалтыйская мясцінка пакінула добрую мецінку ў нашым жыцці.

Вы не ведаеце, што такое Прыекуле?[1] Гучыць, як усё роўна «прыехалі», праўда?

Ну, што расказваць пра гэты гарадок? Акуратненькі, чысты. Людзі адносяцца да вайскоўцаў па-рознаму, вітаючыся, пры сустрэчы, кланяюцца. І нам падабаецца, як яны на сваёй мове звяртаюцца да нас, і мы стараемся, пры развітанні, сказаць таксама нешта адпаведнае... Бо пераканаліся: скажы ім пры сустрэчы «здравствуйте», адвернуцца, а калі павітаемся «дзень добры», то ў адказ — усмешка, ды ў дадатак: «О, браткі беларусы, нашы добрыя суседзі!..»

Сказаць, што ў нашай душы вялікае шкадаванне з-за таго, што пакідаем гэты ваенны гарадок — пакрывіць душой. Колькі патрачана душэўных і фізічных сіл, колькі крыўд прыйшлося вынесці... Калі заслужана, а калі і памылкова мы трапляем пад прэсінг з боку ваенных камандзіраў. Разумелі — так трэба...

Дысцыпліна найстражэйшая. Афіцэру чэсць прывучалі аддаваць па ўсіх правілах. Ды што афіцэру, сустрэчнаму яфрэйтару паспрабуй не казырнуць — заманаюць, некалькі разоў прымусяць прайсці перад ім страявым крокам, ды з выпраўкай, ды са строгім тварам, жывот уцягнуўшы да самага пазванка...

Ці той жа старшына знойдзе ў памяшканні ці ў іншым «непаложаным» месцы недакурак. Усім узводам закопвалі яго за межамі гарадка. Вы не ўяўляеце, якое гэта было пахаванне. Думаеце, рыдлёўкай выкапалі ямінку, кінулі туды той няшчасны недакурак і пакрочылі назад? А два на два не хочаце? Што такое — два на два? Гэта два метры ўшыркі і два ўглыбіню. Такую яміну нам трэба было выкапаць, каб адправіць «на той свет» агрызак «прыміны»... Уяўляеце? Не, вы не ўяўляеце, бо не былі сярод нас. Для нас пару такіх «залётаў» — і ўрок на ўсё жыццё, што засталося пражыць.

Час распісаны па хвілінах, калі не па секундах. Ніякіх апраўданняў ці прычын невыканання каманд не існавала. Калі атрымоўваеш пазачарговы нарад, то ты яго і адрабляеш у тую ж ноч. Усім — адбой, коўдру на галаву, і гары

[1] Падзеі адбываліся да 1991 г.

яно гарам да раніцы. Сон ніхто не адбярэ... Але яго адбяруць у тых, хто правінаваціўся — да раніцы будзеш шараваць падлогу ў туалетах, абіраць бульбу ці вазіць вугаль у качагарку. Іншых пакаранняў для нас не прыдумалі.

Ну, мы хлопцы не са слабакоў, выжыльваемся, ніхто не хоча паказаць, што сілы на зыходзе. Гонар не дазваляе.

Другі груз і ціск — спецдысцыпліны і статуты. Вучыць іх прымушалі, як вернікаў «Ойча наш». Няправільна адкажаш, прамарудзіш — дадатковыя заняткі ў вольны час і нават у нядзельку. А што такое нядзелька — ведае кожны.

А што сказаць пра фізічную падрыхтоўку? О, гэта царыца ўсіх царыц! Пятая частка ўсяго часу адведзена ёй. Як насланнё... Зарадка ў любое надвор'е, пры любой тэмпературы — плюсавой ці мінусавай, у макрэчу ці ў сухмень, хочаш ты ці не хочаш, прастудзіўся ты ці нямогласць адужала... Кожны тыдзень, гэта ўжо як закон вайсковага гонару, марш-кідок на дваццаць пяць кэмэ.

Уяўляеце? Усе курсанты атрымалі свае картонныя жэтоны з нумарам і гербавай пячаткай вайсковай часці. Пасля сняданку засоўваеш у кішэню той жэтон і адразу ж, без прамаруджвання, хочаш не хочаш, а на трасу. У дванаццаці кіламетрах ад кантрольнага пункта пропуску — КПП — чакае уазік начальніка школы: палкоўніка Пятра Іўчыка, строгага на выгляд афіцэра, а так вясёлы і дасціпны чалавек, са скрынкай, у якой прачынена вечка. Чаго прачынена? Таму што за паўтары гадзіны трэба паспець дабегчы і кінуць туды свой жэтон. Не паспееш — цябе чакаць ніхто не будзе. Назад — той самы парадак. А калі не ўклаўся ў дадзены час, то жэтон, які не паспеў кінуць у скрынку начальніка школы, выдасць цябе з галавой. Давядзецца зноў бегчы, але ўжо ў нядзельку. Ну, як вам такая перспектыва? А вы мне ў адказ: «Цярпі, казак, атаманам будзеш...» Ды пляваў я на ваша атаманства, мне хаця б у малодшыя сяржанты выбіцца. Жартую, канечне ж, ад перанапругі жартую...

Можа і сорамна, але прызнаюся: па першым часе даймаў голад. Дома як — захацеў есці, дык шмандэлак сала з паўбоханам хлеба ўмяў, толькі ваду папіваеш сабе. А тут дзе той шмандэлак, дзе тая луста хлеба? Ні таты, ні мамы, ніякага родзіча... У старшыны папрасіць? Дык ён табе такую фігу пад нос падсуне, што нос на патыліцу заверне. Мы з цяжкасцю асвойвалі, як бы сёння сказалі, армейскі сервіс. Але няма, як той казаў, ліха без дабра. Нас ратоўвала хіба тое, што восенню, у мэтах, канечне ж, прафілактыкі грыпу, на сталах удосталь клалі цыбулі і сухароў. Мы націскалі на цыбулю, загрызалі сухарамі. Плакалі, але загрызалі. Можа, таму ў нас сёння такія вочы відушчыя, што тоны слёз пралілі тады, седзячы за вайсковым сталом.

Валік чамусьці не плакаў, казаў, хрумстаючы сухаром:

— А што, у вас гора якое, што на вачах слёзы? Мне дык радасна аднак...

Умеў ён нас падкузьміць, нічога не скажаш.

На гэтым нашы пакуты не заканчваліся. Вы ведаеце, што такое адбой? Ведаеце? Не, вы нічога не ведаеце. А што такое сорак пяць секунд, чулі? Ну, ладна, чулі. Мы гэтаму вучыліся паўмесяца. Новая, яшчэ не падагнаная, як след, форма, нераспрацаваныя пяцелькі для гузікаў, а анучы (і хто іх толькі прыдумаў?), якія не слухаліся і ніяк не хацелі намотвацца на нагу... Апрануцца трэба паспець за сорак пяць секунд. І распрануцца за такі ж час. О маці, навошта ты мяне нарадзіла?

Сонтрэнаж — так мы празвалі (канечне ж, раней за нас празвалі) тую працэдуру, правільней, час, адведзены для сну, скарачаўся на хвілін трыццаць. Дык ці трэба было ўвогуле класціся на тыя панцырныя ложкі? Здзек...

— А ты памятаеш, як мы хацелі сарваць той «трэнаж сну»? — звяртаецца да мяне Валянцін, прысаджваючыся на лаўку, пафарбаваную ў жоўты

колер (тую лаўку і фарбаваў Валік, пераблытаўшы загад старшыны). — Памятаеш?

Я смяюся замест адказу. Усміхаецца і мой сябрук.

Калі ўсе заснулі, мы з Валікам нішкам пераблыталі ўсім адзенне, пераставілі табурэткі, пераблыталі боты, пазасоўвалі ў іх анучы... Рагатала ўся батарэя. Але на твары старшыны ні іскрынкі смеху. Нездарма мы яго празвалі «варварам». Праз паўгадзіны разабраліся, што да чаго. Разабраліся і з намі. Ёсць у кожнага з нас ворагі і нядобразычліўцы...

— А пра казу і лапу? — напамінаю я Валіку. — Даставаў ён цябе?

— Але ж і я яго, — смяецца сябар.

Гэта нас даймаў загадчык вучэбнага корпуса літовец, яфрэйтар, па прозвішчы — Казалапаў. Але чамусьці ўсе, быццам згаварыліся, называлі яго Казліная лапа.

Заўважыўшы некага з нас, ён абавязкова стараўся выйсці на «сустрэчны курс». Калі ж не было побач з намі старшага па званні, то прайсці паўз яго — бяда. Ён абавязкова да чаго-небудзь прычэпіцца. Як той міліцыянер да п'янага слупа. Ці наадварот, не памятаю. Валік аддаваў яму чэсць мо разоў дзесяць, а потым надакучыла, і ён сказануў:

— Дык у цябе ж пілотка задам наперад — як табе чэсць аддаваць?

Той аслупянеў, вочы вырачыў, не паверыў, пілотку зняў, пакруціў так і гэтак, хацеў нешта сказаць курсанту, а той ужо быў за крокаў сто ад яго. А тое бачылі курсанты, што стаялі за кустоўем, рагаталі так, што за жываты хапаліся.

Не дай бог каму-небудзь пярэчыць, агрызнуцца, не падпарадкавацца, — на вячэрняй праверцы згодна рапарту на імя старшыны адразу ж атрымаеш адзін-два-тры нарады за «парушэнне» ці «пярэчанне»...

Аднойчы ідзе наш яфрэйтарчык па дарожцы, пра нешта сваё харошае думае, пад ногі сабе глядзіць, падбароддзе гладзіць. Валік натапырыўся, як звер, адчуўшы ахвяру, штурхнуў мяне пад бок:

— Камедзію наладзім... Рогі яму абламаем...

Не бачыць, прастуе яфрэйтар Казалапаў — загадчык вучэбнымі класамі — проста на нас. Як бульдозер, як танк Т-34.

Мы маўчым. Валік яму насустрач, проста ў лоб строга пытае:

— Таварыш яфрэйтар, ты пачаму, такую тваю маць, старшым па званні чэсць не аддаеш?

Ён ледзьве адышоў ад сваіх думак, глядзіць на нас і нічога не разумее, што ад яго хочуць.

Валік паўтарае пытанне:

— Казалапаў, ты чэсць умееш старшым аддаваць? Ці толькі любіш, калі табе аддаюць?

Уцяміўшы, што да чаго, зірнуўшы на нашы пагоны, пацiснуў плячыма:

— Якія вы старшыя? Вы ж радавыя, а, значыць, жаўтароцікі! У вас жа і нашывак няма. Значыць, парушаеце статут, мяне спыніўшы.

— Статут? Ты там, а мы тут? Ладна, мы прайгралі...

Але ў Валянціна план. А калі ён нешта задумае, яму лепш не перашкаджаць.

— У казарму! Тэрмінова! — дае каманду сябар. — Не затрымлівайся!

За хвіліну мы прыбягаем у казарму.

— Прышывай хутчэй! — па-камандзірску загадвае Валянцін.

О, цяпер мы пры парадзе! О, цяпер мы — камандзіры! У сваіх вачах выраслі на паўлапця, як казаў дзед Міканор. Цяпер мы на роўных. Не, нават вышэй. Бо ў нашых кішэнях прадпісанні і праязныя дакументы.

Валік, напусціўшы на сябе заклапочаны выгляд, падыходзіць да дзяжурнага, пытаецца, так, між іншым:

— А чаго гэта ў нас адзін з класаў не апячатаны? Даведаецца камандзір батарэі — у тар-тарары заляціш!

І праходзім далей. Але хаваемся за вуглом — чакаем развязкі падзей.

Што мы бачым — яфрэйтар прастуе па дарожцы. Узбуджаны, усхваляваны, непарадак знайшлі ў яго ведамстве. Аж задыхаецца, бедны, узмакрэў.

А мы выходзім з засады насустрач.

— Ты як праходзіш паўз тых, хто старэйшы па званні?

Вочы на выкаце — калі паспелі апрануць на сябе мундзіры па форме?

— Я...

— Кругом! — камандуе малодшы сяржант Валяцін Пяшкун. — Аддаць, як паложана, чэсць!

Прайшоў паўз нас, перайшоўшы на страявы каленкор, але не зусім удала тое зрабіў.

— Э, дык ты і хадзіць не ўмееш страявым. Назад! Паўтарыць!..

Зноў не так. Зноў незадаволены малодшы сяржант Пяшкун. Загадвае паўторна прайсціся страявым, ды па ўсіх вайсковых правілах. А ў таго твар пабіты плямінамі, спіна ўзмакрэла, — уліп, як сом у сак (так у нас у Лучыцах кажуць).

За нашай спінай стаялі курсанты, смеючыся, назіралі за «спектаклем».

На дзесяты раз Казалапаў нешта злосна сказаў па-літоўску. Мы зразумелі, што гэта ён мацюкаецца гэтак. Во дасталі!

Гучыць каманда шыхтавацца — строіцца, значыць. Але нас тое не тычыцца — мы як бы тут і чужыя, мы ўжо не тут, мы ўжо ў Полацку. Раніцай адправімся туды. Але паназіраць, як курсанты, абганяючы адзін аднаго, імкнуцца хутчэй стаць у шыхт, цікава.

«Варвар», як заўсёды, строгі і дзелавы. Што ні кажы, камандзір, — старшына. Старшы над усімі і над усім. Але ён ведае сітуацыю. Ён на нашым баку, бо не хоча заставацца ў нашай памяці чалавекам без клёпкі ў галаве.

Каб не рассмяяцца, адварочваецца да акна, спрабуе прыдаць голасу металічныя ноткі, аб'яўляе:

— За непаслухмянасць і нетактычныя паводзіны перад старшымі па званні яфрэйтару Казалапаву аб'яўляю два пазачарговыя нарады!

Цішыня як у магіле. На твары бледнасць, ніякаватасць, разгубленасць. Але Вітас Казалапаў адказвае:

— Ёсць два нарады без чаргі!

Што шукаў, тое і знайшоў, чаго дамагаўся, тое і прыдбаў. Валік, бачу, не рады помсце. Уздыхнуў толькі:

— А як жа інакш збіць рогі?

Паляжаць бы, драмануць трохі, астынуць ад хвалявання. Ды куды там, Валянцін як той старшына — тое не рабі, туды не ідзі, таго не пі, пра тое не думай.

— Грэх спаць у такі час, — гаворыць ён. — Пасля службы ідзі ў пажарнікі — тады і выспішся.

Блукаем па тэрыторыі, успамінаем кожны крок тут, у гарадку.

Дзіўна: то марылі як найхутчэй вырвацца з гэтага пекла, як мы празвалі вучэбку, а цяпер, калі ўсе пакуты засталіся ззаду, шкадаваць пачынаем. А чаго шкадаваць, і самі не ведаем. Быццам нешта пакінулі тут, а ўзяць з сабой не можам.

Ледзьве заснулі. Бо думкі лезуць у галаву, мроі, бы тая машкарэча, кусаюцца, не даюць спыніцца на нечым адным. Толькі пад раніцу звёў вочы, а тут каманда:

— Батарэя! Пад'ё-оооо-оом!..

Ускакваю, накручваю анучы на ногі, і чую побач голас Валіка:

— Ну і службіст, генералам будзеш! Ану, спаць, ты ж не курсант ужо...

Сорамна перад сябрам. Няўцямна сяджу на ложку, у падлогу гляджу. А потым моўчкі кладуся, насоўваю на галаву коўдру, хаваюся. Ад каго? І сам не ведаю. Ад самога сябе. Ад дрыготкага хвалявання, ад думак, ад закамплексованасці вайсковага жыцця...

Калі ўжо ўсе выбеглі на вуліцу, на прабежку і фіззарадку, мяне пад бок штурхае Валік:

— Ну, і спаць ты мастак... А хто зубы будзе чысціць, марафет наводзіць?

Мы — нічые. Мы — і ні ў Полацку, мы — і ні тут. Дзе мы? Не зразумець. Ходзім як сонныя мухі. У сталоўцы нас не чакаюць — атрымалі ж сухі паёк. Згарнулі бялізну, нясём у капцёрку. Там старшына Савошкін — усміхаецца, падкучвае свой неіснуючы вус, адабральна ківае галавой. Мы ківаем у адказ.

Ідзём па прывычцы ў курылку, хаця ні я, ні мой сябрук не курым. Я нешта не выспаўся: хіліць у сон. Таму і здаецца, што ў наш бок — ад КПП — крочаць двое ў параднай форме.

Калі я ўжо зажмурваю вочы, каб прыдрамнуць, нехта мяне моцна штурхае пад бок.

— Во адаспаўся за службу, як сурок стаў...

Голас знаёмы, нават нейкі блізкі, ці не родзіча з Лучыцаў. Расплюшчваю вочы і не веру — няўжо?!

— Вы?

— А хто ж яшчэ?

Вачам не веру — гэта ж мае стрыечныя браты: Сяржук і Мікола! То ж іх узялі ў войска на тры месяцы раней за мяне, і служылі яны непадалёчку — у Вайнедзе, у РВСП — у ракетных войсках стратэгічнага прызначэння. Я і забыўся, што прасіў іх прыехаць да мяне, калі я скончу свой вайсковы «універсітэт». Не забыліся, прыехалі. Якая радасць мяне агарнула! Ой, якія малайцы! Ды што гэта? На стол пакет выставілі. А ў ім — малако, булкі, пячэнне, іншыя прысмакі.

— Валік, налятай! Лучыцы банкетуюць!

Такога царскага сняданку мы і не чакалі. Замест салдацкай сталоўкі мы адчулі сябе на колькі хвілін цывільнымі людзьмі. Сяржук і Міколка радасна глядзяць на нас, як мы ўплятаем іх пачастунак за абедзве шчакі.

Нехта з нашых хлопцаў, выпрасіўшы ў старшыны сігнальную ракету, схаваў за склад і стрэльнуў у неба.

Успарола неба зялёным штрыхом, і ў канцы чырвонай ружай успыхнула. Як усё роўна нам, выпускнікам вучэбкі, дадзена зялёнае святло, а ў дадатак і букецік...

— З Новым годам! — віншуе мяне Сяргей Яськоў.

Валянцін, не адрываючыся ад бутэлькі з малаком, здзіўлена паглядае то на мяне, то на Міколу. Нічога не разумее. А я, успомніўшы тое, смяюся разам з Сержуком...

...Тады, пад Новы год, варту несці выпала нашаму ўзводу. Тут і так страшнавата выходзіць у цемру, а яшчэ падчас свята... У Латвіі, трэба прызнацца, адносіны і тады былі неадназначныя — мы вуха трымалі чуйна.

Ведаючы тое, камандзір батарэі і памочнік яго па палітычнай частцы рыхтавалі нас як да палёту ў космас: і тое рабіце так, і тое гэтак... Ні ў якім разе не губляйце пільнасць і асцярожлівасць. Ну, і гэтак далей. Гадзіны з тры праходзіў той інструктаж.

Мой пост — нумар тры, змена — другая. Значыць, ноччу стаяць двойчы — з дваццаці дзвюх да поўначы і з чатырох да шасці гадзін. Як кажуць, чын па чыну, заступаю ў належны час. А мароз як на тое, нават, здаецца, і кажух не грэе. Месячык на небе і ніводнага воблачка. Цішыня — аж на вушы цісне. Па ўсёй тэрыторыі майго аб'екта збялелыя ад інею сосны. Бачна ўсё за кіламетраў пяць — адзінокі вазніца пад суседняй вёскай выбраўся ў дарогу. Чуваць яго вокліч на каня.

Халоднымі агеньчыкамі зіхацяць сняжынкі. Міжволі ўспамінаецца школа і Максім Багдановіч:

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег...

Настрой добры, хаця пад сэрца шыецца трывога. Камбат з пампалітам так напужалі, што за кожнай купінай мне здаецца дыверсант.

У маю задачу ўваходзіць ахоўваць тры вялізныя склады і нафтасховішча. Аб'ект адказны і важны, само сабой зразумела. Вакол складоў калючы дрот. Дазорная сцяжына па перыметры даўжынёй з кіламетр. Ужо не такім важкім падаецца мне паставы кажух, а валёнкі надзейна засцерагаюць ногі ад холаду.

Раблю ўсё так, як вучылі: праходжу чатыры крокі, паварочваю галаву направа і налева, пастаянна азіраюся і прыслухоўваюся. На другім крузе пачынае балець шыя. І тады ж робіцца страшна — а раптам прапушчу што, не заўважу. Бадзёрасці хіба прыдае той факт, што за нашым плотам знаходзяцца склады суседняга вайсковага падраздзялення. Там таксама ходзіць вартавы — бачыў яго, калі выходзіў на прагалак. Але яго я чамусьці не заўважаю — куды ж ён мог падзецца? Падыходжу прасцярожліва па пратаптанай сцяжынцы да самай апошняй кропкі майго маршруту. Да складоў метраў сорак.

— Стой! Хто ідзе! — выбухнула нечакана ў марознай цішыні, і ў мяне душа ўскочыла ў пяткі.

Ад нечаканасці і сполаху машынальна прысеў, і аўтамат балюча выцяў калена. Халодны пот выступіў на твары, цёплыя струменьчыкі папаўзлі па спіне. Праз колькі секунд да мяне даходзіць: «То ж я павінен крычаць тыя словы! Хто за мяне іх выкрыкнуў?!» У горле — клін. У статуце пра такое не гаворыцца, ды і падчас строгага інструктажу мне гэтага не паведамілі, — забыліся ці што...

З-за вугла нечакана пачуўся рогат. Потым з'яўляецца сусед у такой жа кажушыне да пят, як і ў мяне, падколвае:

— Ну, што, салага, у штаны наклаў?

Маўчу. Не ад таго, што не ведаю, што адказаць, а ад таго, што спазмы ў горле перакрылі дыханне. Голас падаўся мне знаёмым, ды і пастава напамінала некага. Го, дык гэта ж Сяржук, землячок мой, брацік мой родненькі, хаця і стрыечны! Калі ачомаўся, пачынаю рагатаць і я, хаця мне было ўжо і не да смеху. Ён ужо не адзін раз пабыў у ролі вартавога, вопыту набраўся, а я...

Перакідваемся словамі, цікавімся, што пісалі землякі, што адбылося цікавага ў Лучыцах. Успомнілі дзеда Паўла, Нашука, Жыгана з Фядорай... Цяплей на душы стала.

Ды раптам здарылася нечаканае. Гучныя выбухі ў небе зноў прыгнулі мяне да зямлі. Тут ужо і на Сержука страх напаў — пападалі абодва на зямлю, насамі ў снег зашыліся. А неба расквечваецца рознакаляровымі агнямі, зноў і зноў у неба ўзлятаюць ракеты, і чуецца здалёку радасны вокліч:

— З Новым годам! З Новым шчасцем!

Сяргей сканфужаны. Я ж, наадварот, задаволены, не будзе байкі расказваць пра маю баязлівасць ні сярод салдат, ні сярод лучыцкіх дзяўчат, калі дэмбільнёмся, мы — квіты.

Ідзём на зыходную пазіцыю. Чую папераджальны голас Сержука:

— Стой, хто ідзе?

А ў адказ вясёлае:

— Дзед Мароз са Снягурачкай...

Тут ужо асмялелы Сяргей падае каманду:

— Снягурачка — да мяне. А ты, Дзед Мароз, стой на месцы!

Шчасліўчык Сяргей — такія жарты яму сыходзяць з рук, як-ніяк страявікам лягчэй. У мяне ж — ніякай адсабечасці, жыць толькі па статуце, так, як вучыў камбат Сташкевіч і зампаліт Загорскі...

...Падыходзіць аўтобус. Загаварыліся з землякамі, забыўшыся, што мы павінны быць пры ўсім парадзе. Бяжым з Валянцінам па рэчмяшкі ў казарму, хапаем іх і без затрымкі ляцім на вуліцу.

Падаюць каманду заходзіць у аўтобус. Абдымаемся з Сярожам і Міколам, абяцаем пісаць адзін аднаму.

Падышоў і камбат з пампалітам, паціснулі рукі, прыставілі рукі да брыля:

— Так і далей выдатна служыць, хлопцы!

— Служым Савецкаму Саюзу! — адказваем бадзёра, з пачуццём годнасці, у душы радасць, што вунь і камандзіры нам пажадалі добрай службы.

А потым ужо, па-свойску, прыхільна гледзячы на нас, камбат дадаў:

— Вы, гэта самае, не крыўдуйце на нас, што так строга да вас адносіліся. Цяжка ў вучэнні, лёгка ў баі! Няхай у вас баёў не будзе, але тое, што вы тут атрымалі, спатрэбіцца ў жыцці.

«Пафасна вельмі, таварыш маёр, узнёсла, — падумалася мне тады, — такое вынесці, як у пекле пабываць...»

Мы яму нічога не адказалі. Мо і добра, што нічога, бо глупства сказалі б, як піць даць.

— У добры шлях! — махнуў рукой пампаліт. — З Богам!

Я тады яшчэ здзівіўся: камуніст Бога ўспамінае? Ці гэта ў яго пастаянны выраз такі пры адпраўцы ў дарогу?

За КПП з палёгкай уздыхнулі, расшпілілі каўнерыкі.

А за акном — май, цеплыня, зялёныя палі. І жаўрукі заліваюцца ў небе, складаючы нам развітальную песню.

З якім нецярпеннем мы чакалі гэтай хвіліны: здавалася, што час, праведзены ў вучэбцы, ніколі не выветрыцца з нашай памяці. Гэта ж трэба так дапячы, столькі сокаў з нас выціснуць, такія нагрузкі вытрымаць — фізічныя і душэўныя... Наіўныя мы, наіўныя... Не ведаем, што пройдзе зусім няшмат часу і мы на тое будзем глядзець ужо зусім іншымі вачыма.

— Во і вакзал! — падае голас Валянцін Пяшкун, першым убачыўшы вывеску на фасадзе будынка.

Выходзім на платформу, азіраемся, прыглядаемся да людзей, да вакзала. У нас яшчэ паўгадзіны часу да адпраўкі. Мы падыходзім да шапіка, заказваем па шклянцы газіроўкі, п’ём з асалодай, гледзячы ў блакітнае травеньскае неба.

— Атас! — кранае мяне за рукаў Валік. — Патруль!

Мы імгненна прымаем належны выгляд.

Але дарэмна спалохаліся — старшы патруль наш узводны капітан Аляксей Савін. З радаснай усмешкай на твары ён падыходзіць да нас, дае вясёлую каманду «вольна», нават руку падае кожнаму — як роўным.

— Віншую вас, хлопцы, з заканчэннем вучобы! Поспехаў вам на новым месцы!

Нас праводзяць яны да самага ўвахода ў вагон. Маладая правадніца з нафарбаванымі вуснамі прыспешвае, просіць хутчэй займаць месцы.

Мы ад'язджаем і бачым, як Савін разам з хлопцамі махаюць нам рукамі.

Першае няўцямнае пачуццё настальгіі кальнула пад грудзі, але мы не надалі таму асаблівага значэння... Бо не зразумелі, чаму такое адбылося. Ну, па Лучыцах сумуем, тое зразумела, а па вучэбцы? Смешна...

## *Полк*

Як толькі поезд адышоў ад вакзала, пачаўся дождж. Аж не верылася — выехалі з вучэбкі пад сонечнымі промнямі, а цяпер па акне паўзуць дажджавыя змейкі...

У суседнім купэ сядзелі дзяўчаты. Расказваюць пра нешта адна адной, пырскаюць смехам. Па гаворцы зразумелі, што беларусачкі. Значыць, можна наладзіць з імі размову, і весялейшай стане наша дарога. Ды мо і на спатканне напрасіцца. А што?

Першым да іх накіраваўся малодшы сяржант Валянцін Пяшкун...

Прагаварылі з дзяўчатамі амаль да паўночы.

Ужо калі нас папракнулі суседзі, што спаць не даём, адправіліся з Валікам на свае месцы. Адрасоў ці тэлефонаў дзяўчаты не далі, ды мы і не прасілі, не набіваліся на сяброўства ці каханне...

Калі мы прыйшлі ў сваё купэ, то ўбачылі, што паліцы нашы засцелены. «Хто б гэта мог зрабіць? — падумаў я. — Правадніцы? Дык мы ж не прасілі. Ладна, разбяромся...»

Як толькі галава дакранулася да падушкі, якая аддавала прыемнай свежасцю, адразу пачаў правальвацца ў сон. Падумалася: «А хораша ўсё-ткі адчуваць сябе, хаця і на кароткі час, вольным чалавекам! І заўтра не пабудзіць днявальны, крыкнуўшы на ўсю казарму: «Пад'ё-ооомм!..»

Але, як ні дзіўна, мы самі сабе падалі тую каманду — а сёмай гадзіне раніцы нас нешта штурхнула ў бок. Біялагічны гадзіннік-будзільнік працуе бездакорна...

Памыліся, апрануліся, выходзім у тамбур, дзе вальнейшае паветра.

Але пакідаем мы свае месцы і па іншай прычыне. Ведаем, як толькі прачнуцца пасажыры, нас пачнуць шкадаваць чуллівыя жанчыны і бабулькі, частаваць нас прысмакамі, дадаючы абавязкова «бедныя вы салдацікі...» А якія мы бедныя? Нам у дарогу выдалі, як і належыць, сухі паёк. Старшына не паскупіўся — некалькі бляшанак тушонкі падкінуў «у нагрузку».

Паўз нас прашмыгнула правадніца. Потым вярнулася.

— А чаго вы тут, хлопчыкі? Мо з месца вас сагналі?

Сама ўсміхаецца, белыя зубкі блішчаць перламутрам. Вочы — сінія азёрцы, косы спадаюць на плечы.

— Ды не, замінаць людзям не хочацца...

— Гарбату піць будзеце?

— Не адмовіліся б.

— Тады так, праз колькі хвілін чакаем вас з сяброўкай у купэ. Яна, як і я, практыкантка. А вучымся з Ларысай у Рыжскім інстытуце транспарту. Чакаю.

І пайшла, пакінуўшы пасля сябе водар духоў і яшчэ нейкіх прыемных пахаў, якія заўсёды прымушаюць закіпаць кроў.

Счакаўшы трохі, мы ідзём у купэ. Дзяўчаты, з якімі гаварылі ноччу, спяць, адвярнуўшыся да сценкі. Прыгожыя, пэўна, ім сняцца сны. Мы бяром з Валікам некалькі бляшанак тушонкі, сыр, хлеб. А праваднічкі, аказваецца, і самі ўжо сервіроўку зрабілі, што трэба. Сядзяць, усміхаюцца, чакаюць нас.

Знаёмімся. Распачынаецца нязмушаная размова, і праз колькі хвілін нам ужо здаецца, што Ларысу і Тамару мы ведаем даўным-даўно, і гэта ў нас чарговая цёплая сустрэча, нават не сустрэча, а спатканне.

Тамара, калі пад'язджаем да чарговай станцыі, выбягае ў тамбур, каб выпусціць і прыняць новых пасажыраў. Зноў вяртаецца, і зноўку працягваецца размова з жартамі і смехам.

Сняданак атрымаўся што трэба. Дзяўчаты, каб мы не саромеліся, прымушалі нас есці за дзве шчакі, гарбату зрабілі выдатную. Ехалі б так і ехалі, ды Ларыса, гледзячы на нас з Валікам, уздыхае з жалем:

— Хлопчыкі вы нашы родныя, а праз сорак хвілін ваш Полацк...

Не верыцца. Чатыры гадзіны праляцелі як пяць хвілін.

Дзякуем дзяўчатам за цёплы прыём і гарбату, з неахвотай развітваемся.

— Мо калі і ўбачымся, — гаворым на развітанне, — бывайце!

— Зямля круглая — убачымся, — адказваюць праваднiцы, ведаючы, што выпадковыя сустрэчы рэдка калі маюць свой працяг.

Ларыса адчыніла дзверы, і мы першымі ступілі на перон.

Прывакзальная плошча. А дзе ж прыпынак другога аўтобуснага маршруту? Хацелі папытацца ў людзей, ды і самі ўбачылі, як аўтобус з такім нумарам разварочваўся каля газетнага шапіка. Заходзім у салон, падаем кандуктару пятакі.

— Куды вам, салдацікі? — цікавіцца кабета гадоў пад пяцьдзесят, глядзіць з цікавасцю на нас.

— Баравуха другая... Туды нам трэба.

— Дык гэта да зенітчыкаў, ведаю. Сядайце, я скажу, калі вам выходзіць. А пятакі схавайце, газіроўкі пап'яце. Мой сынок у Палтаве служыць, нялёгка яму там...

Аўтобус стаіць на месцы — вадзіцель вытрымлівае графік. А мы разглядваем праз акно плошчу. Пасля дажджу вялізныя калюжыны, і людзі абыходзяць іх, пераскокваюць. І сонца неўзабаве выглянула з-за хмар. На душы хваляванне — як сустрэнуць нас на новым месцы, як пойдзе служба, ці будзе так цяжка, як у вучэбцы...

— Салдацікі-касацікі, — весела гаворыць на ўвесь салон кандуктар, звяртаючыся да нас, — ваш прыпынак... Ідзіце направа, кіруйцеся сцяжынкі, і прыйдзеце туды, куды трэба.

Сцяжына прывяла нас да невялікага ўзгорка, на ім — старыя хвоі, якім мо па сто гадоў. Калі ж падняліся на самы верх, адкрыўся новы пейзаж — плот з бетонных пліт, на кожнай з іх намаляваны чырвоныя зоркі, а далей выдзяляліся сваім цёмна-зялёным колерам вароты. Калі ішлі паўз плот, убачылі драўляны будынак з бляшаным дахам і двума пад'ездамі.

— А вунь клуб часці, — паказвае позіркам Валянцін. — Бібліятэка побач...

Вось і вароты. Яны ўпусцяць нас, і мы пераступім нябачны парог і апынемся ў іншым, невядомым свеце, дзе мы будзем жыць два гады... Не толькі жыць, а і спасцігаць навуку вайсковага майстэрства.

Дзяжурны — такі ж, як і мы, малодшы сяржант — з чырвонай павязкай знаёміцца з нашымі дакументамі. Доўга і не прыглядаецца да іх, адразу ж і аддае, прамовіўшы:

— З прыбыццём вас у гвардзейскую чырванасцяжную.....

Потым тлумачыць нам, дзе знаходзіцца штаб. І мы крочым да драўлянага будынка. Насупраць увахода, за нізенькім бар'ерам, пастамент са сцягам часці, побач — вартавы. Аддаём, як і належыць па статуце, чэсць. Праходзім улева, у канцы калідора вялізнае акно. За ім — пакой з двума сталамі, сейфам, бачны табло з міргаючымі чырвонымі лямпачкамі, тэлефоны.

За сталом сядзіць старшына-звыштэрміновы, на чырвонай нарукаўнай павязцы белай фарбай пазначана — «пам. дзяж. па часці».

— Малодшыя сяржанты Мікола Фядосік і Валянцін Пяшкун прыбылі для далейшага праходжання службы! — дакладвае Валянцін, апярэдзіўшы мяне.

Я аддаю суправаджальныя дакументы — тоўсты пакет, запячатаны сургучом.

— Пра тое, што вы прыбудзеце, мы ведаем. Але вам давядзецца трошкі пачакаць. Начальнік штаба цяпер на абедзе. Вы пакуль што пасядзіце на свежым паветры — у нас выдатная альтанка.

Нам што цяпер? Нам ужо няважна, спяшацца ўжо няма куды, мы ўжо, можна сказаць, дома. А далей — толькі каманды выконвай...

Лаўкі зручныя, паветра чыстае, ветрык абвявае твары — любата! Можна і расслабіцца, вочы прыжмурыць, прыдрамнуць секунд шэсцьсот... Пра апошняе так жартаваў наш старшына. Але прыжмурыць вочы не ўдалося — да нас падсеў сяржант.

— Вы выпадкова не з Прыекуле?

— Адтуль.

— Будзем знаёмы — Віталь.

Назваліся і мы.

— І я тую ж вучэбку скончыў. Што там новага? Як пампаліт, камбат? І як там, дарэчы, Казалапаў? Як заўсёды, псуе кроў хлопцам?

— А як жа, — прамовіў Валянцін, — са скуры вылузваецца. — Але мы яго правучылі. Перад самым нашым ад'ездам яму старшына два нечарговыя нарады аб'явіў...

— Во гад. І мы вучылі яго. У апошнюю ноч мы ўсе ў яго боты схадзілі… Не дайшло. Ну, дзякую за навіны, — падняўся ён, — пара мне... Ды вось што яшчэ, хлопцы. Вы асабліва не згінайцеся перад начальствам, тут такое не ў модзе. Само начальства таго не любіць. А чэсць аддавайце толькі афіцэрам.

Мы прынялі карысную інфармацыю да ведама і адказалі:

— Дзякуем, браце, усё зразумелі!

Сяржант дадае больш даверліва:

— Я з чацвёртага дывізіёна. З вас пачак «Прымы» за парады. Служыць сама найлепей у Верхнядзвінску. Пазіцыі на ўскрайку горада, а побач — пляж. У Паставах знаходзіцца трэці дывізіён. Таксама месца выдатнае — на беразе возера. А ў ім рыбы процьма. Камандзір — былы чэмпіён Адэскай ваеннай акругі, штангіст. На «губу» сваіх не саджае: проста акуратненька возьме сваімі граблямі за талію — і вінаватаму ніколі больш не захочацца бузацёрыць...

— Тут адным пачкам не абыдзешся, — усміхаецца Валянцін. — Дзякую, за намі не заржавее, убачымся некалі, тады і разлічымся.

— Лаўлю на слове, — усміхаецца Віталь. — А цяпер усё, будзьма!.. Поспехаў!

— От бы разам нам трапіць служыць, праўда?

— Праўда. Я і сам таго хочу...

Мы рады, што Віталь трошкі праясніў сітуацыю. Цяпер ведаем, якую выбраць тактыку ў нашых далейшых дзеяннях.

Да ганка штаба падыходзіць невысокага росту, каржакаваты падпалкоўнік. Убачыўшы нас, прастуе да бяседкі. У руках папка.

Калі ён падышоў, мы, выцягнуўшыся ў струнку, далажылі, назваліся.

— Падпалкоўнік Хан — начальнік штаба. Сядайце.

Ён уважліва чытае нашы характарыстыкі, астатнія дакументы.

Твар загарэлы, нос гарбінкай, азіяцкі разрэз вачэй. Позірк пільны, уважлівы. Адразу відаць спрактыкаванасць у чытанні дакументаў. Загортвае папку.

— Па доўгу службы я павінен вам расказаць пра баявы шлях нашага палка, які раней іменаваўся 178-м знішчальным, авіяцыйным. Цяпер, пад такім жа нумарам, зенітна-ракетны. Але вам на месцы пра тое падрабязна раскажа нампаліт. Малодшы сяржант Мікола Фядосік!

— Я!

— Вы едзеце ў першы дывізіён да маёра Віктарава. Дывізіён знаходзіцца ў Верхнядзвінску. Тут акурат іх страшына — прывёз прыборы на праверку. Я распарадзіўся ўжо — чакае вас каля склада. А туды вас правядзе памочнік дзяжурнага па часці.

— Ёсць!

— А вы, малодшы сяржан Пяшкун... Так, ага, вось я распісаў... Паедзеце ў трэці дывізіён — да падпалкоўніка Белаконя. Ён таксама тут. Чакайце яго — ён вас забярэ. А во і ён ідзе, лёгкі, як кажуць, на ўспамін.

«Аказваецца, начальнік штаба сам усё распісаў загадзя, — падумаў я, — і не прыйшлося самому некуды прасіцца...»

Каля варот спыняецца уазік. Без брызентавага даху, толькі металічныя дугі. Для камандзіра аднаго месца мала, глыба, а не чалавек. На яго плячах пагоны глядзяцца лялечнымі. Калі вылез з машыны, тая аж падскочыла, скінуўшы з сябе пудоў дзесяць. Бровы ў камандзіра густыя, насупленыя, а пад імі два свярдзёлкі — здаецца, пранізваюць наскрозь. Зірнеш толькі на яго, і мала не падасца... Ну і даў Бог Валянціну камандзіра!..

Начальнік штаба перадае паперы, затым уручае каробачкі з гвардзейскімі значкамі.

— З гэтай хвіліны вы не проста малодшыя сяржанты — гвардыі малодшыя сяржанты. Не намі гэтае званне заслужана, але захоўваць яго нам. Усё зразумела?

— Так точна!

— Ведаю, вы б хацелі трапіць у адзін дывізіён, бо пасябравалі моцна ў вучэбцы. Але так склалася, што вашы здольнасці і талент патрэбны там і там.

Пацiскаем адзін аднаму рукі. Гляджу ўслед Валянціну. Ён ідзе так, як быццам яму звязалі путам ногі. Як бычок на прывязі, не ўпіраецца толькі...

З’явіўся памочнік дзяжурнага, кліча за сабой. Машына загружана, каля яе — звыштэрміновы з пагонамі старшага сяржанта. Той, што суправаждае, перадае нейкія пакеты, прадстаўляе мяне.

— Лезь у кузаў, зачакаліся цябе.

Уладкоўваюся між скрыняў на зручнае месца, рэчмяшок кладу побач.

Мне ўсё бачна, сустрэчны ветрык лашчыць твар. Дарога праходзіць уздоўж Заходняй Дзвіны, а з другога боку — змешаны лес, шмат ялін, бяроз... Прырода такая ж, як і у нас, на Палессі.

«Як там Валік? — падумалася пазней, калі надакучыла глядзець. — Мо ўжо і дабраўся да месца? А колькі мы, цікава, будзем ехаць?..»

Толькі так падумаў, як машына прыехала да КПП і спыніліся: прыехалі. Ехалі гадзіны дзве.

За бетонным плотам вялікі белы будынак з сілікатнай цэглы, трошкі воддалеч — вышка з вартавым, і далей — плот, перанітаваны калючым дротам. Яшчэ далей, над кронамі дрэў, тырчаць на даху антэны. Лявей будынка — паласа перашкод, валейбольная пляцоўка, шмат спартыўнага абсталявання. Кідаюцца ў вочы дарожкі з гравію, бардзюры беленькія, быццам пасыпаны снегам. Адчуваецца парадак. Не горш, мусіць, чым у сяржанцкай школе.

Калі грузавік спыніўся, саскокваю на зямлю.

Каля ўвахода ў будынак маладжавы маёр сярэдняга росту аб нечым гутарыць з днявальным. Падыходжу, па ўсёй форме дакладваю аб прыбыцці для далейшага праходжання службы.

Маёр не здзівіўся майму з'яўленню, абыякава кінуў:

— Добра, сяржант. Давай свае паперы і ідзі ўладкоўвайся. Пагаворым з табой заўтра.

Уваходжу ў будынак, старшына ўжо там. Здаю рэчы ў капцёрку.

Адзначаю, што вельмі ўдала ўсё размешчана — штаб, вучэбныя класы, сталовая і нават казарма, — усё пад адным дахам. Кампактна, адным словам. Практычна і зручна.

Ложкі, што мне кінулася адразу ў вочы і спадабалася, былі аднаярусныя. Старшына выдзеліў мне ложак у кутку, каля акна. Зноў жа — прыемна і радасна. Далей ад тлуму.

Акрамя нарада ў памяшканні нікога. Усе знаходзяцца на рэгламентных работах.

Да мяне падыходзіць сяржант — дзяжурны.

— Ігар Студзянікін. З Таганрога я.

— Ну а я з Палесся.

— Адкуль, адкуль? — перапытвае сяржант. — Дзе такі горад?

— Ды не горад, — смяюся я, — а рэгіён такі ў Беларусі — Палессе, дзе процьма вужоў і гадзюк, грыбоў і ягад. З вёскі я — Лучыцы называецца.

— Ніколі не чуў, — недаўменна паціскае плячыма субяседнік.

Мне падалося, што ён на колькі гадоў старэйшы. Потым я даведваюся, што не памыліўся. Ён — бацька, у яго нарадзілася двойня, таму атрымаў адтэрміноўку на тры гады.

Ігар — старшы аператар кабіны «П», што азначае прыёмаперадатчык... Шмат чаго цікавага расказаў мне. Неўзабаве казарма пачынае напаўняцца салдатамі.

— О, дык у нас папаўненне? Адкуль? А, і цябе Казалапкін гладзіў па галоўцы? Дык табе авансам лычкі прыклеілі — яшчэ ў вучэбцы? Мусіць, бацька ў цябе генерал-маёр...

Жартуюць хлопцы, смяюцца, адчуваю, што «кашу зварым», ніводнага крыўднага слова ці нейкага папроку не пачуў ад іх. І мне яны ўсе спадабаліся. Разважлівыя, удумлівыя, не балаболы.

— Цябе камандзір выклікае, — падышоў раніцай, пасля развода, днявальны.

Не затрымліваючыся, іду да начальства. У кабінеце яшчэ капітан. Назваўся Саакянам, начальнікам аддзялення.

— Сядай, баец, — паказаў на крэсла маёр Вадзім Пятровіч Віктараў. — Мы табе экзаментуру наладзім. Разбіраешся ў электратэхніцы?

— Больш-менш, — пацiскаю плячыма.
— Дык больш ці — менш?
— Праверце.
— Якія схемы вывучаў, малодшы сяржант?
— Каардынатную і ў агульных рысах выпрацоўкі каманд.
— Зразумела.

Саакян з глыбіні шафы дастае вялізныя аркушы паперы — прынцыповыя схемы, кладзе перада мной на стол.

«Эх, хлопчыкі, эх, камандзіры, — усміхаюся я сам сабе, бачачы, чым яны мяне хочуць напалохаць. — Ды мы з Валікам па гэтых чарцяжах можам сімфонію напісаць. Нам гэта як два пальцы памакнуць у чарніліцу... Ну, давайце, нападайце, я да ўсяго гатовы...»

— Гэта што?
— Блок аналізу.
— Правільна! А вось гэта?
— Пераходны блок...
— Хм... І праўда, больш-менш, — здзіўляецца камандзір дывізіёна, гледзячы пільна на мяне. — А прыборы? Што ты пра іх скажаш?
— А што пра іх казаць? Гэта — асцылограф ІО-4. Каардынатная — сістэма вызначэння каардынат цэлі і ракеты.

Зноў прыдзіраюцца. Але па сістэме выпрацоўкі каманд (СВК) ідуць ужо больш падрабязныя роспыты. Сам з сябе здзіўляўся — усё памятаю, ніводнага разу не збіўся.

Твар у Саакана ўзмакрэў. Пераглядваюцца з камандзірам. Саакан памкнуўся яшчэ задаць нейкае пытанне, але яго перапыніў маёр Віктараў:

— Досыць, капітан! А то замучым байца. Пытанняў больш да цябе няма. Можаш быць вольным.

Я думаў, што яны мне адразу і дадуць адказ, а яны перанеслі сваё рашэнне на пазней. Што, не спадабаліся мае адказы? Дык камандзір узвода капітан Кірыл Савін у вучэбцы мне ставіў за адказы «выдатна». Ладна, прыйдзе час, разбяромся. Альбо як казаў Жыган: «Прыйдуць нашы — разбяруцца!..»

Адразу адзначыў сабе, што не адчуваецца тут атмасферы строгасці, чынапаклонства, нейкае зусім іншае жыццё — спакойнае і ціхае, нейкая дабрыня ва ўзаемаадносінах, у паводзінах. Не верылася ў такое пасля вучэбкі... Як у рай трапіў, як да сваіх далучыўся...

Падаюць каманду прыводзіць у парадак вартавы гарадок.

А потым гэтак жа пайшлі на асваенне хімічнай бяспекі. Усё рабілася без прынукі, але шчыраваў кожны, каб не падвесці ўсю каманду.

Ляцелі дні за днямі...

Я, выбраўшы зручнае месца ў пакоі адпачынку, сядаю за стол. У мяне агульны сшытак, куды я заношу свае ўражанні, думкі, фіксую падзеі.

Напісаў ліст бацькам у Лучыцы. Паведаміў, што ў мяне ўсё добра, служба ідзе так, як і належыць ёй ісці. А вось сябручку свайму, салдату Сяргею Яськову, родзічу, што застаўся служыць у Прыекуле, пісаў асобна, падрабязна, з усімі выкладкамі, не шкадуючы характарыстык і ўражанняў.

«Дарагі мой дружа!

Як добра, што выдаюцца вольныя хвіліны і я магу пабыць сам-насам, падумаць, паразважаць, узважыць, асэнсаваць...

Дык вось. Той наладжаны мне экзамен зрабіў непрыемнае ўражанне. Выходзіў ад экзаменатараў, а ў вушшу звінелі песняй словы: «И не то, чтобы

да, и не то, чтобы нет...» Гэта я пра іх вывады. Быццам бы ніводнага разу не збіўся, адказаў на ўсе пытанні, а яны хоць бы мур-мур... Няўжо нас у вучэбцы вучылі абы-як, толькі каб правесці курс навучання, а далей ужо самі разбірайцеся, што да чаго?..

Схадзілі на абед. Нічога, кормяць смачна. Мяса па добрым кавалку кожнаму. Як казаў наш дзед Міхась, з такім кавалкам і ў плуг самы раз. У сталоўцы чыста, кветкі на сталах. Як у рэстаране якім. Пасля вучэбкі для мяне гэта было дзівам.

І ў вартавым гарадку, як працавалі, не выходзіла з галавы: «І што ж яны так холадна сустрэлі мае адказы?..»

Толькі прыйшлі з абеду, як да мяне падыходзіць дзяжурны сяржант Уладзімір Гурэеў і абвяшчае:

— Гвардыі малодшы сяржант, цябе выклікае камандзір!

Счакаўшы трохі, каб не паказваць сваю нецярплівасць, няспешна іду да Віктарава. Заходжу, дакладаю «па вашым загадзе прыбыў», стаю каля парога. А ён кажа мне:

— Праходзь, сядай.

Побач з ім сядзяць начальнік штаба — капітан Мядзведзеў, камандзір радыётэхнічнай батарэі капітан Царэнка. На іх тварах нічога не напісана. Строгія, дзелавыя, як і належыць быць камандзірам.

Па душы прабег трывожна-калючы халадок: «Падрыхтавалі нейкі прысуд. Мусіць, загрымлю я за няведанне радыётэхнікі ў тар-тарары...»

— Ну, дык што, гвардыі малодшы сяржант, «больш ці менш»? — свідруе мяне строгім позіркам камандзір, паклаўшы рукі на стол, пальцы сашчапіўшы. — Проста не ведаем, што з табой рабіць... Ты нам загадаў такую загадку, што мы ўсім штабам разблытаць яе не можам... Не ведаем, што і рабіць.

Я маўчу. А душа ў пятках. Незразумела гаворыць камандзір часці, нейкімі намёкамі, падкавыкамі... Разануў бы прама ўжо, каб расставіць усе кропкі над «і», дык не, яшчэ і здзекуецца.

— Такога выпадку яшчэ на нашым жыцці не здаралася. Гэта ж трэба, га?..

Строгія камандзіры, маўклівыя, а чаго сабраліся разам, не разумею. Мог жа сам маёр вынесці прысуд, дык не, сабраў кампанію.

Ён глядзіць на мой разгублены твар, бачыць маю ніякаватасць, разумее, паставіў мяне ў няўцямнае становішча, зусім дабівае мяне сваім вердыктам:

— Дык вось, младшой, падкаваны і звышадукаваны больш-менш. Вы павінны прыступіць з сённяшняга дня да выканання абавязкаў старшага тэхніка сістэмы выпрацоўкі каманд.

Я зірнуў на камандзіра. А ён дадае спакойным голасам:

— А каардынатарную бярэ на сябе капітан Руфік Саакян.

Я гляджу на камандзіра часці, на афіцэраў, што сядзяць побач, і нічога не разумею. Няўжо яны да канца вырашылі паздзекавацца з мяне, і тое мне дужа не спадабалася — гэта жартачкі ў іх такія?

Ну я і рвануў свой хамут, скідваю на зямлю. Капытамі зямлю пачаў зграбаць:

— Я не разумею вашых жартаў. Старшы тэхнік — гэта ж пасада афіцэра. А я ж толькі малодшы сяржант...

Не вытрымаў, зарагатаў Саакян:

— Ну дык і што? Зробім з цябе афіцэра!

Я сяджу, агаломшаны, на крэсле, не асмельваюся падняцца. Паглядаю на ўсіх, пытаюся, каб развеяць сумненні:

— Вы сур'ёзна?

— Больш-менш, — усміхаецца добразычліва маёр, успамінаючы ўчарашні мой адказ. — Нават больш, чым сур'ёзна. Нам вельмі трэба талковыя хлопцы, якія разбіраюцца ў электратэхніцы.

Марудна падымаюся з-за стала, не вытрымліваю і пытаюся:

— А калі вы памыліліся? І я не спраўлюся?

— Ну, тады зноў у вучэбку цябе вернем. Там не жыццё — маліна, — усміхаецца камандзір дывізіёна, падыходзіць да мяне, цісне руку, дадае: — Віншую, баец, з прызначэннем на гэтую пасаду. Поспехаў!

Выходжу на вуліцу, сядаю ў курылцы, а да мяне ніяк не даходзіць тое, што толькі што адбылося. Ішоў на пакаранне, а атрымаў падзяку... Дзіўныя справы твае, Госпадзе!

На плячо кладзецца нечыя рука. Паварочваюся — Саакян.

— Ну, як? Не чакаў? Не чакаў... Напалохаўся? Нічога… Пойдзем на пазіцыю. Наш «Волхаў» мала чым адрозніваецца ад «Дзясны», якую ты так дасканала вывучыў.

Ты не разумееш, сябра, што гэта такое «Волхаў» і «Дзясна»? Ды як табе сказаць... «Волхаў» — гэта абноўленая станцыя па сваіх баявых якасцях і пабудове. Больш дасканалая....

Ну і пачалося ў мяне вясёлае жыццё, браце ты мой! Дзень за днём, ноч за ноччу мы штудзіруем схемы, асвойваем рэгламентныя работы...

Але манатоннасць нашага жыцця перапыняе вестка: дывізіён ставяць на баявое дзяжурства. Кантроль функцыяніравання станцыі праводзяць афіцэры штаба палка. Хвалюемся не на жарт... Заўваг не маем ні па адным канале. Ура-аааа! Затое потым мы дужа задаволены. Больш за ўсіх радуюся я — не падвёў! Як мой бацька казаў, лучыцкі салдат яшчэ нікога не падводзіў. І я не падвяду.

Не падвёў мяне і мой аператар Сямён Фядотаў, родам з Піцера. Радыёперадатчык каманд — таксама на вышыні!

А калі бачу радасны і лагодны твар Саакяна, пераконваюся, што заслугоўваем падзяку ад камандавання. У дадатак той жа Саакян складвае кулак і выкідвае ўверх тоўсты палец. Ну і дыпламат, ну і ліс, і мне ён пачынае падабацца ўсё больш і больш.

Калі ішлі настройкі і праверкі, ён рабіў выгляд, што заняты і яму не да мяне, маўляў, працуй сам і не адрывай мяне ад маіх абавязкаў. Карацей, даў мне поўную самастойнасць і свабоду. І каб праверыць мяне, і каб пераканацца ў маіх здольнасцях. Дзякуй яму, армяніну, другу беларускага народа!

Сёння я ўпершыню паверыў у свае сілы. І сёння я падняўся на адну прыступку. Бо стаў роўным сярод роўных, такім, як і ўсе. А гэта табе не арэхі яйкам калоць...

Пабыў у звальненні. Які прыгожы горад! Якія прыгожыя мясціны!..»

У канцы дня вызначаецца нарад на наступныя суткі.

Я — начальнік варты. Спрабую адпрасіцца, прыдумваю тысячы прычын, ды дзе там — няўмольныя камандзіры.

Наступны дзень — дзень падрыхтоўкі. Развод. Атрымліваю паролі на прыём і здачу аб'екта. Вось і ўсё — на аб'ект!

Падыходзім да памяшкання варты. Называю пароль папярэдніку. Дзверы зачынены, не пускаюць у памяшканне. Яшчэ раз чытаю запіску, думаючы, што няправільна прачытаў. Не, усё правільна.

З'яўляецца дзяжурны па дывізіёне — а гэта старшы лейтэнант Сівакоў, — забірае стары і выдае новы пароль. Праверка...

Ноч праходзіць спакойна. Нядзелька — усе заняты сваімі клопатамі. А дзесятай гадзіне — чарговая змена. Званок па ўнутранай сувязі — трывожны

голас паведамляе, што разводзяшчы не бачыць на пасту № 1 вартавога. Бягу туды. Сапраўды, нікога няма. А на трэцяй пускавой знята панарамнае прыстасаванне — падзорная труба для арыентацыі на мясцовасці....

Як быццам лёду праглынуў. Ідзе вартавы новай змены з двума карабінамі. ЧП! Ды яшчэ якое! Надзвычайнае здарэнне! Сорам які, ганьба! Прадчувала маё сэрца, што нядобрае здарыцца...

Рабіць няма чаго — трэба дакладваць дзяжурнаму. Накіроўваюся да тэлефона. Іду марудна, ногі прыліпаюць да зямлі, і кожная нага важыць як не пуд...

— Эй, што там здарылася? — голас з вышкі вартавога. — Што за валтузня?

Адмахваюся, як ад надакучлівай мухі:

— А... Ткачэнка знік.

— Які хрэн знік? Ён сядзіць на плоце і нешта разглядвае ў падзорную трубу. Мусіць, дыверсантаў высочвае ці шпіёнаў.

— Не можа таго быць!

Бяжым ва ўказаным кірунку. Спыняемся каля плота ў два метры вышынёй. Плот недалёка ад берага ракі. Сапраўды, сядзіць наш салдацік-касацік і глядзіць у трубу. А гэта накшталт моцнага бінокля. Ды так захапіўся, што нас не заўважае. Мне здалося, што ён увогуле ў той момант нікога не бачыў — нават і камандзір часці падышоў бы, не заўважыў. Шпурляем у яго добрым дрынам, крычым:

— Ты што тут робіш?

А ён не адрываецца, тлумачыць:

— Ну, блін, і кіно... Дзяўчат на рэчцы — мора. А гэтая штукенцыя нават праз плаўкі ўсё прасвечвае. А яны голенькія, як мама нарадзіла.

Яшчэ б — дванаццацікратнае павелічэнне.

— А служба табе ўжо і не трэба, Нічыпар?

— От, ёлкі-палкі, — абураецца паляўнічы за дзявочымі фігурамі, — на самым цікавым месцы перапынілі... Дзве без плавак пайшлі да ракі...

Разводзяшчы Краснабародзька піхае мяне пад бок:

— Не мацюгай яго, і нікому не дакладвай. Пасля разбяромся. Бо хлопцу ад яго парнухі пагражае дысцыплінарны батальён...

— Добра, зразумеў. Не аддадзім яго дысбату...

У «каравулцы» гнятлівая цішыня. Саладцкі «тэлеграф» раней нас данёс да кожнага вуха аб ЧП. Мы ж робім выгляд, што нічога не адбылося.

Потым нас змянілі. Вяртаемся ў казарму, здаём зброю. Пасля вячэры «дзяды» просяць Ткачэнку зайсці ў бытавы пакой. Спрабую прайсці туды і я, баючыся, каб не зрабілі над хлопцам самасуд. Нельга такое рабіць. Але мяне не пускаюць:

— Табе нельга туды, самі разбяромся...

Праз паўгадзіны «штрафнік» выходзіць. На вачах слёзы. На нас не глядзіць, адварочваецца.

Калі адышлі ўбок, Краснабародзька інфармуе:

— Нічога страшнага... Выдзелілі яму пятнаццаць спражак. Не зразумеў, паспрабаваў нам пагражаць. Дабавілі яшчэ пяць. Прыціх. Хлопец — дрэнь. Скажы, Мікола, начальніку штаба, каб гэтага прыдурка не ўключаў пакуль у склад вартавых. Азлобіцца і ўтворыць якую бяду...

Раніцай разбіраем «палёты». Звяртаюся да начальніка штаба:

— Таварыш капітан, не трэба ставіць Ткачэнку вартавым.

— Гэта яшчэ чаму?

— Разгублены вельмі. Да службы адносіцца абы-як. З дазорнай сцяжыны не сышоў, але па ёй і не хадзіў.

Стараюся не глядзець у вочы капітану. Той усё разумее, гаворыць:

— Добра, што папярэдзіў. Так і будзе.

А праз паўмесяца Ткачэнку перавялі ў Полацк. Кажуць, што гаспадарчаму ўзводу вельмі трэба таленавітыя ў сваёй справе людзі. Свіней жа карміць некаму трэба, і не проста карміць, а каб яны давалі добрыя прывагі...

Вось такія справы...

А тут новае «ЧП». І смех, і гора... Стартавік Жорык Гваноўскі рашыў залезці да некага ў сад. Яблыкаў, бачце, яму захацелася. Набраў поўную запазуху чырванабокіх, налітых сокам, штрыфеляў, хацеў ужо падавацца прэч, як пачуўся гучны выбух — гаспадар саду паслаў яму ў азадак добры зарад солі.

Трэці дзень сядзіць у тазіку. Падсыпаў у ваду марганцоўкі. Сядзіць, як быццам яйкі выседжвае. Так і прыклеілася мянушка «квактуха». З ёю будзе «сябраваць» і да дэмбеля. Мо і пасля службы, бо хлопцы не ўтрымаюцца, пашлюць у яго родную вёску «данясенне» пра тое, як ён любіць лазіць па чужых садах і што за тое атрымаў...

Адным словам, весела жывём, ні дня без смеху. І — без здарэнняў.

Афіцэр навядзення Селівестр Лазункін вяртаўся з пазіцыі. Ды захацелася яму па малой патрэбе. Ідзе ў кустоўе, якое акурат на мяжы паста нумар тры. Вартавы і крыкнуў яму: «Ляжаць! А то страляць буду...» Селівестр і выканаў каманду, нават штаны не зашпільваў. Так і ляжаў, пакуль не прыйшоў разводзяшчы. Во рогату было! А Лазункін перажываў, каб гэтае здарэнне не дайшло да яго маладой жонкі, — вяселле толькі што адбылося. Абавязкова даведаецца, бо ў войску ўсе пра ўсё ведаюць...

Па мясцовым тэлеграфе новая вестка...

У верасні мы разам з трэцім дывізіёнам едзем на палігон — нам трэба выканаць палкавыя баявыя стрэльбы. Разлік прыедзе зацвярджаць сам камандзір палка. Рыхтуемся апантана, дабіваючыся аўтаматызму ў дзеяннях. Падрыхтоўка ў сяржанцкай школе не прайшла дарэмна.

Разам з «гаспадаром» прыехала цэлая світа. У калідоры вешалкі. Дык на іх столькі шынеляў з пагонамі «пал» і «пад», што аж страшна стала — вышэйшы камандны састаў.

Ну і не ўтрымаўся наш палкавы перасмешнік, артыст, фокуснік Рыгор Фядотаў. Ускінуў на сябе палкоўніцкі шынялёк, па калідоры рашыў прагуляцца, захацелася яму да зарэзу адчуць сябе, хоць на хвілінку, камандзірам дывізіі.

Пампаліт трэцяга дывізіёна капітан з дзіўным прозвішчам Кляпюк выйшаў у калідор, каб пазваніць па тэлефоне. Убачыў высокага начальніка, не на жарт перапалохаўся, тут жа перайшоў адразу на страявы крок, праходзячы паўз Рыгора. Апамятаўся тады, калі «палкоўнік», хуценька павесіўшы шынель на кручок, сігануў у дзверы. Кляпюк хацеў дагнаць, але, зрабіўшы колькі крокаў, перадумаў. Злосць сваю пампаліт сагнаў на днявальным — заляпілі яму трое сутак «губы»...

Вячэрняе шыхтаванне. Нам ставяць задачу — рыхтавацца да стрэльбаў.

Саакян, адвёўшы мяне ўбок, даверліва паведамляе:

— Мікола, камандзір палка чамусьці ў табе засумняваўся. Але пампатэх палка падпалкоўнік Плюснін і нашыя камандзіры адстаялі цябе...

Лепш бы не адстойвалі — дома ж, у сваім родным дывізіёне, лягчэй.

Зноў бясконцыя трэніроўкі. Вывучаем, — у які раз! — схемы, прыборы, абсталяванне. Цяжка ўсім. Падобна на тое, што нашы афіцэры перайшлі на казарменнае становішча. Каб зрабіць якую-небудзь разрадку ў напружанні, камандаванне арганізавала для нас сустрэчу з шэфамі — рабочым класам ільнозавода.

«Чырвоны куток» для такіх сустрэч вельмі ж малы, не памесцімся ўсе. Вызваляем для гэтага паўказармы, зрабіўшы другую палавіну «спальны адсек» у два ярусы. А каб нашыя ложкі з шэрымі коўдрамі не кідаліся ў вочы, аддзяляем іх прасцінамі.

Тут жа падключыліся афарміцелі, музыканты, дызайнеры. Калі ўсё прывялі ў належны выгляд, самі паглядзелі на ўсё крытычным і прыдзірлівым позіркам: здаецца, нічога, здаецца, сорамна не будзе.

Аказалася, што рабочы клас ільнозавода — спрэс жанчыны. Дзяўчаты, канечне ж. Яны прыехалі вечарам. Пампаліт прачытаў невялічкі дакладзік на хвілін дваццаць. А пасля яго мы пачалі танчыць. Ансамбль стараўся як ніколі. Такія каленцы выкручваў, што дзяўчаты аж пішчаць ад захаплення. А потым конкурсы, гульні, жарты на любы густ.

Не заўважылі, як і падаспеў час адбою.

Толькі-толькі мы пачалі, асмялеўшы, наладжваць «душэўныя кантакты», як нечакана для ўсіх пампаліт, звярнуўшыся да гасцей, абвясціў:

— Дарагія нашы шэфы! Мы дзякуем, што вы завіталі да нас у госці. У нас атрымаўся цудоўны вечар адпачынку. Але цяпер надышоў час адбою...

А дзяўчатам не хочацца пакідаць нашу кампанію, і таму камсамольскі сакратар падышла да камандзіра, нешта шапнула яму. Ён, усміхаючыся, кіўнуў галавой, нахіліўся да пампаліта. І той абвясціў новае паведамленне:

— Мы тут параіліся і, ідучы насустрач пажаданню камсамольскай арганізацыі льнозавода, дазваляем яшчэ дыскатэку на дваццаць хвілін — і не больш. А нашы сустрэчы стануць рэгулярнымі.

Мы ледзьве не крыкнулі «ўра», а дзяўчаты выгукнулі падзяку камандзіру.

І тыя дваццаць хвілін праляцелі як дваццаць секунд.

Разыходзіліся неахвотна, але, як кажуць, трэба і меру ведаць.

Дзяжурны па дывізіёне, камбат стартавікоў, адказны за пускавыя ўстаноўкі — Сямён Дрыгалёў — абыходзіць казарму і накіроўваецца ў памяшканне варты, каб праверыць пасты. Жонка камбата, як звычайна, прыходзіць да яго з тэрмасам і бутэрбродамі. Але што гэта? Дзверы ў дзяжурку чамусьці зачыненыя на ключ.

Памочнік дзяжурнага падышоў да жанчыны і прапаноўвае перадаць перакусон праз яго. Але яна, здаецца, нешта западозрыла.

— А дзе ж ваш запасны ключ, — наступае на яго.

— Ды няма, вось таму мы і думаем заўтра памяняць замок.

Эх, няўклюда! Сам жа закрыў там сваю каханку, спадзеючыся, што дзяжурку ніхто правяраць не будзе. Чаго не чакаеш, тое і прыходзіць...

Жанчына яшчэ больш павышае голас на памочніка дзяжурнага, — нутром чуе, што тут робіцца нешта не тое. Суняць яе немагчыма, з галопу перайшла ў кар’ер.

Праз колькі хвілін з’яўляецца і камбат. Днявальны сяржант Віця Гуркоў спрабуе выскачыць яму насустрач. Але не тут тое было... Раззлаваная і раз’ятраная грамавым голасам пытаецца:

— Ты чаго гэта дзверы дзяжуркі замкнуў? Га?

У адказ апраўданне:

— Ды не замыкаў я яе — ды і другі ключ знаходзіцца ў памочніка дзяжурнага.

— Што? А ён жа казаў, што ў яго ключа няма!

Падышлі да дзвярэй. Торгаюць за ручку — не адчыняецца.

Камбат строга паглядае на свайго памочніка. У таго твар пакрываецца плямамі. Дзяжурны ўцяміў, што да чаго. Пазвоньваючы звязкай ключоў, спрабуе адкрыць дзверы. Не адчыняюцца.

— Мусіць, замок сапсаваны — мяняць трэба.

Але жанчына рашуча забірае ў Дрыгалёва ключы, адшуквае патрэбны. Устаўляе ў шчылінку, паварочвае два разы. Расчыняе дзеры, заходзіць, уключае святло.

За сталом дзяжурнага сядзіць дзябёлая бландзінка ў глыбокім дэкальте, з намазанымі вуснамі, распэтланая.

Звініць на ўсю дзяжурку аплявуха мужу — камбату... Пошчак, здаецца, паляцеў аж за тэрыторыю вартавога гарадка. За што?

Бландзінка, затуліўшы далонямі ад сораму твар, выбягае з памяшкання.

Абсалютная цішыня. Камбат спахмурана глядзіць на памочніка:

— Калі б я быў цывільны, я даў бы табе ў морду. А так... Прэч адсюль!

Ранічкай, прыхапіўшы з сабой зніякавелага донжуана — памочніка дзяжурнага, ідзе «тушыць пажар». Жонка доўга не здавалася, але выручыла фота дзяўчыны, якое яна забылася пасля ўцёкаў. З адваротнага боку яна напісала, што дорыць фота «свайму каханаму і пяшчотнаму жаніху Тодзіку Бардову». Слава Богу! Выдатны чалавек усё ж наш камбат Дрыгалёў!

...Дванаццатага верасня зварочваем станцыю і — на доўгачаканую пагрузку.

Да абеду эшалон загружаны і гатоў адправіцца ў дарогу. Далёкую дарогу.

На час шляху наша батарэя выконвае абавязкі вартаўнікоў. Я — начальнік варты. Дзе будуць адбывацца стрэльбы — невядома. Ды тое і няважна. Дзе запланавана, там і будуць праходзіць.

Праплываюць перад нашымі вачыма краявіды — вёскі, лясы і палі...

Вялікі горад. Аказваецца, гэта Смаленск. Потым паварочваем на поўдзень.

Арчада... Паворына... Гразі... Валгаград... Звяраем маршрут па карце. Але і без яе мы ведаем — наперадзе Ашулук...

Што ён нам адкрые новага? Але мы ўсе верым, што ў нашым жыцці з'явіцца новая і значная старонка нашай вайсковай біяграфіі...

## *Палігон*

Калі сонца пачало хіліцца да небакраю, мы ўбачылі, нарэшце, Волгу. Упершыню ўбачылі. Чулі і чыталі шмат пра гэтую расійскую раку, а вось на свае вочы — бачым упершыню. Нечым падобная на маю Прыпяць, але мая рака, мусіць, яшчэ маленькая, падлетак...

Волга ўражвае з першага позірку. Супрацьлеглы бераг раствараецца ў намітцы блакітнага туману. Напэўна, Волжская ГЭС будзе выглядаць яшчэ больш велічна. Яе мы не мінем, будзем праязджаць.

На пераправе чарга, і нам даводзіцца чакаць.

Даўно пераваліла ўжо за поўнач, але наш эшалон як прывязаны да бліскучых калей чыгункі. Змяняюцца пасты, заступаюць новыя... Мне можна і прыдрамнуць — дазваляецца. Калі ж прачнуўся, то наш састаў рухаўся ўжо па стэпе...

— Хлопцы, Волгу мінулі?

— Даўно. Не хацелі цябе будзіць, ты вельмі соладка спаў.

Ну што ты ім скажаш, пашкадавалі, бачыце. Супакойваюць мяне, абяцаюць не даць заснуць на зваротнай дарозе.

Звычайна мы прастойвалі на станцыях падоўгу, нават на невялікіх, але цяпер мы без прыпынкаў ляцім і ляцім наперад. Нагаварыліся за дарогу, аж языкі баляць. Але ўведалі адзін пра аднаго шмат чаго, і цікавага.

На гадзінніку — поўдзень. Акурат у гэты ж час мы прыбываем. Але не на канчатковы пункт прызначэння. Чыгуначнікі пераводзяць стрэлкі, і мы яшчэ кіламетраў з дваццаць рухаемся па стэпе.

Прыпынак каля разгрузачнай пляцоўкі. Рассякаем умацаванні, каб вызваліць тэхніку і вывесці яе ў поле. Магутныя цягачы і КРАЗы расцягнуліся па лініі мо з кіламетраў два, не меней.

Далей ужо мы едзем па каляіне са спецыяльнымі металічнымі палосамі.

Спякота — невыносная, ды ў дадатак такая пылота, што немагчыма дыхаць. Яна пакрывае нашы плечы, галовы, набіваецца ў лёгкія, трашчыць на зубах... Не былі мы ніколі ў такіх абставінах. А праз нейкі час мы ўжо не пазнаем адзін аднаго — пылота навяла грым на кожнага з нас з усёй шчодрасцю.

Праязджаем нейкі гарадок з бетоннай дарогай і такімі ж тратуарамі. Абапал дарогі — пірамідальныя таполі. Лісце дрэў і дахі дамоў пакрыты тоўстым-тоўстым слоем пылу. Дзіўна, як тут могуць жыць людзі. У роце гаркаваты прысмак, усё, што мы налівалі ў свае біклажкі, даўно выпіта. Расліннасці ўсё меней і меней, замест яе пясчаныя барханы засцяць ад нас гарызонт.

Вось, нарэшце, і канчатковы пункт.

Штучныя пагоркі для кабіны «П» і станцыі разведкі і цэлявых указальнікаў — СРЦ. Дарожкі са спецыяльных пласцін, акуратныя квадрацікі для палатак. На вышыні трох метраў бакі з вадой, з трубнымі адводамі пад умывальнік. А трошкі воддаль — прыбіральня з металічнага каркаса, абкладзеная шыферам. Вось і ўсе нашы зручнасці. Не густа, але іншага не прадбачыцца.

Стаміліся. Але адпачываць няма калі. Трэба ўсталёўваць станцыю і палаткі. Тыя, хто служыў, ведаюць, наколькі гэта цяжка ў звычайных умовах, а ў такіх... Просім камандаванне дазволіць хаця б твар спаласнуць, збольшага памыцца, рот ад пяску ачысціць...

Але і камандзіры ў тым жа становішчы — ваду яшчэ не прывезлі, і невядома, калі тое будзе. Але затое нам дазваляюць скінуць з сябе гімнасцёркі.

Пад'язджае начальнік пляцоўкі. Вымае з планшэта секундамер. Для чаго, не ведаем. Аказваецца, нам станцыю неабходна разгарнуць паводле нарматыву.

О Божа, за што такое пакаранне! Адзенне мокрае ад поту, вочы набрынялі слязьмі. А боты здаюцца свінцовымі. Але каму пра тое скажаш, каму паскардзішся? Выкладваемся так, як ніколі, здаецца, не выкладваліся. Не вытрымлівае першым Ігар Фядотаў — у яго з носа пайшла кроў. Нехта з афіцэраў адкаркоўвае бутэльку мінералкі. Глыток, а астатняе на шыю. Трошкі стала лягчэй. Запіхвае ў наздрыны вату — і далучаецца зноў да працы.

Першы экзамен здадзены.

Потым ставім палаткі, абсталёўваем нары, полкі для туалетных прычындалаў.

Чуем, як радуюцца байцы, — падвезлі, нарэшце, ваду. А яе, як аказалася, выдаюць паводле ліміту. Загадана ўсім памыцца і памыць адзенне. Гэта робім з задавальненнем. Усё высахла імгненна. Старшына Савошын патрабуе, каб мы падшылі свежыя падкаўнерыкі.

— На вячэру-ууу! — гучыць каманда дзяжурнага, і гучыць яна неяк ненатуральна, штучна.

Сталоўка — навес з брызенту, а пад ім тры доўгія сталы. Абед і вячэру нам падалі адразу. Застаецца апошняе: выставіць варту і — спаць, спаць, спаць...

Засыналі мокрыя ад поту, а сярод ночы прахапіліся ад неймавернага холаду — дрыжым, як цюцькі на марозе. Нас калоціць, і мы не можам сагрэцца.

Аказваецца, трэба было з вечара мець коўдры. Толькі сагрэліся, толькі ахапіў жаданы сон, як прагучэла каманда:

— Пад’ё-ооомм!

Фіззарадка не адмяняецца, але робім мы яе неахвотна. Раз-пораз пазяхаем, не могучы як след прачнуцца. Сняданак жуём без апетыту, няма ахвоты гаварыць, тым больш жартаваць.

Пасля сняданку шыхтуемся. Сёння — пятніца, на палігоне паркагаспадарчы дзень.

Нас вязуць у гарадок, які праязджалі. На ўскрайку — бетонная пляцоўка, спрэс устаўленая аўтатэхнікай. Нам яе трэба адмыць, вычысціць, а потым і падфарбаваць. Нашай кабіне «А» — апаратная — прыпадае кран са стралой. Папярэджваюць, мыць можна толькі вадой, масляністыя плямы праціраць рыззём, змочаным у ацэтоне.

Прыступаем да работы.

Зноў навальваецца на нас спякота.

Зноў вочы выядае салёны пот, але мы церпім, не маленькія.

Кабіне «К» — кіраванне — выпаў прычэп для ракет. Пасля працірання фарба атрымліваецца сакавітай, а металічная паверхня бліскучай.

Яны ўжо скончылі сваю працу, у цяньку паселі, весела байкі баюць. А нам яшчэ ўкалваць і ўкалваць. Але да абеду справіліся.

Прыехаў да нас нейкі палкоўнік. Твар азызлы, мясісты. Сківаца — квадратная, ніжняя губа адвіслая. Непрыемны тып, адным словам.

Дужа прыдзірліва аглядае наш кран. А некаторыя мясціны нават спрабуе пацерці анучынай. Выціскае з сябе словы:

— Ладна, байцы, можаце быць вольнымі.

Ежа з канцэнтратаў і кансервы абрыдлі да чорцікаў. Ад кепскай вады ў многіх пачалі балець жываты. Каб выйсці неяк з гэтага, пампаліт — капітан Васіль Сяржант (прозвішча такое ў капітана) дамаўляецца з дырэктарам бліжэйшага калгаса ў суботу і нядзелю папрацаваць на бахчы. Абяцаюць нам выдзеліць кавуноў, памідораў і малака. О, гэта ўжо нешта...

Едзем, канечне ж, з ахвотай. У першы дзень грузім кавуны на машыны. Дзіўна, але мы забыліся пра стому, працуем з задавальненнем і апантана, — да нас вярнуўся добры настрой, мы жартуем, спяваем песні.

Брыгадзір мясцовага калгаса Сцяпан Бялюга — увішны, невысокага росту, у капелюшы ад сонца, у светлай тэнісцы, задаволены — яго брыгадзе з такім аб’ёмам і за тыдзень не справіцца з ўраджаем.

— Малайцы, хлопцы! — падхвальвае нас Сцяпан, — прышлю заўтра вам дзяўчат на дапамогу. А потым адумваецца, папраўляецца: — Не, дзяўчат не трэба, бо ніякай тады ўжо работы не будзе... Замест гэтага я вас такім абедам накармлю, што не забудзеце...

Але абед чамусьці адкладваецца. Не прыехала яшчэ машына.

Але потым... Потым ужо брыгадзір стрымаў сваё слова. Боршч... Ды які! З мясам, ды не з кавалачкам, а кусманом, са свежай капусты, рыс, смажаная рыба, кісель... Дзірак на папрузе не хапае, хаця ў нашых папруг тых дзірак і няма — спражка рэгулюе. І як толькі паелі тое, самі не ведаем. А Сцяпан хітра ўсміхаецца, як бы гаворыць: «Ну, што я вам казаў?..»

А брыгадзір зноў да нас падкочваецца, кандзібоберам ходзіць, галоўную просьбу выказвае:

— Хлопчыкі, то мо б вы трошкі затрымаліся... Вунь колькі застаецца таго поля, на паўгадзінкі той працы...

А мы што — мы гатовы са скуры вылузацца, але дагадзіць брыгадзіру за царскі абед. Тым больш, што і вячэру добрую паабяцаў.

Паўгадзіны нам не хапіла. І гадзіны было мала, і чатыры. Апошнюю машыну загружалі ўжо пры фарах.

Пад'ехаў на уазіку дырэктар саўгаса — Іван Пятровіч Гармаш. Агледзеў поле, здзівіўся:

— Дык вам жа трэба прысвойваць званні Герояў Сацыялістычнай Працы! Адкуль вы такія працавітыя?

— З Беларусі мы. Полацк — ёсць такі старажытны горад. Дык мы недалёка ад яго і служым.

А прыехаў Іван Пятровіч не з пустымі рукамі — у яго машыне памідоры і малако. Бідоны ў металічнай скрыні з лёдам. Усё гэта мы перагружаем у сваю машыну.

— Там у канцы поля засталося трохі кавуноў, — паціскае нам на развітанне рукі Гармаш. — Дык вы нагрузіце, колькі хочаце, хлопцаў пачастуеце.

Ну, было добра, вельмі добра, а тут зусім-зусім добра! Хлопцам такі пачастунак і не сніўся, бо «трохі» — аказалася поўны кузаў Краза.

А раніцай... Раніцай сняданак — рэстаран «Асторыя». І мяса, і каша, і скваркі... І — зяляніны поўны стол. А на дэсерт — вялізны кавун на чатырох. Доўга мы будзем успамінаць той саўгас «Сонечны».

Наслухаўшыся, як мы правялі дзень, на ўборку кавуноў выказалі жаданне ехаць нават афіцэры. Камандаванне не пярэчыць — толькі «за». Быццам афіцэрам жылося лепей, чым нам.

Брыгадзір па-ранейшаму вясёлы, увішны.

— Вы, салдацікі, — на памідоры. А вы, таварышы афіцэры, — вунь на тую плантацыю — кавуны ў гурбы збірайце. Потым грузіць на машыны іх трэба... Толькі вось што, таварышы афіцэры, памажыце нам з транспартам — не хапае яго, задыхаемся...

— Будзе вам транспарт, — гаворыць капітан Рагошкін, аўтатранспартнік. — Колькі вам трэба?

Ура! Да нашай вялікай радасці (ці не брыгадзірава то работа?) бачым, як удалечы ад нас працуюць дзяўчаты.

Падчас абеду ўдаецца паразмаўляць з імі. Студэнткі, вучацца ў педагагічным інстытуце. Паспеў пазнаёміцца з Клаўдзяй. Абед зацягнуўся.

Але, хочаш не хочаш, а ўсё добрае некалі заканчваецца. Развітваемся з лёгкім шкадаваннем, паціскаем адно аднаму рукі, нешта абяцаем...

Дні пралятаюць незаўважна, як адно імгненне, як сполах маланкі.

— Стрэльбы — у наступны панядзелак, — абвяшчае камандзір дывізіёна. — Трэба ўзмоцнена рыхтавацца.

Тэарэтычную падрыхтоўку здаём за дзень да стрэльбаў.

Ніколі не думаў, што ў гэтых мясцінах столькі жыўнасці. Зайцы, тушканчыкі, гадзюкі розных калібраў і масцей. Няма дня, каб у жылой зоне не аб'явілася стэпавая гадзюка. Напачатку было страшна і жудасна, снілася нават, што гадзюка кусае цябе, але потым прывыклі.

У афіцэраў ёсць дробнакаліберная вінтоўка. Капітан Саакян настрэльвае ў суботні дзень да пятнаццаці зайцоў. А гэта якая ж прыбаўка да нашага салдацкага рацыёну! Выкручваемся. Не так усё яно і кепска, як думалася ў першыя дні.

Прыбыло кіраўніцтва нашага палка. Ноччу пасты правяраў дзяжурны па часці капітан Лосеў, ён жа і памочнік пампаліта па камсамоле. Уся паставая ведамасць у заўвагах. Сяржант Студзянікін, як начальнік варты, атрымлівае пяць сутак арышту, — адседзіць дома.

Абстаноўка, зразумела, нервозная. Ноччу на варце адбылася страляліна. Вартавы, якія ахоўваў станцыю, застрэліў аўчарку. Раніцай камісія прызнала яго дзеянні правапраўнымі. Ён у цемры прыняў сабаку за парушальніка. Мусіць, да начальства даходзіць адна выснова — у такі перыяд нерваваць асабісты састаў нельга...

Вечарам — камсамольскі сход. Абмяркоўваем задачы на перыяд стрэльбаў.

Даюць слова сяржанту Студзянікіну. Ён напускае на сябе дзелавы і начальніцкі выгляд, як не чаканіць кожнае слова:

— Скажыце, будзьце так ласкавыя, у якім Статуце акрэслена адлегласць, на якой вартавы павінен клікаць правяральшчыкаў? Ды і дзе тут, калі на тое, дазорная сцяжына? Наша варта незаслужана пакрыўджана, і, сыходзячы з гэтага, скажу вось што — я не ўпэўнены ў тым, што гэта не можа паўплываць на якасць стрэльбаў...

Напружаная цішыня. Разануў, дык разануў.

А раніцай навіна: Лосеў адпраўлены дадому. Больш мы яго ўжо не ўбачым, яшчэ і ў другі полк перавядуць. Ну і Бог з ім, як кажуць, — баба з воза, кабыле палёгка. Прыдзірак у дальнейшым не было, як і панібрацтва. Усё правільна. Мы ўсё разумеем... І радуемся, што агульнае рашэнне прымалася і з нашым удзелам. А гэта табе не на балалайцы брэнгаць...

Зноў панядзелак. Экзамен па тэарэтычнай падрыхтоўцы.

На мяне пільна глядзіць маёр, перапытвае:

— Дык гаворыш, што ты ёсць старшы тэхнік СВК?

— Так точна.

— Тады вам прыйдзецца адказваць іншай камісіі, якая экзаменуе афіцэрскі корпус.

Іду, не лепей сказаць, бягу туды, зноў дакладваю — ужо свайму камандзіру дывізіёна маёру Віктараву.

Ён нечага ў замяшальніцтве, туд-сюд круціць галавой, не ведае, што сказаць. Потым як быццам дазвол дае:

— Ідзі ў гэтую палатку.

У палатцы старшым маладжавы, хударлявы падпалкоўнік, побач з ім — маладзенькі капітан — у яго на грудзях акадэмічны значок.

— Будзеш рыхтавацца, ці, як усе, адразу ў кар'ер.

— У кар'ер, — чамусьці паўтараю яго словы, а язык прыліп да нёба, чамусьці агарнула мяне незразумелае хваляванне.

Першыя схемы. Дрыжыць голас і рукі калоцяцца. Гэта на мяне не падобна. Не разумею свайго стану. Бяру сябе ў рукі, стараюся адказваць на пытанні ўпэўнена. На колькі мне тое ўдаецца, не ведаю.

Зноў пытанне. Яшчэ. Патроху супакойваюся. Бачу, што экзаменатары пачалі ўсміхацца, пераглядваюцца.

Праз паўгадзіны экзамен скончыўся — доўгі і прыдзірлівы экзамен.

Зазірнуў у ведамасць — не паверыў вачам. Ва ўсіх трох графах супраць майго прозвішча стаяць «пяцёркі».

Абед і вячэра па ўзмоцненым варыянце.

Пасля вячэры аб'яўляецца гатоўнасць № 1.

Стрэльбы мяркуецца праводзіць чамусьці толькі ў начны час. Прыязджае палігоннае начальства. Недзе непадалёку камандуючы арміяй, двойчы Герой Савецкага Саюза, генерал-лейтэнант Уладзімір Дзімітрыевіч Лаўрыненкаў.

Гэта потым ужо намеснік камандзіра па палітычнай частцы нам раскажа, што камандуючы нарадзіўся на Смаленшчыне, удзельнік баёў на Беларусі

падчас вайны з фашыстамі. Зрабіў пяцьсот баявых вылетаў, збіў 35 варожых самалётаў.

Асоба легендарная, адразу з’явілася жаданне хоць здалёку паглядзець на яго.

Пачынаецца кантроль функцыянавання.

— Станцыя да баявой работы гатова ўсімі трыма каналамі.

Мы сваю справу зрабілі, далейшае — у руках афіцэра навядзення капітана Расціслава Колкіх і яго аператараў.

Справа і злева ад нас з жудасным грукатам узмываюць у неба ракеты суседніх дывізіёнаў. Нашай цэлі пакуль нябачна. Хвіліны падаюцца нам гадзінамі...

І раптам гучыць голас камандзіра дывізіёна:

— Азіму-ууут... вышыня-яяяааааа... дальнасць... пошук...

Амаль адразу гучыць у адказ:

— Ёсць захоп па дальнасці, вышыні, азімуце!

— На запыты не адказвае.

— Перайсці на аўтаматычнае суправаджэнне!

Малайцы, спрацавалі аператыўна, цяпер толькі б не далі зяўка... Старайцеся, хлопчыкі, не падвядзіце двойчы Героя Савецкага Саюза Лаўрыненкава.

Новыя дадзеныя. Цэль — хуткасная, прымяняе пасіўныя перашкоды. І амаль адразу зрыў па дальнасці. Сэрца ёкнула, нырнула ў пяткі, потым і зусім невядома куды падзелася — напружанне найвышэйшае. Аператар па дальнасці сяржант Віктар Плятмінцаў, майстар сваёй справы, павінен выцягнуць, выправіць становішча, і не ў такіх варунках бываў раней... Ну, давай, што ж ты, га?

— Уключыць СРЦ — (селекцыю рухомых цэляў), перайсці на ручное суправаджэнне!

Голас афіцэра навядзення надзіва спакойны, без зрыву, без напругі, значыць, у байцах упэўнены, на трэніроўках такія сітуацыі ўзнікалі, таму ведаюць, як вырвацца. Секунда, дзве, пяць, а сэрца ў такт: «Да-вай, да-вай, да-вай!...»

Ура! У рэшце рэшт чуем:

— Ёсць захоп па дальнасці!..

Адлегла, сэрца зноў затахкала ў такт, душа вярнулася ў сваю абалонку. Палёгка незвычайная, уздыхаем на ўсе грудзі. Пераглядваемся і радаснымі позіркамі падтрымліваем адзін аднаго.

Цэль у зоне паражэння. Секунды чакання здаюцца зноў вечнасцю. Сінусоіда ў нашым чаканні — то радасць нахлыне, то душа замірае...

Чуем спакойны голас камандзіра дывізіёна Віктарава:

— Рэжым апярэджвання...

Гэта правільна, цэль жа хуткасная, і ў рэжыме трох кропак наша ракета проста зломіцца.

Гучыць новая каманда:

— Цэль знішчыць адной ракетай. Пуск!..

Навошта блефуеш, камандзір? Можна ж і двума садануць! Мы з Саакянам прыліплі да прыбораў. На згасаючым ваганні стрэлкі міліамперметра ўгадваецца ўпэўненае навядзенне ракеты на цэль. Апошні ўсплёск хвалявання і чакання — і ўсё замірае...

Што, што атрымалася? Ці ўсё добра? Першыя секунды мы нічога не разумеем, бо па прыборах выніку не бачым.

І тут чуем доўгачаканы вынік, які гучыць па сістэме гучнай сувязі:

— Цэль знішчана. Выдаткі — адна ракета!

Вось цяпер — усё. Цяпер сапраўды можна выдыхнуць з сябе паветра хвалявання і перажывання.

— Што ў цябе, Мікола? — цікавіцца Руфік Саакян.

— Здаецца, ірванула на мінімальным.

— Правільна, малодшы сяржант, — метраў дваццаць, не болей...

Усё скончана, але я сяджу і не магу ўстаць. Здаецца, ніколі ў жыцці я не адчуваў такой напружанасці, такой адказнасці. Я пачуваў сябе няйначай як на нейкай невядомай вайне з нейкім невядомым ворагам... Я баяўся падвесці баявых таварышаў, не зняславіцца перад камандзірамі.

Пад бок штурхае Руфік Саакян, пытаецца:

— Ты тут начаваць збіраешся? Прачніся. Здымі сваю напружанасць. І я перажываў. Спрацавалі на «выдатна». Малайчына!

Выключаем станцыю, выходзім на вуліцу.

Канчатковае рашэнне за апаратурай, якая пісала ўсе нашыя дзеянні.

Прайшло каля паўгадзіны. І потым чуецца па радыё голас камандзіра палка (яго камандны пункт знаходзіцца за некалькі кіламетраў ад нас):

— Ракета ўзарвалася ў дзесяці метрах ад цэлі. Чыстая «пяцёрка». Трэці таксама атрымаў высокую адзнаку, але цэль знішчана двума ракетамі.

Саакян не толькі паціскае мне моцна руку, але і абдымае, прыціскае моцна да сябе:

— Хай баяцца нас ворагі!

Той ноччу мы зусім не спалі. Камандаванне таксама. У кожнага свая адказнасць.

Лаўрыненкаў, едучы на галоўны камандны пункт, спыніўся на хвілінку каля нашых камандзіраў. Яны ўсе выцягнуліся ў струнку.

— Не трэба так афіцыйна! — усміхаецца былы лётчык-герой, рукой паказвае, каб трымаліся «вольна». — Малайцы, ракетчыкі! Зброя ў надзейных руках!

— Служу Савецкаму Саюзу! — адзінагалосна адказалі камандзіры.

Мы стаялі збоку, і ноччу, пры святле фар не ўбачылі яго твару. Але пачулі добразычлівы і спакойны голас. І былі радыя таму, што пахваліў нас такі чалавек, які не раз глядзеў смерці ў вочы, ваяваў на беларускай зямлі.

...Раніцай зноў паведамленне — пагрузка ў суботу.

Той час, што застаўся, трацім на падрыхтоўку. Згортваемся павольна, пакрысе, тут ужо нарматывы не патрэбны.

Зваротны шлях на чыгуначную станцыю мы адольваем раніцай, каб не грузіцца ў спякоту. Правільна рашылі камандзіры, і мы ім за тое ўдзячны.

Аглядваемся, махаем рукой:

— Бывай, Ашулук! Дзякуй табе!

Адныя з нас развіталіся з ім назаўсёды, другім жа выпадала сюды дарога зноўку.

А што? Такое яно, армейскае жыццё!..

## *Зноў разам*

Адразу ж за Волгай мы адчулі подых восені. Шэрыя свінцовыя воблакі, здавалася, слаліся па самай зямлі. Пачынаў імжэць дробны дождж. Куды і падзелася тая спякота, ад якой мы так пакутавалі?

Халадэча. Не падрыхтаваліся, думалі, што так цёпла і далей будзе. Але ў нас ёсць «буржуйка», ды і дроў трохі — засталося.

Ад макрэчы і холаду найбольш пакутавалі вартавыя. Бушлаты і брызентавыя дажджавікі прамакалі наскрозь праз паўгадзіны.

На адным з прыпынкаў купілі ў жанчыны, што прадавала яблыкі, поліэтыленавую плёнку: вялікая палёгка. Чаму пра тое не маглі паклапаціцца раней? Мінус нам, асабліва мне — начальніку варты.

На гэты раз эшалон рабіў прыпынкі толькі на вялікіх, вузлавых станцыях, а вартавых падчас руху, на жаль, не падменіш.

Сёмая гадзіна раніцы — 29 кастрычніка... Апошні лязгат буфераў. Поезд спыняецца.

Яшчэ цёмна. Скупаваўся афіцэрскі састаў, раяцца, што рабіць. Прымаюць рашэнне — не чакаць пакуль развіднее, а пачынаць разгружацца ў прыцемках.

Першым на платформе з'яўляецца кран. Па рацыі на падмогу выклікаюць тых, хто не трапіў у баявы разлік. Нас чакалі, таму і прыбылі без затрымкі.

Паўтары гадзіны мы правалаводзіліся з разгрузкай. Здаём рухомы састаў чыгуначнікам. Мы як быццам вярнуліся ў родную хату, дзе ўсё знаёмае, прывычнае, сваё. На нашых тварах радасныя і нават шчаслівыя ўсмешкі, з адзення сцякаюць струменьчыкі начнога дажджу. Але ён надзіва ласкавы і прыемны.

Снедаем ужо ў сваёй сталоўцы. Прыемна пахне хлебам, грэчкай, кампотам.

Разгортваем станцыю, чысцім цягачы і прычэпы, абсталяванне і прыборы.

А вечарам... Вечарам — лазня. Як казалі стараслужачыя — вайна вайной, але абед і лазня па раскладзе. О, якая прыемная вада, калі яе ўдосталь. Мыліся столькі, колькі жадалася, ніхто нас не падганяў. Упершыню за два месяцы паклалі спаць на чыстыя прасціны і ў цяпле. Скажыце, гэта не шчасце для тых, хто столькі часу гэтага не меў? Скажыце, як назваць тое пачуццё, калі душа радуецца і спявае, і сон прыходзіць адразу, як галава дакранаецца да падушкі? Так, шчасце, салдацкае шчасце!

Стараемся не думаць пра заўтра. Заўтра — заўтра, а цяпер мы ў чыстай, як не ў матулінай пасцелі. Дабранач, дарагія!

...Усе непрыемнасці пачынаюцца з раніцы і з панядзелка.

Сяржанта Віцьку Студзянікіна і малодшага сяржанта Паўла Краснабародзьку павязуць у Полацк на «губу». Хоць хлопцы і стараліся, і іх важкі ўдзел у тым, што мы атрымалі агульную «пяцёрку», — на жаль, амністыі тое не прыносіць. Хлопцы асабліва не перажываюць — пакаралі, дык пакаралі...

Мы адпраўляемся на пазіцыю прыводзіць усё ў парадак і ўстанаўліваць на калодкі тэхніку. Нам у твар вецер сыпле то дождж, то снег. Ад дотыку да халоднага металу пальцы «заходзяцца ў шпары», але выйсця няма — загад трэба выконваць.

Пасля абеду — наладка і кантроль станцыі. Потым кажуць, што мы зноў заступаем на баявое дзяжурства.

Пра Ашулун амаль забыліся — а мы ж марылі пабыць хаця б кароткі час героямі. Што ж, як кажуць, не лёс, не для нас…

...Гадавіна Кастрычніка.

Зноў сустрэча з шэфамі. У зале — поўна. Пярэднія рады прызначаны для дзяўчат, што прыехалі да нас у госці.

Урачыстая частка. Пампаліт некалькі слоў сказаў пра перамогу Кастрычніка, раздаюць новыя лычкі на пагоны, значкі, кароткатэрміновыя адпачынкі.

Радуюся за Студзянікіна — ён едзе ў адпачынак.

Наш аркестр распачынае танцы з «белага вальса». Гэта значыць, што дзяўчаты павінны першымі нас запрашаць.

Заўважаем цікавыя паводзіны нашых «шэфанак». Чамусьці найбольшай папулярнасцю карыстаюцца сярод нас тыя, у каго значок класнасці «3». Спрабуем знайсці адказ. Аказваецца, нехта з нашых жартаўнікоў, адказваючы на пытанне дзяўчыны, што азначаюць лічбы, ляпнуў:

— Ды гэта тыя, хто ўжо развітваецца са службай — апошні, трэці, год цягне.

Натуральна, што байцы трэцяга года службы жаніхі не толькі патэнцыяльныя, а і рэальныя. Ну, прахіндзеі, ну, падколшчыкі. Але ж трэба шукаць нейкі ж выхад, бо так і прастаіш цэлы вечар з лічбай «1».

Віцька Студзянікін, раскрыўшы змову «трэцякласнікаў», аб’яўляе:

— А цяпер, дарагія сябры і паважаныя шэфы, чарговы нумар нашай праграмы выконваюць спецыялісты другога класа, пра што сведчаць іх значкі!

У некаторых на твары нараджаюцца кіслыя міны. Вось так, шаноўныя, мы таксама не лыкам шытыя. Да канца вечара, калі хто і не меў часовай сяброўкі, дык яе набыў. Дзіўна, асобныя прадстаўніцы шэфаў, зразумеўшы, што лавіць больш няма каго, пакідаюць адна за адной вечарыну.

Мы пасяваем абмяняцца адрасамі і тэлефонамі, дамаўляемся пра сустрэчы, калі пойдзем у звальненне, але лёс заўсёды распараджаецца зусім паіншаму...

Дзевятага лістапада мяне накіроўваюць у Полацк з усімі рэчамі. А што тое азначала — ведае кожны. Настрой у мяне — горш, мусіць, не бывае. Спрабую даведацца, у чым я правінаваціўся і што тое азначае.

Камандзір дывізіёна Віктараў адводзіць вочы, праўду гаварыць не хоча:

— А там і даведаешся, таварыш сяржант!

Перад абедам па знаёмай сцяжынцы іду ў штаб. Задумаўся, таму і не гляджу наперад, а толькі пад ногі. Сутыкаюся з нейкім салдатам. Падымаю галаву — вачам не веру.

— Ты, Валянцін?!

Ён расплыўся ў радаснай усмешцы, кідаецца ў абдымкі.

— Адкуль ты тут, калі не сакрэт?

— Нас пераводзяць у чацвёрты дывізіён, сюды, у Полацк. Такіх восем чалавек. Дывізіёну прадстаіць вясной выехаць для стрэльбаў на палігон, — вось і збіраюць «абстраляных».

Да нас падыходзіць звыштэрміновы служачы з пагонамі старшыны. Адразу бачна, франтавік, на твары — шрамы, на грудзях ордэнскія калодкі. Трымаўся годна, але не пыхліва, голас спакойны, разважлівы:

— Я — старшына чацвёртага дывізіёна Пацёмкін, пайшлі са мной. А насы чаго павесілі? Тут весялей служыць, вось пабачыце.

Прынялі цёпла. Мяне і Валянціна зацвердзілі на тых жа пасадах. Потым з Верхнядзвінска прыбылі яшчэ двое. Сапраўды, тут служба выглядала весялей. Кіно на тыдзень двойчы. Кожную суботу ў клубе танцулькі, экскурсіі па прадпрыемствах горада. Праз кароткі, вельмі кароткі час падраздзяленне становіцца для нас з Валікам родным. Нездарма філосаф казаў — усё, што ні робіцца, заўсёды да лепшага...

Да нас, трэба прызнаць, адносіны асаблівыя. Падрыхтоўку мы праводзім па індывідуальным плане.

Камбат — маёр Гайнутдзінаў — асабіста знаёміўся з кожным. Распытваў і пра службу, і пра бацькоў, і пра тое, што на душы ляжыць. Шчырая, амаль

бацькоўская размова, падвысіла яго ў нашых вачах. Ён сярэдніх гадоў, сінія вочы, вялікі нос, на барадзе ямінка. Голас ціхі, прыглушаны. На душы пацяплела, бо адчулі прыхільнасць да сябе.

А потым ён жа прыдзірліва правяраў, як мы правялі першыя месячныя рэгламентныя работы. Хмыкнуў, паціснуў плячыма, а потым кіўнуў галавой. Значыць, спадабалася, значыць, да нас не было прэтэнзій. І больш ён нашую работу ніводнага разу не правяраў.

Падобна на тое, што я раблюся не проста начальнікам варты, а «вечным начкарам». У дзень нарада гэтая ношка мне гарантаваная... На калёсы кладуць столькі, колі конь пацягне. На мяне ж ускладзены таксама немалы груз, камандзіры думаюць, што гэты груз мне па сіле...

У апошнюю ноч лістапада пачаў падаць снег. Лапушысты такі, як аладкі, што пякла мая маці. Але ціха, без ветру. Снег кладзецца буйнымі сняжынкамі, і праз нейкі час усё белае-белае...

Мы — на варце, у каравуле, значыць. Пазіцыі дывізіёна тут ахоўвае не толькі баец, але і яшчэ два вартавыя сабакі. Яны бегаюць уздоўж нацягнутага троса, неспакойна круцяцца.

Дывізіён знаходзіцца на баявым дзяжурстве, і таму дызелісты яфрэйтары Тэнгіз Тахмазян і Нікадзім Брылько, і разам з імі дзяжурны афіцэр капітан Сяргей Лядункін праз вызначаныя прамежкі часу з’яўляюцца там. Першыя для таго, каб прагрэць рухавікі электрастанцыі, другі — для кантролю.

Праход — па спецыяльнай паласе, інакш хадзіць у межах паста проста забаронена.

Дзяжурны службіст — афіцэр у трэцім пакаленні, ідучы на станцыю, нечакана спыняецца. Ён заўважае, што дзверы ў схованку шостага разліку прачынены. Туды ж вядуць сляды і вартавога. І дурню зразумела, зашыўся ў бетонны бункер і дае храпака. Прадчуваючы раскрыццё антыстатутнага ўчынку, прастуе туды. Але ж не падумаў, дзівак, пра іншае — без разводзячага ці начальніка варты туды ісці нельга, і тым больш без прычыны.

А Падаляк, які па дзвярах залез на карніз, і даўно абышоў тое сховішча з іншага ўжо боку, гэтага і чакаў. У яго даўно гарэў зуб на капітана. Той незаслужана аб’явіў яму тры пазачарговыя нарады. Як толькі капітан па прыступках спусціўся ўніз, вартавы тут жа зачыніў таўсценныя дзверы і завязаў дротам прабой.

Першым забіў у званы трывогу памочнік дзяжурнага старшы сяржант звыштэрміновай службы Іосіф Геёня.

Прыбягае да мяне, з трывогай у голасе пытаецца:

— Ты не бачыў дзяжурнага, Мікола?

Я паціскаю недаўменна плячыма:

— А што здарылася?

Ён не адказаў, адразу ж да дызелістаў падаўся. І там няма. Абзванілі ўсіх днявальных. І ўсе адказвалі адно і тое ж — не, не заходзіў.

Вартавыя салдаты, здаралася, пакідалі свае пасты, і то на кароткі тэрмін, але каб дзяжурны афіцэр — ніколі!

У маю душу закрадваецца сумненне. Клічу да сябе Валодзю.

— Твая работа, прызнавайся?

— Ды не бачыў я яго. Трэба ён мне, як сабаку леташні снег.

— І нічога падазронага не прыкмеціў?

— А, успомніў: снег паваліў, свету Божага не відаць.

— Яшчэ што? — цягну я яго за язык.

— Падазрона былі прачынены дзверы шостага сховішча. Прыйшлося завязаць дротам, каб туды ніхто не зайшоў ноччу...

Брэша, як наняты, і вокам не міргне. Даручаю разведзяшчаму праверыць тыя дзверы. Той і адправіўся, нічога не падазраючы, па ўказаным адрасе.

Ужо праз нейкі час званок па ўнутранай сувязі — ёсць, знайшоўся Лядункін. Зачынены сядзеў у бункеры.

А потым і ён прыбег у памяшканне варты — раззлаваны, раз'ятраны, з пенай на губах:

— Ды я... Я вас... Спецыяльна падстроілі! Папомніце мне яшчэ гэта. Мяне, афіцэра Савецкай Арміі... Вы ж не мелі права!..

Я, стрымліваючы дурны смех, зрабіўшы начальніцкую міну, тлумачу:

— Таварыш капітан! Вы не мелі права выходзіць за мяжу паласы, адведзеную для хадзьбы. Прызнайцеся, што вы парушылі статут вартавой службы. Давайце замнём гэты інцыдэнт. Для вас жа лепей будзе...

— Замнём? Падаляк спецыяльна тое зрабіў. Я ж толькі хацеў праверыць, чаму адчынены дзверы...

Клічу Падаляка, каб растлумачыў сітуацыю. Той божыцца і клянецца, што не ведаў, што нехта зайшоў у сховішча. А зачыніў дзверы таму, што яны былі раскрытыя.

Я ўшчуваю Падаляка, але ён агрызаецца, стаіць на сваім: не бачыў, не ведаю...

Калі капітан Лядункін, нічога не дабіўшыся, пакідае памяшканне, чуецца выбух смеху.

— Хай ведае, як другім капаць яму. Сам жа ў яе і ўскочыў...

Смех смехам, але з-за таго здарэння мой адпачынак быў перанесены аж на два месяцы. Наскардзіўся ўсё ж капітан камандзіру. Праўда, разбіральніцтва не праводзілі, вырашылі, відаць, уздзейнічаць іншым шляхам.

— Не ты адзін не паехаў, — смяяўся пазней Валодзя, — мы ж таксама яшчэ не ездзілі ў адпачынак... Але даруй, калі з-за мяне.

— Ды ладна, забудзем...

А зіма мацнела, злосць сваю пачала паказваць, маразамі людзей палохаць. Не шкадавала ні цывільных, ні нас, салдацікаў. Быццам нас і сапраўды падкладка ў шыняльку грэе ў лютыя маразы.

Калі снег у першыя дні радаваў, бо ён ствараў дзівосныя малюнкі і пейзажы, то сёння ён для нас ненавісны. Амаль кожную раніцу мы выходзім на расчыстку тэрыторыі ад снегу. А яго, як на тое, наваліла як не ў рост чалавека. Кідаем і кідаем, ствараючы на ўзбочыне новыя горы, а яго з кожнай ноччу не менее... Нам той снег, мусіць, будзе не раз прыходзіць у нашыя сны.

Зарадку выконвалі апранутыя. Стараліся як мага меней выходзіць на вуліцу. Вывесці хлопцаў на вячэрні праменад было цэлай праблемай. То былі, здаецца, усе на месцы, а як толькі трэба было станавіцца ў шыхт, трэцяя частка як скрозь зямлю правальвалася. І гэта, на жаль, не засталося незаўважаным. Таму кожную раніцу і кожны вечар да нас наведвалася палкавое начальства — пільна сачылі за тым, каб строга выконвалі распарадак.

А ў адзін з вечароў дывізіён вырашыў праверыць начальнік штаба — падпалкоўнік Хан.

Перад уваходам у казарму — зашклёная веранда, а ў ёй, у кутку, была скрыня для рыдлёвак і мётлаў. Вось за ёй ён і надумаўся прыхавацца, каб назіраць за тым, як мы будзем наладжваць праменад. Не паспеў днявальны аб'явіць пастраенне, як дызеліст Тахмазян аказаўся на верандзе і хуценька схаваўся ў той скрыні. У прыцемках не заўважыў правяральшчыка.

Падпалкоўніку Хану нічога не заставалася рабіць, як зачыніць скрыню на зашчапку. Не вылезеш.

Пашыхтаваліся. Старшына Пацёмкін дакладвае начальніку штаба, што пастраенне адбылося, папрасіў дазволу на правядзенне прагулкі.

— Таварыш старшына, а ў страі ўсе?

— Усе, акрамя хворых і нарада.

— Добра. Але ў мяне будзе просьба. Выдзеліце чатырох байцоў, няхай вынесуць з веранды скрыню на вуліцу.

Старшына выдзеліў самых рослых і дужых. Але і тыя з цяжкасцю вынеслі скрыню на вуліцу, паставілі перад строем.

Падпалкоўнік падышоў да яе, зняў зашчапку, не падымаючы вечка, пастукаў зверху, ласкавым голасам папрасіў:

— А мой ты ласкавы, выбачай, што патрывожыў, пакінь сваю схованку...

Мы нічога не разумеем, пераглядваемся. Што за цырк строіць перад намі начальнік штаба? Мо перапіў учора і цяпер дурыкі ў галаве.

Вечка прыўзнімаецца, і вылазіць сябра армянскага народа баец Такмазян. Не ведае, куды падзецца ад сораму, атрасае з сябе пыл, стаіць, мнецца.

А падпалкоўнік працягвае здзекавацца. Падышоў ужо зусім блізенька да яго, вочы ў вочы, пытаецца яшчэ больш затоеным голасам:

— Не, не падобны на Дзеда Мароза. Дык, можа, у вас, яфрэйтар і прозвішча ёсць?

Той разумее, што ад яго патрабуецца, выцягваецца ў струнку, дакладае па ўсёй форме:

— Гвардыі яфрэйтар Тахмазян, таварыш падпалкоўнік!

— Цяпер зразумеў. Тады, гвардыі яфрэйтар Тахмазян, далажыце мне, колькі вы рыдлёвак і мётлаў у скрыні налічылі, і ці ўсе яны на месцы?

Усе рагочуць — усім стала весела.

Тады ўжо, прыняўшы строгі выгляд, падпалкоўнік голасна аб’яўляе:

— За недастойныя паводзіны, за адлыньванне ад прагулкі аб’яўляю байцу Тахманяну пяць сутак арышту!

— Ёсць пяць сутак... — вяла і зніякавела адказвае прадстаўнік сонечнай Арменіі.

Паўторнае шыхтаванне праз пяць хвілін. На гэты раз у страі ўсе да аднаго.

З гэтага вечара нашыя прагулкі праходзяць як належыць — ніхто больш нікога не ловіць. Ну і падапалкоўнік! Адным узмахам рукі, як дырыжор, наладзіў нам сугучча ў аркестры.

Чарговая праверка. Нас прымушаюць яшчэ і яшчэ раз расказваць пра схемы блокаў і сістэм, правяраюць нашыя веды баявых магчымасцей станцыі, — і шмат і шмат чаго яшчэ...

Уражанне такое, што праз гадзіну вайна. Выматалі, здаецца, усю душу. Вытрымалі, паказалі, што мы гатовы да ўсяго.

А потым нам зачытваюць спіс удзельнікаў стрэльбаў. У ім усе тыя, хто пабыў ужо ў далёкім Ашулуку. Дык ці трэба было ламаць дзіды? Загадзя ж усе ведалі, што да чаго і хто з кім... Дурысціка, адным словам.

А непрыкметна і зіма згінула, зазвінела звонкімі раўчукамі, той снег, што мы рыдлёўкамі шпурлялі, за колькі начэй растаў і сцёк у канавы і лагчыны. Вясна, хлопчыкі, прыйшла, вясна!

Да пахаў прэлай зямлі дадаецца першы водар маладой лістоты, якая толькі што выстрыкнула з набрынялых пупышак. І ў нашых душах таксама вясна і радасць. На вуліцу часцей выходзім, сонейку твары падстаўляем, адаграваемся пасля зімы.

Апошні дзень сакавіка — трыццаць першае — для нашай часці свята. Бо ў гэты дзень яе нараджэнне. А ў гэты год — яе юбілей. А раз юбілей, то шмат чаго цікавага павінна адбыцца.

Як заўсёды прыязджаюць ветэраны. І сярод іх — дванаццаць герояў Савецкага Саюза, два генералы.

Штандар палка нясуць удзельнікі баёў. На іх тварах урачыстасць, і мы можам толькі ўявіць, што яны адчувалі і думалі ў той час... Мы тады, мусіць, для іх не існавалі, бо яны ў той момант былі на сваёй вайне, на якой гінулі іх сябры і таварышы, і ў іх вушах узрываліся бомбы, чуліся каманды камандзіраў ісці ў атаку...

Калі яны выходзяць на сцэну і пачынаюць успамінаць вайну, у зале цішыня. Нам цікава слухаць жывых сведкаў гісторыі, таго нялёгкага і жудаснага часу...

Усім ветэранам камандзір часці палкоўнік Дабралюбаў уручае падарункі ад камандуючага арміяй.

А потым радасныя хвіліны і для нас — мы з Валянцінам сталі старшымі сяржантамі.

Наш таварыш яфрэйтар Пятро Піскун рыжы, як недаспелая пшанічная салома, высокі, стройны. Ён заўсёды ўсміхаецца. Аб'яві яму пяць нечарговых нарадаў, ён адкажа «ёсць» і будзе ўсё роўна ўсміхацца. Пятро пачынаў таксама з першага дывізіёна. Ён — «багаты». У яго асобнае памяшканне з «кухняй» і «прыёмнай» — усё чын па чыне, як кажуць. Рэч у тым, што ён сабакавод і мае вальер для сабак з асобным памяшканнем.

Прайсці да яго туды можна толькі праз вальер. Сабакі прызнаюць толькі яго і памочніка, які прыняў днявальства.

Вось мы і вырашылі наладзіць баль у яго гаспадарцы, павесяліцца, адчуць сябе цывільнымі. У нас ёсць бульба, свініна, пячонка, ялавічына. Удосталь і посуду. На стале — пляшка гарэлкі і адкаркаванае піва. Але мы сядзім, расцягваем задавальненне, чакаем, калі падсмажыцца закуска.

Пятрусь радасным голасам абвяшчае:

— Сябры мае — усё гатова! Прашу да стала!

За паўтара года службы ў нас такое «мерапрыемства» ўпершыню. Мы ніводнага разу не парушалі прывычны ход жыцця, але тут наважыліся.

Ад першай чарачкі хмялеем — зразумела, вопыту ніякага. Больш наліваць не асмельваемся — мы ж на службе. І ўжо час выводзіць на пост вартавых. Пятро з двума выхаванцамі — Мухтарам і Вольтам — пакідае нас.

У вальеры застаюцца два рэзервовыя сабакі — Бім і Рэкс. Мы яшчэ не ведаем, што яны нас за «сваіх» не прызнаюць.

Піва пасля гарэлкі робіць нядобрую справу. Першым не вытрымлівае Алег Гваноўскі — яму трэба схадзіць да ветру. Ён прачыняе дзверы, выходзіць у вальер. Чуем брэх, крык. Вызірнулі і бачым, што Алік з акрываўленымі рукамі бяжыць назад. Добра яшчэ, што паспелі прычыніць дзверы. Гваноўскі адразу збялеў, пакрыўся потам. Мы апрацоўваем яго крывавыя раны гарэлкай, перавязваем — аптэчка пад рукой.

З пакусамі-ранамі на руцэ справіліся хутка, а што рабіць з мужчынскім «гонарам»? Там раны аказаліся сур'ёзнымі. Алег, прымружыўшы вейкі, прыціскае, змочанай у ёдзе ватай, крывавую рану...

Не заўважылі, як вярнуўся «сабакавод». Ён убачыў, чым мы займаемся, за галаву хапіўся, перапалохаўся не на жарт: во пагулялі, во адвялі душу...

Аказалася, што нехта днём не замацаваў адзін з тросаў, які ўтрымліваў сабак.

Але ж сітуацыя... Пікантная, так бы мовіць, сітуацыя.

Мы, працверазелі ўмомант, разважаем: «Дывізійны фельчар Зміцер Клімовіч служыць тэрміновую, як і мы, таму нас не выдасць. Толькі ён нам дапаможа...»

Зміцер, агледзеўшы пацярпелага, кажа:

— Хлопцы, яму неабходна накладваць шоў. Я ж гэтага не зраблю. Патрэбен доктар...

— А як жа мы растлумачым, што адбылося?.. Ад яго ж гарэлкай і півам як з брагавара тне...

— Ну, тое я сам растлумачу, скажу, што даў яму спірту, каб боль сцішыць. А пра сабаку... Так і скажыце, што трос быў абарваны...

Разумны хлопец у нас фельчар, ведае сваю справу, і нам дапамагчы хоча.

Пазванілі дзяжурнаму па дывізіёне, тлумачым сітуацыю. Нашага сябра павезлі ў шпіталь. Разбіральніцтва скончылася тым, што інструктар Пятро Піскун на некалькіх старонках мусіў пісаць «тлумачальную», чаму сабака сарваўся з прывязкі... Паверылі ці не паверылі яму, але справу больш пампаваць не сталі...

А Гваноўскі з’явіўся ў казарме толькі праз тры тыдні. Хто-хто, а ён той святочны дзень сваёй вайсковай часці ніколі не забудзе.

А для нас тое было добрым урокам: перш, чым нешта змікіціць, сто разоў абдумвалі. Навуку запомнілі на ўсё жыццё...

Вясна ў поўным росквіце, а дата стральбаў яшчэ так і не вызначана.

Схемы і рэгламентныя вывучаны «назубок».

У мяне новы аператар РПК — радыёперадатчык каманд — Валодзя Андрушкевіч. Ён нарадзіўся ў Армавіры. З чатырнаццаці гадоў працаваў электрамантажнікам на чыгунцы. Справу ведае выдатна, валодае пачуццём гумару, усмешка на твары пастаянна. Выдумшчык, якіх свет не бачыў.

Насупраць яго ложка — лежбішча сакрэтчыка Міколы Лагодзіча. Хлопец ніштаваты, бяскрыўдны, — калі ні папросіш у яго што-небудзь, ніколі не адмовіць. Над такімі чамусьці заўсёды любяць пацяшацца, падколваць.

Аднойчы вечарам я ўбачыў, як Валодзька пад суседаву прасціну разматаў цэлую шпульку белых нітак. А канец працягнуў да сябе.

— Што ты задумаў?

Прыстаўляе палец да губ:

— Маўчы, пасля адбою сам даведаешся пра ўсё...

Прагучала жаданая каманда «адбой», і мы ўкладваемся ў ложкі.

Назіраю за Андрушкевічам, цікава, што ж ён прыдумаў з тымі ніткамі?

Бачу, Мікола адзін раз устаў, потым другі... Трохі пройдзе часу — Валодзя зноў торгае за нітку. Лагодзіч зноў падымаецца, і на гэты раз пераглядвае ўвесь ложак. Нават пад яго запаўзае. Але нічога падазронага не прыкмячае. Уздыхнуўшы, зноў кладзецца.

Аперацыя працягваецца. Сакрэтчык ужо літаральна ашалелы выскоквае з-пад коўдры, на ўсю казарму роспачна вые:

— Ды што гэта тако-ооооо-еее? Адкуль у казарме столькі клапо-оооў?

Ніхто нічога не разумее. Я ледзьве стрымліваю смех.

Недзе пасля пятага ўсхоплівання Лагодзіч не вытрымлівае, уключае святло. Байцы незадаволена прыкрываюць даланямі вочы — толькі-толькі нагарнуўся сон...

Пры святле ўжо Лагодзіч інспектуе сваё ложа, але — зноў жа! — нічога не знаходзіць.

— Мікола, ты сёння свайго ката карміў? — пытаецца Валодзя.

— Карміў, а што?

— Ну і набраўся ад яго блох. Здымі, ды замачы майку, можа, блохі там...

Мікола не агрызаецца, але і не згаджаецца з вывадам суседа. Ведае, што ніколі яго Цэзар не быў блахасты.

Хвілін з дзесяць ціха. Потым Мікола тупаціць да электраўключальніка. Ён разгублены, не ведае, што рабіць. Нехта выказвае меркаванне:

— Коля, паразіты, мусіць, у тваіх трусах. Замачы і іх у мыльнай пене, паздыхаюць...

Мікола прыслухаўся да парады — выключае святло, ідзе да вады, намочвае трусы, майку, намыльвае гаспадарчым мылам. Пакуль ён быў у мыцельніку, увесь дывізіён ведае, у чым прычына. Чакаюць развязкі, ужо і на сон махнулі рукой.

Маўчанне доўжылася хвілін з пяць. Потым Мікола ўскоквае, быццам яго падкінула спружына. Смех пакаціўся па ўсіх ложках.

Мікола моўчкі скідае прасціну з матраца.

І толькі тады ўбачыў, што яго так непакоіла. Па той жа белай нітачцы вызначыў, да каго яна вядзе.

Падышоў да Андрушкевіча, замахнуўся, ды сам жа першы і зарагатаў на ўсю казарму.

Следам за ім выбухнуў агульны рогат.

Не хутка ўдалося нам заснуць у тую ноч...

Адгрымелі травеньскія святы. Адцвіла чаромха і бэз, дурманячы сваім водарам галовы салдат, салаўі у кустоўі пачалі наладжваць свае канцэрты, — а ў нас працягваўся, доўжыўся рэжым чакання.

Гэта недзе нас і пачало прыгнятаць, не давала засяродзіцца на нечым адным.

І ў адзін з вечароў мы даведваемся — пагрузка трынаццатага ліпеня!

Рыхтуемся ўжо фундаментальна, успамінаючы, ад чаго пакутавалі мінулы раз.

Прыхапілі гумавыя накідкі, назбіралі паболей фляг, каб там не пакутаваць ад недахопу вады. Да дробязей усё прадумалі. Узброіліся, як мае быць.

— Ты нічога не забыўся ўзяць? — пытаюся, правяраючы, ужо Валянціна Пешкуна. — Там, браце ты мой, усялякая дробязь спатрэбіцца... На адваротнай дарозе будзе холадна...

— Узяў, усё ўзяў...

Мне радасна, што ён будзе побач са мной. Разам — весялей, разам — здарава!

## *Апошні штрых*

Начальнік эшалона, ён жа камандзір ракетнага дывізіёна, падпалкоўнік Дахноўскі, асабіста абыходзіць вайсковы эшалон. Прыдзірліва аглядае і правярае, як замацавана тэхніка, як абсталявалі сабе ў «цяплушках» жытло байцы.

Мужык ён, што трэба, — франтавік.

Сярэдняга росту, шыракаплечы, трошкі выдаўжаны твар. Рэдкія валасы ў яго заўсёды акуратна прычасаны, вушы ненатуральна вытыркаюцца.

Вайсковая форма не тое, што яму не падыходзіла, сядзела нейкім надзіманым мяшком. Нашага брата, салдата, ён ведае дасканала, як рантгенам прасвечвае кожнага, — ад яго нічога не схаваеш, не ўтоіш.

Аднойчы з'явіўся запыханы на развод у штанах, у якіх былі розныя па даўжыні калашыны. Тады ж і атрымаў невядома чаму мянушку Юзік.

Мы паважаем яго, і па магчымасці стараемся не засмучаць, ніколі не насміхаліся з яго. Ён жа нам за тое плаціў той жа «валютай».

Лязгат прычэпных прыстасаванняў, — і мы пакрысе కратаемся з месца. Быццам як бы пасміхаючыся ці пад'юджваючы тых, хто праводзіў, гучыць на станцыі «гімн аліментшчыка» — «Мой адрас — не дом і не вуліца, мой адрас — Савецкі Саюз...»

Пад стукат колаў пачынаем драмаць — стома адразу нас валіць з ног.

Да Барысаглебска рухаемся без здарэнняў. Тут ужо наш ліцерны спыняецца на чацвёртай калейцы. Паралельна з намі стаіць такі ж састаў. Аказваецца, першы дывізіён Аршанскага палка вяртаецца з Ашулука.

Хлопцы махаюць нам рукамі, пытаюцца, хто з нас адкуль. Пачуўшы слова «Мазыр» ці «Рудабелка», радасна ўскрыкваюць: «О, зямеля!..»

— Як адстраляліся, хлопцы?

— На «выдатна»! Таго і вам зычым!

Афіцэры з сеткамі і авоськамі бягуць на прывакзальную плошчу да шапікаў і буфетаў, каб на дарогу дабраць якога харчу і, канечне ж, нечага для весялосці і настрою. Але далёка ад эшалона не адбягаюць, цікуюць вокам, каб не крануўся поезд з месца.

Юзік няспешна з афіцэрамі прагульваўся ўздоўж вагонаў, потым зазірнулі на прывакзальны рынак.

Праз кароткі час з боку Валгаграда на першую калейку прыбывае пасажырскі. Нам даюць «зялёны». Ужо за святлафорам чую тэлефонны званок. Бяру слухаўку, чую Валікаў голас:

— Ну... Юзік са сваёй камандай застаўся на вакзале. А я знаходжуся ў сярэдняй цяплушцы, дзяжуру па кухні...

— Не жартуеш, Валянцін?

— Ды якія тут жарты. Не да жартаў мне, не ведаю, як выкручвацца...

Прыязджаем у Паворына. Да мяне бягуць Валянцін, старшына стартавікоў Аляксей Гурэеў, і той жа памочнік дзяжурнага — Юра Зачыняеў.

— Ты — старшы па пасадзе, напалову афіцэр, і табе падпарадкавана варта. Прымай камандаванне, а то хлопцы пачынаюць вар'яцець, бязглуздзіцай займацца...

Бачу: люк вагона, дзе едуць вадзіцелі, адчынены — чалавек з дзесяць на даху танцуюць «гапака». Здаецца, паспрабавалі віна, — і дзе толькі паспелі ім атаварыцца? Людзі, што праходзяць паўз нас, здзіўлена паціскаюць плячыма, — непрывычны для іх такі малюнак. Махноўшчына, ды і толькі. Прымаем неадкладнае рашэнне: тэрмінова трэба склікаць «дзядоў» — толькі з іх дапамогай мы можам выправіць сітуацыю.

Сабраліся. Аглядваю ўсіх, тлумачу сітуацыю.

— Мы ж з вамі — людзі і салдаты. Парадак і дысцыпліна без начальства павінны быць забяспечаны, — падсумаваў Юра. — А афіцэры знойдуць спосаб, як нас дагнаць.

— Зразумелі! Дысцыпліну забяспечым!

Упэўненасць у тым, што яны акажуць патрэбную дапамогу, была ў нас абсалютная.

На працягу дзесяці хвілін усё было скончана. Некалі байцоў аказаліся буйнымі, паспрабавалі паказаць свой характар. Але яны (што рабіць?)

атрымліваюць па мардасах і тут жа пераводзяцца ў вагон стартавікоў — так надзейней.

А далей ужо усё пайшло так, як і належала быць.

Ноч. Ніхто з сяржантаў і «дзядоў» не спіць. Усе адчуваюць адказнасць і значнасць той сітуацыі, якая склалася. Раніцу сустракаем ужо ў «адстойніку» — перад самай Волжскай ГЭС. Групай абыходзім састаў, правяраем пільна, з веданнем справы.

Нехта закрычаў за нашай спінай. Мы азірнуліся.

Пераскокваючы цераз рэйкі, махаючы рукамі і нешта крычучы, спяшаліся да нас вайсковыя людзі.

— Ура! Дык гэта нашы камандзіры! Дагналі ўсё ж такі нас!

Я выцягнуўся па камандзе «зважай!», дакладваю:

— Таварыш падпалкоўнік! За час вашай адсутнасці ніякіх здарэнняў не адбылося!

Юзік падыходзіць да мяне і моўчкі сціскае руку, не можа вымавіць і слова. Ён і памочнік камандзіра па палітычнай частцы змарнелыя, пад вачыма «мяшкі», а ў вачах слёзы... І яны не могуць нічога сказаць, толькі ротам хапаюць паветра. Перапалоханыя, зніякавелыя, бо ведаюць, чым пагражала тое, што яны пакінулі эшалон.

Самі сабе падумалі: «Дарэмна вы так, мы сваіх не выдадзім і не прададзім...»

...Раніцу наступнага дня сустракаем на станцыі Капусцін Яр.

Зноў разгрузка, і потым ужо рухаемся па бетонцы ў стэп. Спяшаемся паспець усё зрабіць да поўдня, апярэдзіць спякоту.

Вечарам добра пакармілі. А потым мы ходзім па гарадку і нічога не разумеем: людзі ў розных вайсковых формах. Гавораць на незразумелай для нас мове. Чуецца нямецкая і польская, здаецца, і румынская...

Цікавімся ў Юзіка. Ён у адказ усміхаецца:

— Не здагадаліся? Палігон агульны для краін Варшаўскага дагавора.

— Дык тут і немцы?

Юзік пацiскае плячыма, разводзіць рукамі, канстатуючы тым самым, што яму тое не даспадобы, але рэаліі жыцця такія, што трэба падпарадкоўвацца абставінам.

Нам трохі шкада яго. Бо ведаем, што магло тварыцца ў яго душы. Можа які бацька тых немцаў, што вольна ходзяць па гарадку, страляў з аўтамата па яго сябрах... Можа, усё можа быць. Але мы ніколі не скажам падпалкоўніку Дахноўскаму пра тое. Не даспадобы яму будзе тое, і дурню зразумела...

Нашых дывізіёнаў не меней за дзесяць. Кормяць каларыйна, галоднымі не ходзім. І вады ўдосталь, не так як у першы раз. Так што і біклажкі не спатрэбіліся.

А калі пачало змяркацца, усюды запрацавалі кінаперасоўкі. Кіно — на любы густ і інтэлект. Там круцяць пра каханне, а там — пра вайну... Недзе замежныя, недзе — айчынныя... І нам усе хочацца паглядзець. Пасля таго, як мы праявілі сябе падчас руху, забяспечыўшы парадак і дысцыпліну на эшалоне, да нас адносіны камандзіраў асаблівыя. Яны нам давяраюць ва ўсім.

Перад адбоем абавязкова правяраем, каб у нашых ложках не аказалася «палюбоўніц». Старaслужачыя смяюцца:

— Ды не бойцеся, тут гадзюк няма. Гэта вам не Ашулук.

Мы з Валянцінам радуемся — не жыццё, а маліна...

Раніцай гучыць каманда на шыхтаванне.

Перад строем камандзір нашага дывізіёна і начальнік пляцоўкі — маёр Барыс Чыкілёў. Твар маёра падаўся мне знаёмым. Глянь, дык гэта ж мінулагодні экзаменатар! Значыць, падымаецца па службовай лесвіцы вышэй і вышэй. Што ж, так і належыць у армейскім жыцці.

— Таварышы! — звяртаецца маёр да нас. — Мая вам парада — на гэтай спякоце як мага радзей уключайце тэхніку. А рэгламентныя работы праводзіць толькі тады, калі спякота спадзе. Вентыляцыйныя люкі і дзверы днём лепей трымаць зачыненымі. Зразумела?

Мы хорам і дружна адказваем:

— Так точна, таварыш маёр!

Нам — што? Нам — меней работы. Які ж дурань будзе лішні раз выбягаць пад промні пякельнага сонца?

— А калі стрэльбы, таварыш маёр?

— От не церпіцца вам пастраляць. Праз дзесяць дзён.

Выязджаем на пазіцыю, разам з Валянцінам Пешкуном штудзіруем схемы. Напачатку ў кабіне, а потым на вуліцы ў цяньку. Як толькі пачынаецца поўдзень — дванаццаць гадзін — задыхаемся ад невыноснай спякоты, нам не хапае паветра, і мы хаўкаем як рыба, выкінутая на бераг. Ходзім па пяску, як па патэльні: прыпякае нават праз падэшвы ботаў.

І тады аб'яўляецца перапынак да семнаццаці гадзін. Дзякуй камандзірам, што робяць нам хоць нейкую палёгку. Мусіць, ведаюць, што у такі час у нас плавяцца мазгі, і што наша падрыхтоўка не прынясе ніякай карысці.

Сядзім з Валікам і з сябрамі пасля вячэры на лаўцы, вядзём размовы. То пра радзіму ўспамінаем, то пра бацькоў.

Паўз нас праходзіць вайсковец — высокі, светлавалосы, хударлявы. Мусіць, немец. Захацелася пагаварыць, перакінуцца хоць словам.

— Камрад, ком хір, — спрабуем падабраць нямецкія словы, успамінаючы, што вучылі ў школе.

Ён усміхнуўся, спыніўся, падышоў да нас.

— Вы, хлопцы, нешта хацелі? — спытаў ён у нас на расейскай мове.

Мы аслупянелі — трэба ж, гаворыць на мове Пушкіна.

— Немец?

— Немец.

— І ведаеш так добра рускую мову?

— Ведаю. Але чаму вы не ведаеце мову Гётэ і Шылера? Хіба ж не вучылі ў школе?

— Вучылі, ды... — не ведаем з Валянцінам, як апраўдацца, як давесці яму, што ў школе не надавалі вялікай увагі вывучэнню замежнай мовы, бо ведалі, што яна не спатрэбіцца ў жыцці. Ды яшчэ таму, што свежыя ўспаміны пра вайну, пра фашыстаў, што на ўсё жыццё запомнілі лучынцы: «Матка, яйка, шпэк», «хэндэ хох», «Сталін — капут»...

— Курт Вернер, — падае ён нам руку.

Ледзьве зразумелі, што ён называе сваё імя, адказваем:

— Мікола Фядосік...

— А я — Валянцін Пяшкун...

— Коля і Валянцін, — вымаўляе ўслых нашы імёны, каб запомніць.

Маўчым колькі хвілін, а потым першым парушае маўчанне Валянцін:

— Слухай, Курт, а як табе тут, на рускай тэрыторыі? Тут некалі былі цяжкія баі, шмат палегла як савецкіх воінаў, так і салдат вермахта...

Той усміхаецца, здымае фуражку са срэбнай цэшкай, кладзе збоч на лаўку, выцірае хусцінкай узмакрэлы лоб. Глядзіць прымружаным вокам неку-

ды ўдалячынь, у бясконцы стэп, і яго думкі сягаюць некуды ў мінулае, дзе яго родзічы пакінулі свой ваенны след...

— Праўда вайны яшчэ не раскрыта да канца. Як з нашага, так і з вашага боку. Так, мы некалі былі ворагамі. Два вялікія начальнікі сутыкнулі лбамі два народы. Колькі мільёнаў чалавек загінула! Але сёння мы разам. Няхай яшчэ не блізкія народы, але некалі ўсе народы будуць любіць і шанаваць адзін аднаго...

Мы асмялелі і закідалі Курта рознымі пытаннямі. Нам цікава было ведаць, як у яго праходзіць служба, якія ўзаемаадносіны з афіцэрамі, як яны глядзяць на жаночы пол, ці ёсць у яго каханая дзяўчына...

— А кормяць вас як? А ў самаволкі бегаеце?

Толькі недзе праз хвілін дваццаць, калі ён ухіляўся ад нейкіх нашых, трэба прызнацца, дурных пытанняў, Валянцін яму проста ў лоб і выстраліў:

— Курт, а ў якім ты званні ці чыне?

Тады Вернер, зноў жа, не скідваючы з твару ўсмешку, падняўся, накінуў на галаву фуражку і, прыставіўшы даланю да брыля, адказаў:

— Таварышы старшыя сяржанты, я — падпалкоўнік, камандзір дывізіёна.

Не ведаю, што адбівалася ў той момант на нашых фізіяноміях, але тое, што мы адчулі сябе дурнямі, вывад напрошваўся адназначны. Мы даём «задні ход», просім прабачэння, адсоўваемся, спрабуем падняцца і даць драла, але Курт, ужо смеючыся, паклаў нам рукі на плечы:

— Сябры мае, вы мне дужа спадабаліся. Я люблю гаварыць з салдатамі, тым самым адпрацоўваю і ўдасканальваю вашую мову. Маё і вашае званне тут ні пры чым. Як гэта ў вашай песні? «Давай, таварыш, закурым па адной...»

Ён вымае з кішэні цыгарэты, вытрасае з пачка для нас некалькі штук, і добразычліва глядзіць на нас, рады, што перапыніў нашы ўцёкі, што працягваецца размова. З другой кішэні дастае блакноцік з фатаграфіямі сваёй сям’і, паказвае нам, тлумачыць, хто на ёй.

І — дзіва! — мы адразу перасталі адчуваць розніцу між намі, знік нябачны бар’ер недаверу і здзіўлення, — неўпрыкмет мы адчулі сябе сябрамі, ну, калі не сябрамі, дык харошымі таварышамі, гэта дакладна.

Прыйшоў час развітацца. Курт папрасіў прабачэння, устаў з лаўкі, паціснуў нам рукі, аддаў рэшту цыгарэт, прамовіў:

— Коля і Валік! Будзе час, дык прыходзьце да мяне ў госці. Пачастую сапраўднай кавай. І прадоўжым нашую размову.

Мы паабяцалі праведаць яго.

— Слухай, Коля, — звяртаецца да мяне Валянцін, калі Курт адышоў. Як жа маглі яго суайчыннікі тварыць такія злачынствы на нашай зямлі падчас вайны?!

Пытанне сябра засталося без адказу.

А што я мог адказаць? Ды і ніхто не адкажа на яго, ва ўсім свеце ніхто...

Раніца. Нашаму дывізіёну даручана разгрузка вугалю.

Крочым шыхтам, нага ў нагу. Толькі песню не зацягваем. Не да песень цяпер, не на страявым пляцы.

Праходзім паўз тыя цікавыя домікі, якія кінуліся нам у вочы ў першы дзень. Каля пад’езда заўважаю групу замежных ваенных. Сярод іх нечакана пазнаю нашага ўчарашняга субяседніка. І вырашаю «выкінуць фінт», праявіць, так бы мовіць, акт сяброўскіх узаемаадносін. Загадзя ведаю, што ніхто з нашых камандзіраў мне заўвагі не дасць...

Набраўшы поўныя грудзі паветра, з расцяжкай у словах даю каманду:

— Дывізіё-ёооонн, зважай!.. Смірна! Раўненне — нале-ее-ва!

Як стараліся мае падначаленыя, якім прыгожым і зладжаным шыхтам мы крочылі перад іншаземнымі калегамі і гасцямі! Быццам мы крочылі па бруку Чырвонай плошчы перад самым вялікім начальствам, адчуваючы сябе арламі і волатамі...

Госці спачатку не разумеюць у чым справа, недаўменна пераглядваюцца. Але, на дзіва, Курт пазнае мяне, разумее ўсю парадаксальнасць і значымасць сітуацыі, адыходзіць ад сваіх, прымае стойку «зважай», прыстаўляе, як учора, руку да брыля, голасна вымаўляе:

— Вітаю вас, таварышы салдаты!

І ў адказ мы, набраўшы ў лёгкія спякотнага з пылам паветра, з усёй сілы, як удары маланкі адказваем:

— Здравія жалаем, таварыш падпалкоўнік!

— Вольна!

— Вольна! — паўтараю я загад Курта.

Пераходзім на спакойны крок.

Не вытрымліваю, азіраюся. Так і ёсць, сябры абступілі Курта, спрабуюць дазнацца, ад чаго такі гонар выпаў яму, што дывізіён савецкіх салдат прайшоўся перад ім як перад генералам. А проста так, а няхай ведаюць, што мы заўсёды рады аказаць пашану харошаму чалавеку!..

...Сонца набліжаецца да гарызонту, санцапёк збаўляе свае абароты.

Мы пачынаем стрэльбы. Трэба адзначыць, што відовішча найпрыгажэйшае. Яго нельга ні апісаць пісьмова, ні пераказаць, ні сфатаграфаваць... Каб усё тое адчуць і ацаніць, неабходна асабістая прысутнасць.

Ракеты ўзмываюць увысь, потым уваходзяць у воблакі. І тады яны пачынаюць высвечвацца ўсімі колерамі вясёлкі. Не, нават не вясёлкі, сотні і тысячы колераў і адценняў... Недзе за гарызонтам стартуюць «дальнябойныя», і нам той палёт бачны, як на далані. Адзін толькі раз зірнеш на такое і зразумееш, што такое «выніковы вектар» — далей тлумачыць ужо нічога не трэба...

Першы раз бачым работу сто дваццаць пятых па нізкалятучых мішэнях.

Пускі — парныя. Ракеты — невялікія па памеры, але вельмі вёрткія, жвавыя. Першая літаральна развальвае мішэнь. Другая заўсёды б’е па самым вялікім аскалёпку. У цемры з гучным грукатаннем пачынаюць стартаваць «нашы». Іх ніяк нельга пераблытаць з іншымі. Вялізная хвалепадобная дуга выглядае няйначай як пашпарт. Гэта ўжо феерверк чалавечаму розуму, і тое не можа не зачароўваць, радаваць, ганарыцца...

Прыходзіць чарга і нам уключацца, і не толькі ўключацца, а і паказаць, нават даказаць, на што мы здольны, што мы ўмеем.

Калі распачынаўся дзень, на небе не было ніводнай аблачынкі, а ў поўдзень пачала «сварыцца» навальніца. Кажуць, што такая падзея для гэтых мясцін і ў гэты час вельмі рэдкая. Мы з самай раніцы праверылі тэарэтычную падрыхтоўку. Атрымалі самую высокую адзнаку. У мяне дык нават і ні пра што не пыталіся, — начальнік пляцоўкі запомніў мяне па леташніх стрэльбах. Папыталіся, праўда, калі я быў пераведзены ў гэты дывізіён — і ўсё.

Пасля вячэры аб’яўляецца гатоўнасць нумар адзін. Кантроль функцыяніравання? Усё ў норме, як і мае быць. Чакаем. Але чаканне не доўжыцца, бо праз кароткі час камандзір дывізіёна Дахноўскі дае каардынаты, — і амаль адразу ж пачынаецца «захоп» па ўсіх параметрах.

Афіцэр навядзення — капітан Махервакс, немец, страляе ў трэці раз. У яго каманда зладжаная, вопытная, аператары высокага класа. У іх мы верым, ведаем, што не падвядуць. Але ўсё роўна нас не пакідае хваляванне. Як заўсёды, мы наструненыя, звышуважлівыя і звышпільныя...

Мішэнь ляціць нізка, вельмі нізка, і гэта недарэмна — на любой вышыні мы павінны яе знішчыць. Зноў пасіўныя перашкоды — «памехі», на запыты мішэнь не адказвае. Сістэма селекцыі мішэней, якія рухаюцца, робіць сваю справу: перашкоды выдаляюцца.

Зона паражэння. Наша ракета ўжо можа даляцець да аб’екта паражэння.

— Мішэнь знішчыць двума — чаргой! — гучыць каманда камандзіра дывізіёна.

І тады ўжо з жудасным грукатам нашы «семнаццаткі» вырываюцца ў неба. Не адрываемся ад прыбораў, адзначаем, што навядзенне быццам бы ўпэўненае. Усплёск на экране радара.

З дынамікаў чуецца спакойны ўжо голас камандзіра дывізіёна:

— Мішэнь знішчана. Расход — дзве.

Як? Чаму? Што, мяне вушы падводзяць? Нічога не ўцямлю. Здаецца ж, ішлі на самаліквідацыю. Каардынатчык — лейтэнант Арсен Цітоў — прыбыў з вучылішча да нас мінулым летам. Звяртаюся да яго:

— Таварыш лейтэнант, што там у вас?

— Камандзір жа сказаў, што мішэнь збілі.

Гэта не Саакян, той бы адразу з’арыентаваўся б, а гэты пабаяўся падключыць асцілограф да кардзінатнай сістэмы. Таму нельга было вызначыць месца ракеты і мішэнь падчас выбуху.

Праходзіць хвілін з дваццаць. Адбой не аб’яўляюць, таму мы не выключаем станцыю. Нешта, значыць, адбылося... Але што? Расчыняюцца дзверы, заходзіць да нас наш камбат — маёр Гайнутдзінаў. Твар у яго не свеціцца радасцю, адразу бачу.

Аказваецца, па мішэні «смалянуў» разам з намі і суседні дывізіён.

— Начальства разбіраецца цяпер, чыя мішэнь была і хто яе збіў... — уздыхае маёр, лапае па кішэнях, шукае пачак цыгарэт, але не знаходзіць іх. Я падаю яму тую, якую падарыў мне Курт. — Для нас ужо зразумела, што знішчылі не мы, а вось чыя мішэнь — паглядзім...

Тлумачу яму сітуацыю.

— А адкуль вы ўзялі, што нашы пайшлі на самаліквідацыю?

Мы расказваем, прыводзім довады. Камандзір батарэі прымае яшчэ больш паніклы выгляд. А мы ведалі, што яго кандыдатуру разглядаюць «у вярхах» на пасаду камандзіра дывізіёна, а той дывізіён знаходзіцца недзе ў Прыбалтыцы. Ведаем і іншае — калі мы атрымаем «нездавальняюча», то пытанне аб павышэнні яго па службовай лесвіцы адпадзе само па сабе...

Курыць маёр, нервуецца. Не ведае, куды сябе падзець.

Нарэшце, гучыць каманда «адбой». Толькі тады мы выключаем станцыю.

Уражанне такое, што мы вяртаемся не пераможцамі, а пераможанымі, як з пахавання. Больш за ўсё прыгнячае невядомасць. Таму і спім ноччу кепска, варочаемся з боку на бок, уздыхаем, тысячы разоў пракручваем у сваёй памяці нашы дзеянні, каб адшукаць нейкія памылкі, недахопы... Каб потым не паўтарыць іх, забыцца на іх... А нашы суседзі «гудуць» па ўсіх правілах, бо ў іх усё добра, і няма ніякіх перажыванняў і клопатаў...

Здаецца, і вачэй ноччу не звялі. Таму раніцай ходзім, як сонныя мухі. Снедаць загадалі ў палатках. «Забіваем» час, хто як можа і ўмее. Сноўдаемся з кутка ў куток, няма жадання нават размаўляць...

Нарэшце, шыхтаванне. Камандзір дывізіёна Дахноўскі тут жа. Яго на разборкі не пусцілі — там толькі камандзір палка Дабралюбаў.

Паказваецца уазік. Імчыць хутка, пакідаючы за сабой густы шлейф пылу. Перад намі разварочваецца. Яшчэ легкавік не спыніўся, а з яго выскоквае сам камандзір палка. На твары — усмешка і задаволенасць Няўжо? Няўжо ўсё-ткі мы спрацавалі?!

— Малайцы! — уздымае ён рукі. — Так трымаць!

Палкоўнік падыходзіць да нас бліжэй.

— Дык, што, спрацавалі, таварыш палкоўнік?

— Яшчэ і як! Мы стралялі па сваёй мішэні. Ракеты да яе ішлі ўпэўнена. Проста «гасцінцы» суседзяў дасягнулі яе на палову секунды раней. Самапісцы тое зафіксавалі. Дзякуй за службу!

Наш строй ламаецца, мы абдымаем адзін аднаго, падкідваем уверх пілоткі.

Палкоўнік Дабралюбаў, бачачы, як мы дурэем, быццам малыя дзеці, абдымаемся, смяёмся, нешта крычым радаснае і гучнае, махнуў рукой і пакідае нас. А мы ўсё не можам зняць з сябе напружанасць і радасць. Скачам, танцуем невядомы танец. Але то быў танец шчасця і перамогі. Ура! Мы нешта ўмеем! Ура! Мы даказалі, што мы — прафесіяналы, што нам можна даручаць адказныя задачы па ахове мірнага жыцця нашай краіны!..

Цяпер па поўнай праграме гудзім і весялімся мы. Суседзі ходзяць як у ваду апушчаныя. Яны хаця ж і збілі, але ж не свой аб’ект. Ім за тое — «чацвёрка», і то, улічваючы шурпатасць, няроўнасць, у рабоце палігонных службаў.

Маёр Гайнутдзінаў стаіць збоч. Ад радасці як не плача, і ён гатовы нас абняць і цалаваць... Мы рады за яго. Едзь, маёр, едзь у тую Прыбалтыку, шлях адкрыты перад табою! Але і нас не забывай, успомні нас, ракетчыкаў, якія працавалі на радзіму і — на цябе!..

...Раніцай паступіла каманда. Але не на ад’езд, а на сельскагаспадарчыя работы. Працуем з ахвотай, не звяртаючы ўвагі на санцапёк. Прывезлі нам харошы абед, за што мы дзякуем брыгадзіру. Нехта сказаў, што бачыў у дзесяці кіламетрах ад поля нешырокую рачулку.

— Пакупацца б, га? — выказваем меркаванне.

Пытаемся дазволу ў пампаліта. Ён, крыху павагаўшыся, дазваляе.

Мы дагружаем апошнюю машыну — і да ракі.

Сапраўды, рэчка прыгожая, прыцягальная сваёй прахалодай. Метраў дваццаць ушыркі. Вада — амаль нерухомая. Берагі зараслі трыснягом, на дне — глей. Нават не распранаючыся, кідаемся ў ваду...

Неглыбока — дастаем нагамі да дна. Падумалася толькі: «Цікава... Побач вёска, і ў ёй, як заўважылі, поўна дзятвы, а ніхто з іх не прыйшоў сюды, каб пакупацца...»

Выходзім на бераг, каб распрануцца, каб вымыць свае гімнасцёркі, набрынялыя салёным потам... Да нашага цела прыклейваюцца розныя казуркі, казычуць, раздражняюць... Мы зноў у ваду, але гэта не толькі не ратуе, а яшчэ больш узмацняе тое непрыемнае адчуванне. Ужо тыя блохі і блошкі ў вушах, на твары... Праз колькі хвілін мы са сваімі пад пахамі шмоткамі голыя, у чым маці нарадзіла, імчым да машын...

Дамываем адзенне ўжо на базе.

За гэты час цела ў кожнага пакрываецца чырвонымі плямамі. Мы добра намыльваемся і доўга стаім пад душам. Не дапамагае. Ідзём да дывізійнага фельчара.

Ён, агледзеўшы пільна кожнага з нас, раіць:

— Не ведаю, што гэта такое. Але ўвесь адэкалон, што маецца ў вас, пусціце на сябе. Бярыце сурвэткі і мажце адзін аднаго...

У Валянціна дык і зусім усё цела апухла, затэмпературыў мой сябра...

Але і ад гэтага ніякага толку. Нехта з афіцэраў, што прыязджалі сюды раней, сказаў, што ў той рэчцы нават рыба не жыве. Здзіўляўся, як гэта нас туды занесла. Сапраўды — «не ведаючы броду, не суйся ў воду...»

Не паспелі пазбавіцца ад адной пошасці, як другая навалач абрынулася: нас затрымліваюць на цэлы месяц. Хто цягне, на таго і кладуць. Нам даручана весці кантрольны адстрэл ракет, якія, быццам бы, будуць накіраваны на В'етнам. З партыі ў сто штук адна адстрэльваецца. Што ж, нам не прывыкаць. Нам загадаюць — мы зробім. На табе, стараліся, са скуры вылузваліся, каб паказаць сябе, а нам па загрыўку: «Асадзі назад!..»

Але ж рабіць няма чаго, падпарадкоўваемся, страляем, ды не ў «малако», а ў самае «яблычка». Іншага нам гонар не дазваляе, тады мы самі сябе перастанем паважаць. Але знішчаем не мішэні. ЭВМ задае нам каардынаты, ну, мы і лупім.

Урэшце дваццатага верасня.

Камандаванне палігона аб'яўляе асабоваму складу дывізіёна падзяку і нам загадана згарнуць станцыю. Даўно б так!..

Прымаем рашэнне — папрацуем на развітанне ў знаёмым саўгасе. Трэба ж на дарогу запасціся памідорамі і кавунамі.

Сонца выраўнялася на поўдзень. Абед нам наладзілі на беразе квадратнага азярца, у якім расце рыс. Мы ўпершыню бачым, як расце рыс: сцябло яго вытыркаецца проста з вады. Заўважаем, што некаторыя сцябліны варушацца, быццам нехта там, на дне вады, спрабуе іх рассунуць.

Андрушкевіч доўга і з цікаўнасцю ўзіраецца туды, затым рукамі выхоплівае з вады рыбіну і ад радасці ўздымае яе над галавой. Карп мо з паўкіло, не меней!

Гэ, нам толькі пакажы прыклад. Ужо чалавек з дзесяць рашылі паспрабаваць паўтарыць «подзвіг» Андрушкевіча. І што вы думаеце — праз паўгадзіны вялізны мех, на пудоў тры, напоўнены з каптуром.

Махервакс з'яўляецца нечакана. Ён за старшага. Разам з брыгадзірам прыехаў — Ільёй Раманкоўскім. Ілья за галаву хапіўся:

— Хлопцы, што ж вы нарабілі? Вы ж амаль увесь рыс стапталі... Мы ж тут самі тую рыбу запускалі...

Нашы рыбакі не ведаюць, куды падзець ад сораму вочы. Ужо не саромеючыся прысутных, пакрыў нас смачным мацюком Махервакс.

Брыгадзір, бачачы, што хлопцаў чакае яшчэ і немінучае пакаранне, уздыхае:

— Ладна, спішам на мясцовую дзетвару... Мы прыехалі своечасова, а то натварылі б тут...

Вяртаемся ў палаткі задаволеныя ад некалькіх порцый юшкі, і ад таго, што паслязаўтра пачнецца пагрузка.

Пасля юшкі ў нас падазраюць дызентэрыю.

Нас адвозяць за дзесяць кіламетраў на каранцінную пляцоўку. Два дзесяткі палатак, навес са сталамі, дашчатая прыбіральня і такая ж душавая.

І ўсё абгароджана калючым дротам — як канцлагер. Перад уездам шлагбаўм з вартавым, побач — палатка аховы. Яду і ваду сюды прывозяць у спецыяльных тэрмасах. Ставяць каля вартавога, далей — пад навес — трэба несці самім.

Медыцынскі пункт — зборны шчытавы домік. Нас «апякаюць» пажылы доктар Віктар Яфрэмавіч і медсястра Лідачка Фралова. У яе чорныя вочы,

і такія ж косы. Але строгая, не любіць ці не ўмее ўсміхацца, не ведаю. Маўчыць, нават і на пытанні не адказвае. Яна дае нам нейкія таблеткі і мікстуру — цёмна-карычневую вадкасць.

Валік невясёлы, нават са мной не размаўляе. Яго перастаў даймаць страўнік, але на душы пасялілася нейкая апатыя. А я і не стараюся яго развесяліць, у самога кошкі на душы скрабуць...

Сядзім у цяньку, назіраем праз калючы дрот прыроду. Жыўнасці аніякай. Хіба зрэдку тушканчыкі, выскачыўшы са сваіх норак, тырчаць карычневымі пянёчкамі, зіркаюць на нас. Чуваць іх піск. А нам здаецца, што яны так смяюцца з нас.

Толькі праз трое сутак прыходзім збольшага ў норму. Нам выстаўляюць дыягназ: звычайнае атручванне. Але ўсё роўна трэба «адбываць пакаранне» дзесяць дзён. Але гэта так, на ўсялякі выпадак.

Вяртаемся ў палатачны гарадок. Там усё перавернута, рабілі нейкі «шмон»? Аказалася, што проста праводзілі дэзінфекцыю.

Даймаюць жыхары гарадка з суседніх палатак:

— Хлопцы, мо ў вас юшка засталася? Дайце паспытаць...

Альбо ў спіну маглі пачуць здзеклівае:

— Вунь засранцы пайшлі з чацвёртага дывізіёна...

Ладна, здзекуйцеся, ваша ўзяла, — ды мы і самі ў тым вінаваты.

...Зноў аднастайны перастук колаў: «Да-моў, да-моў... Да-моў, да-моў...»

І зноўку за Волгаю восень, і зноў нашай батарэі даводзіцца быць вартавой. Перад гэтым доўга любаваліся магутнай ракой, разглядвалі ў біноклі Мамаеў курган.

Прачынаюся ад таго, што нехта катурхае мяне. «Разуваю» вочы. Нада мною незнаёмы — вусаты, няголены твар, пад вачамі сінія мяшкі.

— Начальнік, віна хочаш? Паўрубля за салдацкую біклажку...

Адразу ж халадок прабягае па спіне: «Як жа так? Мы ж — варта, каля нас боепрыпасы, зброя? А дзе змена?..»

Праціраю вочы, злосна пытаюся:

— Які хрэн віно? Як ты сюды трапіў? Цябе ж маглі з аўтамата...

— Ну, не крычы... Я не сам да цябе прыйшоў... Я ж яшчэ на вуліцы спытаў у твайго яфрэйтара. А ён кажа, каб я ішоў да начальніка, сказаў, што толькі ты можаш купіць віно...

Палова варты, бачачы маё недаўменне і сполах, заходзяцца смехам. Канечне ж, больш і грамчэй за ўсіх рагоча Андрушкевіч. Падкалоў усё-ткі, блыха непадкаваная, улучыў момант...

«Госць» пакідае нас, але (толькі паміж намі) мы энную колькасць біклажак напаўняем чырвоным віном: спатрэбіцца тады, як будзем адзначаць свой прыезд у родныя пенаты...

Родныя мясціны сустракаюць нас холадам і дажджом. Але хіба гэта сапсуе наш выдатны настрой вяртання? Як жа гэта добра — адчуваць, што ты ў родных мясцінах, што ты ў сінявокай Беларусі, сярод сваіх родных пушчаў і палёў!

## Частка другая

# ЖАДАННЕ ДЭМБЕЛЯ

### *Раіса*

Чарговая гадавіна Кастрычніка.

Чарговы ўрачысты сход, які прызначаны, як і год, і два таму, на дзевятнаццаць нуль-нуль. Традыцыя непарушная, якая не бярэцца пад ніякі сумніў...

На гадзіну раней, канечне ж, і перасунута вячэра.

Сваю парадную форму я давёў да найвышэйшага бляску. Так трэба. Таго вымагае вайсковы этыкет і, зноў жа, тая ж непарушная традыцыя...

А гасцей да нас, у часць, панаехала — не злічыць, клуб забіты з каптуром.

Даклад — і не кароткі, але ж і не доўгі. Яго прачытаў пампаліт Савін.

Зачытваецца святочны загад, які хвалюе кожнага, хто ў ім зацікаўлены. Са словам у адказ выступае наш камандзір Дахноўскі.

Камандуючы арміяй, той, з якім я жадаў убачыцца бліжэй, двойчы генерал Савецкага Саюза Уладзімір Дзмітрыевіч Лаўрыненкаў, праслаўлены лётчык — выклікае нас да стала, уручае падарункі.

Падыходжу з хваляваннем да яго. Стараюся пaглядзець яму ў вочы. І ён сустракаецца з маім дапытлівым позіркам, падае мне падарункі. Руку мне цісне — моцна, па-мужчынску. Дык вось ты які, праслаўлены генерал! А я ж думаў, што героі — людзі нейкія асаблівыя, непадобныя на іншых. Хто скажа, убачыўшы яго першы, ды хай і соты раз, але не ведаючы, хто ён, што ён бясстрашны лётчык, што ён у небе адчувае сябе, як мы на зямлі...

Мая рука здранцвела, і я з цяжкасцю расчэпліваю яе. Уладзімір Дзімітрыевіч трошкі здзіўлена пaглядае на мяне, не разумее, чаму ў мяне акамянела рука, усміхаецца, гаворыць:

— Дзякую за службу!

Мы атрымліваем кнігі, прыборы для галення, ручкі, блакноты...

Я ж (сам не веру!) атрымліваю інкруставаную каробку з шахматамі, а мой сябра, Валянцін, будзільнік. Як намёк на тое, што ён прачынаецца заўсёды пазней за ўсіх. На каробцы і на гадзінніку — гравіраваныя подпісы з падзякай за сумленную службу. Словы з завіткамі, як павуцінкі.

А на маёй яшчэ не астывае цёплы поціск рукі генерала. І словы яшчэ чуюцца яго, і позірк праніклівых вачэй саграваe душу...

— Салдаты і афіцэры! — выйшаў вядучы на авансцэну. — Аб’яўляецца невялічкі перапынак, а потым — урачысты канцэрт.

Мяне нехта цягне за рукаў. Азіраюся — наш старшына Віктар Дзмітрыевіч. Загадкава міргануў мне, намякнуў, каб я адышоў убок. Не разумею, што ён ад мяне хоча...

Калі падышоў да яго бліжэй, ён, нахіліўшыся да майго вуха, прашаптаў каманду:

— За мной — у кінабудку! Са сваім сябрам — Валянцінам.

З-за кінапраектара ў кінабудцы высоўваецца напачатку галава Андрушкевіча, а потым з-за яго спіны з’яўляецца на свет новенькі, так бы мовіць, з іголачкі, свежаадпрасаваны і надушаны (ці не французскімі духамі?) кіцель. На ім — на плячах — пагоны старшыны, і ўвесь «іканастас» з заслугамі і значкамі...

Я ўсё яшчэ нічога не разумею. Бачачы маю разгубленасць, старшына ўжо іншым, лагодным голасам, кажа да мяне:

— Гэта ж твой кіцель, старшына! Віншуем з чарговым званнем!

Потым старшына такую працэдуру паўтарае і з Валянцінам. Але ўжо не напускаючы на сябе грозны выгляд, бо ён, як я казаў, ніколі не паўтараецца.

Мы пры ўсіх апранаем старшынскія кіцелі, і нам падстаўляюць люстэркі — глядзіцеся, якія вы малайцы і героі, хлопчыкі!

У памяшканні нас ужо дзесяць чалавек. Старшына ён і ёсць старшына, каб яго любілі і паважалі. Але мы яго за гэтыя хвіліны ці секунды не тое што палюбілі, не толькі запаважалі, але і гатовы былі насіць на руках па ўсёй тэрыторыі нашага ваеннага гарадка...

Мы абмываем, як і прынята, пагоны, праўда, шампанскім.

— Каб да генералаў, хлопчыкі, даслужыліся! — уздымае старшына бакал, і першы да дна выпівае сваю порцыю.

Мы не адстаём ад яго, але п’ём, смакуючы, расцягваючы задавальненне, бо за ўвесь час службы, здаецца, раз ці два давялося пакаштаваць шампанскага.

— Дзякуем! — запознена кажам мы з Валянцінам. — Дзякуй, Віктар Дзмітрыевіч! Харошае вы нам наладзілі свята.

— Харошай службы, сынкі! — праводзіць ён нас да дзвярэй, паціскае моцна кожнаму руку. — Поспехаў! І не забудзьцеся здаць свае падарункі ў музей часці, няхай захоўваюцца для нашчадкаў.

— Ёсць здаць у музей! — адказваем весела яму, і спяшаем у залу, дзе ўжо зноў набілася процьма народу, і ўсе чакаюць пачатку канцэрта мастацкай самадзейнасці.

Калі ж прадзіраліся па вузкім праходзе, прапіхваліся між грэнадзёраў, у спіну даляцела:

— Выслужыліся, падлізы!.. Шанцуе некаторым...

І недзе побач, ужо з другога боку, пачулі басавіты голас сяржанта Зміцера Плятмінцава:

— Ды яны паўслужбы адпахалі на палігоне, а ты малакасос, яшчэ з карабіна страляць не навучыўся, а ўжо кусануць мерышся...

Нехта зарагатаў ад удалага адказу Зміцера, і падкольшчык замоўк.

І з усіх удзельніц мастацкай самадзейнасці прыглянулася мне адна дзяўчына, і звалі яе Раісай, і прозвішча ў яе было Зайцава. Спявала яна песню «Мій коханы...».

У мяне сэрца шырылася ад радасці, ад таго, што так удала складваўся дзень, што старшына наладзіў такі прыём... І што Рая-Раіса была на сцэне, спявала свае песні.

Я з нецярпеннем чакаў, калі скончыцца канцэрт, калі пасля гэтага пачнуцца танцы.

Мне здалося, што Раіса мяне вылучыла з усёй зялёнай масы, і нават кінула позірк у мой бок...

Але, як толькі пачаліся танцы, зрабіў першы крок у яе бок, мяне тут жа апярэдзілі, — да яе ўжо ішоў Плятмінцаў. Падышоў, галантна нахіліўся, узяў яе за руку.

Гадзіну назад я ў думках дзякаваў яму за тое, што адказаў добра маладым салдатам за мяне, але тут ужо ўва мне пачало закіпаць у душы незразумелае пачуццё: няўжо — рэўнасць?

Яны кружыліся па зале, у яе радасна свяціліся вочы, косы калыхаліся на плячах, — і ад гэтага дзяўчына здавалася мне яшчэ больш прыгожай і прыцягальнай...

І другі раз я не паспеў, і трэці... А калі зайгралі і аб’явілі «вальс паненак», я застаўся стаяць на сваім месцы — каля акна. Упэўнены быў, што яна і пойдзе запрашаць таго, з кім танцавала перад гэтым. Але — я не верыў сваім вачам — Райка-Раіса прайшла паўз яго, накіравалася ў мой бок.

Падышла, усміхнулася, паказаўшы белыя перламутрыны зубоў, ледзь сагнула калена, нават папракнула, жартуючы, мяне:

— Чаго ж такі сарамлівы, таварыш салдат? Ад радасці, што прысвоілі табе званне старшыны?

У вачах — гарэзлівыя іскрынкі, у голасе — пяшчота і радасць, а я не ведаў, што і адказаць ёй, — радасць апаліла мяне.

Вынырнуў аднекуль Андрушкевіч, і, рассоўваючы ўсіх плячыма, загадаў адысці ўбок. На нас, з Раісай, накіраваў аб’ектыў «ФЭДа».

— Усмешачку, старшына! Раіса, а чаго ў вас такі сумны выгляд, як быццам вам старшына зрабіў прапанову? Фота ж на памяць. Дорага не бяру — толькі адзін пацалунак ад нявесты.

Усе засмяяліся, а ў мяне, адчуў, чырвань падступілася да твару. Клацнуў затвор фатаапарата, і Андуршкевіч як нечакана з’явіўся, так і знік.

Я адчуваў гарачую руку Раісы, бачыў зблізку яе блакітныя-блакітныя вочы, а ў зрэнках угледзеў і сябе, — і з той жа секунды, з таго ж імгнення зразумеў, што ўтапіўся я ў тых двух азёрцах, утапіўся, і ніколі мне ўжо, мусіць, не ўдасца з іх вынырнуць... У мяне адзервянеў язык, адабрала мову, — я не ведаў, што можна сказаць больш, тым болей, прызнацца ў нечым, выказаць тое, пра што я думаў і марыў у тыя хвіліны...

Праводзілі мы артыстаў да самага аўтобуса, на якім яны прыехалі да нас.

Мы ідзём разам з Райкай-Раісай, маўчым. Але я паспеў запісаць яе нумар тэлефона, нават адрас, — паабяцаў пазваніць і напісаць ліст. Сам не ведаю, як я здагадаўся папрасіць у яе пра тое...

Я тыя хвіліны пражываў, як у сне, і ледзьве цягнуў ногі па зямлі, быццам да маіх салдацкіх кірзачоў нехта падвесіў пудовыя гіры...

Яна падышла да аўтобуса. Пачакала, калі перад ёю зойдуць і сядуць яе сяброўкі, глядзела, не адрываючыся, на мяне.

Калі засталася апошняй, павярнулася і пакрочыла да аўтобуса, але потым не вытрымала, падышла да мяне блізка-блізка, і, нахіліўшыся да вуха, прашаптала:

— Таварыш старшына! Не забывай, пішы, звані...

Я ў адказ кіўнуў галавой.

Мая душа спявала і радавалася: «Хутка, хутка я зноў сустрэнуся з ёю! Сустрэнуся!..»

## *Салодкая скульптура*

Тое на ўсё жыццё ўрэзалася ў маю памяць...

Для нас, салдат, пабудавалі новенькую сталоўку. Будынак цагляны, прасторны і светлы — вялікія і шырокія вокны, а падлога па-мастацку аздоблена і адшліфавана да бляску — з мармуровай крошкі.

Непрывычна для нас было і тое, што замест доўгіх сталоў, за якімі мог змясціцца ці не ўзвод, былі маленькія столікі — па чатыры чалавекі за кожным. Ды гэта што! Кожны стол засцелены абрусам, і не лаўкі ў адну дошку,

а самыя сапраўдныя крэслы. А посуд! Блішчыць і зіхаціць — як сонца! Санаторый! Рэстаран-люкс, а не салдацкая сталовая!

Недалёчка ад увахода, у сталоўцы, фантанчык журчыць. Тонкія струмені выпісваюць у паветры бліскучыя дугі, льюцца ў жолаб. Казка! Фантастыка.

А пасярэдзіне фантана дзяўчына стаіць з караваем хлеба — на ручніку трымае. Я, глянуўшы, аж уздрыгнуў — акурат скульптура на Раісу падобная.

Адкрыццё сталовай прызначана а палове дзевятай гадзіны раніцы.

Рота ўпраўлення, тэхнічны дывізіён і мы падыходзім да будынка сталоўкі амаль адначасова.

Перад уваходам — аркестр. У камандзіраў нашага палка строгія і ўрачыстыя твары — усе напружаны ў чаканні ўрачыстага моманту. Строгія і мы. Але нам не церпіцца даведацца, а што такога смачнага прыгатавалі нам на вячэру кухары...

Але раптам пачынаецца нястрымны рогат.

Глядзім, а наш добразычлівы загадчык сталоўкі Іван Цімафеевіч, змагаецца... з катамі. Мы нічога не разумелі, але было смешна глядзець, як каты абляпілі скульптуру ў вобласці грудзей, і іх ніяк і нічым нельга было сагнаць... А старшына махаў і махаў палкай, адганяючы іх ад мастацкага тварэння...

І тут аркестр выдзьмуў першыя ноты медзі. І па прычыне гэтага смех і рогат патанулі ў мажорных нотах.

Катоў было дзесяткі два... Яны скакалі і скакалі на грудзі статуі, шалёна лізалі і злосна аглядваліся на старшыну, не пакідаючы свой незразумелы занятак... А загадчык сталоўкі, трымаючы ў руках швабру, малаціў і малаціў па кацінай зграі... Каты падалі, але потым яшчэ з большым імпэтам скакалі на скульптуру — на дзявочыя грудзі. Магнітныя яны былі нейкія...

Тады Іван Цімафеевіч не стрымаўся, ускочыў у халодную ваду, пачаў з яшчэ большай злосцю малаціць па чорных і шэрых катах... Каты падалі ў ваду, як ашалелыя, шыпелі, даплывалі да бардзюра — і кідаліся на ўцёкі...

Усе, хто бачыў гэта, браліся за жываты, ледзьве не падалі на зямлю... А было чуваць яшчэ кацінае выццё, якое напамінала дзіцячы нервовы плач, і грозныя мацюкі Івана Цімафеевіча.

На тварах камандзіраў недаўменне і незадаволенасць. А потым, калі і яны ўбачылі вайну старшыны з кацiным племем, і самі пабраліся за жываты.

А старшына, увесь мокры з ног да галавы, прагнаўшы ўсіх катоў, стаяў па калена ў вадзе, і не ведаў, ці то яму смяяцца разам з усімі, ці праваліцца скрозь зямлю ад ганьбы.

На паверхні вады, гайдаючыся на хвалях, красавалася фуражка з бліскучай цэшкай.

Доўга не сціхаў смех. У многіх на вачах выступілі слёзы. Нам то смех, але беднаму старшыне гэта пагражала службовым пакараннем. І ніхто не мог растлумачыць — чым жа так прыцягальнымі для катоў аказаліся дзявочыя грудзі.

Нам не было калі думаць пра тое. Мы спяшаліся да святочных сталоў, нецярпліва кідаючы позіркі на ўсе сталы — чым жа нас можа здзівіць кацiны камбат?

А ён і сапраўды здзівіў нас і абрадаваў сваёй кулінарнай фантазіяй! І толькі праз дзень мы даведаліся, што ж адбылося на самай справе.

Старшына Іван Цімафеевіч яшчэ раніцай, пільна прыгледзеўшыся да скульптуры, прыкмеціў на грудзях дзяўчыны незразумелыя белыя плямы. Баючыся, што начальства можа заўважыць той брак у скульптуры, перастрахаваўся — паклікаў качагара Сёму Звонцава і папрасіў яго, каб той працёр

тыя мясціны зубным парашком. І параіў перад гэтым той парашок змяшаць з нашатырным спіртам.

На тую бяду, нашатырнага спірту не знайшлося, і Звонцаў у якасці растваральніка ўзяў настой валяр'яны. Валяр'янка ж таксама на спірце — так падумаў ён... Але, напэўна, перастараўся, дозу вялікую ўліў той валяр'янкі ў зубны парашок.

Ну і нацёр, як мае быць, тыя грудзі. Плямы адразу не паддаваліся, таму ён націраў і раз, і другі, і трэці... Пах валяр'янкі панёсся не толькі па зале сталоўкі, а і па ўсім наваколлі, — тым самым стаўшы вялікай і салодкай прыманкай для кацінага племені...

Па такой простай прычыне і адбыўся каціны шабаш, які так развесяліў ваенны люд.

## *Тазік і мыліцы для Косціка*

Святочны дзень.

Тыя, хто вольныя ад нарадаў, знаходзілі самі сабе, чым «забіць» час. Вольныя і мы, таму радуемся, прыдумваем для сябе занятак...

Мы грэемся з Валянцінам на ранішнім сонейку, як тыя каты, што атабарваюцца каля сталоўкі і спрэс ляжаць на лаўках і зямлі, — атрымліваем асалоду, успамінаючы «ранішняе шоу»...

Па ўнутранай сувязі звоніць Андрушкевіч — сёння ён дзяжурны па КПП:

— Хлопцы, тэрмінова знайдзіце Косціка Коўтуна! Вельмі трэба, тэрмінова!

— Навошта, Андру? Мо ўзнагароду ў штабе атрымаць?

— Яшчэ горш, хлопцы... Да яго дзяўчына прыехала. Толькі не забудзьце сказаць яму, каб прыхапіў з сабою тазік.

Мы пераглянуліся:

— Тазік?! Андру, а гэта навошта?

— Сакрэт.

Мы ўспомнілі, што Косцік Коўтун, наш загадчык адказнага стратэгічнага аб'екта, — рэчавага склада, інакш — капцёркі, — пачуўшы аднойчы па радыёстанцыі «Юнацтва» перадачу пра піянерважатую з Віцебска, напісаў ёй пісьмо. Мы тое пісьмо пісалі ўсе разам — як запарожцы турэцкаму султану. Такі склалі калектыўна-творчы ліст, што любая дзяўчына расплакалася б ад шчырых і пяшчотных радкоў...

Потым ужо Косцік пісаў ёй сам, нам не давяраў сваіх тайнаў. Тры месяцы доўжылася ў іх перапіска. Помніцца, што Косцік хадзіў у бібліятэку, спісваў нейкія вершыкі з часопісаў — мусіць, прызнаваўся дзяўчыне ў каханні, ды яшчэ вершаваным стылем... А цяпер, мусіць, у іх адбывалася першая сустрэча. Відаць, вырашылі перайсці са статуса завочнага кахання на стацыянарнае аддзяленне.

Хлопца адшукалі хутка, гэта ж не ў лесе, а ў роднай часці, дзе вядомы кожны закутак... У Косціка ў руках была кніга вершаў, і называлася яна «Кніга пра каханне». Чамусьці на вокладцы не было напісана імя аўтара.

— Косцік, даруй, што адрываем цябе ад высокіх матэрыяй — ад паэзіі, але да цябе прыехала твая завочніца. Чакае на КПП.

Косцік пачырванеў, глядзеў на нас, баяўся, што мы жартуем.

— Андру пазваніў, папрасіў, каб мы цябе адшукалі. Памыйся, прычашыся, наадзекалонься — у тумбачцы яшчэ паўбутэлечкі «Шыпру» засталося... Ды во што яшчэ, Андру сказаў, каб ты з сабою прыхапіў тазік...

— Тазік? — перапытаў здзіўлена радавы Коўтун, паглядзеў падазрона на нас. — Навошта ён, хлопцы?

— Не ведаем, — паціснулі мы плячыма. — Можа, яна якія гасцінцы прывезла, на месцы сам пра ўсё даведаешся...

На твары ў Косціка радасць. Яшчэ б — перапісваліся, а цяпер і сама піянерважатая да яго прыехала.

Мы ідзём да курылкі і сядаем на лаўку. Закурваем, гутарым, а не-не, ды і кідаем позіркі на альтанку, дзе сядзіць дзяўчына.

Хвіліны няма, дзве няма, а як перайшло на пятую, убачылі Косціка. Ён выйшаў з-за вугла, потым накіраваўся па дарожцы, пасыпанай жоўтым пясочкам. Кіраваў ён да альтанкі. Капцёршчык Канстанцін Коўтун ішоў няспешна, крочыў з пачуццём годнасці і ўнутранага гонару.

У левай руцэ ён трымаў тазік, а ў правай — кветкі.

— Во малайчына, — напаўголаса прымовіў Валянцін, — а то ж мы пра кветкі забыліся. Значыць, наш пісака Косцік сапраўдны джэнтльмен...

— А то як жа, — падтрымаў я яго. — Здагадлівы. Дон-Жуан.

Мы бачым, што дзяўчына хаця і глядзіць у яго бок, але вялікай цікавасці да яго асобы не праяўляе. Косцік заходзіць у альтанку. Дзяўчына паднялася. Ён падае ёй кветкі...

— Ё-пэ-рэ-сэ-тэ! — усклікнуў Валянцін і аж прысвіснуў, — дзяўчына ўпіраецца галавой аб дах альтанкі, і галавы нябачна, а бедны Косцік не дастае нават да яе грудзей...

Мы ж ведаем, што ў Косціка рост метр семдзесят з шапкай.

А ў яе, ну, нават на адлегласці можна вызначыць, — мінімум метр дзевяноста дзевяць без касынкі...

Нешта тлумачыць ёй Канстанцін, нешта адказвае «баскетбалістка», як адразу ахрысціў яе Плятмінцаў, што сядзеў справа ад мяне. Ну і сітуацыя. І як, цікава, выйдзе з яе наш доблесны капцёршчык?

Перакінуўшыся некалькімі словамі, нахіліўшыся ў паклоне, праз хвіліну наш сябар пакінуў дзяўчыну. Ён выйшаў з альтанкі і адразу накіраваўся да нас. Яна ж, трымаючы ў руцэ кветкі, пайшла да прахадной... Яшчэ раз чамусьці азірнулася ў наш бок...

Калі ж ён сеў сярод нас, то адразу папрасіў, каб далі яму закурыць. Да гэтага ён ніколі не курыў. Твар у яго бледны, як перажыў усё роўна нядаўна вялікую трагедыю ці няшчасце.

— Ну, і як, Косцік? На вечар перанеслі спатканне?

— Ды якое спатканне?! — узрываецца ён, прыкурваючы, у яго трэсліся ад хвалявання рукі. — Я сказаў, што той салдат, з якім яна перапісвалася, тэрмінова паехаў дадому, па тэлеграме, таму што ў яго захварэў бацька... А я яго сябра і гэтаму выконваю яго просьбу...

Косцік, выгаварыўшыся, глыбока ўздыхае, спрабуе зрабіць зацяжку, але ён не ўмее тое рабіць — гэтаму трэба яшчэ навучыцца...

Мы маўчым, не вытрымлівае Валянцін, заходзіцца ад рогату:

— Хлопцы, у мяне ёсць просьба: не здзекуйцеся з мяне, добра?

— Даём слова! — паабяцалі мы.

Ён усё яшчэ не выпускаў з рук тазік, круціў у руках, не ведаючы, чаго ён трымаў яго. Спытаў усё ж:

— А для чаго мне трэба было прыносіць тазік, вы мне не скажаце?

Мы паціснулі плячыма — мы сапраўды не ведалі, што меў на ўвазе дзяжурны.

— Пайшлі да Андрушкевіча, няхай растлумачыць, — падняліся мы з лаўкі і ўсе разам пайшлі на КПП.

— А я зірнуў на яе, — адказаў Андрушкевіч, — і падумаў, што Косцік — ну ніяк не дацягнецца да яе вуснаў. А з тазікам яно лепш атрымалася б — накінуў бы ёй на галаву, узяўся за дзве ручкі, і падцягнуўся, як на турніку... Цалуйцеся, колькі ўлезе... Праўда, Косцік?

А Косціку ці то плакаць, ці то смяяцца разам з усімі, — і сам не ведаў, што лепш...

Мы не падтрымалі жарт дзяжурнага па КПП, бо твар Косціка крывілі душэўныя пакуты...

Думаеце, гісторыя на гэтым скончылася?

Усе разам ідзём у казарму.

Каля ўвахода ў казарму з драўляных брусоў нешта майструюць «дзяды». Чамусьці работу выконваюць моўчкі, як усё роўна прыгнечаныя нечым.

— Хлопцы, што вы штукуеце?

Падняўся Ігар Караткевіч, мазыранін, пачасаў задумліва патыліцу, уздыхнуў:

— Ды гэта мы ўсім узводам хадулі майструем... Калі ў наступны раз прыедзе на спатканне тая жэрдка, дык мы Косціку і падорым гэтыя хадулі.

З усіх расчыненых акон казармы выбухнуў дружны і раскацісты смех.

Аказваецца, «любоўнае спатканне» бачылі і назіралі не толькі мы адныя. «Гістарычную сустрэчу» на вышэйшым узроўні герояў-палюбоўнікаў з розных кропак назіраў увесь дывізіён. Нават назіралі за імі ў бінокль, каменціруючы ўслых падрабязна ход сустрэчы ўсім астатнім, якім не было бачна...

Тут ужо хапіла мудрасці і розуму самому Косціку. Каб не паказаць і выгляду, што ён пакрыўдзіўся на ўсіх за тое, што ён выставіў сябе ў такім свеце, хлопец разрагатаўся ад душы разам з усімі... Тым самым абяззброіў перасмешнікаў, выбіўшы ў іх з-пад ног глебу для далейшых здзекаў і падначак.

І яму нават не прыдумалі ніякай мянушкі, што рэдка здаралася.

А праз нейкі час тое здарэнне ці гісторыя і зусім забылася, выветрылася з памяці, — другія, больш вясёлыя і смешныя жывыя сцэнкі з жыцця, без якіх нельга было пражыць, прыйшлі на змену.

А без іх, вядома, і жыццё — не жыццё, — тым больш, салдацкае жыццё.

Ці, хіба, не так?..

## *Дэмбельская малітва*

Ну і вызначыліся вечарам тэхнары!..

Не ўлегліся яшчэ страсці-мардасці па Косціку, заканчвалася, аціхала абмеркаванне любоўнага спаткання, — а тут новы ўсплёск сатыры і гумару. Як быццам ішло негалоснае спаборніцтва паміж батарэямі пад рубрыкай «Смяяцца, далібог, не грэшна!».

Казарма тэхнароў насупраць нашай.

У іх служыў ціхмяны салдат — Жора Клімаў, баптыст.

Здзекаваліся «дзяды» з яго, як толькі маглі. Але толькі словамі, падкусваннямі...

Недзе байцы раздабылі «салдацкую малітву». А раз ёсць малітва, то неабходна правесці і вячэрню. Жора, натуральна, ад ролі святара адмовіўся, — баптысты ў царкву не ходзяць, моляцца ў малітоўным доме...

Знайшоўся добраахвотнік на гэтую ролю — запявала ўзвода Сямён Клімцоў.

Знайшлі нажніцы, выразалі ў цэнтры коўдры дзірку — каб можна было прасунуць галаву. Намалявалі бронзавай фарбай і крыжы — на спіне і на грудзях. Выйшла акурат рыза.

Замест кадзіла прыстасавалі старую газавую лямпу — без шкла. Дыяканам прызначылі, хаця той доўга і ўпарціўся, двухметровага вадзіцеля «пажарнай» — Ігара Крутавога. Для яго ж змайстравалі і драўляны крыж — пакрылі бронзай.

Для акраплення ўзялі вядро і звычайны венік.

Адбой, як і заўсёды, а дваццаць трэцяй гадзіне.

Перад гэтым адказныя за адбой — нампаліт, падпалкоўнік Савін, і дзяжурны — маёр Савушкін, — пабывалі на вячэрняй праверцы. Пахадзілі па казарме, прыдзірліва і дапытліва пазіралі ў кожны куток, пераканаліся, што ўсё ў норме, — і падаліся па наступных маршрутах...

Ніколі ўжо потым ніхто назад у казарму не вяртаўся.

Не было такой завядзёнкі, ды і прычын на тое не было — нашто ж перашкаджаць маладому і здароваму сну?

А вось чаму ў той вечар стукнула нампаліту вярнуцца назад, ніхто не ведае і па сённяшні дзень. Што падштурхнула Савіна да дзеянняў, дэталёва невядома, — можа, нешта падазронае прыкмеціў у жыцці казармы, — але тое не так ужо і важна...

Ён, амаль крадучыся, падыходзіў да распалажэння тэхнічнага дывізіёна. Некага хацеў, мусіць, заспець знянацку.

З расчыненых акон нечакана данеслася да яго слыху:

— На вячэрнюю малітву — станавісь! Форма адзення — у трусах, майках, і ў ботах!

Савін страсянуў галавой — мо містыка якая, мо яму чуецца ўсё ў хворым уяўленні?

З казармы, дзе было выключана святло, але скакалі па сценах нейкія пачварныя цені, даносіўся басавіты голас:

— Божа, уратуй і захавай нас, грэ-ээшных! Урату-ууй і захава-аай ад пад'ё-ёооома ранняга-ааа, паходу дальняга-ааа... Дай, Божа, сілы дацягнуць да дэ-эээмбеля-яяя-аааа!.. Амі-іі-інь!

«Царкоўны» хор, якім кіраваў запявала, дапаўняў малітву «бацюшкі», спяваў добрасумленна і таленавіта...

— Засцеражы, Божа, і абарані ад пайкі малой вагі, сяржанта — беса, і старшыны балбеса-ааа...

— Памі-іі-луй, Госпадзі, і абарані-іііі!..

Савін не рухаўся з месца. Недаўменне найшло на яго і здранцвенне. Напачатку падумаў, што ў яго «дах паехаў». Пасля новая думка апанавала ім — а што калі ў казарму падпольна пранік святар бліжэйшай царквы і пачаў салдат пераводзіць у сваю, хрысціянскую, веру? Але ж словы гучалі з каларытам вайсковага жыцця — «пайка», «сяржант»... Стаяў, разявіўшы рот, і не ведаў, што рабіць — спыніць «вячэрнюю», ці слухаць прадстаўленне і далей...

— Пазбаў, Божа наш, ад камандзіра грознага, ад нампаліта лукавага...

— Пачуй нас, Вышні, а мы Табе славу пець будзем ношчна і дзённа... Амі-ііі-нь!.. Алілуя, алілу-ууя, слава, Табе, Божа!..

Ну, тое ўжо задужа. Нампаліт разумее ўжо, што гэта проста адбываецца начны спектакль ад незанятасці, ад таго, што разбэсціліся байцы, разленаваліся, дурнота выпірае з кожнага, а дурноту, як вядома, выбіваць і выпальваць неабходна гарачым жалезам...

Калі ж дойдзе ўсё да камандзіра часці ці да камандуючага арміяй — мала не пакажацца...

І ён рвануў з месца ў галоп. Вырашыў уварвацца ў казарму нечакана, каб заспець зачыншчыкаў і ўдзельнікаў дзейства знянацку... Каб былі, так бы мовіць, канкрэтныя доказы і факты.

Хоць і ўскочыў раптоўна, але на яго ніхто не звярнуў аніякай увагі. Ці такі быў у іх творчы зуд і запал, — але на памосце для штангі стаялі «поп» з «дыяканам», а за іх спінай, у радок, стаялі пеўчыя, «дзяды» і «салагі», а ўсе астатнія стаялі на ўсколенцах побач з ложкамі, склаўшы далоні — адна да адной, — глядзелі ўмольна некуды ўверх, шчыра і з асалодай паўтаралі словы салдацкай малітвы, душачы ў сабе здрадніцкі смех...

Ніхто не бачыў, што на парозе казармы стаяў разгублены партыйны работнік, які да ўсяго яшчэ быў і атэістам...

Савін не вытрымаў — яго рука памкнулася да ўключальніка святла.

Што было сілы, гледзячы злымі вачыма на ўсіх, хрыпла закрычаў:

— Што тут адбываецца, га?! Што за малебен наладзілі?

Яму б падлабуніцца да ўсіх, як наш мудры капцернамус Косця, і патушыць пад калючыя жарцікі шал перасмешнікаў і імправізаваную самадзейнасць, ды застацца ў вачах салдат мудрым і душэўным чалавекам, — дык не, рашыў шукаць на свой азадак прыгод.

Усіх выстраілі ў дзве шарэнгі.

Днявальнаму было загадана выклікаць камандзіра палка і дывізіёна.

«Іерэям» загадаў заставацца на месцах у тым выглядзе, у якім іх і заспеў...

Божа, Божа, і сорам, і грэх... Ну, падурэць захацелася, павесяліцца, хіба ж шмат тых вясёлых хвілінак у вайскоўцаў?

Праз колькі хвілін у казарму прыбыло вышэйшае начальства.

Робіцца першая спроба павярхоўнага «разбору палётаў», шукаюцца прычыны і абставіны «несанкцыяніраванага богаслужэння», выяўляюцца ініцыятары і сцэнарысты...

— Адбой! — нечакана падае каманду камандзір палка Дабралюбаў.

Падалося, што ён злы ад таго, што яго паднялі сярод ночы з-за такой драбязы, з-за такога глупства.

«Узнагароды», само-сабой, будуць раздаваць з раніцы.

Кожнаму — па заслугах, кожнаму — па яго таленце. Хто як спяваў, так і атрымае...

Мы за гэтым цыркам, не ўключаючы святла, назіралі са сваіх расчыненых акон. Мы нічым не выдавалі сябе — маўчалі, як казаў нампаліт, як мышы пад венікам. Бо не кожны вечар убачыш такое прадстаўленне, ды яшчэ без аніякай аплаты.

Раніцай, як звычайна, днявальны абвясціў пад'ём.

Усе выбягаюць на фізічную зарадку.

Тэхнары — як у ваду апушчаныя. Не хочуць аніяк прызнавацца, што ўтварылі глупства. Двайное глупства. Над Богам здзек наладзілі, і сябе заадно пад пень падвялі. Такое рабіць увогуле рызыкоўна, а ў святы, тым больш, — для некаторых можа закончыцца і дысцыплінарным батальёнам.

Пасля сняданку — развод.

Усе адпраўляюцца на страявыя заняткі, а тэхнары — у казарму.

Пасля страявой ідзём на станцыю — штотыднёвыя рэгламентныя работы, — ад гэтага нікуды не падзенешся.

Перад абедам выдзяляецца трыццаць хвілін на прывядзенне сябе ў парадак — мыем рукі, наводзім, як кажуць, марафет.

Не вытрымліваем, бяжым да суседзяў, — перажываем за іх, — якая над імі наладжана экзекуцыя?

— Ну, што, хлопцы, абышлося? — прыстаем да іх з пытаннем.

Учарашні «рэгент хору» хмурыцца:

— Шэсць чалавек на «губе». Пяць сяржантаў разжалаваны ў радавыя. І чамусьці сёння на разводзе не было пампаліта дывізіёна...

Пазней мы даведаліся, што яго перавялі ў іншую часць з паніжэннем. Але для яго магло скончыцца і яшчэ горш.

Шкада, харошы мужык...

## *Сюрпрыз*

Калі сустракаюцца на нашай жыццёвай сцяжыне нечаканыя цяжкасці, і яны часта паўтараюцца, — то мы ніяк не можам прывыкнуць да іх... Лічым, што нам не пашанцавала ў жыцці, што ўдача абышла нас бокам, — і ў нашай душы нараджаецца мінор, апускаюцца рукі, мы ўжо не імкнёмся да высокіх вяршыняў.

А калі пазбаўляемся ад цяжару, наступаюць перамены ў лепшы бок, і калі мы ўсвядомім тое, — заўважаем, што ў нашай душы нараджаецца нават і шкадаванне. Шкадаванне па тых цяжкасцях...

Ніяк не зразумець чалавечую псіхалогію.

Я атрымліваю пісьмы ад Раісы. Абяцае праведаць мяне, ды ўсё ніяк не можа ўлучыць для гэтага час. І таму нашае спатканне пераносіцца і пераносіцца з тыдня на тыдзень.

Раніца трынаццатага лістапада выдалася яснай і сонечнай, без адзінага воблачка ў небе. Але марозчык цягнуў недзе на градусаў пяць-шэсць.

Пасля сняданку падышоў да мяне начальнік штаба дывізіёна маёр Аляксандр Гудзіма. Стрэльнуўшы вокам, прамовіў:

— Мне патрэбен твой ваенны білет.

Аддаю моўчкі, канчаткова пераконваюся, што ні пад якім выглядам мне не выбрацца ў горад, але ж і асмельваюся папытацца:

— А навошта ён вам, таварыш маёр?

— Прадстаўляем цябе да высокай урадавай узнагароды, — усміхнуўся загадкава начштаба, паклаў маю чырвоненькую кніжачку ў свой стары пашарпаны партфель. — Рыхтуй дзірачку ў кіцелі. Героя Савецкага Саюза не абяцаю, але ўсё ж...

Вось і зразумей яго. «Да ўзнагароды»... Якой? Што, я збіў нямецкі самалёт з гарматы, ці здзейсніў які гераічны ўчынак? Мудрыць нечага штабіст, любіць паздзекавацца з малодшага камандзірскага саставу...

На душы трывожна, не ведаю, куды сябе падзець. Ужо ўсё абрыдла, і ніякай радасці ад службы няма. І сон «на пажарніка» абрыд, і гульня ў «падкіднога» не радуе, і шахматы не прыцягваюць... Сум і апатыя, апатыя і сум...

Прыбягае да мяне пасыльны, абыякава абвяшчае:

— Таварыш старшына, а вас начальнік штаба палка выклікае...

— Добра...

І працягваю ляжаць на ложку, ці то драмлю, ці то думу думаю, — не зразумець.

Але стала яшчэ больш трывожна на душы. Не, тут штосьці не так, а як — не так, і д'ябал сам не падкажа...

Стукаюся ў дзверы, пытаюся дазволу зайсці. Казыраю, стаю ў парозе, дакладаю, маўляў, так і так, па вашым загадзе...

У пакоі сядзяць начальнік штаба палка падпалкоўнік Хан, нампаліт Савін і нампатэх Плюснін.

— Сядайце, — паказаў мне на крэсла начальнік штаба.

І тое было дзіўным для мяне. Прапанаваў сесці не ўбаку ад стала, а насупраць.

— Старшына Мікола Фядосік! Ёсць прапанова камандавання пакінуць вас у арміі. А для гэтага неабходна ехаць у ваеннае вучылішча і здаваць экстэрнам экзамены. Ну, і паколькі ты ўжо больш як год на афіцэрскай пасадзе, то атрымаеш не малодшага, а адразу — адразу ж! — лейтэнанта! Ну, як перспектыва?

Падпалкоўнік з усмешкай, добразычліва, па-бацькоўску, паглядзеў на мяне, думаючы, што паведаміў мне радасную, ну, вельмі і вельмі, радасную вестку.

— Таварыш падпалкоўнік, не хачу я заставацца ў арміі. Не таму, што яна мне не падабаецца, не, проста я ў душы чалавек цывільны.

Начальнік штаба нахмурыўся, чамусьці паглядзеў за акно, у шкло якога ўпіралася змерзлая галінка вішні, уздыхнуў:

— Я так і ведаў...

Ён разгортвае мой ваенны білет, робіць нейкія паметкі. Ставіць пячатку, падае мне.

Потым устае з-за стала, глядзіць мне ў вочы, а прамаўляе зусім іншае, чаго я і не чакаў:

— Хоць я і пакрыўджаны на цябе, старшына, але ад чыстага сэрца аб’яўляю табе падзяку і сваё бацькоўскае дзякуй за добрасумленную службу!

І, прыставіўшы выпрамленую далоню да брыля фуражкі, больш, чым урачыста, аб’яўляе:

— З гэтай хвіліны ты дэмабілізаваны з радоў Савецкай Арміі. Віншую!

Мне хацелася сказаць стандартнае ў такім выпадку «Служу Савецкаму Саюзу», але вымавіў ужо напалову цывільна:

— Вялікі дзякуй, таварыш падпалкоўнік!

Па маім целе прабеглі дрыжыкі. Я быў збіты з панталыку нечаканым паваротам падзей.

Ідучы ў штаб, думаў, што атрымаю спагнанне, а выйшла, што раней тэрміну дэмабілізуюся.

Я быў прызваны на тры гады. А закон аб пераходзе на двухгадовы тэрмін службы набыў сілу толькі некалькі месяцаў таму. Няўжо? Няўжо адбылося нечаканае і радаснае?!

Хто ж у такое паверыць?

Выходзячы з кабінета начштаба, мяне вяло з боку ў бок, — я ап’янеў ад раптоўнай радасці. Ішоў, а ўсё яшчэ думаў: «Няўжо гэта сон?.. Вось прайду сотню метраў і ўшчыпну сябе за бок — і прачнуся. Такое ж толькі здараецца ў сне...»

Але колькі сябе не шчыпаў — і за бок, і за шчокі, — прачнуцца не мог...

Не вытрымліваю, похапкам дастаю з нагруднай кішэні ваенны білет, уважліва ўглядваюся ў пячатку і ў словы, што напісаў начальнік штаба — і салодкі халадок прабег па целе.

Заходжу ў казарму — на маім твары разгубленасць.

Мяне абступілі «дзяды», нецярпліва тармосяць за плечы, напужаліся нават за мой унутраны стан.

— Ды ты толкам нам гавары, не цямні...

Я паказваю ім ваенны білет, праязныя дакументы, грошы.

Дурная і радасная ўсмешка на маім твары пераконвае хлопцаў, што так яно здарылася і сапраўды.

— Ура! Ура-ааа! — першы з усіх крычыць Валянцін, віншуе мяне, і за ім падхопліваюцца ўсе астатнія.

А радасць так і прэ з маіх грудзей. Тое, што было абрыдла майму позірку і маёй душы, стала цяпер такім мілым, такім родным, і я ўжо са шкадаваннем глядзеў і на будынак казармы, і на страявы пляц, і на наглядную агітацыю... Во як яно бывае, во як усё можа павярнуцца!

Радасць засланяе ўсе крыўды і няўдачы. Няхай жыве шчасце ў кожным з нас!

Апошні армейскі абед.

Праходжу паўз скульптуру «Раі», успамінаю каціны канцэрт, загадчыка сталовай, — усміхаюся. Грудзі ў дзяўчыны чыстыя, дагледжаныя. Мусіць, загадчык сталоўкі пільна сочыць за маральным воблікам скульптуры...

Усе глядзяць на мяне з добрай зайздрасцю. Валянцін шкадуе толькі, што не разам з ім развітваемся з армейскім жыццём.

— Не сумуй, дружа! — супакойваю яго. — Прыйдзе і твой дэмбель... І тады адразу прыеду да цябе ў Рэчыцу. А потым ты да мяне ў Лучыцы!

Потым хлопцы нагружаюць мяне посудам — гара да самага падбароддзя. Традыцыя ў нас такая. І абавязкова пад музычнае суправаджэнне — грукат лыжак аб стол, — і я нясу, баючыся рассыпаць посуд на падлогу, нясу яго ў пасудамыйку.

Акуратна апускаю дарагі груз на транспарцёр — побач з іншымі міскамі і кубкамі.

Нічога не бразнулася вобзем. І тады ўскідваю радасна рукі — данё-ёё-ооос! Ура-ааа!..

Мяне праводзяць некалькі чалавек.

І Валянцін сярод іх. Ён трымае ў руках мой дэмбельскі чамадан.

Адпраўленне поезда ў чвэрць гадзіны на васемнаццатую. Яшчэ ёсць трошкі часу.

У Валіка на вачах, здаецца, слёзы. Вось-вось расплачуся і я. Ніколі не думаў, што такое можа быць — як дзеці мы малыя, толькі мамкі няма побач...

— Дай слова, што на вяселлі ў мяне будзеш шаферам?

— Даю. І ты абяцай.

— І дзяцей хрысціць будзем. Кумамі будзем...

— Абавязкова!

Мы падыходзім да клуба з боку прыбудоўкі кінабудкі, у якой некалі абмывалі нашыя старшынскія пагоны, з сумам паглядаем на дзверы, на сцены...

А з дынаміка на ўвесь гарадок ляціць песня:

*За пылью дорожной исчез городо-ооок,*
*Окончена служба моя-я-ааа...*

Сам сабе адзначаю, што на сэрцы сум і журбота.

Шкада развітвацца з хлопцамі, якія за перыяд службы сталі роднымі і блізкімі. Перад гэтым нецярпелася вярнуцца дадому, ныла сэрца, а цяпер без вялікай радасці і ахвоты развітваюся з ваенным гарадком і з тымі, з кім дзяліў дні і ночы вайсковай службы...

Пачуцці раздвоеныя. Я — на раздарожжы: і дужа цягне дадому, і з хлопцамі не хочацца развітвацца. Гэтая мясцінка, якая называецца «вайсковая часць», была ж колькі гадоў маім родным домам. Такія ж пачуцці і ў камандзіра стартавага разліку Уладзіслава Гурэева, якога дэмабілізавалі адначасова са мной.

Сядаем у аўтобус. Кідаем апошні позірк убок КПП: сэрца пачынае біцца часцей, шчымлівае шкадаванне нечага страчанага агортвае душу. Сябры, развітваючыся, махаюць нам шапкамі. У іх, ведаю, у вачах туга па доме, а ў нас... па родным гвардзейскім палку. Хто б мог падумаць, што здарыцца такое, што душа наша раздзеліцца на дзве палавіначкі: мы яшчэ і не дома, але ж і не на тэрыторыі палка...

Усю дарогу да вакзала глядзім у акно, але нічога не бачым, што праплывае перад нашымі вачыма — ні палёў, ні лясоў, ні вёсак. Мы яшчэ там, ва ўчарашнім-пазаўчарашнім дні, і нічога ўжо тут не паробіш. У галаве, як у тым кіно, круціцца адна і тая ж стужка — мы, страявы пляц, сталоўка, стрэльбы, Волга... І каб пазбавіцца ад гэтага пачуцця, трэба нейкі час. Бо толькі ён можа вылечыць нас ад гэтай наноў народжанай настальгіі...

Вакзал. На прыпынку знаёмая фігура. Па тэлефоне я ж ёй нічога не гаварыў аб дэмабілізацыі. Павітаўшыся, адразу насцярожанае і трывожнае пытанне:

— Коля, што здарылася?

— Ды нічога — проста я дэмабілізаваны?

— Камісавалі? — яшчэ больш хмурыць броўкі мая прыгажуня Раіса Пятроўна.

— Ды не, выслужыў адведзены тэрмін.

У вачах усё ж бачу недаверлівасць. Каб пераканаць яе канчаткова, дастаю з нагрудной кіжэні ваенны білет, падаю ёй. Яна пільна вывучае яго і, прачытаўшы той самы галоўны радок, усміхаецца:

— А я думала...

І ўсё ж я адчуў, што ў яе голасе невялічкі халадок — не да канца паверыла мне, праяўляе затоеную насцярожанасць. Прагульваемся з ёю па прывакзальнай плошчы, размаўляем ні аб чым. Загаварыўшыся, не заўважаем, як у наш бок ішоў патруль.

Малады лейтэнант, у прысутнасці радавых, робіць мне ўнушэнне. Я ўсміхаюся і не рэагую на яго заўвагі: «Нельга ж быць такім службістам, таварыш афіцэр! Я ўжо грамадзянскі чалавек — толькі на мне яшчэ вайсковая форма...»

Падыходзіць поезд. Бачу, хвалюецца дзяўчына, перажывае. А я нічога толкам не магу ёй сказаць, бо не ведаю, што гаварыць, што абяцаць — і ці трэба што-небудзь абяцаць.

— Я напішу табе, Рая, — здагадваюся я хоць нешта сказаць.

Яна толькі ківае згодна галавой. У яе вачах слёзы.

Правадніца ўжо трэці раз просіць мяне зайсці ў вагон. Здагадваюся пахапкам пацалаваць дзяўчыну, і толькі пасля гэтага ўскокваю на прыступку. Правадніца ўжо на пляцоўцы.

Мы махаем адно аднаму. Бачу, што Рая ўжо плача, і не выцірае слёз.

Адлегласць паміж намі павялічваецца і павялічваецца.

І зноў пачынае грукаць сэрца — няўжо болей не сустрэнемся, няўжо разыдуцца нашы шлях-дарогі?

...Ні на адзін са сваіх лістоў я не атрымаў адказу...

Віктар ШНІП



# Балады крыві і любові

## БАЛАДА УСЯСЛАВА ЧАРАДЗЕЯ
(? — 14.04.1101)

У Полацкім княстве спакой не жыве —
Суседзі імкнуцца твой трон захапіць,
І злая іх кроў на высокай траве
Зімой ледзянее, а летам кіпіць.

У Полацку слаўным Сафійскі сабор,
Як веліч твая і Айчыны тваёй,
Расце, уздымаецца ў неба да зор,
Сабою яднаючы неба з зямлёй,

Яднаючы ўсіх, каму люба тут жыць,
Душой мацавацца ад родных палёў,
Ад цішы курганняў, дзе вечнасць ляжыць,
І кветкамі ўсходзіць, якія як кроў,

І ў травах знікае, нібыта ў вадзе,
Якая ў рацэ, што праз Полацк цячэ.
І ты да сабора спакойна ідзеш,
Як да Беларусі, і крыж нам нясеш,
Хоць да Беларусі далёка яшчэ…

---

**Шніп Віктар Анатольевіч** *нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1979) і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1987). Працаваў у часопісе «Беларусь», у газеце «Наша слова». З 1995 па 2004 год быў намеснікам галоўнага рэдактара і галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Гронка святла» (1983), «Пошук радасці» (1987), «Шляхам ветру» (1990), «На рэштках Храма» (1994), «Выкраданне Еўропы» (1996), «Чырвоны ліхтар» (2000), «Воўчы вецер» (2001), «Інквізіцыя» (2002), «Выратаванне атрутай» (2003), «Беларускае мора» (2004), кніг паэзіі і прозы «Балада камянёў» (2006), «Страла кахання, любові крыж» (2008) і інш.*

*Лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага (1987), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2007), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2008).*

## БАЛАДА МІКАЛАЯ КРЫШТАФА РАДЗІВІЛА (СІРОТКІ)
(2.08.1549—28.02.1616)

Абсягі Вялікага княства з табою,
Як продкаў тваіх у табе жыве кроў.
Каменне і травы й тваёю крывёю
Акроплены ў бітвах на векі вякоў,
Дзе будзе краіна, якую не мроіш,
Бо княства навокал жыве, як жыло,
А ў княства паэты свае і героі,
І велічы княскай, як срэбра, святло…

Цяпер апякуеш ты кляштары, Храмы,
І ў сэрцы Еўропы і Мір, і Нясвіж
Квітнеюць, як зоры, што выйшлі з-за хмары.
На зоры ў нябёсах спакойна глядзіш,
І думаеш думу, і шэпчаш малітву
За гэту зямлю, на якой ты жывеш
І тут, як спатрэбіцца, пойдзеш на бітву
За родны прастор, што не ведае меж,
Бо ведаць не хочаш душою і сэрцам
Ты межаў, якія няволяць душу…

І сыплецца снег, быццам неба ірвецца,
Дзе вечнасць рыхтуецца слухаць імшу
Па Княстве вялікім, што ўсё-ткі знікае
І знікне, але застанешся ў ім ты,
Самотны, як свечка твая залатая,
Што свеціцца разам з табой праз гады…

## БАЛАДА ЮРЫЯ АЛЕЛЬКАВІЧА
(17.08.1559—6.05.1586)

Слуцкае Евангелле напісана табой,
І дачка ў цябе расце і вырасце святой
Соф'яй Слуцкай, пра якую будзе ведаць свет
І якой маліцца будзе панства і паэт
Бедны, як і бедная старонка, у якой,
Часам, нават і ў магіле не знайсці спакой
Ад вайны і здрады братняй, ад атрутных слоў.
Пройдзе ўсё, як праз пясок вада, праз тлум гадоў,
І забудзецца, і знікне, каб з'явіцца зноў.
Княства ж застаецца, як на полі бітвы кроў, —
Кветкамі, што будуць праз вякі расці й цвісці,
Дзе да Бога тым, хто любіць родны край, ісці
Вечна маладымі, маладымі, як і ты.
І цалуе сонца за табой твае сляды,
У якіх, нібыта ў гнёздах жаўрукі, святло
Княскае, якое пылам не пазамяло

І не замяцецца, бо жыве твой родны край,
Над якім анёлы, над якім птушыны грай
І малітва Соф'і Слуцкай — радасці тваёй,
А для беларусаў на вякі — святой…

## БАЛАДА ІААХІМА ХРАПТОВІЧА
(4.02.1729—4.03.1812)

Багацце можна ў карты прагуляць,
Прапіць, спаліць і з'ехаць у замежжа,
Каб прывіднае шчасце там шукаць,
А не ў Айчыне жыць, нібыта ў вежы
Высокай, што стаіць сярод вятроў,
Высокім неба над сабой трымае…

Што грошы? Грошы — не любоў.
Любоў да роднае зямлі жывая,
І ты будуеш школу і царкву,
Палац прыгожы і бібліятэку
Для ўсіх людзей, якія тут жывуць
І што ідуць сюдой з вараг у грэкі.

У кожнай кніжцы рук тваіх цяпло,
І кожная прыступкай да Айчыны,
Якая будзе Заўтра, дзе святло
Гадоў мінулых знікнуць не павінна,
А жыць у школах, Храмах, у людзях,
Якім Айчына, як матулі сэрца,
Як сэрца, што ў Еўропы у грудзях,
Якое роўна і спакойна б'ецца
І потым Беларуссю назавецца...

## БАЛАДА ЮЛІЯНА НЯМЦЭВІЧА
(16.02.1758—21.05.1841)

Ізноў зацішыцца маёнтак Скокі —
Збіраешся ў дарогу, гаспадар.
Паўзуць з усходу чорныя аблокі,
І сонца ўсходзіць, бы ў крыві штандар.

І ты апошні раз глядзіш на поле,
Дзе шчэ нядаўна ехалі сябры,
Якія марылі з табой аб волі
Для краю, пра які ты гаварыць
Да скону будзеш у раманах, вершах,
Бо родны край — не Лондан, не Парыж,
А гэты сад, дзе яблыкаў нарвеш ты,
І ля дарогі брукаванай крыж.
Той крыж абняўшы, можаш праслязіцца
І, быццам сябрука, расцалаваць.

Хто любіць родны край, — той не баіцца
Яго пакінуць, потым паміраць
Без родных ніў, без песень, без надзеі,
Якія аніколі не памруць
І без якіх душа заледзянее,
З халодных воч анёлы не ўзлятуць...

І ты глядзіш апошні раз на Скокі,
Не плачаш ты, каб у слязах тваіх
Не плавалі ні сонца, ні аблокі,
Што прыплылі да нас з краёў чужых.

## БАЛАДА АЛЯКСАНДРА НЕЗАБЫТОЎСКАГА
(2.10.1819—21.03.1849)

Мары пра каханне, славу і свабоду
Для цябе, як лекі, хвораму ў турме.
І ты верыш: свечку нехта ў Храме ўпотай
За цябе паставіць, вецер не задзьме,

Як не знішчыць мары, мары аб свабодзе
У людзей, што вечна, нібы на крыжы.
Сонца ў хмарах, як твой край у снезе й лёдзе.
Да вясны далёка і не ўсім дажыць.

Ты адзін у камеры, з табой адзіным
Гаварыць тут нельга, бо крамольнік ты.
Страшная крамола — любіш ты Айчыну,
Хочаш, каб Айчыну, як і крыж святы,

Не трымалі ў брудзе, а ў душы — бы ў Храме,
У якім і слёзы, у якім і спеў.
І не трэба нам чужынцаў, бо мы самі
Разбяромся дома, дзе ў нас дом, дзе хлеў…

Мары пра каханне, славу і свабоду,
І душа твая ўжо— болей не ў турме.
Плача свечка. Нехта смела, а не ўпотай,
За цябе паставіў. Вецер не задзьме…

## БАЛАДА РАМУАЛЬДА ТРАЎГУТА
(16.01.1826—5.08.1864)

Не анёлак, — арол над Айчынаю кружыць,
І табе зразумела, чаго хоча ён.
На шляху у чужынцаў крывавыя ружы
Зацвітуць, і іх змые блакітны наш лён.

І не будзеш ад смерці сваёй ты хавацца,
Бо ад смерці ніхто не схаваўся яшчэ.
Чорны лес тваім будзе бялюткім палацам,
А пасля і Варшава слязіны з вачэй

Патаемна змахне, калі ты з эшафота
Паглядзіш у нябёсы, дзе кружыць арол.
А яго і не бачаць багач і басота,
Бо ад він і ад брагі ламаецца стол.

Паглядзіш у нябёсы, што ў вочы Айчыны,
І не ўспомніш нічога, яе акрамя,
І, як вечнасць, прад смерцю тваёю хвіліны —
Бог у вечнасць тваё зараз піша імя,

І яно застанецца, і будзе краіна,
Для якой ты не станеш ніколі чужым.
Над табой, нібы зніч, будзе ўвосень рабіна
Асвятляць шлях дамоў праз вятры і дажджы…

## БАЛАДА ЯЎХІМА КАРСКАГА
(20.12.1860—29.04.1931)

У словах беларускіх Беларусь жыве,
Як у жывой крыві — спрадвечны шлях людскі.
Па ім жыццё, як сонца праз сусвет, плыве,
Сабой хвіліны шчасця, горычы вякі
Нітуючы ў адзіны шлях, дзе нават Бог
Не здольны анічога ўжо змяніць, бо шлях —
Мінулае, і тое, што ты не збярог,
Ніхто не верне са слязамі на вачах
Ад радасці, што ён жыццё вяртае нам…

І не самотны ты, тут Беларусь з табой
У кожным беларускім слове, што, як Храм,
Напоўнена святлом, малітваю святой
За Беларусь, за беларусаў, для якіх
Ты хочаш вольнага жыцця, бо мы — народ,
Бо беларусы мы, і нас мільёны ўсіх,
І нашая зямля — не ў акіяне лёд,
Які растане і змяшаецца з вадой.

Зямля — не лёд, і ёй не быць для нас чужой,
Пакуль тут мова наша родная жыве,
Як і ў людской крыві — спрадвечны шлях людскі,
Дзе Беларусь, як белы карабель, плыве
Праз хвалі дзён і тумаНоў вякі…

## БАЛАДА МІТРАФАНА ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКАГА
(14.06.1867—30.09.1934)

*Народ, які меў сваю дзяржаўнасць,*
*мусіць мець яе зноў...*
М. Доўнар-Запольскі

Крыжамі нашых продкаў нашы землі
Пазначаны, і гэта — назаўжды.
У курганах былое наша дрэмле
Так, як у Храмах дух жыве святы.

І іншае зямлі для нас не трэба,
І тут нам жыць, і тут нам паміраць,
І ў мора беларускае — у неба —
Глядзець, паліць касцёр і сумаваць
Па тым, што ўжо не вернецца нічога
З таго, што страчана, не зберагглі.

І ты ідзеш, і прад табой дарога
Да могілак, нібы на край зямлі,
Які пазначаны крыжамі продкаў
І— пройдзе час — пазначыцца й тваім.

Цячэ рака, плыве па хвалях лодка
Праз туманы, як праз стагоддзяў дым,
З якога бачыцца краіна-маці,
Прыгожая, бы ў Храме абразы.
І ты шчаслівы, бо ты бачыш шчасце
У Беларусі праз агонь слязы…

## БАЛАДА КАРУСЯ КАГАНЦА
(29.01.1868—20.05.1918)

*За родную краіну, звычай і мову,*
*за гонар груддзю ўставайце.*
К. Каганец

...І турма на зямлі на бацькоўскай — турма,
І зіма на зямлі на бацькоўскай — зіма.
І ты пішаш пра волю, нібыта гарыш,
І малюеш, нібыта да сонца ляціш
І вяртаешся, светлы, назад на раллю,
Каб шаптаць, як малітву: «Айчыну люблю...»

Хто пачуе цябе — той убачыць вясну,
Як ты бачыш цяпер прад сабою сцяну,
На якой, як на лёдзе, расколін галлё
Разрастаецца...
І ўжо не стане быллём

Васілёк, што самоціцца ў жыце тваім
Без цябе, без тваёй маладой грамады,
Для якой родны край — гэта Дом, а не дым,
Не туман над прасторам балот і вады.

І ты выйдзеш на волю, нібыта згарыш,
І нібыта да сонца адзін даляціш,
І ўпадзеш, і падымешся ў вершах сваіх
За Айчыну, якую любіў кожны міг
І за доўгія зімы, дзе снег, як патоп,
І за песні і плач, за ўтравелы акоп,
Дзе змяшалася кроў і сваіх, і чужых...

## БАЛАДА ПЯТРА КРАЧЭЎСКАГА
(7.08.1879—8.03.1928)

Прага. Альшанскія могілкі. Светла
Сцежка вядзе праз гады і праз лета
Зноў да цябе, быццам бы да званіцы,
Дзе на каленях стаяць і маліцца,
Каб адзіноты, як гора, пазбыцца...

І забываецца ўсё, што чужое,
Шэрае, чорнае і залатое,
Помніцца роднае толькі, святое,
Дзе Беларусь пачыналася наша.
Вецер табе пра Айчыну раскажа,
Тую, якую ты сніў і якая
Шлях свой знайшла і ў сабе зберагае...

Першае лісце дадолу злятае,
І ўжо сцяжына — змяюка жывая —
Пад валуны не хаваецца болей.
Людзі жывуць, калі дыхаюць воляй,
І памірае краіна, якая
Мову народа, як сэрца, кідае
Чорнаму часу пад брудныя боты.

Не зарасце аніколі асотам
Тое, што ў сэрцах, што сэрцамі стала.
Ёсць Беларусь, і ўжо гэта — нямала,
Каб на Альшанскія могілкі светла
Сцежка вяла праз гады і праз лета
Зноў да цябе…

## БАЛАДА ЯЗЭПА ДЫЛЫ
(14.04.1880—07.04.1937)

Ад родных слоў, ад родных ветлых хатаў, —
За тое, што ты любіш родны край, —
Завезлі, сумнага, цябе ў Саратаў,
Дзе жыць — жыві, не хочаш — памірай

Без тых палёў, дзе каласіцца жыта
І васількамі плача аб былым,
Якое, нібы дзень адзін, пражыта,
Але не знікла, як знікае дым,

А з намі засталося валунамі
Ад замкаў, што разбураны былі,
І засталося ўмшэлымі крыжамі
На могілках, што лесам параслі,

Дзе пойдзеш і заблудзішся надоўга,
Нібы ў стагоддзях, у якіх наш край
Жыве, мацуецца крывёй Міндоўга
І тых людзей, што марылі пра рай

На роднае зямлі для ўсіх тутэйшых
І для цябе, хоць ад радзімы ты
Далёка будзеш жыць і сніць аб лепшым
І светлым часе — хай не залатым —

Для родных ніў, для родных ветлых хатаў,
Дзе Беларусь жыла і будзе жыць
Назло усім сусветным супастатам —
Так, як Святло жыве ў святым крыжы.

## БАЛАДА ІГНАТА ДВАРЧАНІНА
(08.06.1895—08.12.1937)

Пакуль ёсць школы, — мова не загіне
І родны край не згубіцца ў снягах,
А будзе незалежнаю краінай,
Дзе кожны ўспомніць твой да сонца шлях,
Якім ідзеш, настаўнік маладзенькі,
І прад сабой далёка бачыш ты
Наш светлы час, наш Храм, наш дзень вясенні,
Які ад сонца залатога залаты,
А не ад гільзаў, што пасля расстрэлаў
Валяюцца ў растоптаных снягах,
Дзе кроў цячэ з тваіх грудзей нясмела...
І слёзы, нібы вершы, у вачах
Застылі на хвіліну і расталі,
Нібы ўзляцелі ў неба за душой,

Якую расстраляць не расстралялі, —
Як мове нашай, быць ёй тут жывой
У хатах родных, дзе смяюцца дзеці,
Бо плакаць ім яшчэ прычын няма.
З нябёсаў зоркі абрывае вецер,
І, як пажар, праз Беларусь зіма
Паўзе, хаваючы ў сабе былое,
Але твой шлях нікому не схаваць,
Як з неба наша сонца веснавое
Ніколі і нікому не сарваць.

## БАЛАДА ЮРКІ ЛІСТАПАДА
(Красавік 1897—5.06.1938)

Улюбёны, прыгожы, як мары аб волі…
Але волю табе не падораць за тое,
Што ты любіш Айчыну, і вецер у полі,
І лісцё беларускіх бяроз трапяткое,
Што пад ногі ляціць, і ў калюгах знікае,
І становіцца смеццем, якога хапае
І без лісця, якое ў пару лістапада
Тут не кожнаму сэрца святлом напаўняе,
Як бакалы віном падчас шумнага свята
Гаспадарскай рукой напаўняюцца гойна…

Ты на неба глядзіш, і на сэрцы спакойна
Ад таго, што спакойныя зоры над светам,
У якім расстраляюць цябе, маладога,
І тваёю крывёй афарбуецца лета
І на волю, дахаты, з Сібіры дарога,
Ля якой безыменных магіл незлічона.

Ты спакойна глядзіш, ды глядзіш нескарона,
Бо скараецца той, хто выношвае здраду,
Хто ляціць, як матыль на агонь, на багацце,
Што, як лісце жаўцюткае ў час лістападу,
Залатое ў сваім залатым лістападзе…

## БАЛАДА УЛАДЗІМІРА ЖЫЛКІ
(27.05.1900—1.03.1933)

«Не плач, не плач па сыну, маці…» —
Твой першы верш і ўздых апошні.
Ёсць Беларусь, а значыць, шчасце
Таксама ёсць, хоць і не кожны
Яго адчуў у часе гэтым,
Дзе небяспечна быць паэтам...

Твой родны край усё далей,
І, чым далей, тым ён мілей.
Зноў сняцца Вільня, Менск і Прага,
І не сціхае ветру звяга
І ў снег, і ў дождж, і ў сухавей.
І ты вярнуцца спадзяешся,
І ў думках над сабой смяешся
Так, як паэт смяяцца можа.
Няма для смерці бездарожжа.
Твая ў снягах застыне кроў.
Сваёй паэзіяй дамоў
Ты вернешся, але не скора,
Бо снег навокал, нібы мора,
Дзе ўсё патоне і загіне…
І будзеш ты ў сваёй краіне
Казаць: «Не плач па сыну, маці.
Ёсць Беларусь, і гэта — шчасце!»



**Анатоль БРЫТУН**

# ПАХ МУСКУСУ

*Раман**

## *11. Выратаванне пушчанскай таямніцы*

**Наступнага** дня раніцай, прывёўшы сябе ў парадак, обер-фарстмайстар распарадзіўся тэрмінова паклікаць старшага стражніка.

За абедам яны абмеркавалі справы ў іх гаспадарцы. Фёдар Канстанцінавіч прапанаваў аб'ехаць бліжэйшыя маёнткі. Падгаварыць іх уласнікаў на ўзаемавыгадных умовах удзельнічаць у таксацыі пушчы. Пачаць трэба з маёнткаў, размешчаных там, дзе прасекі ўжо зробленыя.

— Адкладваць нельга — заўтра і распачнём аб'езд, — з вялікай заклапочанасцю падагульніў размову галоўны распарадчык.

Раніцай яны рушылі ў дарогу. Фёдар Канстанцінавіч пасадзіў Ціхана ў сваю прыгожую рысорную брычку. Іх суправаджаў эскорт з чатырох стралкоў.

Дарогай спыняліся агледзець гатовыя прасекі. Ды і што там было спыняцца?! Фёдар Канстанцінавіч застаўся незадаволены. Вакол валялася галлё, пакінутае пасля ачысткі дзелавой драўніны, а галоўнае, — процьма паваленых тоўстых асін, бяроз, вольхі.

Ціхан паказаў пянькі карабельных хвой побач з прасекамі.

— Так, бачу, — скрушна ківаў галавою обер-фарстмайстар. — Сімунд не спіць. Цяпер я ў гэтым пераканаўся асабіста, — цяжка ўздыхнуў ён. — Выбірае лепшае, астатняе кідае…

Ціхан пры гэтых словах усміхнуўся. Успомніў, як з братам перадражнівалі іх высокаблагароддзе.

Далей іх шлях ляжаў на сядзібы памешчыкаў.

Прымалі ветліва, як дарагіх госцей. Запрашалі перакусіць. Усе без выключэння былі рады магчымасці набраць дроў. За кожным разам пры такіх гутарках галоўны распарадчык прасіў забіраць і галлё, парадчыць прасекі. Памешчыкі абяцалі асабіста сачыць за гэтым. Заехалі ў Камянец-Літоўск. Упершыню Ціхан бачыў старажытную вежу. Пра яе чуў з дзяцінства, а вось бачыў першы раз.

На начлег спыніліся ў знаёмага шляхціца. Асабняк акружаў маляўнічы старадаўні парк. Вельмі прыгожай была стайня з бруса пад гонтай. Гаспадар асабняка Рычард Паплаўскі быў польскага паходжання і па-руску гаварыў слаба. Падчас доўгай вячэры ўспаміналі дні, праведзеныя на сумесных паляваннях, розныя прыгоды. Паплаўскі расказаў, як мінулай восенню сын застрэліў мядзведзя.

---

* Працяг. Пачатак у № 1, 2010.

— Запрасілі мяне на паляванне, на дзікоў. Мы з сынам сталі на нумары недалёка адзін ад аднаго. Загоншчыкі спусцілі сабак. Чую побач стрэл і бачу, як бяжыць да мяне сын, белы як смерць. Пытаю яго, што здарылася. А ён мне перапуджаным голасам кажа: «Дзік падняўся на заднія лапы і ідзе. Я стрэльнуў, а ён усё ідзе. Я кінуў стрэльбу і бягом да цябе, тата». Тлумачу сыну, што такога не можа быць, бо дзікі не ходзяць на задніх лапах. Пайшлі глядзець, каб забраць стрэльбу. А там, побач са стрэльбай, ляжыць мядзведзь. Мы віншуем сына з дарагім трафеем, а ён кажа: тата, я быў на паляванні першы і апошні раз.

Ціхан маўчаў, больш слухаў і з цікавасцю разглядаў гістарычныя карціны на сценах паляўнічай залы.

Раніцай выправіліся далей. Дарогай часам заварочвалі ў спадарожныя фальваркі. Часта сустракаліся сялібы аднадворцаў, якія не пацвердзілі свае правы на дваранскае паходжанне. Адны з іх жылі на ўласных малюсенькіх участках зямлі, другія — на казённых. Дрэнныя хаткі, як у сялян на нагах лапці, ці поршы. Толькі адзежа, з такога ж сукна хатняга вырабу, пашытая інакш — з высокім стаячым каўняром. Цікава было з імі гаварыць. Былыя шляхціцы не радніліся з сялянамі. Часта яны былі напаўпісьменнымі, але памяталі свой радавод, ганарыліся продкамі. Некаторыя з іх мелі цэлыя куфэркі, набітыя старадаўнімі граматамі, рознымі дакументамі на прывілеі, якія даказвалі іх дваранскае паходжанне. Пасля рэформы 1843 года яны зваліся грамадзянамі-аднадворцамі. Такім обер-фарстмайстар дазваляў нарыхтоўваць дровы без адпрацоўкі.

Кожны багаты памешчык меў сваіх так званых рэзідэнтаў з бедных дваран, часцей за ўсё адстаўных афіцэраў. Як звярнуў увагу Ціхан, між імі былі шляхетныя і сумленныя людзі, але сустракаліся і розныя круцялі і дармаеды, якія нават гатовыя дровы адмаўляліся браць. Яны хваліліся паляўнічымі сабакамі, калекцыямі стрэльбаў. Любілі распавядаць пра свае паляўнічыя подзвігі, часам хлусілі так, што было сорамна слухаць.

Паездка па наваколлях пушчы Ціхану спадабалася. Асабліва сустрэчы з людзьмі.

Здзівіла стараннасць Фёдара Канстанцінавіча, нібы хтосьці яго падмяніў.

Раніцай наступнага дня, як і дамаўляліся, разам накіраваліся да высечак. Дарогай сустрэлі вялікую колькасць фурманак, гружаных даверху. Прыгонныя чысцілі прасекі, забіралі ўсё на дровы. На адной, раней зробленай, затрымаліся і прайшліся. Прасека выглядала зусім па-іншаму. Ствалы дрэў вывезеныя, а дробнае галлё і верхавіны прыбраныя.

Іх высокаблагароддзе з вялікім задавальненнем прамовіў:

— Ціхан, глядзі, выглядаюць прасекі зусім інакш, толькі пянёчкі бялеюць. Усё можна рабіць разумна. Прыемна зірнуць, так і павінна быць.

— Цалкам з вамі пагаджаюся, ваша высокаблагароддзе. Цяпер выглядае па-гаспадарску, — сказаў Ціхан, а сам падумаў, дарма ўсё гэта. Праз дзесяць гадоў ад гэтай прасекі не застанецца і следу — зарасце.

Паехалі далей. Насустрач коні цягнулі на вяроўках доўгія ствалы карабельных хвой. Бярвёны ўпіраліся ў пні, вазніцы падважвалі і адкочвалі бярвёны ўбок, пры гэтым моцна лаяліся.

Обер-фарстмайстар прывітаўся з адмыслоўцамі з Пецярбурга і ляснічымі, якія тут распараджаліся.

Карабельныя хвоі стаялі суцэльнай сцяной, як салдаты на пляцы. Галлё расло толькі на самой верхавіне, а ўнізе ствалы былі цалкам голыя. Кара дрэва па вышыні пераходзіла ад чорна-шэрага да светла-мядзянага колеру. Калі іх валілі, усе разбягаліся ўпрочкі. Хвоя падала гучна; спачатку быў трэск, потым рыпенне і ў канцы грукат ад удару аб зямлю.

Нечакана на прасецы з’явіўся Сімунд. Убачыўшы яго, галоўны распарадчык нечакага пабарвовеў.

— Гаспадзін Сімунд, — сказаў ён заміж прывітання, — неабходна аплаціць за дрэвы, спілаваныя па-за лініяй прасекі. Грошы трэба ўнесці ў казначэйства ў суме дзесяць тысяч рублёў.

Ад пачутых слоў Сімунд нават не міргнуў вокам, як не чуў.

— Грошы трэба ўнесці на працягу двух тыдняў, — паўтарыў Фёдар Канстанцінавіч. — Калі вышэйназванай сумы не будзе, мушу паведаміць у Пецярбург. Вы будзеце пазбаўлены канцэсіі на нарыхтоўку дзелавой драўніны. Знойдзем іншага лесапрамыслоўца.

Ён разумеў, што цяпер кожнае вымаўленае ім слова на вагу золата і, супрацівячыся аплаце, можна сабе моцна зашкодзіць. Кантракты з нямецкімі пакупнікамі падпісаныя. Іх нашы калатнечы не цікавяць, ім патрэбна якасная драўніна. Дзявацца няма куды.

Сімунд добразычліва пасміхнуўся. Добра, што гэты надзьмуты рускі балван не ведае сапраўднага кошту гэтым хвоям. Тым больш, што аплата будзе яго грашыма. Так, не своечасова сюды прыехаў, не чакаў сустрэць тут обер-фарстмайстра. Але ўжо вельмі карцела агледзець хвоі, якія пачалі прывозіць на пільню, ды якую прыгажуню збоку прасекі спусціць.

Нібы чытаючы думкі Сімунда, іх высокаблагароддзе працягваў:

— Гаспадзін Сімунд, і крый Божа вас зрэзаць хоць адно дрэва акрамя прасекі. Я з вамі не жартую. Дзе вашы людзі? Чаму яны толькі вывозяць гатовы лес, а не дапамагаюць пілаваць і валіць? Будзьце ласкавы, гаспадзін Сімунд, дайце такое распараджэнне сваім людзям.

Ад такой нечаканкі ў Сімунда пашарэў твар. Сабраў сілы, каб не адказаць грубасцю. Але зноў успомніў аб тэрмінах і кантрактах. Паглядзеў на стромкія хвоі і толькі заскрыпеў зубамі: цяпер ужо сапраўды не атрымае ён у мяне ні капейкі. Так, няўдалы момант выбраў для паездкі. Не атрымаецца гэтага рускага мядзведзя зрабіць ручным, прэ напралом.

— Нам пара. Спадары, маю гонар, — галоўны распарадчык прыклаў руку да брыля. — Ціхан, едзем у цэнтральную сядзібу.

Сімунд стаяў на ранейшым месцы, журботна апусціўшы галаву. Яго твар пунсавеў ад злосці.

Цяпер ясна, што сяброўству між лесапрамыслоўцам і галоўным распарадчыкам пушчы канец. Пушча ад гэтага толькі выйграе. А прасекі нічога, пройдуць гады, і зажывуць раны на целе пушчы. Унукі і месца не знойдуць, дзе яны праходзілі прамымі як страла лініямі.

Настрой у Ціхана палепшыўся. Ён з усмешкай глядзеў на обер-фарстмайстра; іх высокаблагароддзе сядзеў у брычцы, апусціўшы галаву.

Ён думаў, што пасля гэтай гутаркі яму не відаць сваіх грошай. Але трэба чымсьці ахвяраваць дзеля выратавання ўласнай скуры. Катарга — гэта не жарт. Добра, што гутарку з Сімундам чулі тыя, з Пецярбурга. На душы стала лягчэй, нібы зваліўся камень. Павесялеўшы, обер-фарстмайстар услых прабасіў:

— Ціхан, я правільна зрабіў, што гэтага паўліна паставіў на месца? А за яго грошы мы наймём прыгонных спадара Шаурава. З кожнага двара возьмем па адным чалавеку на высечку, ты як думаеш?

— Цалкам згодны, ваша высокаблагароддзе, гэта будзе па-гаспадарску. А з Сімундам вы паступілі правільна.

— Дзякую табе за службу, Ціхан, ты своечасова мяне папярэдзіў. Я і не ведаў, што ў мяне пад бокам такое дзеецца. Давай заедзем да мяне, трэба зняць напругу. Ніякіх нерваў не хапае на гэтую працу.

Брычка пад'ехала да галоўнай сядзібы. Гаспадар распарадзіўся накрыць стол на дзве персоны. За вячэрай абмяркоўвалі бягучыя справы.

Ціхан адчуваў сябе няўтульна, не абвык ён вячэраць са спадарамі. Багацце посуду, відэльцаў, нажоў збянтэжылі яго. Спрытна карыстацца нажом з відэльцам, як обер-фарстмайстар, ён не ўмеў.

Але іх высокаблагароддзе быў літасцівы:

— Ціхан, будзь прасцей — прыборамі карыстайся як умееш. Навучышся. Так сказаць, твая новая пасада абавязвае. Нам трэба нанесці яшчэ некалькі візітаў. Пакуль толькі аб'ехалі паўднёвы бок пушчы. Калі пачнуць рабіць прасекі бліжэй да цэнтра, візіты адновім. Мяне ў дадзены момант хвалюе наша адставанне ў таксацыі, хачу пачуць тваё меркаванне, — галоўны распарадчык глядзеў на яго дапытліва.

— Так, гэта бяда, — уздыхнуў Ціхан. — Можа, ёсць сэнс унесці змены ў таксацыю?

— Гэта як? — галоўны распарадчык перастаў жаваць, здзіўлена падняў бровы.

Ціхан апусціў галаву і раптам цвёрда, хоць і спадылба, глянуў на Фёдара Канстанцінавіча.

— Ну, павялічыць адлегласць між прасекамі ўдвая. А цэнтр пушчы наогул пакінуць некранутым. Можа, у будучым нашу пушчу наведае цар. Што мы яму пакажам — прасекі?

— Т-так, — шнырыў вачыма па стале галоўны распарадчык. — Ход тваіх думак мне падабаецца. Ёсць над чым задумацца. Давай, не адкладаючы, хадзем да мяне ў кабінет, там каля карты ўсё падрабязней абгаворым.

Ціхан прайшоў за іх высокаблагароддзем у кабінет. Ён усведамляў важнасць моманту. Ад сённяшняй гутаркі залежыць многае, калі не ўсё. Трэба ратаваць тысячагадовага бацьку-дуба, святы камень ды і ўсю пушчу.

Ціхан уважліва агледзеў карту. Іх высокаблагароддзе паказаў яму, дзе ў дадзены момант робяць высечку.

Лёгкае хваляванне падступіла да Ціхана.

— Ваша высокаблагароддзе, — сказаў ён. — Вось калі б у мяне была такая карта, праз тыдзень я змог бы далажыць, што да чаго. Мы павінны параіцца з адмыслоўцамі з Пецярбурга. Яны таксама абавязаныя прыняць удзел… Вы, ваша высокаблагароддзе, павінны ўсё ўлічыць.

— Ціхан, ты малайчына, — усхвалявана сказаў галоўны распарадчык. — Бачу, нездарма я табе гэтую пасаду даверыў. Заўтра пецярбуржцы будуць на галоўнай сядзібе, вось я з імі і перамоўлюся.

— Ваша высокаблагароддзе, яны мне жаліліся, што не чакалі такой шчыльнасці дрэў, — ужо больш упэўнена патлумачыў Ціхан. — А што будзе, калі яны дабяруцца да цэнтральнай часткі пушчы? Тамака лес стаіць сцяной…

— Карту пушчы табе дам іншую, меншую, — перабіў яго Фёдар Канстанцінавіч. — Ты памазгуй, як лепш зрабіць. Праз тыдзень чакаю цябе з гатовай прапановай.

Обер-фарстмайстар, абдумваючы размову са старшым стражнікам, выйшаў з кабінета і нечакана сустрэў жонку. Некалькі дзён яны між сабой не размаўлялі.

— Ты ўжо зусім розум страціў, — заявіла жанчына. — Дакаціўся. Абедаеш і вячэраеш разам з работнікамі, ніякай субардынацыі. Чаму да нас не прыязджае Сімунд?

— Дарагая Нінэль, гэты чалавек ураттаваў мяне ад катаргі, а твой любімы Сімунд хацеў мяне туды запраторыць. І мне рашаць, з кім мне лепш вячэраць.

А каб ты не сумавала, то хуткім часам мы з’ездзім у Пецярбург і забяром сюды дзяцей…

— Не жадаю, каб мае дзеці раслі тут! — адказала жонка. — Ім патрэбна таварыства сабе падобных, а не ласёў і дзікоў.

— І перастань рабіць з сябе асобу блакітных крывей. Калі цябе нешта не задавальняе — ты свабодная. Дзяцей забяру сюды. Але ўтрыманне атрымаеш невялікае, бо твой любімы Сімунд выкраў нашы грошы і не збіраецца іх вяртаць.

— Фёдар, ты мяне палохаеш. Як гэта не збіраецца вяртаць? — яе вочы загарэліся ледзь не жудасцю.

— Вельмі проста, родная. Ён хацеў мяне адправіць на катаргу, а з нашымі грашыма ўцячы да сябе на радзіму. Так што нага гэтага прайдзісвета парог больш не пераступіць. Яшчэ невядома, чым усё скончыцца. Грошы прапалі адназначна, а вось катарга…

— Фёдар, ты гаворыш страшныя рэчы. Скажы хутчэй, што гэта ўсё няпраўда, — умольна, з дрыготкай у голасе сказала яна. Жончына фанабэрыя знікла, як і не было.

— Я б рады, Нінэль, гэтак табе сказаць. Але рэальнае становішча нашых спраў такое. А што, у тваіх французскіх раманах падобнае не апісваецца? — цяжка ўсміхнуўся галоўны распарадчык і, не чакаючы адказу, працягваў. — Мая табе сяброўская рада. Неадкладна спалі іх усе. Гэта цалкам бескарысныя кнігі. Распачынай чытаць уважліва Біблію. Там абавязкова знойдзеш карысныя для жыцця сюжэты. Усё! Трэба ісці адпачываць, шанаваць кожнае імгненне на волі.

— Фёдар! Дарагі! Калі ласка, я баюся застацца адна. Я цябе ўмольваю, не пакідай мяне адну, — усхліпвала яна. Яе прыгожыя вочы ўстрывожана глядзелі на мужа.

Голас у жонкі змяніўся ад варожага і гнеўнага да пяшчотнага і змучанага. Обер-фарстмайстру раптам стала яе шкада і, цяжка ўздыхнуўшы, ён спакойна сказаў:

— Давай, даражэнькая, класціся спаць, ужо поўнач.

Яны накіраваліся ў спальню разам. Яна першы раз за ўсё іх сумеснае жыццё дапамагла яму распрануцца, зняць мундзір. У гэтую ноч іх высокаблагароддзе обер-фарстмайстар спазнаў, якой ласкавай і далікатнай можа быць жанчына. Гэта была казачная, незабыўная ноч, поўная ўзаемнага кахання.

Раніцай галоўны распарадчык прачнуўся, калі сонца было ўжо высока. Праз няшчыльна зачыненыя дзверы даносіўся добразычлівы голас жонкі. Яна давала распараджэнні прыслузе. Калі ён зайшоў у сталовую, там быў шыкоўна сабраны стол. Жонка мітусілася разам з наймічкамі. Сняданак прайшоў выдатна. Жонка бесперапынку ціўкала, нахвальваючы кухара. Сама падлівала мужу гарбату, чаго раней не здаралася ніколі.

За сняданкам ён паведаміў, што збіраецца запрасіць на абед адмыслоўцаў з Пецярбурга. Нінэль, пачуўшы гэта, адразу ж ускочыла і пабегла на кухню даваць неабходныя распараджэнні. Праз некалькі хвілін вярнулася:

— Дарагі! На колькі асоб гатаваць абед.

Іх высокаблагароддзе ад здзіўлення нават папярхнуўся. Жонка пастукала яго па спіне.

— На сем чалавек, — адказаў галоўны распарадчык.

На вуліцы яго сустрэла летняе надвор’е. Сонца прыемна і ласкава свяціла. Насустрач падбег старшы каравульны.

— Добрай раніцы, ваша высокаблагароддзе. Якія будуць указанні?

— Ніякіх указанняў не будзе, сёння нядзеля — можаце адпачываць. Я прагуляюся, заадно праверу, як там нашы сталічныя госці.

Няспешна накіраваўся да хаты, дзе пражывалі пецярбуржцы. Пастукаў у дзверы.

— Уваходзьце!

Обер-фарстмайстар пераступіў парог. У пакоі за сталом сядзелі пяцёра мужчын. Ён прывітаўся. Пецярбуржцы ўскочылі са сваіх месцаў. Адчувалася, што з'яўленне галоўнага распарадчыка пушчы яны не чакалі.

Пецярбуржцы замітусіліся, вызваляючы іх высокаблагароддзю месца за сталом.

Обер-фарстмайстар сеў на прапанаванае крэсла.

— Спадарства, запрашаю вас сёння да сябе на абед. А трэцяй гадзіне, — удакладніў, падняўся і выйшаў на вуліцу.

Так, надвор'е сёння прыемнае. Трэба жонку вывезці на прыроду, заседзелася дома. Эх, былі б побач дзеці. Вось такім цёплым летнім днём усёй сям'ёй з'ездзіць бы на возера. Пасядзець з вудай. Гэта было б вельмі цудоўна. Як мы не ўмеем шанаваць прыгажосць.

Не спяшаючыся, галоўны распарадчык пушчы накіраваўся дадому.

Ціхан з самой раніцы сядзеў над картай Белавежскай пушчы. Прыкінуў, колькі прасек ужо зроблена, колькі заставалася зрабіць. Калі рабіць іх там, дзе нядаўна быў пажар, дзе маладыя дрэвы секчы лягчэй, справа пойдзе хутчэй. Галоўнае, Сімунд застанецца з носам. Цэнтр з векавым лесам трэба пакінуць. Варта параіцца з Рыгорам. Праз тыдзень, як абяцана, і дакладу, разважаў Ціхан.

За абедам у обер-фарстмайстра пецярбуржцы адразу ж пачалі жаліцца, што да тэрміну з таксацыяй яны ніяк не паспеюць. Ужо вядуць некалькі прасек адначасова, але адставанне не паменшылася. Лес неверагодна густы, а самі дрэвы страшэнна тоўстыя. Ну, а калі на шляху сустракаецца пракаветны дуб, то пішы — прапала. Нават калі заняць больш людзей, хуткасці праходкі гэта не дадае. Секчы і пілаваць даводзіцца па адным дрэве. Такога лесу яны ў сваёй шматгадовай практыцы не сустракалі.

— Што рабіць? Тэрмін на правядзенне таксацыі нам не зменяць, фінансаванне не павялічаць. Вы ж бачыце, я дадаткова наняў людзей, адшукаў сродкі, раблю ўсё, што ў маіх сілах, — тлумачыў галоўны распарадчык, — але якое выйсце?!

Таксатары згадзіліся, але гатовых рашэнняў не мелі і выхаду з сітуацыі, якая склалася, не бачылі. Усе пагадзіліся, што належыць скласці грунтоўную дакладную і фельд'егерам адправіць у Пецярбург начальству. Обер-фарстмайстар таксама прапанаваў старшаму адмыслоўцу з'ездзіць з ім у Пецярбург.

Тым часам скарбнік паведаміў, што Сімунд выплаціў у казначэйства дзесяць тысяч асігнацыямі. Гэтае паведамленне ўзрадавала обер-фарстмайстра, цяпер можна смела ехаць у Пецярбург. Але паколькі паводзіны яго жонкі рэзка змяніліся ў лепшы бок, ён вырашыў пра грошы памаўчаць. Сказаў толькі, што ў Пецярбург выязджае па службовых справах, заадно праз сувязі паспрабуе прадухіліць арышт. Таксама і дзяцей трэба забраць у Белавеж. Жонка гэтую прапанову цалкам падтрымала.

Калі галоўны распарадчык з жонкай і галоўным адмыслоўцам імператарскага рускага геаграфічнага таварыства адбылі ў Пецярбург, у пушчы распачалася нарыхтоўка сена. Стралкі і ляснічыя ставілі стагі. Зубры, праходзячы міма, прыглядаліся да іх працы, нібы разумеючы, каму нарыхтоўваюцца запасы.

Ужо чырванеў арабінамі жнівень. У гэтую пару ў зуброў пачынаецца гон. Звычайна спакойны і велічны зубр у гэты час ператвараецца ў шалёную і лютую істоту. Самцы робяцца раздражняльнымі, нібы вар'яцеюць, і выкарыстоўваюць любую нагоду пачасаць рогі. А што ўжо казаць, калі счэпяцца два дастойныя сапернікі?

Гон пачынаецца з таго, што на працягу двух, трох тыдняў чуецца ваяўнічае рыканне зуброў, а паветра напаўняецца пахам мускусу. Звяры быццам перараджаюцца, шалеюць, бегаюць, — весялосць у поўным разгары. Любімая іх забава — падкопвацца рагамі пад маладыя дрэвы датуль, пакуль іх не перакуляць каранямі дагары. Бывае і так, што карані ўчэпяцца ў рогі, зубр пачынае скакаць з дрэўцам на галаве пад шум і трэск, нібы то сам лясун разгуляўся.

Але гора маладому, яшчэ неспрактыкаванаму трохгадоваму зубрыку, калі ён навядзе рэўнасць на старога зубра і адаб'е ў яго ўмілаваную. Зачэпленае за жывое старэчае самалюбства спараджае прагу помсты, і тады пачынаецца люты бой. Добра, калі малады зубр паплаціцца патрушчанымі рэбрамі і адступіцца. Бывае, што аднолькавыя па сіле зубры свой бой вядуць доўга, суткамі, да поўнай знямогі. Але ў асноўным пры першай сутычцы слабейшы зубр заўсёды саступае моцнаму саперніку. Пасля выпрабавальнага бою ён ганарліва сыходзіць.

Для адных зуброў гэта час кахання, пяшчоты, запалу, для другіх — крывавых сутыкненняў. Чалавеку тады небяспечна набліжацца да зуброў, яны паводзяць сябе непрадказальна.

Тым часам дарогай у Пецярбург, недалёка ад павятовага мястэчка Пскоўскай губерні з дзіўным назовам Дно, каляска галоўнага распарадчыка сустрэла дзве колоны катаржнікаў. Гэтыя колоны суправаджалі конныя жандары. Убачыўшы набліжэнне панскай брычкі, яны пачалі зганяць катаржнікаў убок.

Фёдар Канстанцінавіч з сумам агледзеў калоны катаржнікаў і зірнуў на жонку. Тая сядзела з бледным тварам, здавалася, яшчэ трохі і яна знепрытомнее. Калі абагналі арыштантаў, обер-фарстмайстар зняў фуражку і хустачкай выцер на патыліцы пот. Так, гэта жудасна, якія пакуты даводзіцца выпрабоўваць гэтым няшчасным людзям, падумаў ён.

Пецярбург сустрэў обер-фарстмайстра добрым летнім надвор'ем, толькі што прайшоў дождж. Дарагія карэты і каляскі з грукатам праносіліся па бруку, распырскваючы ваду. У лужынах крыва адлюстроўваліся ліхтары.

Каб не абцяжарваць бацькоў, галоўны распарадчык з жонкай знялі мэбляваны нумар у гасцініцы «Неўская». Раніцай наведалі дзяцей; сын і дачка шчыра ўзрадаваліся нечаканаму прыезду бацькоў. Обер-фарстмайстар запрасіў дзяцей прагуляцца гарадскімі вуліцамі. Разам з імі з вялікім задавальненнем прайшоўся Неўскім праспектам. Зайшлі ў французскую кандытарскую, папесціў дзяцей і сябе смачным пірожным. Падчас шпацыру дзеці, перабіваючы адно аднаго, распавядалі бацьку аб сваіх поспехах у вучобе. Пасля агляду Дварцовага пляца ўздоўж набярэжнай Нявы вярнуліся дадому.

Раніцай наступнага дня обер-фарстмайстар адправіўся ў сваё міністэрства. Там з кабінета ў кабінет з заклапочаным выглядам, у аднолькавых фраках сноўдалі службоўцы міністэрства дзяржаўных маёмасцей. Сустрэўшыся з непасрэдным начальнікам, Фёдар Канстанцінавіч абгаварыў пытанні таксацыі пушчы. Яго начальнік ужо папярэдне азнаёміўся з дакладной адмыслоўцаў Расійскага геаграфічнага таварыства.

Міністэрству ідэя обер-фарстмайстра аб магчымым наведванні Белавежскай пушчы імператарам спадабалася, гэта і вырашыла станоўчы зыход справы. Прапанова аб змяненнях у правядзенні таксацыі Белавежскай пушчы

прымалася цалкам. Хуткім часам аб гэтым будзе дакладзена міністру дзяржаўных маёмасцей генералу Новіку.

Акрамя таго было сказана, што іх міністэрства атрымала дакументы па судовай справе памешчыка Шаурава. Начальнік папрасіў падрабязней расказаць аб гэтым выпадку. Обер-фарстмайстар распавёў, не забыўшы згадаць сябе як галоўнага арганізатара затрымання злачынцаў. Асабліва адзначыў, як ён раскрыў справу аб выяўленні арганізатара пажару пушчы трыццаціпяцігадовай даўнасці. На ўсякі выпадак згадаў, што ім за незаконную высечку лесу аштрафаваны на дзесяць тысяч рублёў замежны лесапрамысловец Сімунд.

Начальнік падзякаваў за службу і запрасіў зайсці праз тыдзень. За гэты час міністр дзяржаўных маёмасцей, магчыма, зацвердзіць змены таксацыі Белавежскай пушчы.

Обер-фарстмайстар у выдатным настроі вярнуўся ў гасцініцу. Цяпер нават калі напішуць данос, можна растлумачыць яго як помсту. Але аб гэтым вырашыў жонцы таксама не паведамляць — яму падабалася прымаць ласку пашаўкавелай жонкі.

Увесь тыдзень прысвяціў дзецям. За гэты час жонка неразлучна была побач з дзецьмі і мужам. Іх узаемаадносіны значна палепшыліся. Жонка ні разу не жалілася на галаўны боль, адбылося дзіўнае выздараўленне.

Праз тыдзень усе прапановы галоўнага распарадчыка пушчы былі зацверджаны міністрам, і сям'я обер-фарстмайстра ў поўным складзе выехала да месца службы. Дзеці невымоўна радаваліся доўгаму падарожжу.

Сімунд быў задаволены колькасцю і якасцю дзелавой драўніны, якая прыбывала з прасек. Такой драўніны ў Еўропе не хопіць грошай дакупіцца, яму плацяць не таргуючыся. Ён ужо вярнуў грошы, выдаткаваныя на штраф. Негацыянт у выдатным настроі глядзеў праз акно. Складзеныя вакол тартака ў велізарныя штабелі карабельныя хвоі прыемна цешылі вочы. Яго салодкія думкі перапыніў вершнік. Адзін з яго прыганятых прыскакаў на ўпараным кані і бегам кіраваўся да будынка канторы. Што здарылася?

Дзверы адчыніліся без належнага стуку:

— Бяда, гаспадзін Сімунд!

— Што здарылася?

— Карабельныя хвоі скончыліся.

— Як гэта скончыліся? Чаму скончыліся? — нічога не разумеючы, вылупіў вочы Сімунд.

— Размаўляў з адмыслоўцамі з Пецярбурга. Яны гаварылі, што прывезлі новы план таксацыі пушчы. Пераходзяць рабіць прасекі ва ўсходнюю частку, туды, дзе калісьці быў пажар. А там дрэвы маладыя, і карабельных хвой амаль няма. Цэнтр пушчы пакінуць цалкам некранутым. Кажуць, такі план зацверджаны самім міністрам.

Ад нечаканай навіны Сімунд страціў дар мовы. Гэтага не можа быць. Гэта бурыць яго грандыёзныя планы. Гэта катастрофа! Не кажучы ні слова, куляй вылецеў на вуліцу. Паклікаў фурмана, брычка панеслася па дарозе.

Галоўны распарадчык паказваў дзецям сабак. Убачыўшы Сімунда, загадаў дзецям ісці ў дом. Ён адразу зразумеў — непрыемнай гутаркі не пазбегнуць.

— Ваша высокаблагароддзе обер-фарстмайстар, паспрабуйце растлумачыць, што адбываецца. Чаму спынілі секчы прасекі ў паўднёвай частцы пушчы? — на хаду пачаў гаворку Сімунд.

— Давайце трохі прагуляемся, а то тут сабакі занерваваліся, і я дрэнна вас чую, — прамармытаў галоўны распарадчык.

Адышоўшы ад сабакарні, Фёдар Канстанцінавіч спакойным голасам працягнуў гутарку:

— Паважаны гаспадзін Сімунд, я думаў, вы прынеслі мае грошы. Калі я іх атрымаю? — і выразна, не міргаючы, паглядзеў на лесапрамыслоўца.

— Вы ж ведаеце, у мяне цяпер фінансавыя цяжкасці. Я дзесяць тысяч занёс у казначэйства. Мне прыйшлося дадаткова наняць людзей... У дадзены момант грошай няма… — мармытаў Сімунд.

— Тэс! — галоўны распарадчык залажыў рукі за спіну. — Няўжо вы верыце ў тое, што толькі што сказалі? Наколькі я ведаю, вы прадаяце драўніну толькі за наяўныя. У апошні час нават не паспяваеце пілаваць, а гоніце кругляк. Бераце бясплатна, прадаяце за грошы, а іх няма? Скажу болей, — распарадчык зрабіў загадкавы выгляд. — Хтосьці напісаў данос на вас у Пецярбург. Апісаў падрабязна, як вы крадзеце лес. Калі б я прыехаў у Пецярбург на тыдзень пазней, то мы разам былі б ужо ў Сібіры на катарзе. Нас выратавала тое, што прайшла па казначэйстве ваша аплата штрафу. Мне давялося дадаткова патраціцца, каб гэтую справу спусціць на тармазах… Вытрымаўшы паўзу, Фёдар Канстанцінавіч працягнуў размову:

— Скажыце, Сімунд, колькі стражніцкіх хат вы збудавалі пасля смерці вашага бацькі? Паводле вашай канцэсіі вы павінны будаваць тры хаты маім службоўцам штогод. Калі будзе працягвацца так і далей, вы будзеце пазбаўлены канцэсіі. Нашы вусныя дамоўленасці можна не выконваць. Вярніце толькі мае дзесяць тысяч і прыкладзіце пяць тысяч, якія я выдаткаваў, каб замяць справу. Больш не збіраюся мець з вамі ніякіх спраў. Гонар маю! — оберфарстмайстар, не падаўшы рукі, павярнуўся і хуткімі крокамі пайшоў прэч.

Яшчэ некалькі хвілін Сімунд стаяў на месцы, як статуй, потым завярнуў да сваёй брычкі.

Яго мозг кіпеў. Бурыліся ўсе яго планы. Ён прыехаў дахаты, замкнуўся і тры дні нікога не прымаў; увесь гэты час абдумваў свае наступныя дзеянні.

Што рабіць далей: плюнуць на ўсё і з’ехаць на радзіму? Але там адны толькі камяні. Так, грошай хопіць, каб пражыць, але без справы ён не мог, яму трэба чымсьці займацца.

Прааналізаваўшы ўсё, да свайго здзіўлення ўсвядоміў, што не ўсё так дрэнна. Яму можна атрымліваць невялікі, але пастаянны прыбытак. Можна патаргавацца з купцамі дзелавой драўніны. Гэта яго жыццё, без якога ён ужо не можа. Ён пачаў разумець свайго бацьку. Яму раптам стала страшна, што можа страціць сваю справу, справу бацькі.

Так, здаецца, перагнуў палку, і трэба выпраўляць становішча. Дарма з галоўным распарадчыкам пушчы пайшоў на канфлікт. Усё-ткі трэба прымаць законы краіны, у якой жывеш.

Успомніў, як на судзе жандары апраналі кайданы памешчыку Шаураву. Ад страху яго нават перасмыкнула. Так, трэба ехаць у кантору і спрабаваць паміріцца з распарадчыкам.

Апрануўшыся, накіраваўся да лесапільні. Там ужо два дні яго чакалі нямецкія купцы. Сімунд перапрасіў за сваю адсутнасць.

— Нечаканыя акалічнасці, панове, — патлумачыў ён. Адбыліся некаторыя змены. Гэтыя карабельныя хвоі ў штабелях апошнія.

Хуткім крокам накіраваўся ў кабінет, не запрашаючы за сабой гамбургскіх купцоў; за ім следам тупаў яго намеснік. У кабінеце ён запрасіў яго сесці за стол.

Той у нерашучасці перамінаўся з нагі на нагу.

— Я што, дрэнна тлумачу па-вашаму? Сядай і пішы, — сказаў Сімунд.

Кіравальны хутка сеў, узяў аркуш паперы, пяро і падрыхтаваўся пісаць.

— Усім, хто ў мяне працуе, зарплату павялічыць у два разы. Хто запрошаны на працу часова, выплаціць кожнаму, акрамя зарплаты, па дваццаць

рублёў. Калі ёсць сярод іх тыя, хто ўмее будаваць хаты, прыняць на сталую працу, чалавек дзесяць — не больш. Астатнія могуць быць вольныя, калі спатрэбяцца, запросім іх яшчэ.

У гэты час пад акном была чутна гучная сварка на нямецкай мове. Сімунд падняўся, падышоў да акна і пачаў назіраць. Паступова сварка між гамбургскімі купцамі перарасла ў бойку.

Рабочыя тартака са здзіўленнем глядзелі, як прыстойна апранутыя гандляры калашмацілі адзін аднаго.

Так, падумаў Сімунд, што робяць грошы з людзьмі. Ён выйшаў на вуліцу і гучна сказаў:

— Спадары, як вам не сорамна? Людзі вакол, што яны падумаюць? Няўжо мне жандараў выклікаць?

Гамбургскія купцы крыху суцішыліся.

— Зайдзіце ўсе сюды, да мяне, — загадаў Сімунд.

— Пачынаем аўкцыён, — заявіў Сімунд, калі апошні купец зачыніў за сабой дзверы. — За ўсю драўніну ў дзесяці штабелях хачу дваццаць тысяч рублёў. Слухаю вашы прапановы.

— Дваццаць пяць тысяч.

— Трыццаць тысяч.

— Сорак.

— Пяцьдзесят.

Наступіла паўза. Сімунд узрушана хадзіў уздоўж стала.

— Пяцьдзесят пяць тысяч.

— Шэсцьдзесят тысяч.

Сімунд працягваў вымяраць крокамі свой кабінет. Паўза зацягнулася. Дурань, думаў ён, яшчэ тыдзень таму назад я драўніну прадаваў за бесцань. Які ж я ёлуп.

— Хто сказаў шэсцьдзесят тысяч? — рэзка павярнуўся да стала.

Адзін з купцоў падняў руку.

— Раз. Два. Тры. Прададзена. Астатнія вольныя — прыміце мае шкадаванні.

Камерсанты падняліся і выйшлі на вуліцу. У кабінеце застаўся толькі Сімунд і адзін з гандляроў. Той пачаў з кішэняў даставаць грошы і пералічваць. Налічыў дваццаць тысяч.

— Гаспадзін Сімунд, вы можаце пачакаць у кабінеце пяць хвілін.

— Так, — адказаў Сімунд.

Камерсант выйшаў на вуліцу. Гандляры стаялі і гучна абмяркоўвалі аўкцыён. Ён ім нешта сказаў, тыя адразу пачалі даставаць грошы.

Сімунд стаяў і назіраў за імі праз акно. Камерсант хуткім крокам вярнуўся і паклаў на стол яшчэ сорак тысяч.

— Мы ўсе прыехалі па карабельныя хвоі. Я ў іх арандаваў фурманкі і пазычыў грошы пад адсоткі.

— Гэта вашы справы. Можаце забіраць усю партыю драўніны, — сказаў лесапрамысловец.

— Але нам трэба дапамагчы загрузіць, мы заплацім.

— Вельмі добра, я распараджуся, — сказаў Сімунд, узяў грошы і паехаў да галоўнага распарадчыка пушчы.

## *12. Пецярбург*

Праз два тыдні пасля вяртання обер-фарстмайстра з Пецярбурга ў Белавеж прыбыў фельд'егер з міністэрства дзяржаўных маёмасцей. У дастаўленым ім данясенні загадвалася для звярынца летняй рэзідэнцыі яго імператарскай вялікасці ў Царскасельскім парку вылавіць трох маладых зуброў.

Тэрмінова былі скліканыя стражнікі і лоўчыя.

Фёдар Канстанцінавіч зачытаў просьбу міністэрства.

— Якія будуць меркаванні?

Прысутныя пачалі шумна выказваць думкі. Не так ужо і проста тых зуброў злавіць.

Пасля ўсіх выказаўся Ціхан:

— Найперш трэба зрабіць тры клеткі з сухога дубу. Далей — тры адмысловыя моцныя падводы, прыкладна такія як у лесапрамыслоўца Сімунда для перавозкі карабельных хвой. Каб злавіць зуброў, трэба спачатку завабіць іх у дужую загарадзь. Прапаноўваю збудаваць яе на месцы былога Каралеўскага звярынца, у Елярах, а там дзейнічаць па абставінах.

Прысутныя пагадзіліся, обер-фарстмайстар адразу размеркаваў, хто чым будзе займацца. Пасля ўсяго Ціхан застаецца ў пушчы галоўным, а Рыгор павінен суправаджаць дастаўку каштоўнага грузу ў летнюю царскую рэзідэнцыю.

Рыгор за вячэрай паведаміў аб гэтым жонцы.

— Як я табе зайздрошчу, гэта ж так цікава, — узрадавалася Малання. Ты ўбачыш Пецярбург. Трэба толькі загадзя падрыхтавацца ў дарогу. Возьмеш з сабой парадны мундзір і апранеш яго толькі ў сталіцы.

— Можа, паеду праз месяц, як зловім зуброў, а ты ўжо даеш мне парады. Паспеем…

Зробленыя клеткі былі вельмі цяжкімі, бо пасярэдзіне мацаваліся металічнай шынай. Наперадзе і ззаду майстраваліся дзверы. Тры клеткі прывезлі на колах і ўсталявалі ў новым вальеры.

Цэлы тыдзень чакалі, пакуль зубры выедуць траву ў вальеры і асінавыя галінкі. Калі яны прагаладаліся, у клеткі накідалі свежых асінавых галінак.

Малады самец трапіўся адразу ж, у першы дзень, а вось прывабіць зубрыцу было цяжэй. Яна нібы адчувала небяспеку і не ішла ў клетку. Самцы заходзілі па некалькі штук, а самка — ніводная. Выгналі з вальераў усіх самцоў, засталася толькі маладая самка з гадавалым зубранём. Яна была настолькі галодная, што зайшла ў клетку. Клетку зачынілі. Зубраня вылавілі вяроўкамі і сілай зацягнулі ў трэці клятух. Пры дапамозе драўляных брусоў і вяровак клеткі паставілі на колы.

Усё было гатова для адпраўкі ў Пецярбург. Але як запрэгчы коней. Яны адчувалі пах зуброў і пры кожным уздыху або варушэнні зубра падкідвалі задкамі, станавіліся на дыбкі, заварочвалі галовы, косячыся на жывёлін. Давялося коням нацягваць адмысловую аброць з набадрамі для вачэй. На клеткі зверху нацягнулі тканіну. Для таго, каб зубры трохі абвыкліся ў клетках, вырашылі адправіцца ў шлях праз дзень.

На другі дзень, пасля абеду, Рыгор, трохі хвалюючыся, пачаў сядлаць Каштана. Жанчыны выйшлі выпраўляць яго ў дарогу. Стражнік пацалаваў маленькага Глеба, бабулю Марфу і Маланню. Сеў на жарабца, Малання падала важкі вузел. Седзячы на кані, нахіліўся і яшчэ раз пацалаваў жонку. На яе вачах былі слёзы.

— Малання, ты чаго плачаш, не на вайну еду? — усміхаўся стражнік.

— Рыгорка, будзь асцярожны. Мы будзем чакаць цябе. За нас не хвалюйся, — яна перахрысціла мужа.

Ад’ехаўшы трохі, стражнік азірнуўся. Жонка і старая махалі рукамі. Ён у адказ ім таксама махнуў рукою і прыпусціў жарабца наўскач. На душы было трывожна; гэта быў першы раз, калі ён надоўга пакідаў сваё жыллё.

Каля клетак назбіралася многа людзей. З’явілася рысорная брычка обер-фарстмайстра. За ёй прыбыла брычка з трыма жандарамі. Следам — лесапрамыслоўца Сімунда. Ён з дзелавым выглядам абышоў клеткі і падводы. Даклаў галоўнаму распарадчыку, што ўсё ў парадку.

Пад’ехала калымажка з доўгавалосым святаром. Ён абышоў абоз тры разы вакол, абрасіўшы калёсы і брычкі святой вадой. Гучна прачытаў малітву, у якой некалькі разоў было вымаўлена:

— Захавай, Гасподзь, гэтыя калясніцы…

Пасля малітвы обер-фарстмайстар распарадзіўся рыхтавацца да ад’езду. Падышоў да жонкі і дзяцей. Пачалі развітвацца.

Галоўны распарадчык пушчы махнуў рукою і гучна крыкнуў:

— Рухаемся! З Богам!

Натоўп зашумеў.

Рыгор абняўся з бацькам, братам і ўскочыў у сядло. Працэсія кранулася. Яе ўзначаліў обер-фарстмайстар на параконнай брычцы. Следам ехала брычка з вусатым жандарам. За ім двое жандараў конна. Далей былі тры вялікія фурманкі з клеткамі зуброў. Потым тры фурманкі-буды, у якіх былі складзены неабходныя ў дарогу харчы, правіянт, запасныя калёсы і збруя. У дзвюх фурманках на мяшках з аўсом былі абсталяваныя месцы для сну. Абоз замыкала брычка старшага каравульнага. Акрамя таго працэсію суправаджалі конна маладыя стралкі. Некаторы час праважатыя рухаліся побач. Паступова іх менела. І неўзабаве засталіся толькі тыя, хто павінен быць да канца шляху.

Рыгор ехаў конна побач з брычкай обер-фарстмайстра. Шлях, які трэба адолець, уяўляўся яму чымсьці сур’ёзным, трохі таямнічым, нават жудасным і ў той жа час прывабным.

Галоўны распарадчык першым пачаў гутарку.

— Ну што, Рыгор, хвалюешся?

— Ёсць трохі, ваша высокаблагароддзе.

— Рыгор, ты праедзь уздоўж абозу, пагавары з кожным, асабліва з вазніцамі, якія на калёсах з зубрамі. Галоўнае, каб яны не спалі на хаду, а то збочаць з дарогі і перавернуць клеткі.

— Слухаюся, ваша высокаблагароддзе.

Ён завярнуў жарабца і аб’ехаў абоз. Убачыў, што насустрач рухаецца калымажка. Гасцінец у гэтым месцы быў вузкім. Прыспешыў жарабца і паскакаў наперад. Параўняўшыся з калымажкай, гучна пачаў тлумачыць, каб яны з’ехалі ўбок. Вельмі вясёлы памешчык наадрэз адмовіўся саступаць дарогу. Абоз і калымажка незнаёмца сустрэліся. Обер-фарстмайстар паклікаў жандараў. Убачыўшы жандараў, п’яны памешчык пачаў таўхаць кучара ў спіну.

Іх высокаблагароддзе паклікаў Рыгора.

— Ты едзь наперадзе — гэта будзе твой абавязак. Як што — кліч жандараў.

Надвор’е стаяла не па-восеньску сонечнае і цёплае. Якраз быў час, калі сяляне прыбіралі апошнія рэшткі ўраджаю. На сціплых палях, на іх калючым жоўтым шчацінні дзе-нідзе блішчэла слюдзяным бляскам восеньскае павуцінне.

Людзі са здзіўленнем разглядалі зуброў у клетках. Асабліва дзеці, якія чародамі доўга шлі за абозам.

Зубры ў клетках перасталі валтузіцца, нібы змірыліся са сваёй доляй. Коні таксама перасталі кідацца.

Апоўдні абоз з’ехаў з дарогі. Маладыя стралкі пачалі выпойваць коней. Напаілі таксама зуброў, прасоўваючы ў акенца драўляныя цабэркі. Прыпынак доўжыўся больш за гадзіну. Увечары абоз спыніўся на заезным двары. Выставілі варту, леглі адпачываць. Раніцай усіх зноў чакала дарога.

Рыгор запомніў мястэчка Жыровіцы, што ў дзесяці вёрстах ад Слоніма. Уразіла пышнасць Жыровіцкага манастыра, акружанага каменнай сцяной. Запомніўся Нёман — першая буйная рака, якая сустрэлася. Рыгору спадабаліся яе высокія берагі і шырыня рэчышча.

Аднойчы сустрэлі цыганскі табар. Зубры ўлавілі пах прывязанага ланцугом да цыганскай буды мядзведзя, але не забушавалі, толькі чмыхалі. Спужаўся сам мядзведзь. Так ірвануў буду, што ледзь не перавярнуў яе. Стары цыган доўга ляпаў капелюшом па мордзе свайго акцёра, каб хоць крыху супакоіць.

Так мінуў тыдзень шляху. Абоз праязджаў Віцебшчыну. Ландшафты ўздоўж дарогі змяніліся. Сустракалася вялікая колькасць азёр і рэк. Надвор’е цалкам сапсавалася. Змрочныя шызыя хмары паўзлі па небе. Дробны дожджык церусіў без перапынку. Шырокі паштовы тракт месцамі ператвараўся ў балота.

Неяк сустрэўся пяхотны полк. Было чуваць, як уздоўж шырокай і бруднай дарогі сотні ног цяжка, паспешліва, уразброд пляскаюць па лужынах. Калі салдаты параўняліся з клеткамі зуброў, пачалося замяшанне. Афіцэры на конях моцна лаяліся і нагайкамі аднавілі парадак.

Недалёка ад сталіцы абозу сустрэўся дыякан. У чорнай доўгай рызе ён ішоў насустрач. Убачыў зубра, спыніўся і пачаў спалоханна хрысціцца. Нешта закрычаў, рукою падхапіў рызу і панёсся, пераскокваючы лужыны, да царквы.

Рагаталі ўсе. Рыгор ад смеху ледзь сам не зваліўся з каня. Пасля дагнаў брычку іх высокаблагароддзя і распавёў гэты пацешны выпадак.

Пецярбург сустрэў звераловаў цаглянымі дамамі, брукаванымі вуліцамі, ліхтарамі, прыгожымі павозкамі. Мякка ззяла золата купалоў і шпіляў. Усё выглядала новым і дзіўным.

Да абеду абоз дасягнуў летняй рэзідэнцыі яго імператарскай вялікасці. Клеткі знялі з калёс, зуброў выпусцілі ў новенькія вальеры. Яны абнюхвалі свой новы прытулак. Гадавалае зубраня насілася, высока падскокваючы ад радасці.

Фёдар Канстанцінавіч паклікаў Рыгора ўбок.

— Заўтра вальеры наведае сам імператар. Сёння павінны падвезці новенькае абмундзіраванне. Прасачы, каб заўтра раніцай усе былі ў парадку — выгаленыя, памытыя і гэтак далей. Я распарадзіўся, калёсы і брычкі падрыхтуюць да зваротнай дарогі без нас. Адпачнём і кранёмся дадому. Я з’езджу ў горад, у міністэрства.

— Слухаюся, ваша высокаблагароддзе, — стражнік пстрыкнуў абцасамі.

Рыгор абышоў падводы. Незнаёмыя людзі здымалі колы, чысцілі іх ад наліплай гліны і багата змазвалі дзёгцем восі. Коні ў стайні мірна хрупалі авёс. Каштан, пазнаўшы гаспадара, ціха заржаў. Рыгор падышоў да яго, супакоіў, пагладзіў.

Павячэраўшы ў сталовай крупнікам з мясам, з вялікім задавальненнем спалі на сапраўдных ложках. Раніцай, пасля сняданку, пачалі рыхтавацца да прыезду цара. Надзелі новую бялізну, кашулі і мундзіры. Рыгор паставіў стралкоў у шэраг. У гэты час расхінуліся дзверы, і ў жаўнерню ўвайшоў оберфарстмайстар у парадным мундзіры з аксельбантамі. Ён прывітаўся і пачаў

разам з Рыгором прыдзірліва аглядаць стралкоў, папраўляючы і падцягваючы партупеі.

— Вазніцы і жандары застаюцца ў жаўнерні. На двор каб і носу не высоўвалі; да вокнаў не падыходзіць, на вуліцу не ўзірацца. Усім зразумела?

Пачаліся цяжкія хвіліны чакання. Было відаць, што галоўны распарадчык моцна нервуецца. Яны стаялі, пераступаючы з нагі на нагу.

Працэсія з'явілася нечакана.

Обер-фарстмайстар працадзіў скрозь зубы:

— Прыгатавацца! Замры!

Расійскі імператар Мікалай I са сваёй світай падыходзіў паволі. Краем вока, не паварочваючы галаву, Рыгор бачыў манарха. Самавіты мужчына ў мундзіры нешта гаварыў манарху, той ківаў, згаджаючыся.

Чым бліжэй падыходзіў імператар, тым мацней грукала ў грудзях маладых стралкоў. Напруга нарастала.

Мікалай I гучна прывітаўся.

— Здароўя жадаем, Ваша Імператарская Вялікасць! — раўнулі стралкі.

Манарх усміхнуўся.

— Шмат чуў аб вашых поспехах па ахове Белавежскай пушчы, гаспадзін обер-фарстмайстар. Пахвальна. Ваша стараннасць годна ўзнагароды, — ён павярнуўся направа, яму падалі скрыначку.

Самадзержац адчыніў яе, дастаў адтуль крыж на ордэнскай чорнай, з жоўтымі палоскамі стужцы.

Обер-фарстмайстар зняў фуражку, зрабіў крок наперад і нахіліў галаву. Манарх накінуў ордэнскую стужку обер-фарстмайстру на шыю. Іх высокаблагароддзе надзеў фуражку, зрабіў крок назад, гучна адсалютаваў.

— Служу Айчыне, Ваша Імператарская Вялікасць!

Мікалай I усміхнуўся.

— Не спяшайцеся, гэта яшчэ не ўсё.

Іх высокаблагароддзе зноў зрабіў крок наперад.

— Вы яшчэ падвышаецеся ў чыне, — працягнуў яму новенькія, зіхоткія эпалеты.

Обер-фарстмайстар прыняў эпалеты, зрабіў крок назад, яшчэ раз гучна адсалютаваў.

Мікалай I павярнуў галаву налева і аглядаючы ўсіх спытаў:

— А гэта што за малайцы?

Галоўны распарадчык далажыў:

— Гэта, Ваша Імператарская Вялікасць, стражнік і стралкі.

— І што ахоўвае гэты стражнік? — цар тыцнуў у Рыгора.

— Зуброў, Ваша Імператарская Вялікасць!

— Зуброў? Гэта павінна быць вельмі цікава… — прамармытаў манарх і павярнуўся направа. Яму падалі шаблю.

— Ну, падыдзі да мяне, маладзец.

Рыгор зразумеў, што манарх звяртаецца да яго. Ён зрабіў два крокі наперад і левай рукой зняў шапку. Імператар працягнуў яму шаблю.

Рыгор дрыготкай рукой асцярожна прыняў яе, зрабіў крок назад, надзеў шапку, дзвюма рукамі ўзяў шаблю і, выцягнуўшы лязо, пацалаваў яго. Уставіў шаблю ў ножны, левай рукой прыціснуў да нагі, а правай адсалютаваў.

— Служу Айчыне, Ваша Імператарская Вялікасць!

Імператар усміхнуўся і сказаў:

— Клікаць цябе як?

— Рыгор, ы-ы, Грыгорый! Селіван Грыгорый!

— Пахвальна, пахвальна, — пасміхнуўся цар і звярнуўся да світы:

— Запрашаю паглядзець зуброў.

Найсвятлейшая асоба і яго світа павольна прайшлі да вальера. Там яны спыніліся, расцягнуўшыся ўздоўж плота, з захапленнем разглядалі лясных волатаў.

Фёдар Канстанцінавіч махнуў рукою, паказваючы, каб стралкі ішлі ў жаўнерню.

Рыгор скамандаваў:

— Так, ладам налева і крокам руш! За мной!

Калі яны ўвайшлі ў жаўнерню, не здымаючы мундзіраў, дружна пападалі на ложкі.

Трое жандараў і вазніцы падбеглі да іх і наперабой пачалі пытаць:

— Ну як, бачылі жывога цара?

— Бачылі, бачылі, як вас бачылі.

— Распавядайце хутчэй, які ён? — з зайздрасцю ў вачах пыталіся яны.

— Ды пачакайце вы, дайце трохі адсапціся.

Напруга спадала. Хтосьці моўчкі ляжаў, хтосьці ціха хіхікаў, у некаторых на вачах былі слёзы.

Стражнік прысеў на ложак і паклаў на калені шаблю. Пачаў яе разглядаць. Ножны былі серабрыстага колеру з чарненькімі ўзорамі. Дзяржальня жоўтага колеру. Усе сабраліся вакол Рыгора і разглядалі падарунак. Ён пачаў павольна даставаць шаблю з ножан. Сталёвы выгінасты клінок выходзіў лёгка. Па ўсёй даўжыні клінка былі нанесеныя такія ж чарненькія ўзоры. Сталь зіхацела і пералівалася. Бокам пазногця дакрануўся да ляза, яно было надзвычай вострым.

Цяжка ўздыхнуўшы, старшы жандар сказаў:

— Эх і шабля, галіцца можна, прыгожая. Вось гэта падарунак! Беражы яе.

Раніцай пачалі збірацца ў зваротную дарогу. Вазніцы ўсталі раней і пайшлі запрагаць коней. Рыгор таксама ўстаў разам з імі і хутка накіраваўся да вальераў. Яму хацелася развітацца з зубрамі.

Там трое зуброў мірна жавалі траву. Ён зняў шапку, звяртаючыся да лясных волатаў, пачаў ціха гаварыць:

— Ну што, мае дарагія! Мы з’язджаем дадому, а вы застаецеся. Вам будзе тут добра, вас будуць карміць, будуць даглядаць. Толькі трохі вам сумна на чужыне. Што зробіш, такі ваш лёс.

На вочы Рыгора нечакана навярнуліся слёзы. Ён разумеў, што гэтыя лясныя, свабодалюбныя прыгажуны з вялікім задавальненнем змянілі б раскошны царскі вальер на родны дрымучы лес Белавежскай пушчы.

Трое зуброў, нібы разумеючы, аб чым гаворыць чалавек, панура стаялі, павярнуўшы галовы ў яго бок.

— Бывайце, мае дарагія, захавай вас Гасподзь.

Рыгор надзеў шапку, выцер рукавом слёзы, у апошні раз зірнуў на зуброў і хуткім крокам накіраваўся да стайні.

Па дарозе дахаты Рыгору ўспомнілася першая шлюбная ноч.

Па прыездзе ў вартаўніцкую хату Малання запаліла свечкі. Рыгор распрануўся і лёг у пасцель, каля сцяны. Малання распранулася, засталася ў ільняной кашулі; прачытала малітву і, згасіўшы свечкі, прылегла побач.

Два маладыя сэрцы ашалела калаціліся, гатовыя вырвацца з грудзей. Амаль адначасова яны павярнуліся адно да аднаго. Яна асцярожна правяла аксамітавай шчакой па яго вуснах і далікатна пацалавала.

Сэрца стражніка адрывалася і падала-падала некуды ў ліхаманкавай радасці чакання. Пакора вуснаў, мяккая пяшчота рук — усё поўніла яго адчуваннем нязнанага пачуцця блізкасці і шчасця…

Усё было як у смузе… Яны ляжалі, шчыльна прыцiснуўшыся, і слухалі шэпт векавых дрэў за акном. Прыхіліўшы галаву каханай да сваіх грудзей, ён гладзіў яе валасы і плечы.

Вакол была ноч, якая няспешна кацілася над бясконцай Белавежскай пушчай, над адзінокай хаткай.

На ўсё жыццё запомніўся пах пяшчотнага цела жонкі, пах яе валасоў і гарачыня вуснаў...

Паражняком вярнуліся хутчэй на цэлы тыдзень, ноччу. Поўны месяц ірдзеў яркім святлом. Увесь небасхіл над галавой мігацеў зоркамі.

Да сярэдзіны ночы з'явіліся знаёмыя селішчы на ўскраіне пушчы — акурат праязджалі недалёка сядзібы Шаурава.

Вось яна, Белавежская пушча. Далей Рыгор мог весці абоз і ў поўнай цемры. Ні на хвіліну не спыняючыся, звярнулі з гасцінца на лясную дарогу і паглыбіліся ў пушчу.

Да яго конна далучыліся два стралкі.

— Старшы каравульны загадаў нам весці абоз, а вас запрашае ў сваю брычку.

Старшы каравульны працягнуў шынель.

— Атуліся, раніцай можа быць вельмі халодна, пасядзі са мной.

Сеўшы зручна на сядзенне, Рыгор спрабаваў заснуць, але сон не прыходзіў. Брычка наязджала на галінкі і карані дрэў, яе трэсла, заснуць было немагчыма. Да самага світанку так і праседзеў.

Абоз заехаў у Белавеж, калі толькі замігцеў світанак, і першыя касыя прамяні сонца прабіліся скрозь густыя вершаліны векавых дрэваў. Мясцовыя сабакі заліліся брэхам.

З будкі выбег вартавы; убачыўшы сваіх, радасна закрычаў, забыўшы пра парадак.

— Прыехалі! Прыехалі! — і пачаў абдымацца з сябрамі.

Галоўны распарадчык вылез са сваёй павозкі.

— Чаго гарлапаніш як шафер на вяселлі?

Убачыўшы обер-фарстмайстра, каравульны збянтэжыўся:

— Дазвольце дакласці, ваша высокаблагароддзе!

— Ну, дакладвай.

— За час вашай адсутнасці здарэнняў няма.

Да варот падыходзілі стралкі, жандары, вазніцы. Яны чакалі наступных распараджэнняў.

Іх высокаблагароддзе пракашляўся:

— Так, усім аб'яўляю падзяку. З пастаўленай задачай справіліся. Хто прымаў удзел у экспедыцыі, можа тыдзень не выходзіць на службу. Для атрымання грашовай узнагароды праз тыдзень неабходна з'явіцца да скарбніка. Цяпер вазніцы павінны паставіць падводы і брычкі на належнае месца, а коней у стайню. Стралкі выгрузяць новае абмундзіраванне і па вопісу здадуць скарбніку. Усе вольныя.

У Ціханавай хаце жонка варажыла вакол самавара і накрывала на стол. Падышла і пацалавала Рыгора ў шчаку.

— Распранайся і садзіся хутчэй да стала.

Рыгор разгарнуў вузел і працягнуў жонцы Ціхана вялікую каляровую хустку з кутасамі.

— Гэта табе падарунак з Пецярбурга. А гэта табе, Ціхан, не горшыя чым у начальства, — працягнуў брату скураныя пальчаткі. — Ты цяпер пры пасадзе і павінен выглядаць прыстойна.

Ціхан зноў абняў брата.

Братавая круцілася ля люстэрка, разглядаючы сябе ў абноўцы.

Трохі перакусіўшы, Рыгор пачаў распавядаць свае прыгоды. Калі дайшоў да сустрэчы з царом, Ціхан нават перахрысціўся.

— Ну, вось, цяпер ты ведаеш, адкуль у мяне шабля, — Рыгор дастаў шаблю і паклаў на стол.

Ціхан асцярожна ўзяў яе ў рукі, пачаў пільна разглядаць.

Неўзабаве Рыгор быў дома. З асалодай уцягнуў носам асаблівы, знаёмы пах роднага жытла.

— Няўжо канец падарожжу? — зняў хатулі і апусціў на падлогу.

На кухню ўвайшла старая з дзіцём на руках. Ён пацалаваў сына і бабу Марфу. Пачаў выцягваць падарункі. Уручыўшы жанчынам па хустцы, дастаў загорнутыя боцікі.

— На, Малання, прымер.

Чырвоныя боцікі зрабілі сваю справу. Жонка, пляснуўшы рукамі, нават страціла на момант дар мовы. Абедзве жанчыны такога прыгожага абутку ў жыцці не бачылі.

## *13. Прыём у обер-фарстмайстра*

Нядзельнай раніцай Рыгор і Малання адправіліся ў галоўную сядзібу. Перад абедам заехалі да Ціхана. Брат разам з жонкай таксама рыхтаваліся ў госці да галоўнага распарадчыка Белавежскай пушчы. Пешшу накіраваліся да хаты обер-фарстмайстра. Там ужо знаходзілася некалькі сямейных пар. Галоўны ляснічы, старшы лоўчы, старшы каравульны, знаёмы вусаты жандар — усе са сваімі палавінкамі.

Да варот пад’ехала брычка Сімунда. У гэты момант на парозе з’явілася гаспадыня з прыслужнікам і запрасіла прысутных праходзіць у дом.

Зняўшы вопратку, яны зайшлі ў гасцінную. Там стаяў вялікі, хораша сервіраваны стол. Камердынер паказаў месцы, дзе каму сядаць.

На чале стала стаялі два крэслы для гаспадара з гаспадыняй. Рыгору з жонкай было прапанавана месца побач з гаспадарскім крэслам. Далей сядзеў брат з жонкай, насупраць Сімунд.

Калі госці расселіся, расхінуліся дзверы ў гасцінную. Обер-фарстмайстар з гаспадыняй паўстаў ва ўсім бляску. Новыя эпалеты на плячах блішчэлі золатам, на шыі вісела чорная стужка з дзвюма вузенькімі жоўтымі палоскамі, на ёй ордэн. Ажыўлены твар іх высокаблагароддзя асляпляльна ўсміхаўся.

Госці падняліся. Фёдар Канстанцінавіч Таран пачаў абыходзіць стол, вітаўся з мужчынамі за руку, з жанчынамі кіўком галавы, пры гэтым кожны раз пстрыкаў абцасамі. Побач з ім ішла жонка і ветліва ківала галавою, усміхалася. Калі цырымонія прывітання скончылася, іх высокаблагароддзе прапанаваў сесці.

Прыслуга замітусілася вакол стала, напаўняючы прыгожыя чаркі і келіхі.

Фёдар Канстанцінавіч узяў чарку і ўстаў:

— Спадары, першы тост прапаную выпіць за здароўе нашага васпана, Яго Імператарскую Вялікасць Мікалая І.

Госці падняліся.

— Прашу садзіцца і прыступіць да халодных закусак. Толькі не саромцеся, ешце так, як у каго атрымліваецца. Тут усе свае, і чужацца няма каго.

Госці пачалі есці. Рыгор звярнуў увагу, што яго брат спрытна карыстаецца нажом і відэльцам; не горш чым іх паны. Спрабаваў таксама ўзяць відэлец у левую руку, а нож у правую. Але ў яго не атрымалася, ён адклаў нож і ўзяў відэлец у правую руку.

Прыслуга пачала зноў напаўняць чаркі. Тады падняўся Сімунд і прапанаваў чарговы тост:

— Спадары! Я прапаную выпіць за здароўе нашага галоўнага распарадчыка пушчы Фёдара Канстанцінавіча, за яго новую ўзнагароду. Толькі давайце папросім яго расказаць нам пра гэты ордэн.

Госці дружна падтрымалі лесапрамыслоўца. Обер-фарстмайстар, здаволена ўсміхаючыся, зрабіў для важнасці невялікую паўзу і пачаў свой расказ:

— Спадары! Гэтая ўзнагарода завецца «Ордэн святой Ганны II ступені». Прысуджаецца за адмысловыя заслугі перад Айчынай. Уручыў мне яго асабіста імператар Мікалай І. Акрамя таго, я падвышаны ў пасадзе, атрымаў статут дарадніка, а чын палкоўніка. Узнагароджанне праходзіла ў Царска-Сельскай летняй рэзідэнцыі Яго Імператарскай Вялікасці. Пасля ўзнагароджання быў запрошаны на ўрачысты абед з самім манархам. Там мы абмяркоўвалі важныя дзяржаўныя справы. За абедам найсвятлейшая асоба прасіла перадаць вам падзяку за пахвальнае нясенне службы і за зуброў для свайго звярынца. Але што гэта я толькі пра сябе. Сярод нас ёсць яшчэ адзін чалавек, які таксама атрымаў узнагароду асабіста з рук Яго Імператарскай Вялікасці, — і ён паказаў на Рыгора. — Ну што, пакажы сваю ўзнагароду, — і запляскаў у ладкі.

Рыгор счырванеў, бянтэжачыся ад увагі.

Іх высокаблагароддзе ўзяў чарку і прапанаваў тост за Рыгора і яго ўзнагароду.

Рыгор адшпіліў шаблю і перадаў іх высокаблагароддзю. Той уважліва яе разгледзеў і перадаў Сімунду. Сімунд перадаў далей, сам нахіліўся і стаў нешта гаварыць гаспадару на вуха. Той кіўнуў галавою, згаджаючыся. Сімунд падняўся і выйшаў з гасцінай. Мінула некалькі хвілін, і ён вярнуўся, несучы ў руках прыгожую паляўнічую стрэльбу. Папрасіў хвіліначку ўвагі:

— Спадары! Мы з іх высокаблагароддзем обер-фарстмайстрам вырашылі адзначыць заслугі яшчэ аднаго чалавека, старшага стражніка Селівана Ціхана.

Сімунд гучна сказаў:

— За здароўе Ціхана!

Усе зноў запляскалі ў ладкі.

У гэты момант, прыслуга падала гарачую страву з мядзведзіны. Добра паеўшы, Фёдар Канстанцінавіч прапанаваў мужчынам прайсці ў яго кабінет і абгаварыць службовыя пытанні, а жанчынам застацца і трохі папляткарыць.

Лесапрамысловец Сімунд устаў са свайго месца.

— Ваша высокаблагароддзе, прашу мяне выбачыць. Купцы з Нямеччыны нечакана прыехалі, мне ўжо неабходна ісці. Яшчэ раз прашу мяне выбачыць.

— Гаспадзін Сімунд, любіш ты грошы зарабляць. Добра, сходзі да сваіх купцоў. Мы тут службовымі справамі зоймемся, табе гэта, можа, і не цікава будзе.

Мужчыны падняліся і выйшлі ўслед за обер-фарстмайстрам.

У працоўным кабінеце галоўны распарадчык прапанаваў заняць вольныя крэслы.

— Перадайце сваім падпарадкаваным. Неабходна ў найбліжэйшыя дні з’явіцца ў галоўную сядзібу для атрымання новага абмундзіравання. Акрамя таго жадаў бы пачуць вашы прапановы, як палепшыць працу па ахове пушчы.

Галоўны ляснічы першым узяў слова.

— Не ведаю, ці трэба ўзмацняць ахову. Сяляне ад страху загрымець на катаргу перасталі нават сухастой, старыя і гнілыя дрэвы забіраць. Калі так і далей пойдзе, мы без працы застанёмся. — Госці гучна засмяяліся.

— Гэта добра, значыць, наведзены поўны парадак, — Фёдар Канстанцінавіч усміхнуўся. — Цяпер у мяне ёсць прапанова для Рыгора. Лічу, што ўсе

тут прысутныя мяне падтрымаюць. Хачу прапанаваць табе на выбар любую пасаду ў адміністрацыі пушчы. Сваёй добрасумленнай працай ты заслужыў гэта. З адказам не спяшайся, падумай, парайся з братам, з жонкай.

— А што тут думаць, калі можна, хачу застацца на сваім пасту, быць простым стражнікам на сваім абходзе, — упэўнена сказаў Рыгор.

— Пахвальна, — здзівіўся Фёдар Канстанцінавіч. — Але тады сваёй уладай усталёўваю табе жалаванне ў два разы большае, чым ты атрымліваеш. А то імператар запытае ў мяне, як там наш стражнік. Рыгор, Грыгорый, Селіван Грыгорый. Памятаеш? — іх высокаблагароддзе весела засмяяўся.

Прысутныя ажыўлена зарагаталі.

— Так, з жывым царом размаўляць — тут ад хвалявання можна забыцца, як маці родную клічуць, не тое што сябе. Гэта не дзіўна. Тут з вамі, ваша высокаблагароддзе, размаўляеш, і то хвалюешся, каб чаго лішняга не ляпнуць. А то ж сам імператар, — падтрымаў Рыгора старшы лоўчы Кусаў.

Прысутныя, згаджаючыся,ківалі галовамі.

— Рыгор! Лічу, што выкажу агульнае меркаванне, на цябе ў цяжкі момант можна паспадзявацца. Вось мы і падышлі да самага галоўнага, — обер-фарстмайстар зрабіў невялікую паўзу:

— Сёння раніцай у мяне быў стражнік з паўночнай часткі нашай пушчы. Той часткі, якая мяжуе з Беластоцкай воласцю. Вы ведаеце, што яна належыць у дадзены момант Прусіі. Невялікая частка ўскраіны нашай пушчы таксама пруская, — нахмурыўшы бровы, працягваў. — Дык вось, гэты стражнік мне даклаў, што нядаўна група людзей пад камандаваннем прускага афіцэра пракралася ў нашу частку пушчы і там палявала. З інтэрвалам у тыдзень было забіта два зубры. Яны прывязалі забітых жывёлін да коней і перацягнулі на сваю тэрыторыю. Сышлі беспакарана, і цяпер гэты факт палявання даказаць будзе цяжка.

Наш стражнік, пераапрануўшыся пад селяніна, пракраўся на іх тэрыторыю. Там у яго жывуць сваякі. Ад іх ён даведаўся вельмі шмат цікавага. Аказваецца, гэта ўжо не першы выпадак. Сярод прускіх афіцэраў ёсць аматары паляваць на нашай тэрыторыі. Яны плацяць мясцовым сялянам вялікія грошы. Тыя дробнымі чародамі пераходзяць да нас і падганяюць зуброў бліжэй да кардона. Афіцэры страляюць, а сяляне за грошы перацягваюць забітых, — галоўны распарадчык дастаў папяросу і прыпаліў. Зрабіўшы зацяжку, ён працягваў:

— Я адразу ж даў распараджэнне аб вылучэнні пяці стралкоў у дапамогу гэтаму стражніку. Але яны маладыя і яшчэ да канца не абучаныя. Могуць пагарачыцца. Мая думка такая, — адчувалася, што обер-фарстмайстар трохі нерваваўся: — Але нам трэба спадзявацца выключна на сябе, — заклапочана пазіраў па баках.

— Дык вось, Рыгор, табе адмысловае даручэнне. Ты павінен заўтра раніцай выехаць у гэтую частку пушчы. Ад майго імя правесці там рэкагнасцыроўку. Дзейнічай і прымай рашэнне на месцы. У бойку не лезьце, гэтая справа рэгулярных войскаў. Але правучыць прусакоў неяк трэба. — Трохі падумаўшы, працягнуў:

— Лічу, што на нашай тэрыторыі ў іх маюцца свае людзі, якім яны добра плацяць. Нядрэнна б іх знайсці і абясшкодзіць. Не лішнім будзе далікатна пагутарыць з кантрабандыстамі, якія пражываюць побач з кардонам. Тыя ведаюць усё па абодвух баках кардона. Трэба іх падлавіць і напалохаць катаргай у Сібіры, тады яны ахвотна пойдуць на супрацоўніцтва. А табе, Ціхан, іншае даручэнне. Ты павінен аб’ездзіць усходнюю і паўднёвую часткі пушчы.

Падабраць стражнікаў для аховы заходняй мяжы. Ты ў нас старшы стражнік, табе і займацца гэтай справай. Потым можаш далучыцца да Рыгора і ўзначаліць акцыю. Як спрытна вы ўдвух працуеце, ці не мне ведаць! Лепш за вас у мяне нікога няма, — пры гэтым галоўны распарадчык хітравата бліснуў вачыма і засоп носам:

— Гаспадзін жандар, і вы памазгуйце, як нам дапамагчы. Але без узгаднення са мной ні кроку. Ведаю вас, шэльмы. Справы на грош, а мітусні на рубель. Адразу ж расследаванне, допыты сведак, пошукі вінаватых. Падыміце шум, важданіну — а вынік нулявы, як з павешаным канакрадам. Тут справа вельмі тонкая, міжнародная, — гледзячы проста ў вочы жандару, сказаў Фёдар Канстанцінавіч. — Толькі ўсё, пра што тут чулі, нікому ні гугу. Лічыце гэта дзяржаўным сакрэтам.

Пасля абеду обер-фарстмайстар прызнаўся жонцы, што яму надта падабаецца, як размаўляюць між сабой мясцовыя жыхары.

— Слухаць іх гутарку прыемна, як слухаць песню. Я часта маю зносіны з імі і паступова пачаў разумець, пра што яны між сабой гавораць. Мясцовыя людзі разумеюць, што ім кажуць на рускай мове, на польскай мове. Будучы на паляванні, я звярнуў на гэта ўвагу. Пачынаеш з ім весці гутарку на рускай мове, ён табе адказвае на рускай мове, хтосьці размаўляе з ім на польскай мове, ён адказвае на польскай мове, а між сабой размаўляюць на сваёй мове. Мне часта прыходзілася чуць, як дзяўчаты і жанчыны хораша спяваюць, калі працуюць. Тут, у Белавежскай пушчы, для этнографаў непачаты кавалак працы, — тлумачыў жонцы Фёдар Канстанцінавіч. — Дарагая, некалькі стагоддзяў таму на гэтых землях была вельмі моцная і самая вялікая дзяржава ў Еўропе — Вялікае княства Літоўскае. Дагэтуль яны завуць сябе літвінамі, памятаюць сваю багатую на падзеі гісторыю і сваіх князёў. Я нават запомніў некаторых іх кіраўнікоў: Міндоўг, Гедымін, асабліва часта згадваюць Вітаўта. Захавалася вельмі шмат помнікаў даўніны, праўда, большасць з іх ад часу руйнуюцца. Ды і мы спрыяем сціранню іх гісторыі. Дзесяць гадоў, як пачалі будаваць Брэст-Літоўскую крэпасць, шмат старых гістарычных помнікаў разабралі па цаглінцы. І цяпер гэта працягваецца. Разбіраюць паволі і звозяць у крэпасць, там узводзяць з гэтай цагліны фартыфікацыйныя будынкі. Маркотна ўсё гэта, чаму нам няма справы да іх гісторыі?

Памаўчаўшы некалькі хвілін, ён павярнуўся да жонкі.

— Ну што, дарагая, лічу, мы з табой правялі сённяшні дзень цудоўна. Для людзей зрабілі свята, для сябе таксама. Давай класціся спаць, трэба адпачываць. Мяне толькі Сімунд не перастае дзівіць. Можа, з гадамі паразумнеў? Распавядаў, што аднойчы для эксперыменту сваім наймітам тры месяцы жалавання не плаціў. Ні адзін чалавек яго не спытаў пра грошы. Смяяўся, гаварыў, што на яго радзіме даўно б ужо хату спалілі. А тут…

## *14. Кардон*

Калі стражнік адчыніў дзверы карчмы, пачуў знаёмы радасны вокліч:

— Рыгорка, уваходзь, смялей. Даўным-даўно ты да мяне не зазіраў. Чуў, ты ездзіў ажно ў Пецярбург. Што чуваць у свеце? Садзіся за стол, распавядай, як там людзі ў сталіцы жывуць.

Рыгор прысеў за стол.

— Што гаварыць. Жывуць нядрэнна: прыгожыя заможныя хаты, брукаваныя вуліцы, уздоўж іх стаяць ліхтары. Вельмі вялікі і прыгожы горад,

адным словам, сталіца. Вось толькі ў крамах не бачыў вашага брата, на вуліцах таксама не сустракаў, — стражнік дапытліва паглядзеў на яўрэя.

— А ты што, не ведаеш? — здзіўлена падняў бровы Арон. — Нельга нам, яўрэям, сяліцца ў сталіцы.

— Ну, цяпер усё зразумела. Усё забываю ў вас спытаць. Скажыце, дзядзька Арон, а што гэта за такія яўрэі з вельмі доўгімі валасамі?

— Дарагі Рыгорка! Яўрэі таксама між сабой адрозніваюцца. Тыя, якіх ты бачыў з доўгімі валасамі, гэта хасіды. Яны вельмі рэлігійныя, прытрымліваюцца сваіх сектаў і паважаюць талмуд. Ёсць яшчэ яўрэі караімы, якія адхіляюць талмуд і строга прытрымліваюцца абраду старажытнага іерусалімскага храма. Адным словам, у яўрэяў, таксама як і ў вас славян, народ адзіны, толькі розныя галіны адной і той жа рэлігіі.

— Дзякуй, дзядзька Арон, за тлумачэнні, але скажы, хто такія кантрабандысты?

— Рыгор, калі табе нешта трэба дастаць за кардонам, то ты скажы мне. Я параюся са сваім кагалам, што-небудзь прыдумаем і дастанем, а вось пазнаёміць цябе не магу.

— А калі я дам вам слова, што з гэтым чалавекам нічога не здарыцца? Мне ён неабходны толькі для таго, каб высветліць сёе-тое. Мы вас адгодзім.

— Тады ўважліва слухай. Поруч кардона з Прусіяй на сялібе жыве Ярашук Ахрэм. Ён, часам, бывае за кардонам. Вельмі добры чалавек, але ў яго дзесяць дзяцей па вуглах. Рыгор, калі ласка, не пакінь яго дзяцей сіротамі, — прасіў карчмар.

— Дзякуй, дзядзька Арон. За яго не хвалюйцеся, — Рыгор, пляснуўшы сябе па каленях, падняўся з-за стала.

Вечарам ён дабраўся да хаты стражніка, якая стаяла самотна ў лесе, непадалёк ад кардона. Гаспадаром гэтага абходу быў аднагодак Рыгора стражнік Сцяпан. Сустрэліся яны як даўнія сябры — разам былі стралкамі.

Сцяпан, абдымаючы Рыгора, з захапленнем гаварыў:

— Так, чуў пра цябе. Стралкі распавядалі, што сам цар табе ўзнагароду ўручаў. Давай хадзем у хату. Обер-фарстмайстар учора ў дапамогу стралкоў даслаў. Хата поўная людзьмі, але як-небудзь размесцімся.

Прывязаўшы жарабца, зайшлі ў хату, там сапраўды было шматлюдна.

— Сцяпан, ты ведаеш Ярашука Ахрэма? — спытаў Рыгор пасля вячэры.

— Так, ведаю, пражывае на сялібе поруч самога кардона.

— Ці далёка гэтая сяліба?

— Вярсты дзве адгэтуль будзе.

— Што ён за чалавек?— працягваў распытваць Рыгор.

— Звычайны, просты чалавек, не прыгонны, малазямельны аднадворац, жыве ціха. Дзяцей, праўда, у яго шмат. Навошта ён табе? — спытаў Сцяпан.

— Усяго табе сказаць пакуль не магу, сам яшчэ не ведаю, што атрымаецца, — круціў галавою Рыгор. — Ты павінен стралкоў, акрамя аднаго, адправіць на пастой у найбліжэйшы абход да нашых стражнікаў. Няхай там ціха сядзяць і носа не паказваюць.

Абдумваючы, памаўчаў хвіліначку, затым прадоўжыў размову:

— Сцяпан, хто з мясцовых жыхароў прадаўся за кардон? Хто заганяе зуброў прусакам? Не могуць жа яны самі шукаць іх у лесе?

— Рыгор, братка, — цяжка ўздыхнуў Сцяпан. — Ёсць адзін тут! Таксама аднадворац, праўда, беззямельны. Зусім дрэнны гаспадар, лайдак

найпершы, якіх свет не бачыў. Яго можна сустрэць у двух месцах: або на паляванні, або ў карчме ў Лейбеля. Усё, што ён застрэліць на паляванні, нясе ў карчму. Пупок яго завуць. Месяцы два таму ехаў я дарогай конна і пачуў стрэл. Пад'ехаў бліжэй, бачу, як Пупок стаіць і прыкладам б'е сваіх сабак. Пытаю, што здарылася. Ён адказаў, што падстрэліў зайца, пакуль дабег, сабакі яго зжэрлі. Тыдзень таму сустрэў яго ў лесе ўжо без стрэльбы. Што ён там рабіў?

— Прозвішча Пупок? — здзіўлена перапытаў Рыгор.

— Не, прозвішча і імя яго не ведаю, — пакруціў галавою Сцяпан. — Але ўсе яго так завуць. Мяркую, Пупок — гэта мянушка.

— Сцяпан, ты як думаеш? Ці ведае гэтага Пупка Ярашук Ахрэм? — спытаў Рыгор.

— Павінен знаць, — хітнуў галавою Сцяпан. — Пупка ўсе ў акрузе ведаюць.

Так і не паспаўшы, Рыгор перад самым світанкам сеў на жарабца і выехаў шукаць хату Ахрэма. Дзякуючы падрабязнаму апісанню Сцяпана, знайшоў сядзібу хутка. Калі зайшоў на двор, гучна забрахаў сабака.

На парозе з'явіўся гаспадар. Гэта быў мужчына гадоў сарака, акуратна апрануты. Яго вочы з трывогай глядзелі на незнаёмца.

— Вас клічуць Ахрэм?

— Так, а што здарылася? — глядзеў ён дапытліва на Рыгора.

— Нічога не здарылася, але нам трэба з вамі пагутарыць і жадана без сведак, — спакойна сказаў стражнік.

— На вуліцы халодна, пайду, накіну што-небудзь і вярнуся.

Праз хвіліну ён выйшаў на вуліцу.

— Слухаю вас.

— Мяне завуць Рыгор. Прыступім да справы: мне патрэбна ваша дапамога.

Ахрэм маўчаў. Рыгор працягнуў гутарку:

— Аб усіх вашых справах я добра дасведчаны. Ведаю, што вы часта бываеце на тым баку. Чым займаецеся, таксама вядома. Але мяне вашы кантрабандысцкія справы не цікавяць. Я стражнік Белавежскай пушчы, і мяне хвалюе ахова зуброў. У апошні час нехта іх рэгулярна адстрэльвае. Ці вядома вам што-небудзь?

Ахрэм маўчаў, але па твары было відаць, што ён моцна трывожыцца і не можа рашыцца нешта вымавіць.

Рыгор свідраваў яго вачамі.

— У вас небяспечны занятак. Вы можаце трапіць у Сібір на катаргу і пакінуць дзяцей сіротамі. Я вас выдатна разумею. Зямлі мала, дзяцей многа, трэба неяк іх гадаваць. Распарадчык пушчы можа за вас заступіцца. Мяркую, яго заступніцтва вам не будзе лішнім. Акрамя таго, мы за помач добра заплацім. Згаджайцеся, а то я магу размысліцца і знайсці кагосьці іншага.

— А што трэба... рабіць? — з трывогай у голасе спытаў Ахрэм.

— Хто дапамагае прускім афіцэрам у паляванні на зуброў? — стражнік уважліва глядзеў на Ахрэма.

— Цалкам у гэтым не ўпэўнены, але мяркую, гэта Пупок. Бачыў яго каля прускай воінскай часткі.

— Калі гэта было? — спытаў Рыгор.

— Два тыдні таму. Здаецца, гэта была субота, сапраўды субота. З самай раніцы ён там быў. Потым бачыў у панядзелак, ён ішоў адтуль выпіўшы.

— Сёння аўторак, — ажывіўся Рыгор. — Ахрэм, трэба будзе ў суботу раніцай быць за кардонам. Прасачыце, ці з'явіцца там Пупок. Як толькі яго

ўбачыце, адразу ж вяртайцеся. Толькі ў мяне просьба, калі пойдзеце за кардон, — тавар не бярыце. Я вам загадзя заплачу няўстойку, — стражнік дастаў дзесяць рублёў асігнацыямі і працягнуў іх Ахрэму. Той пачаў адмаўляцца ад грошай, але Рыгор прымусіў іх узяць без пярэчання.

— Гаспадзін стражнік, я магу вам паказаць, дзе прускія вайскоўцы праязджаюць праз кардон. Тут зусім недалёка, з вярсту будзе, — нечакана сказаў Ахрэм.

— Вельмі добра, толькі не называй мяне гаспадзінам ці панам. Я такі ж просты чалавек, як і ты.

— Я неяк пачуў гутарку. Пра што яны гаварылі, не ведаю, іх мовы не разумею. Але тое, што яны размаўлялі на сваёй мове, вельмі добра чуў. Калі яны праехалі міма мяне, я падняў галаву. Налічыў шэсць чалавек. Яны выехалі з ракі і зніклі ў лесе. Яны па рацэ, па рэчышчы ехалі.

Яны адправіліся пешшу да ракі.

— Ахрэм, распавядзі, якое жыццё за кардонам, — з цікаўнасцю распытваў Рыгор.

— Па ўсякаму, як і тут. Хтосьці жыве лепш, хтосьці горш, як у каго атрымліваецца. Вось толькі прыгоннага права ў іх няма. Там усе працуюць, як найміты. Вось у гэтым толькі розніца. Усе пасады займаюць толькі прусакі, а нашы, як жылі, так і жывуць. Строга там у іх, парадак наводзяць. Працаваць прымушаюць ад цямна да цямна. Дарогі пачалі будаваць брукаваныя, масты, хаты.

— А ты не баішся, што яны цябе зловяць?

— Не, не баюся. У іх парадак такі: нельга нічога прыносіць, акрамя грошай, а ад іх выносіць можна ўсё, нават дапамагаюць. Іх вартавыя, калі бачаць, што нясу цюк, могуць нават падвезці да самога кардона. Яшчэ кажуць, дзе нашых кордонных аб’ездчыкаў бачылі; нават паведамляюць, калі ісці можна.

— А нашы?

— Нашы, калі зловяць, то ўсё забіраюць, і ў астрог. Вось мы і дайшлі.

Спыніліся на беразе, і Ахрэм пачаў паказваць і падрабязна распавядаць:

— Бачыце гэтую невялікую рэчку, па ёй і ехалі вершнікі. Тут вады па калена будзе, дно не глейкае.

На развітанне Ахрэм прапанаваў Рыгору зайсці на абед, але той адмовіўся і паскакаў у селішча. Карцела паглядзець, дзе жыве Пупок.

Жыллё Пупка выглядала ўбога, здавалася, вось-вось заваліцца. Гаспадара не ўбачыў, на двары была толькі трынаццацігадовая худзенькая кірпаносая дзяўчынка. Журботным поглядам яна правяла незнаёмца.

Не паганяючы каня, стражнік накіраваўся ў карчму. Шустры гаспадар яўрэйскай нацыянальнасці падскочыў да яго:

— Што жадаеце, гаспадзін?

— Яечню з чатырох яйкаў на сале з цыбуляй.

— Ужо робіцца, — і карчмар знік.

Рыгор сеў за стол. У карчме было пуста. Праз некаторы час на двары пачуўся чутны тупат капытоў. Неўзабаве расхінуліся дзверы, шумна зайшлі двое ў форме кардонных аб’ездчыкаў.

— Лейбель, ты дзе?

— Спадары, ужо бягу, — з суседняга пакоя раздаўся голас яўрэя.

— Прыспешвайся, мы на службе. Нясі ўсё, як заўсёды.

Адзін з іх, зірнуўшы на Рыгора, штурхануў напарніка локцем, паказваючы на яго, спытаў:

— Гэй, а ты хто? Што тут робіш?

— Чакаю яечню, — адказаў яму Рыгор.

Яны аддаліліся трохі і селі за іншы стол. Той, які задаў пытанне, не сцішаўся:

— Я ў цябе спытаў, ты хто.

— Селіван Рыгор.

— Пакінь ты чалавека ў спакоі, — ціха сказаў другі. — Што, не чуеш як гаворыць?

— Ён не мясцовы. У мяне памяць на твары ведаеш якая? Раз убачу і ўсё жыццё памятаю.

Яго размову перапыніў уладальнік карчмы; ён нёс бутэльку і вялікую талерку.

— Прыемнага апетыту, — паставіў на стол.

Працягнуў руку і ўзяў на паліцы келіхі, наліў у іх гарэлку. Звярнуўшыся да Рыгора, ветліва сказаў:

— Яечня гатовая, зараз прынясу.

Праз хвіліну з'явіўся з талеркай. Не спяшаючыся, Рыгор пачаў абедаць. Дастаў нож і парэзаў скваркі на драбнейшыя кавалкі.

У гэты момант бразнулі дзверы карчмы. У памяшканне зайшоў барадаты мужчына невысокага росту, сярэдніх гадоў са стрэльбай на плячах.

— Шклянку гарэлкі, хутка! — з парога сказаў ён.

Рухі гэтага чалавека былі рэзкімі. Рыгор уважліва разглядаў аблічча дзівака.

Увесь яго твар ад самых вачэй зарос валасамі. Нешта ястрабінае прамільгнула ў абліччы. Адзенне было месцамі ў дзірах і латах, на галаве — аблезлая шапка з тхара. Узяўшы келіх, ён зняў шапку і некалькі секунд нерашуча глядзеў на гарэлку, потым злёгку кіўнуў галавою і выпіў.

Цішыню парушыў усё той жа кардонны аб'ездчык, які задаваў пытанні Рыгору.

— Пупок, ну як у цябе сёння паляванне?

Той моўчкі выцер рукавом вусы, слаба махнуў рукою.

— Стрэльбу змяніць трэба. Старая яна ў цябе, пэўна, гадоў сто ёй будзе. Як ты страляеш?

Рыгор уважліва паглядзеў на стрэльбу, якая ляжала на лаўцы. Яна сапраўды была старой і цяжкай, з самаробной ложай. Гэты рэдкі прадмет хутчэй за ўсё дастаўся па спадчыне, чамусьці падумалася Рыгору.

— Цяпер такіх стрэльбаў не робяць, таму што не ўмеюць. Гэта самая сапраўдная крамянёўка. Я з яе ніколі не мажу…гы-гы — вышчарыўшы рэдкія зубы, загыгыкаў Пупок.

І трэба было бачыць, з якім шматзначным выглядам пры гэтым — гы-гы! — ён падняў уверх указальны палец.

— А чаму тады без трафеяў прыйшоў? — працягваў даймаць аб'ездчык.

— Я і сёння зайца падстрэліў, але сабакі… халера на іх, — злосна, з прыкрасцю ў голасе адказаў Пупок.

— Сабак карміць трэба, — з'едліва кінуў аб'ездчык, які дагэтуль маўчаў.

— Э-э! — пагардліва скрывіўся Пупок. — Гэта хто ж сабак корміць? Сабакі самі сабе павінны ежу здабываць.

У гэты момант аб'ездчыкі падняліся. Адзін з іх, кідаючы манету на стол, сказаў гаспадару карчмы.

— Налі яшчэ гэтаму небараку і дай што-небудзь закусіць, а то яго сабакі сыцейшыя, чым ён.

Пупок жвава ўскочыў і сіпла сказаў:

— З задавальненнем вып'ю за ваша здароўе, ваша высокаблагароддзе, дзякую!

Аб'ездчыкі пакінулі карчму. Неўзабаве прычуўся тупат іх коней, які аддаляўся. Наступіла цішыня.

Рыгор лустай хлеба марудліва выціраў тлушч у талерцы.

З'явіўся карчмар з талеркай, паставіў яе перад Пупком і наліў яму гарэлкі. Той адным махам кульнуў шклянку, схапіў рукой кавалачак сала з хлебам і пачаў з прагнасцю есці.

Стражнік падняўся, пакінуўшы манету на стале, і моўчкі выйшаў на вуліцу.

Удала заехаў у карчму, разважаў Рыгор, спаткаў усё-такі мясцовую знакамітасць. Сапраўды, каларытная асоба — гэты Пупок. Тузануўшы павады, накіраваў жарабца да жылля Сцяпана.

Вечарам з'явіўся Сцяпан. Цэлы дзень ён дзяжурыў поруч статка зуброў, але нічога падазронага не выявіў. Ніхто не з'яўляўся.

За вячэрай Рыгор распавёў яму аб сустрэчы ў карчме ў Лейбеля.

— Пупок можа з'явіцца каля статка зуброў у пятніцу, так што да пятніцы можам адпачываць, — разважаў Рыгор. — Паляваць яны могуць прыехаць суботнім надвячоркам. Толькі вось дзе яны застануцца на начлег? Цяпер восень, і ноччу даволі халаднавата. Ці стануць яны мерзнуць ля вогнішча?

Раніцай, калі яшчэ на вуліцы было зусім цёмна, яны апрануліся і выехалі ў лес. Сцяпан паказаў яму шлях, па якім цягнулі зуброў да кардона. Ён праходзіў недалёка той рэчкі, якую паказваў Ахрэм.

Поўная карціна злачынства была стражнікам зразумелай, за выключэннем месца, дзе спыняюцца злачынцы на начлег.

Яны вярнуліся на тое месца, дзе прыкладна адбывалася папярэдняе паляванне. Схаваўшы ў гушчары коней, пачалі ўсё вакол уважліва аглядаць. У тым месцы, дзе грузілі зуброў на поцягі, не засталося пянькоў ссечаных дрэў. Але побач праходзіла прасека, якую зрабілі месяцы два таму.

Прасека была чыстая, ствалы дрэваў даўно вывезеныя. Яны прайшлі спачатку ў адзін бок, потым у другі. У адным месцы было шмат слядоў ад конскіх капытоў. Калі прайшлі па слядах, то на скрыжаванні прасек выйшлі да будана. Пад такімі падстрэшкамі працоўныя хаваліся ад непагадзі. Тут былі нават зробленыя ляжанкі для начлегу і вогнішча для прыгатавання ежы, стаялі сталы і лаўкі з бярвёнаў. Калі прасекі сыходзілі далей, усё кідалася, і рабіліся новыя хованкі.

— Вось доўбня, як я раней не здагадаўся, — расчаравана ўсклікнуў Сцяпан. — Гэта ж гатовае жыллё. Тут тыдзень жыць можна.

— Не ты адзін схібіў, не вінаваць сябе, я таксама пра гэта не падумаў. Вельмі зручнае месца.

Пачалі ўважліва аглядаць прылеглы лес, і Сцяпан выявіў пустыя бутэлькі.

— Глядзі, Рыгор, што яны п'юць. А вось і свежыя пянькі, тут яны і вырабляюць поцягі.

— Сцяпан, нічога не чапай, галоўнае цяпер іх не спудзіць, — сказаў Рыгор.

Яны вярнуліся да коней і паскакалі дадому. Пад'язджаючы да хаты, Рыгор убачыў братавага каня. Ціхан і яшчэ некалькі стражнікаў сядзелі за сталом. Прывітаўшыся, Рыгор прапанаваў брату выйсці на вуліцу для гутаркі. Сцяпану сказаў, каб ён коней схаваў у адрыне.

Калі засталіся ўдвух, Рыгор падрабязна распавёў, што ведаў.

— Брат, табе трэба ісці працаваць у жандары, — выслухаўшы Рыгора, прыцмокнуў ад здзіўлення Ціхан. — Ты за два няпоўныя дні ўсё высветліў. Толькі трэба неяк дакласці іх высокаблагароддзю, а то ён прывядзе сюды войска і ўсё сапсуе. Але нас вельмі мала, каб затрымаць шэсць чалавек, тым больш вайскоўцаў. Гэта табе не ўнук Шаурава. Тут справа складанейшая.

Абняўшы малодшага брата, ён ускочыў у сядло і знік у лесе.

— Сцяпан, лічу, зноў давядзецца ахвяраваць зубрамі, — сказаў Рыгор гаспадару хаты. — Калі іх проста затрымаць — выкруцяцца. Скажуць, заблудзіліся, і ўсё.

Здзіўленыя ходам ягонай думкі, стражнікі глядзелі на яго насцярожана.

— Ёсць старыя зубры, якімі можна ахвяраваць, але іх не прывяжаш вяроўкамі да дрэва, — збялеў Сцяпан. — Ты што, Рыгор, хочаш іх выкарыстаць як падсадныя качкі?

— А чаму не? Падагнаць бліжэй да прасекі так, каб яны маглі іх досвіткам бачыць. Будуць конна ехаць да таго месца, дзе пасецца статак, убачаць гэтых зуброў і пачнуць страляць.

— Сцяпан, нясі паперу і аловак. Давай прасекі і ўсе дарогі ў тым месцы намалюй, — сказаў Рыгор.

Гаспадар прынёс чысты аркуш паперы, аловак і пачаў маляваць участак лесу. На тым месцы, дзе цяпер пасвіліся зубры, была прасека і дзве дарогі. Калі іх перакрыць, выходзіла па два чалавекі ў сакрэт.

— Так, маеш рацыю, Сцяпан, людзей малавата, — уздыхнуў Рыгор. — Тым больш, трэба ўлічваць, што гэтыя людзі — вайскоўцы і ўмеюць за сябе пастаяць. Проста так іх не возьмеш.

На вуліцы пачуліся галасы. Сцяпан зірнуў праз акно. Перад хатай стаяла брычка.

— Вой! Обер-фарстмайстар прыбыў, уласнай персонай. Без мундзіра, адзежа на ім дзіўная, першы раз такім бачу, — заспяшаўся да дзвярэй Сцяпан.

Рыгор і Сцяпан выйшлі на двор сустракаць іх начальства.

Обер-фарстмайстар сапраўды быў апрануты як мясцовы памешчык. Ён адразу адвёў Рыгора ўбок.

Рыгор падрабязна ўсё выказаў, апусціў толькі імёны і прозвішчы Арона і Ахрэма.

Обер-фарстмайстар уважліва слухаў, затым сказаў:

— Пахвальна, Рыгор, толькі я не зусім зразумеў, як табе ўдалося знайсці гэтага кантрабандыста.

— Ваша высокаблагароддзе, у гэтым мне дапамог той самы чалавек, які нам ужо раз дапамог. Я абяцаў яму трохі грошай.

— Рыгор, галубчык, ты мяне дзівіш, — развёў здзіўлена рукамі Фёдар Канстанцінавіч. — Не ў крыўду хай будзе сказана, але гэта не вытрымлівае ніякай крытыкі. Ну ты, братка, даеш! Добра разумею цябе, калі ты не назваў на судзе таго, хто дапамог у справе Шаурава, але тут зусім іншая справа. Садзімся ў брычку, ты мяне асабіста прадставіш твайму агенту. Я з ім пазнаёмлюся і перамоўлюся асабіста. Гэты ўчастак пушчы праблематычны. Нам вельмі патрэбныя людзі, якія інкогніта будуць нам дапамагаць.

Яны селі ў брычку, і Рыгор паказаў кучару, куды ехаць.

Дарогаю галоўны распарадчык сказаў, што яму вылучылі эскадрон уланаў. Правядуць тут вучэнні. Уланы будуць чакаць вёрст пяць адгэтуль.

Пад’ехалі да хаты Ярашука.

— Давай зойдзем да яго ў хату, там і перамовімся, — тарганууся галоўны распарадчык.

Яны вылезлі з брычкі і накіраваліся ў хату. Дзверы адчыніліся, на парозе стаяў гаспадар і жэстам прапанаваў зайсці. Калі зайшлі ў хату, на іх утаропіліся дапытлівыя дзіцячыя вочы.

Іх высокаблагароддзе ўсміхнуўся і сказаў:

— Добра жывеш, Ахрэм, вось у цябе колькі багацця, — і рукою паказаў на дзяцей.

— Не жалюся, а жыву, як Бог дазваляе — на ўсё яго воля, — адказаў гаспадар.

— Лепш на вуліцы пагутарым, не будзем іх бянтэжыць сваёй прысутнасцю, — прапанаваў галоўны распарадчык.

Яны выйшлі на вуліцу.

— Дазвольце прадставіцца. Я галоўны распарадчык Белавежскай пушчы Таран Фёдар Канстанцінавіч. Маю чын палкоўніка, дараднік. Калі вы будзеце нам аказваць пасільную дапамогу, то можаце смела разлічваць на маё заступніцтва. Каб не было ў вас праблем, я пастаўлю ў вядомасць кіраўніцтва мытнай службы і кордоннай варты, што вы наш чалавек. Але гэта ўсё толькі пры станоўчым зыходзе справы.

— Я ўжо казаў вашаму памагатаму, што згодзен. Паўтару і вам, зразумела, вашу прапанову прымаю.

— Ну, вось і выдатна, прыемна было пазнаёміцца. Вось вам аванс.

— Можа, пазней, ваша высокаблагароддзе, а то раптам у мяне не атрымаецца, як задумалі, — спалоханна глядзеў на грошы гаспадар.

— Гэта за тое, што вы нам паказалі месца, дзе яны да нас праходзяць, — Фёдар Канстанцінавіч саўгануў грошы ў руку Ахрэма. — А каб усё атрымалася, памолімся Госпаду…

Обер-фарстмайстар кіўнуў галавою, павярнуўся і накіраваўся да павозкі, Рыгор пайшоў следам.

Калі зайшлі ў хату да Сцяпана, там за сталом сядзела пяцёра стражнікаў, якіх прывёў Ціхан. Обер-фарстмайстар сеў за стол, Рыгор паказаў намаляваную схему таго ўчастка, дзе меркаваўся захоп прускіх аматараў палявання. Фёдар Канстанцінавіч дастаў сваю карту і перанёс усё на яе. Трохі памеркаваўшы, ён пагадзіўся з планам захопу.

— Згодзен, план добры, — і пільна паглядзеў на стражнікаў. —Жадаў бы я паглядзець, як вы зуброў прывяжаце да дрэва.

— А можа, і не трэба прывязваць, — сказаў Рыгор. — Нарэзаць дробна бульбачкі, яблыкаў. Будуць стаяць і жаваць, а мы побач схаваемся.

— Пачакай, Рыгор, — з сумненнем круціў галаваю Фёдар Канстанцінавіч. — А як яны вайсковымі карабінамі бабахнуць?!

Обер-фарстмайстар падсунуў карту на цэнтр стала.

— Вось, калі іх прывабіць сюды, дзе толькі адна прасека, а дарог няма, сцяжынак, каб праслізнуць на кані, таксама няма. Можна гэтую прасеку з двух бакоў перакрыць. Вакол густы лес, конна не праедзеш. Вось тут іх трэба браць! — галоўны распарадчык старанна тыцкаў алоўкам у карту. — Схавацца за дрэвамі і страляць для страху ў паветра халастымі, а калі акажуць супраціў, страляць з-за дрэваў стрэльбамі. Сцяпан, у цябе рыбалоўныя сеткі ёсць? — звярнуўся да гаспадара.

— Ёсць дзве, адна старая, яе латаць трэба, а адна цалкам новая, ёю яшчэ не карыстаўся, — адказаў Сцяпан.

— Вялікія, я маю на ўвазе даўжыні якой? — гарачыўся Фёдар Канстанцінавіч.

— Так, ваша высокаблагароддзе, не мераў, крокаў пятнаццаць будзе, можа, і больш. Тая, якую латаць трэба, будзе сапраўды крокаў пятнаццаць. А новую не ведаю, не мераў, — сцепануў плячыма гаспадар.

— Сцяпан, калі яны сюды праедуць на конях і стрэляць па зубрах, адразу сеці падняць між дрэвамі і перагарадзіць прасеку. Стрэльнуць для страху ў паветра і прапанаваць здацца ў палон, — галоўны распарадчык адкінуўся на спінку крэсла.

— Ваша высокаблагароддзе, жонка пытае, ці вячэру падаваць можна. — спытаў Сцяпан.

— Можна і трэба, — адказаў Фёдар Канстанцінавіч.

Гаспадыня пачала ставіць гарачае на стол.

За вячэрай Рыгор назіраў за начальствам. Той як ні ў чым не бывала спакойна разам з усімі еў простую ежу. Абыходзіўся без нажа. Цікава, дзе яго пакладуць спаць, добра, каб на печы. Ён уявіў, як іх высокаблагароддзе ў сподніках залазіць на печ і пры гэтым моцна крэкча. Ад гэтай думкі чамусьці стала смешна, і ён гучна засмяяўся.

Прысутныя павярнулі галовы ў яго бок.

Обер-фарстмайстар здзіўлена спытаў:

— Ты гэта чаго?

— Ды ўсё думаю, як мы зуброў будзем прывязваць.

Падзякаваўшы гаспадыні за смачную ежу, пачалі разыходзіцца на начлег. У гасцявым пакоі ўкладваліся хто дзе. Некаторым, хто быў маладзейшы, давялося класціся на падлозе.

Неўзабаве ў суседнім пакоі пачуўся храп галоўнага распарадчыка пушчы Фёдара Канстанцінавіча. Стражнікі і кучар пачалі душыцца ад смеху. Але смех смехам, а заснуць маглі толькі тыя, хто моцна стаміўся. З-за храпу обер-фарстмайстра некаторых сон змарыў толькі пад раніцу.

Прачнуліся, калі на вуліцы ўжо было светла. Перад сняданкам галоўны распарадчык спытаў:

— Ну як, прыдумалі нешта новенькае?

Стражнікі маўчалі.

— Так і ведаў, спалі без задніх ног. А я ўсю ноч варочаўся, ніяк не мог заснуць, думаў аб справе, — пасуровеў Фёдар Канстанцінавіч.

Рыгор паглядзеў на прысутных. Стражнікі сядзелі, апусціўшы галовы, стрымваліся, каб не зарагатаць.

Пасля сняданку галоўны распарадчык пушчы зноў разгарнуў карту, запаліў цыгарку, пастукаў пальцам.

— Не, я не бачу іншага месца. Толькі тут у нас ёсць рэальная магчымасць іх схапіць. Сцяпан, як бы нам гэтае месца агледзець?

Чатыры вершнікі, апранутыя па цывільнаму, адправіліся да месца, дзе пасвіліся зубры. Збоку можна было падумаць, што памешчык са сваімі рэзідэнтамі выехаў на паляванне. Па прапанове Сцяпана, каб не пакідаць слядоў, заехалі на прасеку з іншага боку. Рыгор прапанаваў злезці з коней і далей ісці пешшу. У гэтым месцы, недалёка, пасвіліся зубры, на прасецы былі бачныя іх свежыя сляды. Агледзеўшы ўсё, пачалі раіцца. З двух бакоў прасеку абступаў густы ельнік. У адным месцы лес быў радзейшы, праглядаўся крокаў на сто. Пракідаліся асобныя высокія хвоі, паміж якімі рос нізенькі хмызняк, далей ізноў суцэльнай сцяной ішоў густы ельнік.

— А дзе зубры — сляды бачу, а іх саміх нешта тут не відаць? — спытаў Сцяпана обер-фарстмайстар.

— Ходзяць недзе, — адказаў Сцяпан. — Куды захацелі, туды і пайшлі.

— Так, карціна зразумелая, будзем браць прусакоў тут. Сама зручнае месца. Трэба вяртацца дадому, а то натопчам слядоў. А вы, хлопцы, — звярнуўся да Рыгора і Сцяпана, — падбярыце пару старых зуброў. На закланне, у ахвяру…

Аднаго зубра, старога, нямоглага знайшлі адразу — наткнуліся ў густым ельніку. Пачуўшы людзей, ён незадаволена рохнуў, але з месца не крануўся. Ціхан асцярожна падкраўся. Так, зубр быў перастарак. Параіўшыся, вырашылі яго выгнаць бліжэй да паляны. Зрабіць гэта было не так ужо і цяжка, да паляны было недалёка. Узяўшы ў рукі дубцы, пачалі трывожыць старога волата. Той, незадаволена рохкаючы, пасунуўся наперад, перавальваючыся з нагі на нагу. Калі турылі зубра, выпадкова наткнуліся на старую самку, вырашылі і яе патрывожыць. Яна аказала некаторы супраціў. Некалькі разоў паварочвалася, апусціўшы галаву з рагамі. Спрабавала нават атакаваць, але яе рухі былі ўжо запаволеныя, бяспечныя. Праз паўгадзіны двух зуброў стражнікі выгналі на паляну. Наламалі вялізную гурбу маладых галінак, зубры падышлі да яе і пачалі жаваць. Прынялі рашэнне пакінуць іх тут, куды яны пойдуць?!

Раніцай, яшчэ зацемна, занялі кожны свой пост: Ціхан схаваўся ў ельніку недалёка ад прасекі каля паляны, Сцяпан засеў у хмызняку поруч статка зуброў. Рыгор пільнаваў хату Пупка.

Толькі бліжэй да поўдня глуха бразнулі дзверы, і на падворку з'явіўся гаспадар. Ён быў без сваёй знакамітай стрэльбы, без сабак. Подбегам накіраваўся ў лес. Некаторы час Рыгор яго суправаджаў, трымаючыся воддаль. Але, пераканаўшыся, што ён накіроўваецца прасекай у напрамку будана, вярнуўся да свайго жарабца.

У гэты час Ціхан са схованкі назіраў за прасекай і палянай. На лужку, у пяцідзесяці кроках ад яго, спакойна пасвіліся два ўчарашнія зубры. Ляжаць без руху было холадна. Вакол цесна стаялі разлапістыя таўшчэзныя елкі. Густы ельнік не прапускаў ветру, было ціха. Толькі папісквалі птушачкі.

Раптам у нетрах асенняй пушчы прагучаў трубны рык аленя. Далёкае рэха кахання неслася над векавым лесам. Ціхан усміхнуўся і ўявіў, як у гэты момант алень закінуў галаву і раве так, што аж сутаргай яму падводзіць жывот.

Тут да яго слыху данёсся шоргат лісця пад нагамі. Ціхан напружыўся. Прасекай рухаўся чалавек і ўважліва разглядаў сляды і шныраў вакол вачыма. Калі амаль параўняўся з тым месцам, дзе ляжаў Ціхан, спыніўся. Некалькі імгненняў глядзеў на зуброў, потым асцярожна пачаў адыходзіць. З-пад калматых броваў вочы свяціліся радасцю. Шпаркімі крокамі вярнуўся туды, адкуль выйшаў.

Ціхан зразумеў, што гэта быў Пупок. Трохі зачакаўшы, падняўся і накіраваўся да Сцяпана. Ён апісаў чалавека, якога бачыў, так яно і было — Пупок. Цяпер можна было спакойна вяртацца да галоўнага распарадчыка пушчы — асноўнае зроблена.

У суботу ў Сцяпанаву хату зайшоў Ахрэм. Усе выйшлі ў суседні пакой, за сталом засталіся Сцяпан, Рыгор, Ціхан і обер-фарстмайстар.

Іх высокаблагароддзе прапанаваў Ахрэму сесці.

— Ну, дакладзі, галубчык! Якія весткі?

— Сёння раніцай Пупок з'явіўся за кардонам. Каля гадзіны круціўся каля прускіх вайскоўцаў. Да яго выйшлі два чалавекі ў афіцэрскіх мундзірах, доўга гутарылі. Адзін з іх паляскаў Пупка па плячы і нешта яму даў. Можа, і грошы. Таму што адразу ж, як толькі яны рассталіся, Пупок накіраваўся ў

піўніцу. У мяне там жыве сваяк. З яго хаты, з акна, я і назіраў за ім. Па маёй просьбе сваяк схадзіў туды, каб паглядзець што ён робіць. Сваяк сядзеў там, пакуль Пупок не выйшаў. З яго слоў, ён спачатку выпіў піва, потым дадаў гарэлкі і пайшоў у напрамку кардона. Я ішоў за ім на некаторай адлегласці, мяне ён не бачыў. Вось і ўсё.

— Дзякую, Ахрэм, вяртайся дамоў і нікуды не хадзі. Адпачывай.

Калі Ахрэм сышоў, іх высокаблагароддзе працягнуў нараду.

— Ну, лічу, сёння! Паклічце сюды стралка.

Стралок выйшаў з суседняга пакоя.

— Сядлай каня і скачы на суседні абход. Скажы стралкам, каб пры парадзе, у мундзірах імчалі сюды. Зразумела? Выконваць!

Пасля сыходу стралка Фёдар Канстанцінавіч паскроб падбароддзе і звярнуўся да прысутных:

— А мы зробім так. Ты, Рыгор, надвячоркам схаваешся ў тым месцы, дзе яны ракой выязджаюць на грудок. Пералічы іх і паглядзі, колькі ў іх стрэльбаў. Тады едзь да нас, а далей — у свой будан.

Рыгор падняўся і выйшаў.

— Ты, Сцяпан, едзь з Ціханам на паляну, праверце, ці зубры на месцы, — працягваў інструктаж обер-фарстмайстар. — Захапіце для іх бульбачкі, яблыкаў — зрабіце ўсё, каб яны былі на месцы. Таксама апраніцеся цяплей. Але папярэджваю, блізка да будана не падыходзьце. Здаецца, усё…

Вось што яшчэ. Праверце сваю зброю, яна павінна быць у поўным парадку. Задача ўсім зразумелая? Можаце прыступаць. З Богам!

Рыгор глядзеў на ваду рэчачкі. А вось і госці! Па рэчышчы рухаліся вершнікі. Рыгор пачаў ціха церабіць і гладзіць карак жарабца, каб не хроп і, не дай бог, заіржаў.

Вось вершнікі выехалі з ракі і спыніліся. Адзін з іх саскочыў з каня і ботам зацёр на беразе сляды конскіх капытоў.

Рыгор пералічыў іх. Шэсць чалавек. Адзежа цывільная, простая. Трое з паляўнічымі стрэльбамі. У аднаго на скураным рамяні ў футарале нешта вісіць. Надвячоркам і не разабраць, што гэта. Вершнікі зніклі ў лесе якраз у тым месцы, адкуль пачыналася прасека.

Рыгор вычакаў хвілін дзесяць і выехаў з хованкі. Паціхеньку, крокам, паехаў у зваротным накірунку. Ноч уступіла ў свае правы, зрабілася халодна, няўтульна.

Фёдар Канстанцінавіч вячэраў. Убачыўшы Рыгора, ён ускочыў.

— Не цягні, хутчэй дакладвай!

— Ваша высокаблагароддзе, іх шэсць чалавек. Стрэльбы бачыў толькі ў трох.

— Ну, дзякуй богу! — обер-фарстмайстар зноў сеў за стол, стаў вячэраць далей.

— Пайду, ваша высокаблагароддзе, — падняўся Рыгор. — Зірну, што там робіцца, каля будана. Як тыя прусакі начуюць. Як толькі яны выедуць — паведамлю вам.

— З Богам, Рыгорка, з Богам.

*Заканчэнне ў наступным нумары.*

## Людміла КЕБІЧ



### СУМНЫ ВЕЧАР

Сумны вечар пераплыў у ноч,
Поўную сумневу і трывогі.
Я цябе сама прасіла: «Збоч!
Назаўжды сыдзі з маёй дарогі».

За акном, над цішаю ракіт,
Плёскаецца ў зорным моры поўня.
Той касмічны, нежывы блакіт
У вачах тваіх дагэтуль помню.

Нікуды не дзецца ад яго,
Хоць за даллю год далекавата.
З дня наканаванага таго
Не было ў мяне ўжо болей святаў.

Белы дзень ператварыўся ў ноч,
А жыццё — суцэльнае чаканне.
Я цябе сама прасіла: «Збоч!»
А цяпер вымольваю вяртання.

---

**Кебіч (Вайтулевіч) Людміла Антонаўна** *нарадзілася 17 ліпеня 1951 года ў гарадскім пасёлку Краснасельскі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла аддзяленне тэорыі музыкі Маладзечанскага музычнага вучылішча (1971), філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы (1981). Працавала выкладчыкам музычна-тэарэтычных дысцыплін у Гродзенскім дзяржаўным каледжы мастацтваў. Цяпер — старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар паэтычных кніг «Па музычных законах» (1996), «Зялёная рутвіца» (2001), «На беразе белай ракі» (2003), «Ключы ад Неба» (2005), «Светач мастацтва» (2008), «Непераможны колер охры» (2008) і інш.*

## БЫЦЬ ВЯСНЕ

Няўжо не скончыцца зіма
Ў маёй душы ніколі,
Няўжо навек яе турма
І не відаць мне волі?

Крышталь халодны ледзяша,
Сляза — вугельчык болю.
Ты не была, мая душа,
Такой яшчэ ніколі.

Чаго згарнулася, скажы,
У стоме і знямозе?
Звіняць, ты чуеш, капяжы,
На злосць перасцярозе.

А гэта значыць, — быць вясне,
Бялець вясельнай рутай,
І быць табе, нібыта ў сне,
Свабоднай і раскутай.

## АЛЬТ

Бягу, абцасікі збіваю
Аб мокры снежаньскі асфальт,
Рукой шчасліва абдымаю
Стары, самотны, добры альт.

Ён не патрэбен стаў нікому —
Другія песні ў маладых —
Але нясу яго дадому
І чую струн трывожны ўздых.

Ты не маркоцься, мой харошы,
Я струнам жар душы аддам.
Ні за якія, чуеш, грошы
Цябе ніколі не прадам.

Няхай сусвет у іншых рытмах
Ляціць у снежаньскую муць.
Мы з майстрам вытрымалі бітву,
Каб голас твой гаючы чуць.

Як шчасце, прадчуваюць пальцы
Наканіфолены смычок.
Па мокрым снежаньскім асфальце
Рытмую музыку — цок-цок!

* * *

Ты прачытаеш,
І ўсё зразумееш,
І ад аголенай праўды
Знямееш.

Боль невыцерпны
З-за літар праступіць,
Памяць абвострыць,
Горыч прытупіць.

* * *

Паміж яснымі, яснымі
Небам і возерам —
Цёмная пляміна лесу.
Цёмная, але не страшная,
Проста вельмі кантрастная
З гэтай парой вясноваю,
З гэтай зарой ружоваю,
З тым, што ты побач са мной.

* * *

Ты пайшоў — і гара з плячэй,
І лятаць, і дыхаць лягчэй,
І вярнуўся чаканы сон,
Гэткі мірны і залаты,
У які ўжо не прыйдзеш ты.

## КРЫНІЦА

І колькі б мы ні чэрпалі з крыніцы,
Каб жыватворнай чысціні напіцца, —
Не замуціць, не вычарпаць вады,
Яна пад небам сінім — назаўжды.

## АД БЕРАГА ДА БЕРАГА

Ад берага да берага — вада, вада,
Ад сэрцайка да сэрцайка — журба, журба.
Ад лецейка да лецейка — каханне баль,
Ад восені да восені — расстанне жаль.

Калі мы сустракаліся, — вясна цвіла.
Якой недаўгавечнаю любоў была!

Калі мы расставаліся, — звінеў мароз,
І стыла я, самотная, ад горкіх слёз.

Упала маё шчасцейка ў палын-траву.
Даўно з другою ты. А я?.. І я жыву.
Ад берага да берага — вада, вада…
Ды толькі невычэрпная мая журба.

## ВОСЕНЬСКАЕ

Якая свету прыгажосць лягла навокал!
Гарыць апошняе лісцё пад кожным крокам.

Прыселі стомлена вятры на клён вячысты.
Мне дворнік: «Ногі абатры! Ступай, дзе чыста».

О, каб магла я абысці па тратуары
Той чорны дзень, што шалясціць і гасіць мары.

Таму напоперак іду перасцярозе
Па… — а на радасць ці бяду? — сваёй дарозе.

На плечы цісне небасхіл і колер шэры,
І гэты вогненны насціл казыча нервы.

І мы, як гэты будні дзень, заўжды на ўзмежку…
Таму, чым горай лёсу цень, — шырэй усмешка.

## ЧЫТАЮЧЫ МІЦКЕВІЧА

Адам Міцкевіч. Знаны том санетаў.
На мове польскай. Гойныя радкі!
З палёў Радзімы — у вянок паэту —
Збіраю кветкі лёсу — васількі.

Ад цёплай, шапатлівай Вашай мовы
І мне на сэрцы робіцца святлей.
І ўжо нішто халодныя Пакровы
І чорны змрок аголеных алей.

І ўсведамляю — Вы ўсё напісалі,
І праз гады пачуццяў свет не згас…
Санеты Вашы — вечныя скрыжалі,
Дзе праступае так выразна час.

## Аліна ЛЕГАСТАЕВА



* * *

Стаіць, як здань, спусцелая хаціна —
Ніцее пустазелле на страсе.
Жалобай выспявае канюшына,
І плот ад непрытомнасці асеў.

Жыццё тут адбылося і памерла,
Як снег у вымярэнні веснавым.
А шэры комін з пашчай ачарнелай
Глядзіць у неба позіркам савы.

* * *

За калючаю сцяной,
За кустамі ружаў
Дом, спавіты цішынёй,
Дажывае скрушна.

Мой знядужалы сваяк,
Кволы і самотны,
Разважае мудра так
Пра жыцця турботы.

Радасць тут жылі і смех,
Песні і лялёкі.
А цяпер ад тых суцех —
Сіні сум агорклы.

---

**Легастаева Аліна Антонаўна** *нарадзілася 27 ліпеня 1941 года ў вёсцы Верацеі Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла факультэт хіміі і біялогіі Віцебскага педагагічнага інстытута (1965). Настаўнічала ў Ашмянскім раёне, працавала ў дзіцячым садку ў Вільнюсе, на будаўніцтве БАМа. Жыве ў Мінску.*

*Аўтар паэтычных кніг «Яшчэ да Евы я жыла» (1998), «На вертикали сердца» (1999), «Яблочный Спас» (2008).*

І чакае госця дом,
Чысты і прыветны,
І пад сонечным акном
Весялеюць кветкі.

* * *

Стомленыя плёсы,
Маладыя хвілі.
Мы з табою лёсы
Так і не злучылі —
Ні вянкамі кветак,
Ні падманам рук.
Рваўся апраметна
На паўслове гук.
Квецень залатая
Апляла сады.
Я не маладая,
Ты не малады.
Мроі, як пялёсткі
Ў кветачках, змярцвелі.
Як туманаў косы,
Адплылі надзеі.
Звабна да світання
Сцішаныя хвалі
Вуснамі расстайна
Бераг цалавалі…

* * *

Нечаканыя фарбы з’яўляюцца ў сне.
Нечаканыя думак страляюць маланкі.
Нечаканая радасць таму і ў цане,
Што не трэба чакаць абяцанак.
Нечаканасць сустрэч, як была, так міне.
І жыццё насамрэч — нечаканасць, ці не?

* * *

Яшчэ не дзень,
                    але зусім не ноч —
Празрыстай восенню так падступае ранак.
Хоць сонейка пакуль што не відно, —
Махнуў крылом між воблакаў світанак.
На ўсходзе небакрай паружавеў,
Прачнуліся і колеры, і фарбы.

Над хатамі,
як свечкі,
кроны дрэў
Затрапяталі золатам пажарным.
І першы птах узняўся на крыло,
Ляціць,
як мара,
над жыцця улоннем…
Пераадолеўшы начное тло,
Халодны промень лёг зямлі на скроні.

* * *

Да сенцаў венік туліцца,
Як дзед да цёплай печы.
Згарбацілася вуліца —
Лёс горкі пакалечыў.

Прыступкі ганка шчэрацца
Бяззубасцю старэчай.
Гарачым лісцем верасня
Панылы сад трапеча.

І быльнік-пракаветнік
Спавіў туману кужаль.
А састарэлы кветнік
Сніць вочы белай ружы.

* * *

Пялёсткі позняга рамонка
Ківалі так прыветна.
І чулася вятроў гамонка
Пра ганарліўку кветку.

А кветка на сцяблінцы тонкай —
На скамянелай цвердзі —
Стаяла ў перадзімак звонкі
Як выклік белай смерці.

І так у ёй жыццё гарэла,
Бы сонцаў сем ці восем…
І радасцю асірацелай
Сагрэла сэрца восень.



**Алесь МАКОЎСКІ**

# ГОРА ГОРКАЕ

*Апавяданне*

**Адзіны** ў старой Лявоніхі сын Адам вячэраў — сёрбаў з алюмініевай міскі нішчымную капусту. На стале, засланым старой цыратай, стаяў на днушцы і маленькі чыгунок з варанай у лупінах бульбай. Праўда, маці крыху заправіла капусту старым здорам, але ж гэта не патэльня са смажаным салам, на якую ён і сёння спадзяваўся.

— Застаўся ў кубельцы адзін кавалачак, — прыціскаючы да грудзей бохан хлеба і адразаючы лусту, патлумачыла старая. — Праз які дзень Вялікдзень. Трэба ж нешта пакінуць на свята.

Адам еў і раз-пораз злосна зыркаў на экран чорна-белага тэлевізара. Там якраз ішла цікавая перадача. Вясёлы, гаваркі, з пышнымі, светлымі вусамі вядучы, як заўжды, прымаў шчодрыя падарункі. На гэты раз гасцінцы былі асабліва багатымі і разнастайнымі: пітва — заліся, закусі — хоць пупок развяжы. А калі нейкая маладзіца паклала перад вусатым ладны кавалак беларускага сала з прорасцю (Адам быў упэўнены, што там яна, прорасць, ёсць) і паставіла пляшку хлебнай самагонкі, ён ажно папярхнуўся.

— Маці, а маці! Паглядзі, што робіцца... Мне за вядро камбікорму год прыпаялі. А гэты на вачах усяго белага свету хабар бярэ, і яму хоць бы хны. Во ўладкаваўся!

— Што ж ты хацеў, сынок? Чалавек гарэлкі не піў. Вучыўся. Вывучыўся — цяпер лапатай грошы грабе, — азвалася з кухні Лявоніха, — а ты скажы дзякуй Богу, што ў каталажку не пасадзілі, умоўна далі. Прабадзяўся год, а маглі ж...

---

**Макоўскі Аляксандр Пятровіч** *нарадзіўся 17 сакавіка 1943 года ў в. Павуссе Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскае будаўнічае вучылішча і Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Тры гады служыў у Савецкай Арміі, працаваў мулярам на будоўлі, наладчыкам на заводзе, літсупрацоўнікам аршанскай аб'яднанай газеты «Ленінскі прызыў», у шматтыражцы «Трактар» (г. Мінск), загадваў аддзеламі рабочай і сельскай моладзі газеты «Чырвоная змена». Працаваў рэдактарам часопіса «Служба быту Беларусі», у часопісе «Вожык», загадчыкам Выдавецка-інфармацыйнага цэнтра Нацыянальнага банка Беларусі, рэдактарам часопіса «Банкаўскі веснік», у Нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь.*

*Выдаў дзве кнігі нарысаў «Сябры-таварышы» і «Майстры добрага настрою», з'яўляецца адным з аўтараў калектыўнай кнігі прозы «Ранішняя дарога», зборнікаў сатыры і гумару «Крыштальная душа» і «Кубік Рубіка».*

— Што ты, маці, мяне поедам ясі? Прабадзяўся, прабадзяўся... Куды мне падацца? — усхадзіўся не на жарт Адам.

Лявоніха нават спудзілася, ажно скаланулася. Кінула позірк на падаконнік. Там, за фіранкай, ляжалі тры галінкі асвенчанай вярбы. Дзякуй паштарцы Алене — пасвянціла. Старая ўсё збіралася пакласці галінкі за абраз Хрыста Збавіцеля, які вісіць на куце ў кухні. Нават была прымеркавалася стаць на табурэтку, ды боязна, гады не тыя. Так і ляжаць на падаконніку. «Пасвянцаю яго, можа, чорт адступіцца», — падумала Лявоніха.

Не я б’ю, вярба б’е
За тыдзень — Вялікдзень.
Будзь здаровы на ўвесь год,
Як лёд.

Сцёбала ашчадна, ледзь-ледзь краналася сагнутай спіны сына мяккімі коцікамі.

— Які тыдзень да Вялікадня? Ты, што, маці, ужо з глузду з’ехала? Паслязаўтра Вялікдзень, — рэзка павярнуўся і нядобра варочаў бельмамі Адам.

— То я ж знаю, сынок, знаю. Але ж так нябожчыца маці мяне некалі свянцала, — апраўдвалася старая.

Якраз у гэты момант вядучы перадачы вырашыў пакаштаваць смакаты. Наліў у чарку сабе і маладзіцы. Выпіў і нават вочы заплюшчыў. Адама ад злосці ажно трэсці пачало.

— У музей! — зычна скамандаваў вусаты, і цыбатыя, заголеныя дзяўчаты хуценька прыбралі ўсе прысмакі.

— Які на хрэн музей! — узарваўся і нават адпіхнуў ад сябе міску з капустай Адам. — Усё выжлукціш сам. Эх-х -х... Убіцца б мне ў тваю шарашку! Хоць бы вартаўніком...

«Вартаўніком. Вартаўніком. Варта... А, можа, схадзіць на свінарнік да Рыгора? Гэны ж ніколі пустым не бывае. Ды і дапамог я яму...» — мільганула думка.

Ён кінуў лыжку, тая стукнулася аб чыгунок — зазвінела. Падняўся, рашуча зняў з цвіка завэдзганую ватоўку, апрануўся. Згроб са стала пачак цыгарэт і запалкі, трошкі падумаў, узяў з чыгунка дзве большыя, яшчэ цёплыя бульбіны і паклаў у кішэню. Выходзячы, знарок моцна бразнуў дзвярыма.

«Куды ж гэта ён насупроць ночы? — захвалявалася Лявоніха. — Хоць бы слова абярнуў. Усё ж маці я табе, не чужы чалавек. У цябе адна дарога, а матчына галава хай баліць...»

Старая цяжка ўздыхнула. Зусім забылася дроў на ноч у печ накласці. Узяла вілкі, але няма таго спрыту, што раней. Ды і вочы ўжо кепска свецяць. Паленцы скідваюцца з вілак, не хочуць класціся як належыць. Лявоніха нейкі момант стаіць, варушыць вуснамі, штосьці шэпча — не разабраць. Пасля бярэ табурэтку, прыкленчвае на яе, кладзецца жыватом на прыпек, усунуўшы галаву ў чалеснікі, накладвае дровы. Няхай сохнуць. Вылазіць з печы, ужо стоячы на яшчэ не мытай да Вялікадня падлозе, рукой выцірае ўзмакрэлы лоб і твар. Цяпер старая трошкі падобна на качагара. Яна і сама гэта адчувае. Таму глядзіцца ў цьмянае люстэрка і дзівіцца: «Каб хто ўбачыў — спалохаўся б. Гэткае страхоцце. Ай-яй-яй». Хацела спаласнуць рукі і твар, а вады ва ўмывальніку няма. Узяла пустое вядро, выйшла на ганак. Прыпынілася. Сцішылася. «Ранні сёлета Вялікдзень, ой ранні. Вясна, а цяпла няма. Вунь які вецер вільготны. Нават сабакі пахаваліся, не брэшуць. Днём яшчэ так-сяк. Сонца выгляне — быццам ужо і ватоўку зняла б. А вечарам, раніцаю, як мае быць холадна. Снег,

праўда, дажджы прайшлі — сагналі. А лёд застаўся. Ноччу, бывае, падмарозіць, патрэсквае пад нагамі. Ранні, ой ранні Вялікдзень».

Студня — цераз вуліцу. Слізка. Так-сяк дайшла. Выкруціла корбай вядро з вадою, узялася за почапку даставаць і паслізнулася. Выпусціла вядро, і тое са страшэнным грукатам паляцела ўніз. Добра, што паспела адхіснуцца, і жалезная ручка корбы са свістам крутанулася каля самай скроні.

— Няма каму і лёд збіць, — услых жаласліва гаворыць старая і зноў памаленьку накручвае ланцуг на корбу. «Мой сыночак дома не стыкаецца. А суседзі таксама старыя, ходзяць — за платы трымаюцца».

Нясе Лявоніха ваду асцярожненька, як свянцоную. Ды ўжо каля самага ганка зноў паслізнулася. Праўда, на нагах утрымалася, але сцюдзёнай вады ў валёнак наліла. Увайшла ў хату, прысела на табурэтку і крышку паплакала. Успомніла свайго руплівага гаспадара нябожчыка. Паскардзілася на сына: што не слухае, рабіць нічога не хоча…

Вочы плачуць — рукі робяць. Насыпала з каша ў вялікі чыгун бульбы парасятам-асенчукам і курам, а вось паставіць на прыпек — зноў пакуты. Падсобіла каленам, так-сяк паставіла, наліла вадою і адтралявала ў печ. Цяпер можна рукі і твар памыць. «Толькі дзе ж гэта сынок швэндаецца?»

Адам раз-другі пагрукаў нагою ў дзверы свінарніка і пачуў:

— Каму, на хрэн, не спіцца?

— Давай, адчыняй. Гэта я...

Адна палова са скрыгатам адчынілася. У нос ударылі смурод, тхліна, сырасць. З аднаго позірку на сябрука Адам зразумеў, што той у гуморы. Рыгор скаліў шчарбатыя жоўтыя зубы, хітрыя шэрыя вочы смяяліся, на сытым твары распаўзлася лагода. «Значыцца, захмяліў лыч. Ён у настроі бывае, калі ўмажа. А так ходзіць насупіўшыся: воўк воўкам».

— Праходзь. Пакурым.

У адной з загарадак уз’юшыліся свінні.

— Пачакай. Я іх зараз супакою.

Рыгор пайшоў у кладоўку, узяў сякеру і накіраваўся да загарадкі. Перахіліўшыся, ці не з усяе моцы гахнуў абухом паміж вушэй адной, другой злаўчыўся — гахнуў па спіне. Свінні, буксуючы заднімі нагамі па мокрай падлозе, разбегліся па кутках. Рохкалі, вухкалі, круглымі вачыма з-пад абвіслых вушэй сачылі за сваім жудасным гаспадаром.

Адам прыгадаў, як, будучы вартаўніком на кароўніку, выструньваў кароў. Варта было яму з дрынам у руках з’явіцца на цэнтральным пралёце, як каровы мігам прыбіралі ногі з канаўкі, па якой сцякала гнойная жыжка. Калі ж якая марудзіла, не паспявала — у ход ішла доўбня. Даяркі сварыліся, паказвалі знявечаныя ногі жывёлы загадчыцы фермы, але далей справа глухла. Адама баяліся. Да таго вядра камбікорму, з якім і напароўся на старшыню калгаса.

— Ну, што ў цябе? — аббіваючы ад дзярма аб бетонную падлогу боты, спытаў Рыгор.

Адам з зайздрасцю паглядзеў на наваксаваныя кірзачы сябрука. Зірнуў і на свае латаныя гумовікі, у якіх прасоўгаўся ўсю зіму.

— Нутро гарыць. Трываў, трываў... — выціснуў у адказ.

— Слабак. Бяры прыклад з мяне. Разам жа пілі. Ладна, пайшлі ў кануру.

«А і праўда, слабак гэты Адам. Учора, як пілавалі дровы, то так і мерыўся ўхапіцца за верхавіну, пакідаў камель яму. Вунь, высах у шчэпку. Шчэццю аброс. Хоць бы пагаліўся...»

У так званым пакоі адпачынку свінарак, на стале, збітым з нястругана дошак, на разасланай газеце валяліся кавалачкі хлеба і скрылік сала. Рыгор дастаў знекуль паўбутэлькі самагонкі і шклянку.

— Сядай, пахмяліся…

Адам дрыготкай рукой ухапіў замурзаную шклянку з мутнаватай гарай, залпам выпіў. Перавёў дух, прыслухаўся. «Градусаў сорак. Крыху паленая. Але харошая. Дзе ж ён, гад, надыбаў?»

Унутры запякло, стукнула ў галаву, кроў запульсавала, і па целе разлілася прыемная цеплыня.

— Забіў чорта? — ухмыльнуўся Рыгор.

Адам моўчкі кіўнуў галавою, яшчэ раз хакнуў і пацягнуўся па кавалачак хлеба. Сала браць не стаў. А сябра і не прапаноўваў. Адкрыў бутэльку, разявіў рот, выліў рэшткі самагонкі ў горла, і за раз каўтануў.

Самагонка быццам у каналізацыйную трубу правалілася. Адам са шкадаваннем паглядзеў на пустую бутэльку і на скрылік сала, які апынуўся ў роце сябрука.

— Твая дома? — спытаў.

— А дзе ёй быць? Марафет наводзіць. Вялікдзень жа...

Памаўчалі. Выкурылі па цыгарэце «Астры». Шызы дым распаўзаўся, калыхаўся, паціху выходзіў у адчыненыя дзверы. За старой шафай, у якой даглядчыцы вешалі рабочыя халаты, зашамацелі і запішчалі мышы. З-пад стала вылезла рыжа-белая, брудная кошка. Навастрыла вушы, растапырыла вусы, варухнула хвастом, упілася вачыма ў кут, дзе і стаяла шафа. Мышы, як па камандзе, сцішыліся. Кошка прысела на заднія лапы, лісліва паглядзела на Рыгора: ці не кіне чаго? Той раптам зарагатаў:

— Слухай, што сёння было. На досвітку падняўся. Смажыла. Уключыў святло. А тут, чую, мой бандыт тэпае. Пісяць прыперла. Вочы заплюшчаны, намацаў нагою вядро і задзюрчаў. Што ў вядро, а больш — на сцяну. «Ты што, у вядро не можаш пацэліць?» — крычу. А ён, ведаеш што? Ты, кажа, не баціш? Я яго ў дзве луцкі тлымаю, а ён вылываецца. Гы-гы-гы...

— Атлёт у цябе расце, — пахваліў Адам сябруковага сына, дастаў з кішэні дзве бульбіны і паклаў на газету. — Не пашкодзіла б яшчэ ўмазаць. Твая не пазычыць на пляшку?

— Хочаш па галаве паленам — схадзі. Я не пайду, — вызверыўся Рыгор.

Выпітае развярэдзіла душу. У сярэдзіне ўсё гэтак жа гарэла, пякло, туман у галаве не праходзіў.

— Ты, кныр, — пагрозліва і глуха загаварыў Рыгор, разумеючы яго. — Ёсць адзін варыянт. Я дапамагу табе. У апошні раз. Ды мне і самому не пашкодзіць спаласнуць мазгі…

Паглядзеў доўга-доўга ў галодныя вочы Адама. На момант завагаўся. Нетаропка дастаў з пачка цыгарэту, прыкурыў, пусціў цераз ноздры дым. Ён быў з тых людзей, якія п’юць многа, але могуць у патрэбны момант спыніцца. Ва ўсялякім разе, ён лічыў сябе такім. Цяпер жа зноў нешта ныла пад лыжачкай, смактала, варочала, патрабавала дабаўкі. Галава сціскалася і гатова была лопнуць.

— Слухай,— сказаў ён...

Лявоніха працадзіла малако, наліла рысцы ў кансервавую бляшанку.

Сама яна ў гэту пятніцу пасціла шчырым постам. Засталося завесці будзільнік і можна класціся спаць. Будзільнік у старой — вялікі гультай. Званіць ён ужо даўно перастаў. Апошнім часам і ісці не хоча. На ножкі паставіш — не цікае, пакладзеш дагары — па-а-а-йшоў. З характарам гультай.

Ну, а цяпер на печ. Яшчэ днём, каб не астыла, яна накрыла яе старой коўдраю. Стала на зэдлік, падсунула пад коўдру рукі на сярэдзіну печы: як бы правярае, ці жывая?

— Ага, цёпленькая. Зараз жа я, печачка, лягу. Нацягалася за дзень, жывога месца няма на мне, — лагодна шэпча Лявоніха і зручней умошчваецца на выцертых цаглінах.

Рыска ўжо тут, лыпае вачыма, курняўкае, чакае, пакуль гаспадыня ўляжацца. Пасля шыецца да старой пад паху і заводзіць спрадвечную кашэчую песню. Лявоніха ляжыць, слухае, як разліваецца па целе цеплыня. Хораша. «Каб жа яшчэ ручкі і ножкі не балелі... Але ж баляць. У кожным суставе, кожная костачка. Яна ўжо і чыстым авіяцыйным бензінам, і першаком націрала, лопух прыкладвала... Чаго толькі не рабіла. Нішто не дапамагае. Нейкі чорт, як убіўся ў косці — не выгнаць. Каб жа яшчэ сынок здароўечка не еў...»

Але з сынком ладу няма. Адзін жа ён у старой. Доўга Бог дзяцей не даваў. Ужо і надзею страцілі. Урэшце, Бог даў, ды розуму забыўся ў галаву ўкласці. Пад трыццаць, а не жэніцца. Лайдакуе. Да Вялікадня стала печ бяліць, занавескі мыць — рукі апускаюцца. Каб не саромелася людзей, то няхай бы яно ўсё так і заставалася. Але ж людцы засмяюць. А яна ж і пляшачку ў кааперацыі ўзяла, прыхавала на свята. Для яго.

Усё перабрала ў памяці Лявоніха: даўнішняе і цяперашняе. Урэшце, думкі пачалі блытацца, ірвацца, кудысьці сплываць. Яе паціху агарнуў трывожны, заечы сон. Не то спіць старая, не то трызніць. І прысніла свайго гаспадара. Увесь у белым, валасы, бытта снег, вочы спакутаваныя, высокі і худы. Глядзіць на яе, Лявоніху, жаласліва пытае: «Дзе гэта, маці, наш сын? Ты не ведаеш?»

Нібы токам працяло старую. Заварушылася на печы, сэрца грукоча — гатова вырвацца з грудзей.

Упоцемках спусцілася на стылую падлогу. Вобмацкам падышла да стала на кухні, падняла будзільнік. Жмурыла вочы, шавяліла губамі, доўга ўзіралася, прашаптала: «Тры гадзіны. Дзе ж ён?»

— Слухай! — паўтарыў Рыгор. — Ёсць выйсце.

Тлумачыў дзелавіта, упэўнена, з усімі падрабязнасцямі. Відаць, план выспяваў не адзін дзень. Адам слухаў, ва ўсе вочы глядзеў на сябрука, у душы расла надзея. У гэты момант ён захапляўся Рыгорам. Гатовы быў моцна абняць.

— Ліст шыферу здымем, каб не пабіць. Я цвікі загадзя вырваў, — ужо ідучы, працягваў удакладняць падрабязнасці Рыгор. — Прывалачом — да Насці пойдзеш адзін. Мне не варта паказвацца на вочы...

Здзіўлена трапяталі ў небе зоркі, нібы ад сораму схаваўся за цёмную аблачынку бледны месяц, сціх у канцы вёскі і галодны сабака — калі двое выпівох цягнулі на продаж… новы туалет.

План быў просты. У цёткі Насці струхлела і завалілася на бок прыбіральня, а рабочыя, якія выштукоўвалі новы туалет для свінарак, не ўкапалі стойкі — зямля была мёрзлая — паленаваліся. Збілі каробку на зямлі і паставілі на сілікатныя блокі. Зваліць яе — раз плюнуць. Справа спорылася. Адам пераперазаў лейцамі шпакоўню, упрогся, Рыгор ускінуў на плечы ліст шыферу.

Свінарнік стаяў на ўзгорку, і па лядку, хоць і крохкаму, шпакоўня ехала з трэскам, шумам, але лёгка. Спусціліся на загуменні — Адам узмакрэў.

— Перакурым, — прапанаваў ён.

Усчалі гвалт сабакі. Спачатку ад блізкіх хат забрахалі, а пасля па ўсёй вёсцы.

Пакуль курылі, абмеркавалі важную для Рыгора праблему: вартуе ён туалет ці не вартуе? Атрымалася, што шпакоўня не ў яго кампетэнцыі. Бо стаіць наводшыбе.

— Прасі два літры, — павучаў Рыгор. — У яе ёсць. Пазаўчора выціснула. Я ўнюхаў пах брагі. На менш не згаджайся. Скажы, ліст шыферу — дзесяць тысяч, паўкуба дошак — мінімум пяцьдзесят. Два кіло цвікоў — восем тысяч. І работа. У крайнім выпадку — тры пляшкі.

Па ўхабістай дарозе шпакоўня забуксавала. Перці яе заставалася яшчэ метраў дзвесце. Упарыліся абодва, спыніліся яшчэ раз. Параіліся, як быць. Адам збегаў і прыкаціў сваю каламажку. Падзівіліся, што адразу не здагадаліся.

Падвезлі туалет пад самы ганак. Рыгор схаваўся за вугал хаты. Адам спачатку пагрукаў у дзверы, а пасля і ў шыбіну. Прытуліў вуха да халоднага шкла, прыслухаўся. Цётка Насця доўга не азывалася, пасля нешта забубнела, урэшце.

— Хто?

— Гэта я — Адам. Зрабіў табе да свята новы туалет. Не пашкадуеш.

Нейкі момант кабета вагалася. Відаць, разважвала: адчыняць ці не адчыняць? Ляснула завалай, зарыпелі дзверы.

— Носіць цябе нялёгкая, — забурчала яна. — Што ты хочаш?

— Глядзі, цётка, — і ён паказаў рукою на шпакоўню.

Неба выяснілася. Не сказаць, каб на вуліцы было відна, але поўня высвечвала і каробку з новых хваёвых дошак, і ліст шыферу, што адсвечваў свінцовым бляскам. Кабеце карцела займець такую штуковіну, ды штосьці стрымлівала. Павагаўшыся, спытала:

— Колькі ж ты хочаш?

Пачаўся гандаль. Адам ведаў, што іхнюю гамонку чуе Рыгор і настойваў на трох бутэльках.

— Ты ж, цётка, паглядзі. З усімі зручнасцямі: во, вентыляцыя, во, акенца — асвятленне... А ты шкадуеш пляшку гары…

— Сёння я табе шпакоўню не пастаўлю — позна. Адвязу пад хлеў — хай ляжыць. Прыедзе зяць — удвух усё зробім.

Згадка пра зяця была вельмі дарэчы. Кабета здалася, без лішніх слоў згадзілася.

І ў гэтым таксама была свая хітрасць. Рыгор прадбачліва папярэдзіў яго: туалет закінь за тыльную сцяну хлява — далей ад вачэй. У свята зяць не адважыцца рабіць. Пройдзе нейкі тыдзень, а там усё ўляжацца…

Адам узяў вялікі нож са стала, абабраў дзве бульбіны, нарэзаў тонкія крышаны. Прыселі. Апаражнілі адну, прыняліся за другую пляшку. Ім было весела. Іх распірала ад сваёй значнасці, важнасці, а найбольш ад удала абцяпанага дзела. Невялікі пакойчык падаўся цесным — выйшлі да свіней. Раптам Адам стаў, ляпнуў сябе рукамі па худых сцёгнах у брудных нагавіцах, прытупнуў нагою і хрыплым голасам заспяваў:

— Чо-о-о-рны бампер, чо-о-о-рны бампер…

— Дурыла! — Астудзіў сябрука Рыгор. — Не бампер, бумер. Глядзі, як трэба…

Ён расшпіліў ватоўку, збіў на патыліцу кепку, стукнуў кірзачом аб бетонную пліту, моцна хіснуўся і зацягнуў:

— Пра-а-а-дам гіта-а-а-ару — ку-у-уплю казла. Пра-а-а-дам казла — ку-у-у-плю вінца… Во як трэба! А ты — «бампер, бампер»…

Аднак Адам не думаў так лёгка паддавацца, хоць яму і спадабалася песня пра казла. Ён брудна вылаяўся і хацеў пайсці ўпрысядкі. Прысеў, выкінуў правую нагу і… сеў азадкам на халодны бетон. Ужо седзячы, выкрыкваў:

— Опа! Опа! Без… сала… усохла — попа!

— Га-га-га, — іржаў на ўвесь свінарнік Рыгор.

Паўставалі свінні. Вылупілі вочы, глядзелі на людзей. Паселі на бэльках, звесілі вострые морды і доўгія хвасты пацукі. Іх тут была плойма. Ачмурэў і зваліўся аднекуль з-пад страхі ў загарадку да свіней малады шызы галубок…

Уволю нацешыліся, у абдымку падаліся працягваць баль. Адам адкаркаваў трэцюю бутэльку. Закусі не заставалася. Выпілі. Закурылі. І тут вочы дзябёлага вартаўніка пачалі шклянець. Ён невідушча пазіраў, пачынаў штосьці вярзці і не заканчваў. Урэшце нахіліўся на бок і заснуў. Адам закінуў ногі сябрука на лаву, і той захроп.

«Сла-а-а-бак. Сла-а-а-а-бак. Во хто з нас слабак! Нездарма ты, як пілавалі дровы, меркаваў ухапіцца за танчэйшы канец. Не, браце, тлушч мужчыну толькі псуе. Мужчына павінен быць худы і жылісты. Як я».

Адам яшчэ крыху пасядзеў. Страшэнна захацелася есці. У жываце бурчала. Сліна цякла. Узяў са стала востры нож, пакруціў у руках.

Ён ведаў, як гэта рабіць. Ва ўсёй вёсцы не адшукаць было лепшага спецыяліста. Каб закалоць і разабраць свінчо, злупіць з цяляці шкуру — усе ішлі на паклон да яго. Мірыліся і з тым, што, асмаліўшы кабанчыка, перш чым разабраць яго, ён абавязкова адразаў вуха, патрабаваў сто грамаў і солі. Гэта акрамя таго, што кожная гаспадыня пазней смажыла пячонку, ставіла на стол пляшку гарэлкі, на адыход давала свежаніну.

Трымаючы нож за спінаю, улукаткі, накіраваўся да загарадкі…

…Пасля ўсяго ўзяў ахапак саломы. Расклаў невялікае цяпельца. На нажы пакручваў вуха, пакуль на ім не запухірылася тонкая скура. Абшкроб, давёў да кандыцыі — жаўтаватага колеру. Яшчэ раз пачысціў, прытаптаў агеньчык, попел раскідаў…

Вярнуўся, наліў сто грамаў, выпіў. Больш не стаў — баяўся сябрука. Вуха з'еў без солі і хлеба. Зірнуў на гадзіннік: было тры ночы. Да хаты не пайшоў. Ачухаецца Рыгор, можна будзе апахмяліцца. З усяе сілы ўбіў востры нож у стол, паглядзеў, як той трымціць, і лёг на шырокую лаву. Яшчэ падумаў: з матчынай пенсіі куплю штаны і кірзавыя боты — паеду да вусатага, мо работу дасць.

Праз колькі часу небаракі мармыталі, скрыгаталі зубамі, войкалі, стагналі.

Лявоніха ў гэтую ноч не заснула. А раніцаю забегла на хвілінку паштарка Алена. Хаваючы вочы, усё расказала, паспачувала і хуценька, нібы хто ў карак гнаў, заспяшалася. Лявоніха выпаліла печ, стаўкла ў выварцы бульбу, трошкі дабавіла вобмешкі — накарміла парасят і курэй, кінула сена карове. Пасля памыла падлогу і ўсё сноўдалася па хаце вохкала і айкала.

А на Вялікдзень людзі разгавеліся і высыпалі на вуліцу, паселі на лаўках. Надвор'е выдалася — любата, замілаванне. Зямля адтала, акрыяла пасля доўгай зімы, дыхнула цяплом, у паветры адразу ж запахла вясною. З яснага, без адзінай хмурынкі неба слала на ўсё жывое на зямлі сваё жыватворнае святло зыркае сонейка. Заліваліся-шалелі ў спевах жаўрукі, шчабяталі, выдурняліся на ўсе лады шпакі.

Вечарам, толькі пачало цямнець, заспявалі валачобнікі. Лявоніха замітусілася, немаведама чаго яшчэ раз пералічыла ў місцы дзевяць пафарба-

ваных яек, абцерла анучкаю бутэльку куплёнай гарэлкі. Тую, што прыхавала для сына.

Выйшла на ганак. Спявалі праз дзве хаты. «Зойдуць жа і да мяне. Як жа не зайсці». Спявалі гожа, пад гармонік. А ці так, як раней? Прыслухалася.

— Ці можна вашу хату падвесяліць?

Гэта яны ўжо ў суседа пытаюць. Канечне, можна.

— Добры вечар, пане гаспадару! Хрыстос уваскрос — Сын Божы!

Мы прыйшлі да пана, як і да пані!
Казалі людзі, што хата без печы?
Калі пан багаты — пазаві ў хату.
Пазаві ў хату — печы паглядзеці.
Сыр бяленькі рэж на талеркі,
Парасё з хвастом тарабань на стол,
Падстаўляй драбіну — лезь па сланіну,
І гарэлкі кілішак — будзе не лішак.

Адзін галасісты (чый жа гэта?) запявае, а гурт дружна і зладжана паўтарае. Лунае валачобная песня над наваколлем, а з суседней вёскі такая ж, любая сэрцу, насустрач ёй. Колькі радасці! А вось і змоўклі, мусіць, гаспадар частуе.

Зараз валачобнікі падзякуюць за пачастунак. Ага. Так і ёсць.

— Панская жонка, як у небе зорка.
Панскія дзеткі, як у агародзе кветкі.
Панская ніва — будзе ўрадліва…

Цяпер яшчэ віншаванне — і будуць ісці да яе хаткі. Усё. Ідуць. Лявоніха борздзенька патэпала ў хату. Расчыніла акно. Захінула фіранкі. Але так, каб можна было разглядзець і запявалу, і гарманіста. Ды што гэта? Прайшлі міма. Што ж гэта, вы, людцы? За што ж такая ганьба?

Лявоніха стала перад абразом Хрыста Збавіцеля, ціха шаптала: «Даруй, Божа, даруй… За якія грахі, Божа, паслаў пакаранне? У чым я правінілася прад табою? Чаму, Божа, другім людцам дзеткі радасць дораць, а мне гора горкае? Нашлі, Божа, на мяне, тваю рабу Марылю, любыя выпрабаванні, толькі пашкадуй шалапутнага сына. Пачуй, Божа, мае словы, зрабі так, як я прашу цябе».

Лявоніха прачытала яшчэ малітву «Ойча наш…», тройчы перахрысцілася і села на табурэтку. Замаркоцілася. Заставалася чакаць рашэння зямнога суда.



Юрый САПАЖКОЎ

# СМАК ЧАРЭШНІ

## ПРЫГАЖОСЦЬ

Да прыгажосці, так бывае,
Не прыйдзеш, не спазнаўшы мук.
Жанчыну ведаю, якая
Была без працы як без рук.
Яны каволі, і палолі,
І чырванелі ў стынь-вадзе,
І на калгасным дальнім полі
Прысуд вяршылі лебядзе.
Пад коўдраю увечар шэры
Нервова ўздрыгвалі, было.
Ёй у часопісе Венеру
Я паказаў — красу-святло.
Яна, стаіўшы ў сэрцы штосьці,
Сказала горычна прытым:
«Не разумею прыгажосці,
Калі вось так,
Без рук зусім…»

---

**Сапажкоў Юрый Міхайлавіч** *нарадзіўся 16 сакавіка 1940 года ў вёсцы Ільінка Пронскага (цяпер Скопінскага) раёна Разанскай вобласці. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў слесарам-інструментальшчыкам на заводзе святлатэхнічнай арматуры, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1967). Працаваў у газеце «Советская Белоруссия», у аддзяленнях АДН (Мінск, Дэлі), у часопісе «Всемирная литература». Цяпер — у часопісе «Нёман».*

*Піша на рускай мове. Аўтар паэтычных кніг «На счастье» (1972), «Возраст» (1978), «Очертания греха» (1992), «Письмо другу» (2004), «Точка невозврата» (2006), кнігі літаратурнай крытыкі «На просторе слова» (2008). Таксама выступае ў жанры перакладу.*

## БАБУЛЯ

Краса яе цвіла чароўна,
Ды ў час бядотаў і гарчын
У сеткі трапіла раптоўна
Глыбокіх складак і маршчын.
І скажа: «Добра ці нядобра,
А столькі вёсен пражыла!»
А вочы глянулі падобна
На птушак — рваліся з сіла.
Ды ўсё ж — вялікаю і мужнай
Здавалася бабуля мне,
Пакуль аднойчы ноччу сцюжнай
Я не пачуў: у спудным сне
Яна ад моташы кашмараў
Ускрыкнула ў цямрэчы:
«Мама!..»

## РОСТ

Ляціш над прорвай — ледзянеюць скроні,
Чакаеш, верыш — раптам упадзеш.
І… прачынаешся ад дотыку далоні:
«Не бойся, — кажа маці, — ты расцеш…»

Цяпер нанова па́даю, бывае.
Сон не дзіцячы. Толькі на ляту
Зноў кожны раз сабе я паўтараю:
«Не бойся, мама, гэта я расту…»

## ПАРТРЭТЫ ГЕРОЯЎ

Зусім як на паверцы пасля бою,
Да самай плошчы Перамогі — раць —
Палёгшыя ў агні вайны героі
Узбоч праспекта велічна стаяць.
Прасцяг жыцця прад імі застаецца.
І, чым цяжэй выпрабавальны час,
Тым больш стражэй і больш пільней, здаецца,
Яны глядзяць з вайны сваёй на нас.
Нямы іх роспыт скурай адчуваю.
Воч не адводжу ад паглядаў нажавых.
…Мы неўпрыкметку іх перарастаем,
Хоць марым век, каб дарасці да іх.

## НА ПІСКАРОЎСКІХ МОГІЛКАХ

На апошняй вярсце —
Не букет, не вянок.
На магільнай пліце
Хлеба ссохлы кусок.

І запіска была:
«Мама, боль не суняць,
Бо тады не змагла
Гэты хлеб табе даць…»

## НАЧНАЯ ЦІШЫНЯ

Жыццё скрыпіць, бы ў калымазе восі,
Або ляціць — віраж за віражом.
У раз каторы ўжо трохтомнік восені
Выходзіць непамерным тыражом.

Гукае думку спорны дробны дождж
Блукаць таемна — у вясновай далечы.
Там гукі носяць мяккія сандалі
Або бясшумна ходзяць басанож.

У небе хмар сівое падарожжа,
Сцінаюцца парыўныя вятры.
Мароз начны зацыраваць ці зможа
Зыбучыя калюгі на двары?

Прыходзяць думкі зноў — адчаю родзічы —
Па правілах узросту…
Бог ты мой, —
Бо, як мінёр, адну памылку робячы,
Ўміг падарвуся бессанню начной.

Як ноч вірue! З зорнаю прабоінай.
Мне старшына сказаў на схіле дня:
«Хоць сэрца цісне ціша перад боем,
Пасля яго — гнятлівей цішыня».

## ПЯШЧОТА

Гарэзніца з мурашынаю таліяй,
Маё незямное натхненне,
Уся ты — быццам прataліна
Між снежнага акружэння.

І не думаў, гукаючы рэха,
У пяшчоце якой паўстае
Астравочак апошняга снегу,
Што з наплывам гадоў растае.

## БЯССМЕРЦЕ

Нягоды ўзлёты нашы рушаць,
Спакойным будзь — не абмінуць.
І, не выносячы нас з душаў,
Нас на плячах ужо нясуць.

Нядоўгі ўсё ж век чалавечы.
Так жыць патрэбна на зямлі,
Каб перакласці нас на плечы
З душы
Ніколі не змаглі.

## БАЦЬКОЎСКІ ЗАПАВЕТ

Бяссмерце мною знойдзена,
Забітым напаткала.
І дзірачку для ордэна
Мне куля свідравала.
Прымаў жыццё адкрыта я,
І смерць сустрэў не ў спіну.
Шынель, наскрозь прабіты,
Аддаць прашу я сыну.
Вядомая мне даўняя
Прыкмета — пэўна, чулі:
Не быць двум пападанням
Туды, дзе трапіць куля.

* * *

Тваіх удач дарослых узнясенне
Стаміўся разумець і прынімаць.
Шукаць мне застаецца суцяшнне
У тым, дзе суцяшэнню не бываць.

Не, не шукаць… Якая недарэчнасць —
Браць слоўнаю напорыстай гульнёй.
Бо прыгажосць — яна зусім не крэпасць, —
Не браць яе, а здацца перад ёй.

## ВЕЛІКАДУШНАСЦЬ

Велікадушнасць з яснатою зроку —
Як Божы дар часінаю ліхой.
Велікадушнасць зноў насустрач кроку,
Калі зашкліла крыўда ўсё сабой.

Велікадушнасць любае жанчыны,
Што тым змагла няўступную сябе.

Велікадушнасць як парыў адзіны
Тае, хто волю дараваў табе.

Аб ёй, не як аб міласціне, мару.
Прыйдзі, каб і не ўздрыгнула рука,
Велікадушнасць мужнага удару,
Імгненнага, нібыта ўзвод курка.

Нягледзячы на зло і раўнадушнасць,
На каменем шпурнуты люты гнеў,
Узвысь мяне, мая велікадушнасць,
Каб адказаць я тым жа не сумеў.

## ПЕРАСЯЛЕННЕ

Навошта розны хлам?
Ён — дзень наш учарашні.
Узяць бы стосы кніг
І той афорт.
А мы вязём рыззё,
Бо з ім не страшны
Ніякі нам камфорт.
Павязаны вузлы.
Трымаю з захапленнем
Жыцця набытак чынны —
Хатулі.
Трымае дрэва так,
Што выдрана з карэннем,
Вузельчыкі радзіннае зямлі.

## КРОПКА НЕВЯРТАННЯ

Пайсці ад знаных берагоў,
Як адыходзіў на світанні…
У лексіконе маракоў
Паняцце — кропка невяртання.

Цяпер ужо ў астатні раз!
Чакае поспех ці згасанне?
Жыццё…
У кожнага ёсць з нас
Такая ж кропка невяртання.

Як ні марудзь, але спярша
Адкажаш на адно пытанне:
Ці ўспыхне святасцю душа
Прад гэтай кропкай невяртання?

Калі ж другіх шляхоў не мець,
Прыходзіць вечнае расстанне.

Цябе пагоніць, як на смерць,
Туды, за кропку невяртання.

* * *

Аблок бялёсыя мярэжы.
Рыбацкі сум на прыбярэжжы.
Страфа плыве па хвалях вод.
І чайкі ў небе вольны лёт.
Яна то ў вышыні згасае,
То промнем зрынецца ў раку.
Лускі іскрыны выкрасае
З вады на зайздрасць рыбаку.
Кульнецца промень — і відно
У глыбіні празрыстай дно.
У вершах, светлых, як вада,
Дна не відаць…

## ФОТАКАРТКА

Пачуццё убывае,
І такое — нярэдкасць.
Час — ён не забівае,
Ды наводзіць на рэзкасць.

Час — як майстар са стажам:
Не адвадзіш падаўна.
Мы паглянем і скажам:
Атрымалася слаўна.

* * *

Прамоўлю «ліпень» светла, як зарок.
І быццам пырсне прахалодны сок,
Як смак чарэшні ранішні няўлоўны.
Нядаўнішніх насельнікаў шпакоўні,
Насычаных чарэшняй, горне ў сон.
Як ягада, хінецца долу лета.
А дзень яшчэ такі даўгі і светлы,
Як быццам сонцам папярхнуўся ён.

## БАЦЬКА

Мой бацька там, дзе цемры ўсхліпы
Па-над апошняю дамоўкай.
Ён там, дзе ўжо карэнне ліпы
Наўзмаш абсечана рыдлёўкай.
Дзень новы прывідна маячыць
Паміж крыжоў самотна-важна.

Але там бацька… Гэта значыць —
Пайсці туды за ім не страшна.

## ЧУТКА

Культура дзікая, прытым
Усё адно расці на чым —
Ці гэта праўды чарназём,
Ці чутак-домыслаў суглінак.
Яна трасе сваім рыззём.
Пад ім праглядваюцца ледзь,
Сумеўшы годна ацалець,
Суквецці слоў, што для памінак.

## ПАЛЬЦЫ

Яе дрыготныя ад зробленай памылкі пальцы,
Прывабныя, як лебедзевы пёры,
З дагледжанымі дзюбкамі пазногцяў,
Якія пяць хвілін таму так лена
На клавішах
Шукалі промні літар,
Ператварыліся ў драпежніц сквапных раптам —
Накінуліся на сапсуты аркуш, —
І ў сметніцу ляціць
Камяк паперы.
Як тузанула! Сціслася, прыціхла
Душа, прадчуўшы ўмомант небяспеку.
Я месца не знаходзіў цэлы дзень.
Дамоў вярнуўся, і дастаў з карзіны
Памяты аркуш спісанай паперы,
І доўга распрамляў яго, і плакаў,
І супакойваў сам сябе, як мог.

## ТВАЯ МОВА

Твая мова,
яна, быццам яшчарка,
лянотна грэецца
на цёплых праменях сэрца,
ды — раптам! —
спалохана
юркне глыбока ў норку,
сцебануўшы па слыху
хвосцікам апошняга слова…
Твая мова,
яна — як пятлястая
вузкая сцежка,
дзе аслухацца, бы аступіцца.

Твая мова
яна — што голле ў кастры —
патрэсквае,
калі ні аб чым гаворка,
і, быццам зыркота вуголля,
стыне
пад прысакам шызым сумнення,
калі размаўляем аб важным.
Твая мова
зграбна выпроствае спінку,
як котка,
што ласкі жадае.
Твая мова,
яна то забівае надзею,
то літасціва
ёй даруе жыццё.
Тады твае важкія «не»
гучаць крокамі камандора,
а асцярожныя «так»
ступаюць, бы ў туфлях,
што ціснуць.
Ды вось пазваніла.
І я акунаюся ў космас
маўчання, —
і гэта таксама —
мова твая.

## ФЛЕЙТА

Забыць я Вашу флейту ці змагу —
Крыніцу, да якой Вы прыпадалі?
Здавалася, абрысы Вашых губ
Хвалюючыя гукі паўтаралі.

Калі з паветра зноў тварылі Вы
Мелодыю пяшчоты ўсхвалявана,
Маёй адвагі грозныя ільвы,
Аціхлыя, мурлыкалі слухмяна.

Адчай маіх начных пакут і сноў,
Ні аднаго Вы з нас не пакахалі,
Ды ў небе мрой, нібыта галубоў,
На промені мелодыі трымалі.

Калі чужая флейта дорыць сум,
Да сэрца падбіраецца няйначай, —
Заплюшчу вочы я ў маркоце дум
І ў цемрыве яшчэ выразней бачу.

***Пераклад з рускай***
***Міколы Мятліцкага.***

Таццяна АЛЯШКЕВІЧ

# ГУК І СЭНС У ПАЭТЫЧНЫМ КОСМАСЕ АЛЕСЯ РАЗАНАВА

**Паэзія** даволі складанае мастацтва, каб меркаваць аб ёй з лёгкасцю, асабліва, калі размова ідзе пра паэтычную творчасць Алеся Разанава. Складанасць яго паэзіі — яе неад’емны атрыбут. Не замыкаючыся ў сваіх межах, разанаўская паэзія працягвае развівацца ва ўласным рэчышчы, гарманічна ўліваючыся ў ансамбль сучаснай еўрапейскай паэзіі. Будучы выключна асацыятыўнай і ўнутрана супярэчлівай, творчасць Алеся Разанава заўсёды знаходзіцца на тонкай мяжы паміж гукам і сэнсам.

Вось ужо колькі дзесяткаў год паэзія Алеся Разанава нясе ў сабе эксперымент, як у галіне зместу, так і ў галіне формы. У паэта ёсць і свае паслядоўнікі — маладыя творцы. Кожны ў свой час абапіраўся і адштурхоўваўся ад яго мастацкіх здабыткаў як ад пэўнай традыцыі, што пацвярджае плённасць мастацкіх пошукаў творцы. У літаратуразнаўстве гавораць пра разанаўскую школу, разанаўскі накірунак. Да разанаўскай паэзіі раўнадушных, абыякавых няма: яе могуць успрымаць у штыкі і ёю могуць захапляцца...

Першае, што звяртае на сябе ўвагу ва ўсіх артыкулах, — статус паэта-наватара (Т. Чабан [16, с.165]), нададзены Разанаву. Так ужо атрымалася, што ўсім — і аматарам паэтычнай творчасці, і даследчыкам літаратуры, і проста чытачам — разанаўская паэзія здаецца з’явай іншага парадку, нязвыклага для беларускай літаратуры. Эпітэты, якія характарызуюць яго творчасць, — «эксперыментальны», «наватарскі», «новы», «самабытны», «арыгінальны», «авангардны». У той жа час, з’яўляючыся на сённяшні дзень адным з самых элітных і мадэрновых мастакоў паэтычнага слова, Разанаў застаецца непасрэдным прадаўжальнікам традыцыі, закладзенай Максімам Багдановічам, Янкам Купалам, захавальнікам эстэтычных і духоўных каштоўнасцей нашага мінулага.

Распазнавальная рыса яго паэзіі — гэта моцна выяўленая гукавая аснова верша. Яна трымаецца перш за ўсё (але не толькі) на паўтарэнні «сузор’яў» зычных гукаў, што пераклікаюцца паміж словамі і надаюць тэксту звязнасць і дадатковую шчыльнасць. Часам такія гукавыя паўторы з’яўляюцца тыповымі прыкладамі параніміі. Словы, звязаныя такімі паўторамі, могуць набываць дадатковыя адценні значэнняў. Прыходзіць да высноў і імкнуцца спасцігнуць сэнс разанаўскіх мініяцюр нельга, пакуль мы не ведаем іх гукасэнсу. Яго паэзія — своеасаблівы свет у мініяцюры, свет, у якім пачынае «гучаць», істотнец не толькі асобнае слова, але і асобная літара, гук. Гук — электрон верша [9, с. 223]. Творчасць Алеся Разанава прымушае па-іншаму паглядзець на прыроду гука. Усе яго жанры — квантэмы, вершаказы, пункціры, вершы, паэмы, версэты — настолькі энергетычная, згушчаная прастора, што ў ёй раскрываецца «філасофія гука». Гук перастае быць толькі састаўным элементам больш буйных адзінак. Ён сам фармальна і змястоўна аформленая адзінка. Раскрыць сэнс гука можна толькі ў кантэксце ўсяго твора, а не асобна ўзятага слова. У такіх умовах гук перарастае сябе, становіцца гукасэнсам. Справа ў тым, што «ў вершы <…> няма чыста гукавога фону: фон успрыняцця верша гука-сэнсавы. Алітэрацыю (паўтор аднолькавых зычных), асананс (паўтор аднародных галосных гукаў) і іх змешаныя формы належыць вывучаць на гэтым гука-сэнсавым фоне, дзе гукі зліваюцца ў семантычныя адзінствы — словы, словазлучэнні, сказы, аб’яднаныя інтанацыяй» [2, с. 123].

Гук у паэзіі Алеся Разанава з’яўляецца першай прыступкай на шляху да эстэтычнага засваення ўсёй паэтычнай прасторы. Нельга не адзначыць тое, што, як

сцвярджаецца ў «Навейшым філасофскім слоўніку», «уся класічная культура можа быць вызначана як фонацэнтрычная, інакш кажучы, заснаваная на прэзумпцыі непарыўнай сувязі голасу і значэння, якое за ім стаіць <...>. У светаразуменні класічнага тыпу тэкст мысліцца як прызначаны да прачытання; чытанне трактуецца як разуменне яго іманентнай семантыкі, як актуалізацыя закладзенага аўтарам зыходнага сэнсу тэксту» [5, с. 384]. Іншымі словамі, гучанню аддаецца перавага, бо яно, уздзейнічаючы на чытача, ужо само па сабе арганізуецца ў асобны сэнсаваэмацыйны ўзровень. Такая рэалізацыя гукавой функцыі аказваецца блізкай тэорыі інтэрпрэтацыі, у тым ліку і герменеўтычнай (герменеўтыка — з грэч. «мастацтва вытлумачэння») — «навука аб тым, як, да якой ступені, пры дапамозе якіх прынцыпаў, працэдур мы можам інтэрпрэтаваць літаратурныя тэксты» [1, с. 94]). Выступаючы ў якасці філасофскага інструментарыя, гук, тым самым, ёсць форма эксплікацыі (тлумачэння, разгортвання) разанаўскай паэзіі. Гук у статусе «тэкстафанемы» (Ю. Казарын), «сімвала» (В. Вінаградаў), «паэтычнай глосы» (Р. Якабсон), «экспрэсемы» (В. Грыгор'еў) выступае той інтэрпрэтантай, якая, разгрупоўваючыся па ўсім гукасэнсавым полі дыскурснай і моўнай прасторы, арганізуе новую — другасную сэнсавую прастору паэтычнага тэксту. Напрыклад:

*Выспалася?!.*
*Паўстае*
*з возера выспа* [110, с. 146].

У мастацкім тэксце дадзенага пункціра выяўляюцца такія класічныя віды гукапісу, як алітэрацыя на **в, с, п** і кальцо: **Выспа**лася ?!.//........//........ **выспа**, якія падтрымліваюцца і ўласна аўтарскай — аказіянальнай сувяззю: *выспа*лася *выспа.* Вылучыўшы стрыжнёвыя фанасемантычныя адзінкі (тэкстафанемы) — **в, с, п // з** і супаставіўшы іх з лексічна-сэнсавымі дамінантамі — **выспа, з возера**, можна канстатаваць, што паўтор гукаў — **-с-, -п-** стварае атмасферу спакою. Гук **-з-,** паўтараючыся двойчы, яе ўзрушае. Як выспа паўстае, «выпукліваецца» з возера, так і гук **-з-** выдзяляецца і акустычна вылучаецца на фоне ўсёй гукавой палітры пункціра. Паўтор аднолькавых гукаў і гукакомплексаў **в-сп-с // п-с // з-в-з // в-сп** выконвае кампазіцыйную функцыю ў пабудове вобраза, які ствараецца на кантрасце — пры дапамозе антанімічных адносін, у якія ўступаюць гукі **-с-**, **-п-** і **-з-**.

Жанравая сістэма Алеся Разанава досыць разнастастайная: паэмы, версэты, вершаказы, пункціры, квантэмы, зномы. Кожны з іх вызначаецца спецыфічнай структурна-кампазіцыйнай пабудовай. Структура і функцыя канкрэтнага жанру ў многім прадвызначаюць змест, але ў паэзіі Алеся Разанава, у якой гуку адводзіцца адна з прыярытэтнейшых роляў, узнікненне новай аўтарскай жанравай формы часта стымулюецца патэнцыялам гука.

Сярод усіх жанраў вершаказ — самы багаты на сродкі выяўлення гукасімвалізму. Прычым сродкі кампазіцыйнага гукасімвалізму прысутнічаюць у вершаказах у комплексе, накладаючыся і перамяжоўваючыся. Мова вершаказаў — гэта тая структура, вакол якой цэнтруецца сам рэчыўны свет разам з суб'ектам, які яго пазнае. У вершаказах выкарыстоўваюцца рэсурсы ўнутранай прасторы мовы. Мова ў іх выступае рэчаіснасцю думкі, не толькі служыць яе выражэнню, аднак робіць гэта так, каб сама форма выражэння станавілася раўназначнай укладзенаму сэнсу. У вершаказах найбольш відавочным становіцца перапляценне мовы і сэнсу. Пытанне аб першаснасці аднаго з іх выяўляе тут сваю схаластычнасць. Аднак нярэдка сама фармальная моўная гульня выяўляе дасюль нявынайдзеныя назіранні за жыццём. У гэтым выпадку выражаны моўны сэнс выказвання для самога аўтара можа выкрыцца нават пазней, чым прыгажосць гука- і словазлучэнняў.

*Багна абагульняе ваду і сушу, і хто*
*ўгадае, якая ў яе глыбіня, якая ў яе «гіблыня»* [12, с. 446].

Неалагізм *«гіблыня»* адгукаецца двума словамі — *гінуць* і *глыбіня* — гэта гібельная глыбіня ці гіблыня, у якой гіне чалавек. Аднак добра відаць, як шляхам моўнай эканоміі аўтар знайшоў трапную метафару для слова *багна.*

Такая з’ява характэрна не толькі для вершаказаў. У квантэмах гук выступае настолькі моцным семантычным каталізатарам, што часам нават ствараецца дадатковы лексічны покліч, які дабудоўвае аўтарскую мініяцюру:

*празрысты цень*
*праз цела нацянькі*
*страла спявае* [8, с.124].

У прыведзеным прыкладзе паўтарэнне гука [ц] у спалучэнні з галоснымі, падмацоўваючыся лексемамі *страла, праз цела, спявае,* міжвольна апелюе да нашай падсвядомасці: мы адчуваем умоўную недагаворанасць, якая з прычыны як гукавой арганізацыі, так і нашай фантазіі лёгка афармляецца ў яшчэ адзін вобраз — вобраз це-ці-вы, напятай, наструненай.

*ахвя**р**ы абуджаюцца*
*нажсы*
*з’ядаюцца і**р**жсою*
*чую **р**эха*
*хлеб* а**р**жаны [13, с. 123].

Паўтарэнне гукаў [ р], [ж], а таксама кальцо, якое ўтвараюць другі і канец пятага радкоў — *нажсы / жсаны*, актывізуюць мову квантэмы. Аўтарская функцыя адыходзіць на іншы план: ён перастае дыктаваць сваю волю моўнай матэрыі, пачынаюць выяўляцца магчымасці самога жанру — квантэма «разраджаецца» дадатковым вобразам — *ж*орны.

***ру**іны запа**ру**шваюцца*
***ру**нь*
*уваск**р**ашае **ру**ны*
*неба блізка* [13, с. 120].

Усе вобразы твора счапляюцца нейкім аднолькавым гукам ці гукамі: 1-ы з 2-м, 3-м — *ру*, 1-ы з 3-м, 4-м — *ру-н*, усе, акрамя апошняга, утрымліваюць гук [н]. Услухаемся: *ру-н — ш — рун’ — ш — рун — н’(е) —* ***неруш***. Як бачна, апошні з прыведзеных прыёмаў гукавой арганізацыі характэрны найперш для квантэм. Гэта ў сваю чаргу сведчыць пра тое, што квантэма як жанр валодае дадатковай унутранай формай, якая ўтрымлівае дадатковы змест.

З усіх вершаказаў А. Разанава ў адну асобную групу вылучаюцца творы, у якіх аб’ектам увагі аўтара становяцца словы, што рэпрэзентуюць славянскія і неславянскія мовы. Такія творы тэматычна можна падзяліць на падгрупы. Першую складаюць вершаказы, у якіх у якасці ідэафона выступае найменне, суаднесенае з прыродай, — «Сонца», «Месяц», «Мароз», «Зіма», «Вецер», «Мора». Другую складаюць назвы жывёльнага свету — «Баран», «Певень», «Варона», «Воўк», «Муха». Ёсць у гэтым шэрагу падгрупы, якія абазначаюць ежу і назвы асоб, — адпаведна «Мёд», «Малако»; «Госць», «Брат». Асобна стаяць «Вілы», «Гарох» і «Слуп». Спецыфіка вершаказаў паэта ў тым, што словам ён творыць словы, якія набываюць статус слоў-атрактараў (англ. attract — прыцягваць).

Мову такіх вершаказаў умоўна можна падзяліць на два тыпы: мова-аб’ект і метамова. Беларуская мова выступае ў якасці апошняй, адпаведна руская, украінская, балгарская, сербская, нямецкая і іншыя — мовы-аб’екты. Паэтычныя творы, напісаныя з выкарыстаннем іншай мовы, служаць прыкладам поліфанічнай арганізацыі твора, а таксама даюць магчымасць правесці фонасемантычны аналіз слоў-атрактараў і параўнаць іх сэнсавую дэфініцыю.

Вобразны і гукавы элементы вершаказаў Алеся Разанава суіснуюць і ўзаемаўплываюць. Кожны асобны твор — раўнадзейная гэтых дзвюх паэтычных рэалій. Калі разбіць гукавы комплекс слова-атрактара на пэўныя часткі, то выявіцца, што ўсе яны цалкам уваходзяць у змест твора, які з’яўляецца не толькі вобразным апісаннем прадмета, аднак і поўнай перыфразай гукаў яго наймення. Напрыклад:

*Стараславянскі с т о л п ъ,*
*нібы святочны* ***стол****, прываб-*
*лівае да сябе людскія* ***толпы*** [11, с. 163].

Слова с т о л п ъ разбіваецца на два гукавыя комплексы *стол-* і *толп-,* якія сустракаюцца ў творы нават як самастойныя адзінкі.

*Украінскі г і с т ь апавядае прыгоды-*
***гісторыі*** *— то па-блазенску* ***дасціпныя****, то* ***па-***
***магістарску*** *грунтоўныя* [9, с. 119].

Тэкстафанемы анаграмнай лексемы г і с т ь прысутнічаюць на працягу ўсёй страфы — *гіст*орыі, да*сці*пныя, па-ма*гіст*арску. Узнаўленне паэтычнага сэнсу прасочваецца, такім чынам, толькі ў межах слоўнага рада.

Гукавое афармленне слова не вызначае сэнс самой з'явы ці прадмета, названых загалоўкавым словам. Шляхам выкарыстання сугучных слоў аўтар узмацняе мастацкасць, прымушаючы чытача за паэтычнай этымалогіяй слова губляць адзінае значэнне лексемы. Ствараецца ўражанне, быццам пэўная назва прадмета ў кожнай мове (адпаведна — у кожным народзе) мае сваю, непаўторную, характэрную для гэтай супольнасці людзей дэфініцыю. Гэтым паэт выяўляе, па словах Уладзіміра Конана, «дамінанты нацыянальнага характару народаў, іх гістарычны лёс… можна казаць пра сімволіку менталітэтаў, зашыфраваных у лексіцы» [3, с. 254]. Апошняе даказвае, што ў гукавых паўторах Алеся Разанава, па аўтарскім самаазначэнні, «удзельнічаюць сутнасці» [9, с. 265].

Паэт, зыходзячы са свайго ўласнага жыццёвага вопыту, бачання і разумення заканамернасцей свету, стварае мастацкую карціну (змястоўны кампанент) праз прызму фармальных кампанентаў. Гукавая змястоўнасць пры ўспрыняцці і інтэрпрэтацыі аказваецца маркіраванай па-рознаму ў кожнай з моў. Назіраецца семантычная варыяцыя, што сведчыць пра залежнасць у паэтычным тэксце семантыкі слова ад яго гучання. Аднак залежнасць гэта — уяўная, штучна створаная сродкамі гукапісу. Яна мае месца толькі ў мастацкім кантэксце. На самай жа справе фонасемантычная ацэнка слоў мае дачыненне, у большай ступені, да ацэнкі эмацыйнага ўздзеяння гучання слова безадносна яго значэння, хоць Ю. Лотман дапускае, што «фаналагічная арганізацыя тэксту стварае пазамоўныя сувязі, якія набываюць характар арганізацыі сэнсу» [4, с. 73]. Звернемся да прыкладаў.

*Рускі м ё д насычаны, нібы*
*ёд: ён і пячэ, і гоіць.*
*Праславянскі m e d ъ — ад-*
*мысловы сродак для медытацыі.*
*Літоўскі m e d u s духмян-*
*лівы, нібы мята* [9, с. 168].

Уяўленне і гук ствараюць гарманічныя асацыятыўныя сувязі: мёд — *ёд*, m e d ъ — *мед*ытацыі, m e d u s — *дух*мянлівы. Паэт творча падышоў да выражэння семантыкі слоў у розных народаў. Тут праявілася якасць яго мыслення — гетэрагеннасць менталітэтаў.

Выкарыстанне слова на розных мовах — разанаўскі троп, падтрыманы так званай лейтматыўнай інструментоўкай, калі гукавы вобраз слова з рознымі фанічнымі варыяцыямі (гэтага вымагаюць мовы) праходзіць праз увесь твор. Напрыклад,

М а р о з (беларускае) // М о р о з (рускае) // M r ó z (польскае) // M r á z (чэшскае)

M r a з ъ (стараславянскае) // M o r z (палабскае)

Адна і тая ж лексема з улікам спецыфікі гісторыі кожнай мовы маркіруецца ў творы па-рознаму. Аднак адрозненні гукавыя не змяняюць значэння лексемы. Адбываецца іх сэнсавая нюансіроўка. Выкарыстоўваючы ў вершаказах асобныя лексічныя адзінкі са сваім уласным «каментарам», аўтару ўдаецца ажывіць «дух

усёй мовы» [125, с. 200], нават калі яна мёртвая. Вось, напрыклад, якім чынам паэт змог перадаць мёртвы стан палабскай мовы:

*Палабскі v o t r мае непаўторны во-*
*дар, але гэты водар закаркаваны ў ста-*
*годдзях* [9, с. 450].

Носьбіты палабскай мовы карысталіся ёй да пачатку XVIII стагоддзя.

*Палабскі m o r z зморaны* [11, с. 181].

На гэтым прыкладзе бачна, як шляхам алітэрацыі аўтар падабраў сугучнае слова — m o r z /зморaны, — якое аказваецца не толькі фанетычна, але і сэнсава нагружаным — зморaны, той, хто ўжо не мае сілы.

Альбо:

*Палабская z a i m a займае сабою ўсю*
*прастору і ўвесь час, становячыся займенні-*
*кам-заменнікам таго, што было калісьці і ча-*
*го ўжо няма* [11, с. 133].

Ужытыя спалучэнні слоў «закаркаваны ў стагоддзях», «зморaны», «што было калісьці і чаго ўжо няма» не проста паэтычная этымалогія да слоў votr, m o r z, z a i m a. Яны сведчаць ці пра лёс народа, ці пра яго мову.

Прааналізаваўшы шэраг вершаказаў дадзенай групы, мы заўважым, што даволі часта (у васьмі выпадках з дзевятнаццаці) пры тлумачэнні рускіх слоў Разанаў карыстаецца патэнцыялам той жа рускай мовы, што дае яму магчымасць не толькі вобразна тлумачыць сэнс, але і падкрэсліваць уяўную роднасць няроднасных слоў:

*Рускі в е т е р нясе ўсім **при//вет*** [11, с. 177].

*Рускі б а р а н — **барин**: усім // небаракам ён дорыць па аба ранку* [11, с. 73].

*Руская в о р о н а проворная: **яна ворует** усё, што кепска ляжыць, але ўсё, што ні // **уворует, роняет*** [11, с. 200].

*Рускае м о л о к о падмацунак касцу і малацьбіту і **лаком//ство** катку* [11, с. 153].

Трэба згадаць выпадкі, калі ў змесце іншых вершаказаў сустракаюцца адзінкавыя ўжыванні іншамоўных слоў. Гэта дапамагае ідэнтыфікаваць, да пэўнай ступені, этымалогію слова і тым самым знайсці пацвярджэнне аўтарскай логіцы. Здаецца, ужо хрэстаматыйным стаў прыклад пра х л е б, які, насамрэч, ёсць жыццё, схаванае ў нямецкай мове — L e b e n («жыць»). Па словах самога паэта «мовы мяжуюць не як плоскасці, а ўзаемапранікаючыся сваімі пазамі і выступамі, як растапыраныя пальцы рук. Яны дапаўняюцца і тлумачацца адна адной» [9, с. 206]. Анаграматычны фонасэнсавы рад: *хлеб, вялебны, злеплена, малебен, хвалебны, дулебы, вялеты, лахвічы, лепшы, Leben, хлябаецца, глебу, белы* — утрымлівае ў сабе тыповы комплекс тэкстафанем *х, л, е(э), б(п)*. Дадзеныя анаграматычныя кампаненты не толькі яшчэ раз актуалізуюць асноўны сэнс, выражаны самой лексемай «хлеб», але і расстаўляюць акцэнты на словы, што іх утрымліваюць. Больш за тое, сувязь паміж гэтымі словамі з уяўнай становіцца рэальнай. Такім чынам, лексема «*хлеб»* пераасэнсоўваецца гучаннем суседняга, уяўна роднаснага Leben. Дадатковы сэнс тут, аднак, прыхаваны не ў гукавым афармленні, а праступае з асноўнага лексічнага значэння нямецкага слова. Падобная гукавая абалонка толькі сігналізуе, дзе можна адшукаць дададтковы сэнс. З другога боку, унутраны змест замежнага слова, пададзенага на мове-арыгінале, тлумачыцца шляхам сугучча беларускіх фонавых знакаў. Такая ўяўная этымалогія мае месца толькі ў дадзеным кантэксце. Безумоўна, што замежны адпаведнік беларускага слова на згаданай мове будзе адрозніваецца.

Акрамя таго, што паўторы на гукавым узроўні нараджаюць дадатковыя сэнсы, яны таксама садзейнічаюць рытмічнай арганізацыі тэксту. Рытмастваральную функцыю выконвае загалоўкавае слова, якое паўтараецца ў кожным страфо-

ідзе. За выключэннем апошняй страфы, усе папярэднія пачынаюцца ключавой лексемай. Выкарыстаны аўтарам прыём такога паўтору садзейнічае сэнсаваму і стылістычнаму падкрэсліванню слова. Да таго ж паўтор любога слова — гэта паўтор яго гукавога і літарнага афармлення. Улічыўшы той факт, што гукавы паўтор можа выходзіць за межы слова, якое паўтараецца, пашыраючы сферу сэнсавага і эмацыянальнага кантэкстаў, можна ўстанавіць новыя сувязі паміж словамі-паўторамі і словамі, што ўтрымліваюць толькі асобны гукавы фрагмент гэтых слоў. Кожнае паўтарэнне загалоўкавага слова адкрывае новую, дадатковую якасць з′явы, прадмета, рэчы, названых гэтым словам, таму што кожны раз яно становіцца цэнтрам разнатыпных гукавых адпаведнасцей, напрыклад: хлеб — *глеба,* хлеб — *малебен,* хлеб — *Leben.*

Бачна, што ў змесце дадзенага твора актывізацыі сэнсавага і эмацыянальнага ўспрыняцця найперш садзейнічаюць алітэрацыя на *х, л, б(п)* і асананс на *е(э)*. Пералічаныя гукі «рассыпаны» па ўсім творы. Такім чынам утвараюцца не толькі кантактныя, але і дыстантныя паўторы. Гукавыя паўторы ўключаюцца ў агульны рух вершаказа. Тэкст як адзінае цэлае арганізуюць дыстантныя паўторы, іх розныя камбінацыі. Кантактны паўтор арганізуе непасрэдна вершарадок, а дыстантны — радкі, строфы, увесь твор. Сярод гукавых паўтораў, акрамя згаданых алітэрацыі і асанансу, можна вылучыць наступныя: стык — *хлеб хвалебны (хлеб(п) /х-леб), хлеб лепшы (леб(п) / леп-)*; кальцо — *Хлеб...малебен (-леб(п)/-леб-), Хлеб... глебу (-леб(п)/-леб-), Хлеб...белы (-леб(п)/бел-)*. У дачыненні да ўсёй лексемы *хлеб* гукі выступаюць мікравобразамі, акупунктурнымі кропкамі.

Адной з распаўсюджаных формаў гукавой арганізацыі, непасрэднай сувязі гука і сэнсу, у творах Разанава выступае анаграма. Важна адзначыць, што, як сцвярджаў яшчэ У. М. Тапароў, пытанне аб прыродзе і функцыі анаграмы ігнаравалася, «і сама анаграма часцей разглядалася як нейкая мяжа паэтычнага фармалізму» [15, с. 708]. «На самай жа справе анаграма звяртаецца да зместу, яна яго сума, вынік, рэзюмэ, аднак выражаецца гэты змест не слоўнікава <...>, а як бы выпадкова выбранымі кропкамі тэксту ў яго літарна-гукавой трактоўцы» [15, с. 709]. Часам жа наадварот, сам змест можа ўказваць на наяўнасць анаграм. Рассыпаныя па ўсім тэксце гукі асацыіруюцца ў чытача з канкрэтнай лексемай, якая можа быць прадстаўлена ў творы альбо не. У вершаказах гука-асацыятыўны рад групуецца вакол адной лексемы, той, якая дадаткова вылучана ў тэксце, у нашым выпадку — вынесена ў загаловак, а таксама на пачатак новай страфы. У вершаказах анаграма носіць адваротны характар: яна першапачаткова зададзена. Фонасемантычны вобраз слова, такім чынам, разгортваецца па інерцыі, а дзякуючы фактам гукапісу да таго ж яшчэ можа стварацца «гукавы эфект, слыхавое ўяўленне» [7, с. 294]. Алесь Разанаў салідарны тут з А. А. Патабнёй, які сцвярджае, што «гук асэнсоўваецца толькі ў гатовых словах і не адразу: «толькі па меры таго, як ён зжываецца з вядомым значэннем слова, чалавек адкрывае ў ім неабходнасць яго злучэння з такой, а не іншай думкай» [6, с. 121]. Аднак не трэба думаць, што гучанне слова-атрактара вымагае адпаведнай яго семантызацыі. Мы можам гаварыць толькі пра ўдалае сутыкненне трапнай аўтарскай знаходкі — перадаць сэнсы слова, расставіўшы акцэнты, з выключнай фанічнай падтрымкай. Вось чаму часам і ствараецца адчуванне, быццам гук дыктуе сэнс. Аднак часам гукі анаграматычнай лексемы могуць паслужыць падказкай для новай анаграматычнай лексемы, якая з’яўляецца напрыканцы таго ж твора. Напрыклад, у вершаказе «Горад» гукі *г/р/д* становяцца анаграматычнымі для лексемы «Рагнеда»: увесь змест твора раўназначна можа прачытвацца як «аповед» пра горад, ці пра Рагнеду. Імя гераіні ўваходзіць у адзін лексіка-семантычны рад: горад/ горды/ высакародны/ сярэдзіна/ сарцавіна / «горнае»/ градучае/ народзіны/ узнагарода/ загартаваны ў горне розных прыгод і нягод/ ордэну/ ардзе/ дарогу/ ворагі/ пагардай/ горнуцца/ агароды/ радзіму/ грамаду/ гуртуе ў народ/ народ/ радзіма/ адраджаецца/ горадзе/ Рагвалод/ радуецца/ Рагнедзе. Па сутнасці лексема «Рагнеда» аказваецца рассыпанай па ўсім творы. Можна гаварыць, што яе вобраз

створаны праз сістэму мікравобразаў, кожны з якіх інтэрпрэтуецца ў адносінах да постаці і гістарычнага лёсу полацкай князёўны Рагнеды. Увогуле сам горад атаясамліваецца з вобразам Рагнеды. Яна такая ж гордая і высакародная, гэта яе лёс «загартаваны ў горне розных нягод і прыгод». І нават калі ёй здрадзіў муж, калі, здавалася б, урэшце «ўсё знішчаецца дашчэнту, згарае..., народ і радзіма», за якімі прачытваецца вобраз Рагнеды, «адраджаецца зноўку». Як сведчыць гісторыя, Рагнеда аказалася высакароднейшай за свайго былога мужа. Агульная танальнасць вершаказа — пастаяннае паўтарэнне гукаў г / р / д /, якія акустычна з'яўляюцца звонкімі, цвёрдымі, а ў артыкуляцыйным плане гукі «спецыфічныя» — г — фрыкатыўны, а —р- — дрыжачы вібрант пераводзяць змест твора з узроўню лексічнага на фанічны, які, выражаючы дадатковыя сэнсы, спрыяе ўзмацненню праяўлення нескаронасці духу Рагнеды, яе моцы і магчымасці супрацьстаяць лёсу.

Прыём анаграматычнага паўтору ў класічным выглядзе прадстаўлены ў квантэмах. Як спосаб дадатковай семантызацыі, анаграма ў межах дадзенай аўтарскай жанравай формы дазваляе стварыць новы лексічны вобраз, які служыць лагічным працягам зместу твора.

«Унутрылексічнае гукаперайманне» звязвае словы пры дапамозе паўтору-імітатыву. Гукавыя комплексы могуць імітаваць з'явы прыроды, гукі навакольнага асяроддзя, пры гэтым утвараючы таўталагічныя пары, напрыклад: *звоняць званы, гром загрымеў, гракае грак* і інш. З іншага боку, гукавы комплекс аднаго слова імітуе другі, не маючы пры гэтым з'явы-дэтэрмінанты: у вершаказах — *грызе згрызота, марнуе марока, іголка голая, мякіна мяккая, будзень-«нудзень», сажа «мажа», купіна выпукваецца, граблі не грэбуюць, трэшчына-рэзчына* і інш.; у пункцірах — *далоні дол, з-за голага голля, гучныя гукасловы, махае хаціна хусцінаю (дыма), лёткія ластаўкі, смяцяр-ваяр, шыпшыны ў шыпшынінах*. У версэтах і квантэмах такая з'ява не прадстаўлена, трапляюцца адзінкавыя прыклады (*іржавы жвір, ломкія маланкі, без роду продак* — у квантэме).

Творы Алеся Разанава ілюструюць неардынарны падыход да асваення матэрыі ўласна гукавой прыроды. Творца па-рознаму выкарыстоўвае суадносіны паміж словамі, у аснове якіх пакладзены гукавыя магчымасці, — і рэальна-этымалагічныя, і аказіянальныя. У паэтычным кантэксце гук становіцца на адзін функцыянальны ўзровень са словам — валодае як формай, так і зместам. Адрозненне паміж імі ў тым, што калі фармальны і змястоўны кампаненты слова мы ведаем apriori, то пра змест гука мы можам даведацца толькі ў канкрэтна акрэсленым кантэксце. Мінімальнай адзінкай апошняга выступае пара слоў, знітаваных паэтычнай інструментоўкай. Але на ўсю моц гук раскрываецца пасля поўнага прачытвання мастацкага твора. Разанаўскі тэкст істотны кожным элементам, пачынаючы з гука. У кожнага слова свой «голас». Гук — індыкатар творчай манеры паэта. Аднак самае істотнае ва ўсім гэтым тое, што «Разанаў ведае, што ён, эксперыментуючы, павінен быць шчырым, і таму, нягледзячы на ўсякія спробы пасрэдніцтва, ён усё роўна застаецца нераскрытым, а магчыма, і павінен такім заставацца» [14, с. 31].

**Літаратура:**

1. Борев, Ю. Б. Эстетика. Теория литературы: Энциклопедический словарь терминов / Ю. Б. Борев. — М.: ООО «Издательство Астрель», 2003. — 575 с.

2. Гончаров, Б. П. Звуковая организация стиха и проблемы рифмы / Б. П. Гончаров. — М : Наука, 1973. — 276 с.

3. Конан, У. Узыходжанне: [Аб творчасці А. Р.] / У. Конан // Полымя. — 1997. — № 12. — С. 239—256.

4. Лотман, Ю. М. Анализ поэтического текста / Ю. М. Лотман // О поэтах и поэзии. — СПб.: Искусство, 1996. — С. 18—252.

5. Новейший философский словарь. Постмодернизм / гл. науч. ред. и сост. А. А. Грицанов. — Минск: Современный литератор, 2007. — 816 с.

6. Потебня, А. А. Эстетика и поэтика / А. А. Потебня. — М.: Искусство, 1976. — 302 с.

7. Рагойша, В. П. Паэтычны слоўнік / В. П. Рагойша. — Мінск: Бел. навука, 2004. — 576 с.

8. Разанаў, А. Вастрыё стралы / А. Разанаў. — Мінск : Маст. літ., 1988. — 159 с.

9. Разанаў, А. Паляванне ў райскай даліне / А. Разанаў. — Мінск: Маст. літ., 1995. — 287 с.

10. Разанаў, А. Дождж: возера ў акупунктуры: пункціры / А. Разанаў. — Мінск: І. П. Логвінаў, 2005. — 162 с.

11. Разанаў, А. Рэчаіснасць : [Зб. паэт. тв.] / А. Разанаў. — Мінск: БГАКЦ, 1998. — 198 с.

12. Разанаў, А. Танец з вужакамі: Выбранае / А. Разанаў. — Мінск: Маст. літ., 1999. — 462 с.

13. Разанаў, А. Шлях-360 / А. Разанаў. — Мінск: Маст. літ., 1981. — 110 с.

14. Сакалоўскі, У. Новыя кнігі беларускай паэзіі ў Германіі / У. Сакалоўскі // Кантакты і дыялогі. — 2002. — № 10-12. — С. 29—33.

15. Топоров, В. Н. К исследованию анаграмматических структур (анализы) / В. Н. Топоров // Исследования по этимологии и семантике. Т.1: Теория и некоторые частные её приложения. — М: Языки славянской культуры, 2005. — С. 708—756. — 816 с.

16. Чабан, Т. На мяжы невымоўнага... / Т. Чабан // Маладосць. — 1990. —№ 4. — С. 162—168.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 7 снежня 2009 г.

Т. А. Аляшкевіч

«Гук і сэнс у паэтычным космасе Алеся Разанава»

**Рэзюме**

Дадзены артыкул прысвечаны праблеме гукавой арганізацыі паэзіі Алеся Разанава. Разанаўскі тэкст істотны кожным элементам, пачынаючы з гука. «Спляценні» гукавых комплексаў выглядаюць як другасны тэкст са сваімі асацыяцыямі і алюзіямі. Творы Алеся Разанава ілюструюць неардынарны падыход да «асваення» матэрыі ўласна гукавой прыроды.

Aliashkevich T. A.

“Sound and sense in poetic space of Ales Razanau”

**Summary**

This article deals with the problem of sound organization Ales Razanau’s poetry. Rasanau’s text is important with every element including sound. «Interlacing» of sound complexes look like the second text with their associations and allusions. Ales Razanau’s works of art represent unusual method of approach to «mastering» substance of proper sound nature.

**Таццяна ШАМЯКІНА**

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА Ў КАНТЭКСЦЕ СУСВЕТНАЙ

У 1999 годзе на III Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Славянскія літаратуры ў кантэксце сусветнай» буйнейшы ў Беларусі знаўца славянскіх літаратур, іх даследчык, пісьменнік, перакладчык, доктар філалагічных навук, прафесар Іван Чарота дасціпна паказаў паняційную сумятню ў свядомасці беларускіх літаратуразнаўцаў, іх імкненне абавязкова «вярнуцца ў Еўропу», «далучыцца да агульнасусветных каштоўнасцей», даказаць, што мы належым да агульнаеўрапейскага культурнага кантэксту. Ён даводзіў: «…еўрацэнтрызм у агульнай сістэматызацыі культуры свету замацоўваецца без належных падстаў, <…> ва ўмоўнай агульнаеўрапейскай культуры цэнтр вызначыць немагчыма, а канкрэтныя нацыянальныя культуры Еўропы і свету бессэнсоўна супастаўляць паводле крытэрыяў: перадавая — адсталая, больш развітая — менш развітая, вядучая — вядзёная… Відавочную абмежаванасць мае таксама тэорыя «паскоранага развіцця» асобных літаратур, бо яна ігнаруе прынцыповае пытанне: а хто, калі і як можа вызначыць тэмп-норму?» Больш важна, лічыць Іван Аляксеевіч, для вызначэння нацыянальнай і так званай універсальнай аксіялогіі, «таго самага нашага пасаду між народамі свету», параўнанне з вопытам народаў, блізкіх нам генетычна і тыпалагічна — гэта значыць, са славянскімі народамі.

Гаворку пра беларускую літаратуру ў яе параўнанні са славянскімі, шырэй — еўразійскімі, я пачну, як быццам, здалёк. У вызначэнні спецыфікі беларускай літаратуры важнейшае значэнне мае тое прыроднае акружэнне, у якім сфарміраваўся беларускі этнас. Спыніўшыся на гэтым пытанні, я хачу растлумачыць, чаму менавіта славянства нам бліжэй па ўсіх параметрах.

Можна не лічыць беларусаў славянамі, як, дарэчы, і імкнуцца даказаць некаторыя беларускія навукоўцы (не без далёкіх прыцэлаў на маштабныя геапалітычныя перамены), можна, калі ласка, называць нас літвінамі, балтамі, але важна адно: месца, дзе генетычна афармілася беларуская нацыя, вызначае тып эканомікі, гісторыю, менталітэт, асаблівасці культуры, нават мовы. Адпаведна і літаратуры. Таму для носьбіта любой іншай этнічнай культуры ўсё беларускае будзе ўжо экзотыкай па месцазнаходжанні краіны (на «скразняку» Еўропы), яе гісторыі і міфалогіі, у якой найбольш яскрава выявіліся якраз стасункі чалавека і прыроды. Цікавай у гэтым плане бачыцца тэорыя пасіянарнасці А. Чыжэўскага і Л. Гумілёва.

Спецыфіку нашай літаратуры надае <u>пасіянарнасць</u>, абумоўленая якраз месцазнаходжаннем. Згодна названай тэорыі, калыханне геамагнітнага поля, абумоўленае выпраменьваннямі, што ідуць з Космасу і ад Сонца, выклікае адпаведныя хвалі пасіянарнасці народаў Зямлі, іх узлёты, стагнацыю і заняпад. Канцэнтрацыя магнітных сілавых ліній геамагнітнага поля аказваецца згушчанай у палярных зонах, каля полюсаў планеты. Адпаведна там поле найбольш і ўплывае на людзей, робячы іх у ходзе генетычнага адбору больш геліясенснымі і космасенснымі (чуйнымі да выпраменьванняў Сонца і Космасу). Аднак высокія шыротныя зоны Зямлі з-за клімату мала прыдатныя для жыцця. Аптымальны энергетычны кампраміс ссоўваецца ў сярэднія шыротныя зоны. Не дзіва, што паўночнаеўрапейскі і паўночнаамерыканскі суперэтнасы найбольш паўплывалі на развіццё чалавецтва. Прычым аксіёмай тэорыі з'яўляецца сцвярджэнне, што заходнееўрапейскі рэгіён з яго актыўным насельніцтвам меў большае значэнне для глабальнага развіцця чалавецтва, чым славянскі, бо знаходзіўся ў спрыяльных кліматычных, прыродных умовах. У многім гэта справядліва. Аднак неабходна ўлічыць, што, хоць

пасіянарнасць заходніх еўрапейцаў вельмі значная, але пастаянна паслаблялася перанасяленнем, раздробленасцю, несупыннымі войнамі, шматмоўем, рэфармацыяй, рэлігійнымі расколамі. Славянскае ж адзінства, скажам, у язычніцкую эпоху, аказалася найбольш моцным (як адзначаў акадэмік Б. Рыбакоў), — у галіне мовы, міфалогіі, абрадаў, матэрыяльнай культуры. Гістарычнае мінулае многіх славянскіх народаў таксама падобнае. Так, усходнія славяне абаранілі Еўропу ад мангола-татарскага нашэсця. Паўднёвыя славяне — балгары і сербы — закрылі сабою заходніх суседзяў ад турэцкіх заваёўнікаў. Нарэшце, славяне актыўна выявалі супраць іспанскага, італьянскага, германскага фашызму ў XX стагоддзі. Вось чаму сваё адзінства славянскі свет адчуваў заўсёды, нават у самыя неспрыяльныя часы. І толькі сёння, калі любое адзінства, супольнасць, сяброўства разбураюцца злаўмысна, мы пачалі па-дурному адхрышчвацца ад сваіх славянскіх каранёў. Але немагчыма адхрысціцца ад Космасу, у якім мы ўсе знаходзімся і ад якога ва ўсім залежым, і ніякія белавежскія пагадненні не адменяць найбольш магутнага фактару, які працягвае дзейнічаць на нас і на блізкія з намі народы <u>аднолькава</u>. На маю думку, Сонечная сістэма ўвайшла, відаць, у найбольш актыўныя зоны Галактыкі, таму блізкі да Зямлі Космас і Сонца «хвалююцца». Натуральна, найбольш рэагуюць космасенсныя і геліясенсныя народы, асабліва славяне (бо да актыўнасці іх пабуджаюць не такія спрыяльныя прыродныя ўмовы, як у Заходняй Еўропе, што ў глабальнай канкурэнцыі дзейнічаюць як негатыўны фактар). Адсюль, згодна тэорыі А. Чыжэўскага, вучня К. Цыялкоўскага, шматлікія рэвалюцыі і перабудовы адбываюцца на славянскай тэрыторыі ў XX стагоддзі.

Мы не можам не адзначыць, што пасіянарнасць беларусаў у некаторыя перыяды развіцця нашага этнасу была даволі высокая (нягледзячы нават на тое, што ў Беларусі найменшая колькасць сонечных дзён ва ўсёй Еўропе, а значыць, энергіі ўсё ж не хапае). Так, Л. Гумілёў, які найбольш поўна распрацаваў тэорыю пасіянарнасці, гаварыў пра магутныя касмічныя штуршкі-хвалі, якія прыйшлі з глыбокага Космасу і ўдарылі менавіта па Беларусі ці блізкай з ёю тэрыторыі ў пачатку нашай эры, а таксама недзе ў XIV—XV стагоддзях. Першы з іх выклікаў бурны рух этнасаў, перамяшчэнні іх па Усходняй Еўропе, фарміраванне менавіта славянскага кангламерату. Другі абумовіў Адраджэнне на тэрыторыі Беларусі, рост пісьменнасці, адукацыі, культуры. Але ён жа, магчыма, спрыяў і ўзвышэнню Маскоўскай дзяржавы, у суседстве з якой, у сяброўстве ці супрацьстаянні, праходзіла з таго часу наша гісторыя.

Ёсць яшчэ адна тэорыя, акрамя тэорыі пасіянарнасці, якая сцвярджае залежнасць маштабу асобы ад велічыні краіны, яе клімату, рэсурсаў. Асобы, якія па сваіх талентах не адпавядаюць памерам краіны, вымушаны зыходзіць з яе і працаваць на карысць іншых народаў. Бясспрэчна, з названай тэорыяй нам, беларусам, згадзіцца цяжка: ёсць у ёй нейкі элемент этнацыду. Але нельга аспрэчыць той факт, што выхадцы з Беларусі працавалі на карысць шмат якіх славянскіх этнасаў. Так, ураджэнцаў нашай зямлі Кірылу Тураўскага, Аўрамія Смаленскага, Кірылу Смаляціча, Еўфрасінню Полацкую, Івана Фёдарава, Сімяона Полацкага расійская навука ўключае ў шэраг сваіх культурных дзеячаў, Міколу Гусоўскага лічаць сваім літоўцы, Яна Вісліцкага — палякі. Агульным здабыткам як беларускага, так і рускага, украінскага народаў з'яўляецца дзейнасць усходнеславянскага першадрукара Францыска Скарыны. Цэлы шэраг літаратараў эпохі рамантызму (пачатку XIX стагоддзя) проста называюць «пісьменнікамі беларуска-польскага памежжа» (Г. Мархель): Ян Баршчэўскі, Ян Чачот, Адам Міцкевіч і інш. Выдатныя дзеячы Кірыла-Мяфодзіеўскага таварыства, як паказала А. Яскевіч, у аднолькавай ступені належаць да беларускай і ўкраінскай культур. Беларускія карані мае не толькі геній рускай літаратуры Фёдар Дастаеўскі, але і Фадзей Булгарын, Аляксандр Грын, Аляксандр Твардоўскі, Яўген Еўтушэнка. У часах Вялікага княства Літоўскага — генезіс родаў, што далі рускай літаратуры Яўгена Баратынскага, Аляксандра Грыбаедава, Дзмітрыя Пісарава. Па сведчанні Івана

Чароты, ураджэнец Беларусі Ігнацій Смалянінаў у XIV стагоддзі першы апісаў Косаўскую бітву. Вялікае значэнне для культуры сербскага народа меў Мітрапаліт Кіеўскі і Літоўскі Грыгорый Цамблак (XIV—XV стагоддзі). Пералік далёка няпоўны. Наша зямля — здольная да нараджэння вялікіх талентаў, яна напоўнена сілаю жыцця, але не памеры яе, а палітычная і сацыяльная сітуацыя пастаянна не давала ў поўнай меры рэалізавацца значным асобам.

Такі доўгі ўступ спатрэбіўся для таго, каб назваць галоўную рысу нашай літаратуры — літаратуры геліясенснага і космасенснага народа — услаўленне Жыцця (менавіта з вялікай літары) — Жыцця як паўнаты, гармоніі і руху ва ўсёй неверагоднай складанасці яго праяўленняў. Адсюль і стасункі людзей у беларускім прыгожым пісьменстве разглядаюцца не як функцыянальныя, вытворчыя, а як сістэмныя, аптымальна разнастайныя. Літаратура Беларусі, у адрозненне ад афіцыйнай ідэалогіі, у прыватнасці, ідэалогіі Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі, заўсёды стаяла на пазіцыях сапраўднай (а не ўяўнай, дэкаратыўнай, як у савецкія і постсавецкія часы) дыялектыкі, цэласнасці свету, законе меры — на ўсім тым, што ў пэўным сэнсе супрацьстаіць дасягненням заходняга свету з яго залішняй рацыянальнасцю і сацыяльнасцю, па-свойму таксама значнымі, асабліва для навуковага і тэхнічнага прагрэсу, але, як паказаў час, экафобнымі па сваёй сутнасці. А наша літаратура — ад самага пачатку — уражвае своеасаблівым сінтэтызмам і літаральна касмічным маштабам вобразаў, дастаткова прыгадаць «Слова пра паход Ігараў», творчасць Кірылы Тураўскага і Сімяона Полацкага, Міколы Гусоўскага і Францыска Скарыны. У выніку, калі не поўнасцю арыентацыя, дык хоць бы ўвага да традыцыйнай культуры, найбольш жыццядайнай і своеасаблівa сінтэтычнай, абавязкова спрыяе, як паказвае педагагічная дзейнасць, творчаму самаўдасканаленню чалавека. Творчае асваенне этнічнай культуры ў поўным аб'ёме напаўняла б — разам з авалоданнем багаццямі ўсіх рэгіянальных цывілізацый Зямлі — сучасную культуру экагарманізуючым сэнсам ужо на якасна новым узроўні — сінтэзуюча-наасферным. Бо зусім не выпадкова, а метафізічна абумоўлена нават тое, што ў савецкія часы Беларусь аказалася «зборным цэхам» СССР. Такая наша місія ў сусвеце — збіраць, гарманізаваць, сінтэзаваць, прапускаючы праз уласны менталітэт. У нас усё прасвечваецца ва ўсім: характар клімату — у народным характары; народны характар — у міфалогіі, вераваннях; рысы веры — у побыце, абрадах, паўсядзённых паводзінах.

Нашы продкі арганізоўвалі асяроддзе, з аднаго боку, пад уплывам знешніх абставін, разумеючы іх як рэаліі вышэйшага парадку, а з другога боку, змянялі іх у межах асаблівасцей свайго светапогляду. Гэтыя працэсы неаддзельныя адзін ад аднаго, уяўляюць дыялектычнае адзінства, і разглядаць іх паасобку бессэнсоўна і немагчыма, бо адваротная сувязь існуе заўсёды. Прынамсі, нельга аспрэчваць таго факта, што продкі беларусаў вельмі рана сталі земляробамі, асушыўшы балоты і ўзараўшы палі, хоць і працягвалі — ад часоў паляўнічага мінулага — шанаваць лес, — сваё непасрэднае асяроддзе, лічыць яго кармільцам і даравальнікам дабрабыту. Лес цягне да адзіноты (беларус вызначаецца самым «закрытым» характарам у параўнанні з рускімі і ўкраінцамі, сваімі суседзямі) — не такой узвышанай і ўрачыстай, як, скажам, горы, а да адзіноты ўнутры сябе, у глыбіні духу. Лес архетыпова адпавядае таемным глыбіням чалавечай душы, нашаму несвядомаму, як бы вяртанню ў чэрава маці (лясны гушчар паводле К. Г. Юнга — яе міфалагічны адпаведнік). Безумоўна, пушча палохае, тут лёгка заблудзіцца (можа лесавік «вадзіць», можна трапіць у багну да балотніка ці русалкі зацягнуць да сябе ў лясное возера), але ў той жа час лес — месца выратавання ў выпадку небяспекі. Ён дваісты, казачны, хавае ў сабе чароўныя загадкі. Уся літаратура, мастацтва Беларусі звязана з культам дрэва і з павагай да лесу. М. Гусоўскі, Я. Баршчэўскі, А. Міцкевіч, Я. Колас, К. Чорны, І. Навуменка, Б. Сачанка, І. Чыгрынаў, В. Карамазаў, В. Казько і многія іншыя творцы ўслаўлялі лес, які поўніцца ў беларускай культуры асаблівым філасофскім і эстэтычным сэнсам. Як паказаў

вядомы беларускі даследчык Алесь Бельскі, нават назвы беларускіх твораў у велізарнай колькасці выпадкаў звязаны з раслінным покрывам зямлі.

Лес, дрэвы ў нашым прыгожым пісьменстве паўстаюць у кантэксце светабудовы. Акрамя таго, айчынная паэзія і выяўляла ў дрэве чалавечыя рысы, асабовую сутнасць: гэта выток бязмежнай колькасці паэтычных тропаў, напрыклад, «Пра маладосць пяюць бярозы, пра вечнасць — хмурыя лясы» (А. Бачыла). Нават на карце сваёй канфігурацыяй Беларусь, як пісаў Уладзімір Дубоўка, нагадвае ліст з пражылкамі-рэкамі.

У кожнай нацыі свая сістэма каардынат у поглядах на свет, якая залежыць ад умоў фарміравання таго ці іншага народа: геаграфічнага становішча, клімату, флоры і фауны, а таксама ад гістарычных падзей, што адбываліся на тэрыторыі, заселенай пэўным этнасам. Паняцце геасофіі перш за ўсё ўключае ў сябе прасторавую культуру народа. Нацыянальны пейзаж — гэта ў многім вобраз і форма прасторавага існавання. Прасторавая сетка каардынат, вызначаная нацыяй, праходзіць, як праз прызму, праз сэрца і розум мастака. Творца і пазнае геасофію свайго народа, і сам стварае яе. Без нашых класікаў мы б так поўна нацыянальны космас не ўяўлялі. Так здарылася, што ў Беларусі мастакі слова першыя, пачынаючы ад Кірылы Тураўскага, заўважылі тыя культурныя формы (матэрыяльныя і духоўныя), якім народ аддае перавагу, найбольш шануе, якія замацаваны традыцыяй, і ў сваёй творчасці сцвярджалі гэтыя формы ў выглядзе важнейшых этнічных архетыпаў.

Нацыя, па сутнасці, — вялікі разрослы род, і покліч крыві непазбежны, бо ў роду ёсць патаемны, няпісаны абавязак: мацаваць повязь пакаленняў. Але толькі ў тым выпадку, калі народ застанецца на сваёй тэрыторыі, у межах свайго роднага «ўмяшчальнага» (Л. Гумілёў) і не сапсаванага экалагічнага ландшафту. У кожнага этнасу ёсць, акрамя пісаных законаў, права, дзяржаўнасці, і так званыя няпісаныя нормы, табу, свае адметныя калектыўныя ўяўленні пра трансцэндэнтальныя каштоўнасці, свае стэрэатыпы паводзін, маральныя пастулаты, важнейшыя з якіх тычацца сям'і, бацькоў, дзяцей, кахання. Усё названае разам і стварае традыцыю ў шырокім сэнсе слова. Замацоўваецца, сцвярджаецца і перадаецца традыцыі галоўным чынам праз фальклор і літаратуру народа.

Традыцыя ў вузкім сэнсе — як пэўная дамінанта нацыянальнага стылю — найбольш магутна праявіла сябе ў перыяд Беларускага нацыянальнага адраджэння, калі так плённа працавалі класікі беларускай літаратуры: Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, М. Гарэцкі.

Стрыжнем беларускага нацыянальнага літаратурнага стылю, або класічнай традыцыі, я лічу асабліва гарманічныя стасункі паміж чалавекам і прыродай (у адрозненне ад рускіх беларусы — не дзяржаваўтваральны этнас, яго энергія была скіравана не на стварэнне дзяржаўных інстытутаў, а на захаванне гармоніі з навакольным светам). Вось чаму першыя творы беларускіх класікаў, як правіла, пейзажна-апісальныя. Пазней прырода ў майстроў слова ўступае ў стасункі са светам чалавека. У гэтым выпадку яна з'яўляецца або нейтральным фонам для паказаных падзей, або актыўна ўдзельнічае ў іх, або ператвараецца ва ўяўнага субяседніка лірычнага «я». Якасна новы этап у творчасці беларускіх творцаў пачынаецца, калі Радзіма становіцца галоўным прадметам паказу і выступае разам з прыродай у непарыўным адзінстве. Адначасова страчваецца аб'ектывізм пейзажыстаў і ўзмацняецца роля лірычнага «я». Паступова пейзаж робіцца ўсё больш выразны: прырода, застаючыся матэрыяльнай і канкрэтнай, набывае асаблівую якасць духоўнасці. На ўсіх этапах прыродаапісальны міф выступае як асноватворнае вобразаў, а на ўзлёце творчасці пісьменнікі-класікі нібы бачаць унутраным зрокам Сусветную Душу і Душу Радзімы. Кожная новая мастацкая ідэя крышталізуецца і набывае дадатковыя сакральныя сэнсы.

Беларусь — своеасаблівая (глыбінна-цэнтральная) прастора, якая знаходзіцца паміж рознымі цывілізацыямі: Захадам і Усходам. Гэта вызначыла нацыяналь-

ную ідэю, міфалогію беларускага этнасу — іншасказальны вобраз яе этычнага і эстэтычнага ідэалу, яе «крыві» і «глебы», яе геасофіі, своеасаблівую алегарычную аўтабіяграфію нацыі, у якой цела Маці-Зямлі — прастора этнічнай тэрыторыі — набывае сакральны сэнс і замацоўваецца праз надзвычай багатую сістэму вобразаў класічнай беларускай літаратуры.

На ўсіх этапах развіцця прыгожага пісьменства прыродаапісальны міф (геасофія) выступае як геаграфічны і сакральны цэнтр Сусвету, што праяўляецца ў назве краіны і ў шэрагу адметных сімвалаў. Выбіраючы іх, этнас выбірае свой шлях. Асабліва яскравыя сімвалы, што, сапраўды, выяўлялі нацыянальныя архетыпы, створаны зноў-такі класікамі беларускай літаратуры пачатку ХХ стагоддзя.

Чалавечая фантазія — частка ўласцівай прыродзе ўнутранай існіны: без яе свет у некаторым сэнсе няпоўны. У працэсе літаратурнай сімвалізацыі сам свет, сама прырода, а праз яе Вышэйшая Рэальнасць, як бы «прагаворвае» свой сэнс праз свядомасць чалавека, праз літаратурную вобразнасць. Нашы класікі інстынктыўна адчувалі сілу слова, здольнасць мастацтва перарабіць жыццё. Гэта глыбока прыроднае, арганічнае адчуванне, уласцівае ўсім геніям. І выяўляецца яно ў рэгіянальна-прыродным кантэксце: указаннях на клімат, прыродны цыклізм, асаблівасці флоры і фауны.

У Янкі Купалы прыродныя сімвалы — найбольш глабальныя: сама Маці-Зямля (хоць разумеў ён пад гэтым вобразам толькі сваю Радзіму).

У сваіх творах Купала ўводзіць паняцце Радзімы ў тры часавыя дыстанцыі — мінулае, сучаснае і будучае, па сутнасці, у Вечнасць. Экскурсы паэта ў гісторыю як бы своеасаблівы «ключ» для ўваходу ў супярэчлівую, выключна драматычную атмасферу пачатку ХХ стагоддзя (верш «Беларушчына»).

У сакральны час свята («Перад Сёмухай») пра долю Радзімы і долю чалавека клапоцяцца-думаюць дрэўцы. Выява дрэва ў Купалы, як здаецца, — метафара росту, вечнага імкнення да неба, да сонца, да святла — вобраз геасенсны. Радзіму паэт не ўяўляў без зялёнага ўбрання, прычым дрэва ў яго нібы брат чалавека па сярэдзіннасці паміж Небам і Зямлёю. Тут праяўляецца архетып Прадрэва, Касмічнага Дрэва. Як язычніцкае маленне гучыць прызнанне прыродзе: на радзіме «*усякая рэч як гавора з табою: і крывая бярозка, і сталетні дуб*».

У межах аднаго верша Купала дае і рэальны вобраз беднай, гаротнай «маткі-зямлі», і яе вобраз сакральны; любячаму сэрцу яна ўяўляецца раем: «*Ой, бывала, як сонейка блісне вясной, // То ж-то рай, далібог! — захліпаецца дух*». Усё, з чым сутыкаецца лірычны герой, адорана святлом любові і замілавання. Ад прыгажосці роднай зямлі, ад адчування злітнасці з ёю нараджаецца нацыянальная годнасць, пачуццё патрыятызму. Купала адчувае сувязь з роднай зямлёй не толькі ў плане сацыяльным, пра што пісалі даследчыкі неаднаразова, але і ў плане фізічным і духоўным. Таму і бачыцца «разумоваму зроку» Радзіма бедную, з неўрадлівай глебай, а вось сэрцу ўяўляецца раем («Я сын зямлі і сонца вольны сын»).

Матэрыя — маці — зямля — самая неабходная аснова быцця, узнікнення і знішчэння. Спрадвеку Маці-зямля звязана з чалавечай маці. Радзіма — свяшчэнная таямніца кожнага чалавека, як і яго нараджэнне. Сакралізацыя зямлі і, значыць, радзімы — асноўная асаблівасць усёй беларускай класічнай літаратуры.

Сярод глабальных сімвалаў Я. Купалы нельга абмінуць і глыбока нацыянальны — папараць-кветку. Кветка ў вершы «Заклятая кветка» такая ж недасягальная, як сонца, бо яна, як я мяркую, — і ёсць сонца, сонца чорнае, начное, якое раз у год — на Купалле — выходзіць на паверхню зямлі ў выглядзе кветкі (сонца спрадвеку і малююць падобным да кветкі — гэта так званыя салярныя знакі), адначасова яна — сімвал Цэнтра Зямлі. Увогуле архетыповае напаўненне вобраза надзвычай багатае.

З Цэнтрам Зямлі звязана і міфалагема кургана-каменя, аднаго з самых распаўсюджаных вобразаў паэзіі Я. Купалы, пра што шмат разоў пісалі даследчыкі.

Вобраз Айчыны ў Я. Купалы звязаны як з самымі глыбокімі роздумамі, так і адчуваннямі паэта, якія адлюстроўваюць сувязь чалавека з Космасам і з'яўляюцца сродкам раскрыцця Сусветнага Сэнсу. Пры гэтым нацыянальная ідэя аказваецца міфалагічна суадноснай з інкарнацыямі архетыпа Маці. Розныя персаніфікацыі Бацькаўшчыны (Маці, Дзяўчына-нявеста, Вясна) выступаюць адначасова з рэпрэзентацыяй сакральнага Цэнтра Свету.

У Якуба Коласа прыгажосць прыроды быццам адухоўленая воля Сусвету. Як у Купалы глабальным з'яўляецца вобраз Маці-Зямлі, так у Коласа — самой Прыроды як Кнігі Быцця. Паэзія Коласа — пералітая ў словы прыгажосць прыроды — дае людзям выхад з будзёншчыны ў самыя высокія духоўныя абсягі і, агорнутая глыбокім рэлігійным пачуццём, выводзіць урэшце на вышэйшы сэнс жыцця. Бо калі свет узнік невыпадкова, не як вынік сляпых сіл прыроды, значыць, у свеце ёсць Сэнс, які гаворыць нам пра Творцу.

Не варта нам, беларусам, разводзіць па розныя бакі язычніцтва і хрысціянства. Язычніцтва старажытных славян, нашых продкаў крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, з іх шанаваннем Сонца, культам адзінага бога Сварога, які быў разліты па ўсёй прыродзе і ў кожны перыяд гадавога кола паўставаў то Ярылам, то Перуном, то Купалам, то Родам, але кожны раз заставаўся галоўным над багамі, бацькам багоў, — такое язычніцтва заканамерна прыводзіла да хрысціянства. Коласаўскі пантэізм, характэрны для ўсёй яго творчасці, — гэта пазнанне Нябачнага праз бачнае, Бога праз розныя прыродныя з'явы: Бог раствораны ў іх і ў кожную пару года, месяц, час сутак знаходзіць розныя праяўленні. Коласаўскі пантэізм быў на першы погляд невыразным, замаскіраваным выяўленнем рэлігійнага быцця прыроды. Пісьменнік, напрыклад, піша ў геніяльнай паэме «Сымон-музыка»: «*Спіць усё, а дух сусвету // З духам лучыцца зямлі // І адводзіць ліхасць гэту, // Каб шчаслівы ўсе былі». Або: «Ёсць у свеце розум нейчы, // Ён і піша ўсім законы, // Накладае забароны, // Час вартуе кожнай рэчы...»* Галоўная тэма лепшых беларускіх паэм «Сымон-музыка» і «Новая зямля»: Бог — Прырода (Зямля) — Творца (музыка, паэт).

З прыродных сімвалаў Колас найбольш шануе сонца і дрэва. Ва ўсіх міфалогіях свету Сонца — родны сын і нашчадак Нябеснага бога, часам яго ўласная інкарнацыя. Сімвалізм сонца звязаны з творчым пачаткам, з кіруючай сілай, актыўнасцю, дзейнасцю, сілаю жыцця. Вось чаму творы Коласа, насычаныя сонцам, святлом, такія энергетычна зараджальныя, такія па-народнаму аптымістычныя.

Сваю любасць да расліннага свету Колас сімвалічна ўвасобіў у «Казках жыцця», дзе беларускі космас прадстаўлены ў той жа час і як міфалагічная мадэль свету з востравам пасярод акіяна (у Коласа — балота) і Прадрэвам (дубам) — воссю свету — на ім (падобна да мадэлі свету ў замовах): «*Балота, на якім прыгожа раскінуўся астравок... здавалася, не мела канца-краю. Найстарэйшы між усіх тут дуб, стоячы на самым высокім месцы вострава, не бачыў канца балота*» («Балотны агонь»). З дрэвам, лесам Колас звязваў філасофію жыцця, патаемную яго мудрасць і вышэйшую Прыгажосць. Вобраз дрэва ў натурфіласофіі Коласа — мадэль цэласнасці зямной прыроды. Дрэва глыбока пускае карані ў зямлю, а галаву, вецце падстаўляе сонцу, небу. Да яго варта быць падобным і чалавеку...

Геніяльнасць трэцяга з класікаў беларускай літаратуры — Максіма Багдановіча — відавочная з-за яго ўмення творча выкарыстоўваць агульначалавечыя, універсальныя сімвалы ў нацыянальным кантэксце. Адзін з найбольш глабальных сімвалаў (як і зямля, сонца) — вада. У індыйскіх Ведах вада называецца «матрымата» («самая мацярынская»). У Індыі ваду разглядаюць як ахоўніка жыцця, што цыркулюе па ўсёй прыродзе ў форме дажджу, соку раслін, малака і крыві. Вера ў незвычайныя функцыі вады (што сёння пацвярджаецца навукай) нарадзіла ў славянскім фальклоры трывалую міфалагему «жывой вады». Характэрна яна і для паэзіі М. Багдановіча: «*У родным краю ёсць крыніца // Жывой вады. // Там толькі*

*я змагу пазбыцца // Сваёй нуды».* У мастацкім свеце Багдановіча вада — найважнейшы кампанент, які надае прыгажосць кожнаму з відаў ландшафту.

Цікава тое, што Багдановіч хацеў паэтычна перадаць той кругаварот вады ў прыродзе, пра які згадвала старажытнейшая з рэлігійных кніг — Веды. Пра гэта гавораць яго вершы: «Напілося сонца са крыніц сцюдзёных», «Бура», «У небе — ля хмары грымотнай...», «Устань, навальніца...» Яшчэ ніхто з даследчыкаў не пісаў пра міфалагізм воблакаў, хмарак у творчасці паэта. Воблака ў рэлігійнай сімволіцы — своеасаблівая злучальная інстанцыя паміж «горнім»і «дольнім». Дзякуючы яму можна звязаць дзве такія далёкія адна ад адной сферы быцця, як свабодная плынь думкі і свабоднае цячэнне лёгкіх, насычаных вільгаццю, нябесных мас: «*Ціха тучу блакіт закалыша, // У душы адрасце пара крыл. // Узляціць яна ў сінюю вышу // І ў струях яе змые свой пыл*». У вобразе воблака ўвасаблялі і чалавечую душу. Прыхільнасць М. Багдановіча да «воблачнай» вобразнасці я тлумачу яго імкненнем вызваліцца з-пад матэрыяльных і рацыянальных звёнаў, што складаюць будзённае чалавечае існаванне, нейкую тонкую эфірную субстанцыю — зародак «новага Я», сапраўднага. Яно і надае паэзіі ўзнёсласць, вызваляе ад некаторай эмпірыкі, характэрнай для многіх беларускіх паэтаў «2-га» і «3-га» радоў, а паэтаў «1-га» рада робіць ва ўсім самастойнымі.

Такім чынам, у тым свеце культуры, у якім жыве беларус, асаблівае месца займаюць сімвалы, народжаныя фантазіяй класікаў беларускай літаратуры. Сімвалы ўтвараюць свой свет, узаемадзейнічаюць паміж сабою, што асабліва відавочна ў беларускай класічнай традыцыі: яны ў нашых класікаў так ці інакш, у тым ці іншым набліжэнні звязаны з паняццем «радзімы».

Мы жывём сярод сімвалаў, часта пад іх уплывам арганізоўваем уласнае жыццё, хоць свет сімвалаў з нашым зямным, побытавым існаваннем не супадае. Сімвалы прыходзяць да нас менавіта з культурнай традыцыі, у іх іншы рытм часу і іншыя законы. Кожны з нацыянальных геніяў асэнсоўвае праз сімвалы ўласную місію ў быцці; сістэма сімвалаў як бы легітымізуе жыццё і творчасць, надае ім сэнс і пэўную гармонію. І Я. Купала як пясняр Адраджэння, і Я. Колас як найглыбейшы натурфілосаф, і М. Багдановіч як акумулятар агульначалавечай сімволікі, шукальнік яе дзеяння на нацыянальнай глебе, — кожны з класікаў паўстае праз сваю сістэму сімвалаў-сакралаў.

Прырода як аснова сімволікі, вобразнасці — аснова асноў беларускага прыгожага пісьменства. Нельга ў сувязі з гэтым не сказаць і аб сялянскасці беларускай літаратуры як важнейшай якасці, якую яна нясе свету.

Новая беларуская літаратура, якая ў XIX стагоддзі развівалася ў неспрыяльных умовах, а з пачатку XX стагоддзя магутна заявіла пра сябе, лічыцца адной з самых сялянскіх у свеце: сялянскіх у сэнсе адрасата — для каго стваралася; у сэнсе аб’екта адлюстравання; а ў XX стагоддзі — і аўтарства, бо пераважная большасць савецкіх пісьменнікаў паходжаннем з сялян. З сярэдзіны XX стагоддзя, калі беларуская нацыя ў значнай ступені зрабілася гарадской, хоць і захавала моцныя сялянскія карані, калі вырасла пакаленне «дзяцей асфальту», у якога не было вясковага дзяцінства, і асабліва калі адбыліся з 80-х гадоў рэвалюцыйныя працэсы ў грамадстве, частка беларускай інтэлігенцыі пачала адхрышчвацца ад свайго сялянскага генезісу. Сапраўды, у пэўны момант сацыяльна-культурнага развіцця важна было нагадаць народу, што беларуская літаратура ад яе вытокаў стварылі прадстаўнікі ўсіх саслоўяў: і духоўныя асобы княжацкага паходжання (Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі), і баяры (Мікола Гусоўскі), і выхадцы з купцоў (Францыск Скарына), і прадстаўнікі шляхты (Ян Баршчэўскі, Адам Міцкевіч, Вікенцій Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Цётка, Янка Купала), і гарадской інтэлігенцыі (Янка Лучына). Увядзенне ў культурны ўжытак, і ў тым ліку ў школьнае і універсітэцкае навучанне новых імёнаў — Міколы Гусоўскага, Барбары Радзівіл, Яна Баршчэўскага, часам цэлых пластоў літаратуры (напрыклад, рэлігійнай палемічнай), — у значнай ступені пашырала культурную прасто-

ру, надавала айчыннай літаратуры стэрэаскапічнасць і гістарычную перспектыву, далучала да найбольш развітых літаратур свету. Увогуле мяжа стагоддзяў, асабліва канец 80-х — пачатак 90-х XX стагоддзя, — гэта час новага гістарычнага ўсведамлення беларусамі ўласнай ідэнтычнасці (адбылося адно з нацыянальных адраджэнняў — трэцяе ці чацвёртае за нашу гісторыю). Узнікае нават своеасаблівы феадальна-рыцарскі культ, які выразна выявіўся ва ўзбагачэнні жанру гістарычнага рамана новымі значнымі творамі, у з'яўленні адпаведных навуковых прац, у стварэнні моладдзю рыцарскіх клубаў. Нацыя як бы вярталася да сваіх вытокаў — перш за ўсё дзяржаўных.

Але любы імклівы працэс, які б ён ні быў станоўчы, не абыходзіцца без выдаткаў. Стала добрым тонам сярод пісьменнікаў і даследчыкаў-філолагаў катэгарычна адмаўляць выключна сялянскую аснову беларускай літаратуры. Можна зразумець заклапочанасць беларускай інтэлігенцыі падняццем прэстыжу ўласнага прыгожага пісьменства, імкненнем надаць яму больш высокі статус. Але тут, нам здаецца, назіраецца неразуменне і анталагічных асноў культуры, і каштоўнаснай скарбонкі айчыннай літаратуры ў іх агульным гістарычным маштабе.

Усе поспехі цывілізацыі на Зямлі маюць сваім вытокам сельскую гаспадарку. Як яна ўзнікла, адкуль і чаму фактычна імгненна з'явіліся шматлікія культурныя расліны і пэўнае кола свойскіх жывёл — свая, надзвычай цікавая, хоць і выключна складаная навуковая праблема. Тое, што сёння гаворыць на гэты конт афіцыйная навука, задаволіць дапытлівых людзей ужо, безумоўна, не можа. Але важны вынік. Поспехі сельскай гаспадаркі далі магутны штуршок цывілізацыйнаму развіццю, нават адчуванню ўласна часу. Паляўнічы і збіральнік жылі адным днём, аселы ж лад жыцця патрабаваў адчування гадавога цыкла з яго чаргаваннем сезонаў. Так узнік каляндар — цэнтральны стрыжань чалавечай культуры. Вядзенне сельскай гаспадаркі заканамерна спрыяла ўзнікненню гандлю і спецыялізацыі прафесій, некаторыя з якіх (пэўныя рамёствы ці мастацтвы) пачынаюць канцэнтравацца ўжо не толькі ў вёсках, а і ў гарадах. Адсюль недалёка да ўзнікнення пісьменнасці, законаў і дзяржавы.

Для таго, каб у поўнай меры ўсвядоміць анталагічныя асновы беларускай культуры, неабходна прыгадаць яе міфалагічна-фальклорную спадчыну.

Першым сталым земляробам быў, як вядома, прабацька Ной, ад якога вядзецца сучаснае чалавецтва. Як бы ні ставіцца да міфа, але з аповеда пра біблейскага Ноя — алегарычнага вобраза першапродка-земляроба — пачынаюцца ўсе старадаўнія хронікі — пачатак нашай літаратуры, у тым ліку летапісны звод «Аповесць мінулых гадоў», а таксама беларуска-літоўскія летапісы.

З глыбокай архаікі народы падзяляліся на аселыя, якія займаліся земляробствам і жывёлагадоўляй, на качавыя, якія толькі разводзілі жывёлу, і тыя, якія ўвогуле жылі не гаспадаркай, а нападамі на аселыя народы, пірацтвам, гандлем рабамі. Прычым першыя культурныя расліны і першыя прыручаныя жывёлы з'явіліся ў продкаў, насуперак сцвярджэнням афіцыйнай навукі, задоўга да неалітычнай рэвалюцыі (X—VIII тыс. да н. э.) — археалогія ўсё далей паглыбляецца ў тысячагоддзі. Земляробства стала традыцыйным і паважаным заняткам продкаў індаеўрапейскіх народаў. Цяжкая і пастаянная праца на зямлі заўсёды выратоўвала працалюбівыя этнасы, у тым ліку наш беларускі, ад немінучага заняпаду. Мы ж ведаем шматлікія адваротныя прыклады: выміранне плямёнаў і народаў нават у наш час ад голаду толькі па прычыне нежадання паклапаціцца пра сваё будучае. Несупынная, карпатлівая праца на зямлі давала не толькі матэрыяльны плён і жыццё. Яна фарміравала ў сотнях пакаленняў нашых продкаў асаблівы светапогляд, значна больш высокі і адухоўлены, чым, скажам, у народаў качавых, у народаў паляўнічых. Такога кшталту светапогляд абумоўлены самім характарам сельскагаспадарчай працы, якая дазваляе людзям уступаць з прыродай у найбольш гарманічныя стасункі.

Адрозненне сялянскага жыцця ад гарадскога заключаецца, галоўным чынам, у рэлігійнасці вясковага ладу існавання. Маецца на ўвазе не афіцыйная рэлігій-

насць, а своеасаблівае сакральнае пачуццё, абумоўленае якраз геліясенснасцю і космасенснасцю нашага народа: здольнасць бачыць Вышэйшы Сэнс ва ўсіх з'явах прыроды і выяўленні чалавечых адносін. Ворыва, сяўба, уборка ўраджаю, будаўніцтва дома і прыняцце ежы, нараджэнне і смерць — усё мае ў селяніна сакральна-касмічны сэнс. Акрамя таго, жыццё на зямлі вядзе да самапазнання, да ўсведамлення свайго жыццёвага прызначэння.

Разуменне сялянскай працы сучаснымі гараджанамі надзіва звужана-прымітыўнае. Між тым, для нашых продкаў-сялян заўсёды было характэрна задавальненне не толькі прыродных, біялагічных патрэб, для чаго і сеялі хлеб, гадавалі свойскую жывёлу, але яшчэ і духоўных — пры дапамозе знакаў, вобразаў, сімвалаў, увасобленых у міфалогіі, фальклоры, мастацкай літаратуры.

Фальклор — прадукт выключна сялянскі. На гэта сцвярджэнне можна запярэчыць, што ёсць і гарадскі фальклор, і нават у наш час дастаткова багаты. Гэта так, але ж гарадскі фальклор ствараецца паводле матрыц, што ўзніклі ў нетрах вясковай цывілізацыі, па яе ўзорах.

Інакш кажучы, гарадская цывілізацыя застаецца другаснай у шмат якіх складніках. Адкрыты быццю чалавек акумуляваў касмічныя энергіі і выяўляў іх праз першабытны татэмізм, анімізм, магію, а ў гістарычныя часы — праз розныя жанры фальклору, які паказваў малюнкі-прыклады разумнага быцця. Адны фальклорныя тэксты ўяўлялі сабою архаічныя сакральныя веды (казкі, быліны, замовы, загадкі), іншыя ўтрымлівалі ў выглядзе лаканічнай вобразнай формулы маральныя прынцыпы, этычныя нормы, ацэначныя крытэрыі і эстэтычныя меркаванні (песні, прыказкі і прымаўкі). Неўміручае значэнне міфалагічна-фальклорных вобразаў у тым, што яны сімвалізуюць космас, прыроду ў цэлым. Чалавек, жывучы ва ўмовах горада і прывязаны да яго рэалій, мысліць эмпірычна, а не сімвалічна: ён не можа бачыць у рэчах знакі «іншай рэальнасці», шырэйшых даляглядаў. Вось чаму сучасная літаратура пры ўсіх яе фармальных знаходках — халодная і бяздушная, не грэе чалавека, не задавальняе яго голад на сімвалы.

Адзін з такіх глабальных сімвалаў — Маці-Зямля. Ён — важнейшы, як я гаварыла вышэй, у паэтычнай ідэалогіі беларускіх пісьменнікаў-класікаў. Паняцце зямлі з'яўляецца ў айчынным прыгожым пісьменстве сэнсаўтваральным, стылеўтваральным, жанраўтваральным (творчасць Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, Івана Мележа, Вячаслава Адамчыка і інш.). «*Я пісаў зямлі многа лістоў,* — паэтычна сведчыў Максім Танк. — *Але пакуль што // Адказ атрымаў я // толькі на ліст мой, // напісаны плугам».*

Вобраз Маці-Зямлі — глыбока архетыповы, спрадвечны, бо, як можна меркаваць, ядро аўтахтоннага насельніцтва (барэалы) заставалася на тэрыторыі цяперашняй Беларусі, нягледзячы на ўсе перамяшчэнні плямёнаў, назаўсёды, засяліўшы нашу зямлю адразу пасля сыходжання ледавіка (клімат тады быў іншы, і зямля высыхала хутка). А выгоды геаграфічнага становішча цяперашняй Беларусі былі ацэнены, безумоўна, здаўна. Маецца на ўвазе цэнтральнае месцазнаходжанне ў Еўропе, у тым ліку паміж морамі — Балтыйскім і Чорным, на беразе ўласнага мора Герадота, акрамя таго, з рэчкамі-дарогамі, якія цяклі (акцэнтуем на гэта ўвагу) у розныя бакі свету. Улічваючы такога кшталту рачную сетку, можна сказаць, што космас беларуса заўсёды быў арыентаваны на інфармацыю, бо да нас сцякаліся звесткі з усіх краін. І літаратура беларуская таксама скіравана на дыялог і нават на палілог: яна ўбірала ў сябе лепшае з суседніх літаратур і па гэтай прычыне хутка, дынамічна развівалася.

У гісторыкаў свой падыход да праблемы, у філолагаў — свой. Мова і міф — больш праўдзівыя сведкі, чым матэрыяльныя артэфакты, якія ў глебе, безумоўна, не захаваліся, бо наша высокаразвітая цывілізацыя была драўлянаю. Тут пафас майго артыкула палемічна скіраваны супраць некаторых паважаных пісьменнікаў і даследчыкаў літаратуры, якія гавораць аб беларусах як аб «людзях на балоце», што спрадвечна сядзелі ў балоце і мелі адпаведны менталітэт. Наадварот, на тэрыторыі

раўніннай Беларусі існаваў культ курганоў-валатовак, што ствараліся штучна, з'яўляючыся і сродкам архітэктурнай арганізацыі ландшафту, і сакральным судакрананнем зямлі і неба, і месцам пахавання героя-волата. А герояў было столькі, што нават у пачатку XX стагоддзя, як сцвярджае БСЭ, у нас заставалася 6000 курганоў. Што ж тычыцца жылля, то беларус сяліўся на высокіх берагах рэчак, на ўзгорках — пад купалам неба. Так, сапраўды, у балотах хаваліся пад ударамі пастаянных хваляў качэўнікаў з усходу — сарматаў, готаў, гунаў, венграў, печанегаў, татар — славянскія плямёны з поўдня, з Дуная: яны беглі ў нашы лясы і балоты і бараніліся тут. Мы павінны быць удзячныя балотам, якія захавалі славянскі этнас.

Вада і лес — асноўныя фактары, паводле акадэміка Б. Рыбакова, жыцця славяніна. Ёсць версія акадэміка І. Дзяканава, што і земляробства, як ні дзіўна, узнікла не ў стэпе, дзе, здавалася б, багатыя чарназёмы, а ў лясной зоне. Украінскія даследчыкі ў сваёй большасці трымаюцца той жа думкі, выводзячы назву племені палян, згаданага ў летапісца Нестара як першанасельнікаў Украіны, ад слова «паліць»: «Паходжанне слоў «паляна», «поле» звязана з падсечным спосабам гаспадарання. <…> Яны першапачаткова азначалі месца, выпаленае ад лесу агнём. Пазней палянай пачалі называць таксама вызваленае ад дрэў месца ў лесе, полем — любую вялікую, вызваленую ад лесу прастору, у тым ліку і стэп, паланінай — бязлесую вяршыню гары» [У. С. Яновіч].

Увогуле стасункі продка-селяніна з прыродай уяўлялі сабою надзвычай складаную сістэму ўзаемасувязі сацыяльна-прыроднага, псіха-эмацыянальнага і рацыянальнага кампанентаў. Яны знаходзілі сваё выяўленне ў гаспадарцы, у вераваннях, у фальклоры. Сялянскі свет сваім жыццёвым укладам поўнасцю ўключаны ў рытмічны кругазварот Космасу. Усё быццё селяніна на зямлі праходзіць на фоне і ў суладдзі з прыроднымі цыкламі. Вопыт развіцця земляробчай цывілізацыі даваў чалавеку ўпэўненасць у адэкватнасці сваіх дзеянняў Боскай задуме. Земляробства звязана з культам смерці — нараджэння. Гэта ідэя стала шмат у чым нацыянальнаю. Што толькі не здаралася з беларускім народам, а ўсё роўна ён адраджаўся неаднаразова, адраджаў сваю культуру. Як слушна адзначаў слынны беларускі даследчык У. Калеснік, «смерць і ўваскрашэнне Беларусі — вось цэнтральны скразны матыў нацыянальнай міфалогіі, ён пранізвае нашу літаратуру і зводзіць яе ў адзіны ланцуг народнага лёсу».

Яшчэ адна важная асаблівасць сельскагаспадарчай працы — узаемапранікненне светаў вертыкальнага (у часе) і гарызантальнага (у прасторы). Маецца на ўвазе залежнасць ад пор года, дакладнае падпарадкаванне рытмаў уласнага жыцця і працы рытмам прыроды. Зладжанасць усяго з усім, адчуванне цэласнасці свету нарадзілі асаблівую гарманічнасць нашай літаратуры. Гарманічнасць у найбольшай ступені выявілася ў апісаннях прыроды, у пейзажнай лірыцы, ды стала і вызначальнай рысай шмат якіх <u>індывідуальных стыляў</u> (Якуба Коласа, Івана Мележа).

Беларусам заўсёды не хапала сонечнай энергіі: так склалася ружа вятроў, што тут, у цэнтры кантынента, самая меншая колькасць сонечных дзён на працягу года ва ўсёй Усходняй Еўропе. Таму продкі асабліва цанілі менавіта тыя прыродныя аб'екты, што сонечную энергію назапашваюць, — колас, ніву. І ў гэтым плане псеўданім Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча — Якуб <u>Колас</u> — сапраўды знакавы, можна нават сказаць, лёсавызначальны і для самога класіка, і для яго Радзімы. Хіба выпадкова, што ў «Слове пра паход Ігаравы» бой параўноўваецца з цыклам сельскагаспадарчых работ? Або як піша паэт ужо XX стагоддзя — Юрка Лявонны: «*Вяжуць сонца ў снапы // На жытнёвым полі*». Самую Беларусь паэты бачаць убранай у каласы: «*Цяпер убрана ты квяціста, // Пад колер слуцкіх паясоў, // У строі нівы залацістай, // У шаты грэчак і аўсоў*» (Пятро Глебка). Радзіма заўсёды паўставала як ніва ў лясным вянку: «*Краіна мая, радасць мая, // Песня мая маладая! // Па нівах тваіх, па тваіх гаях // Сынава сэрца рыдае*» (Пімен Панчанка).

У гісторыю (гісторыю, зафіксаваную пісьмовымі помнікамі) беларусы ўступілі тады, калі асноўныя рысы этнасу ўжо поўнасцю скlаліся, і не гісторыя вызначала іх фарміраванне, а, наадварот, падзеі гісторыі ў многім дэтэрмінаваны гэтымі якасцямі. Беларус — не пакорлівы раб, а фаталіст у гісторыі. Ён пакораны лёсу, а не ўладарам, і гэта ў поўным сэнсе слова містычная рыса беларусаў. Назва трылогіі Я. Коласа «На ростанях», як і псеўданім аўтара, — знакавая: беларус з пачатку гісторыі — на раздарожжы, вымушаны выбіраць шлях. Часта ён аддае сябе на волю лёсу, каб не абцяжарваць свой розум, або таму, што не давярае розуму. Дарэчы, я звязваю слова «лёс» з «лесам». Лес для беларуса — увасабленне прыродных сіл; беларус ім і аддаецца.

Спакойная нявызначанасць у становішчы на ростанях — вось менталітэт беларуса. Ён стаіць на раздарожжы перад выбарам (містычна-трагічная тэма Васіля Быкава), але ён спакойны, бо ад яго выбару, выбару яго розуму мала што залежыць. Беларус добра бачыў, што свет — і прыродны, і сацыяльны — нестабільны, але ставіўся да гэтага свету з павагай. А ўся гісторыя як Беларусі, так і яе суседзяў, нібы пацвярджала ідэю, якую беларус інтуітыўна адчуваў заўсёды: увядзенне зямных, гэта значыць, так званых «дэмакратычных», прававых, еўрапейскіх парадкаў вядзе толькі да грамадскай дэградацыі і чалавечых трагедый. Жаданая для бюракрата матэматычная ўпарадкаванасць — абсалютна чужая для беларускай душы, што і дэманструе ўся класічная беларуская літаратура.

Велізарнае значэнне ў фарміраванні анталагічнай асновы прыгожага пісьменства мелі вераванні. Пасля Хрышчэння князя Уладзіміра (Кіеў — 988 год, Полацк — 992 год) эліта ўсім сэрцам успрыняла хрысціянскую рэлігію, бо «*сама душа чалавечая па сутнасці сваёй — хрысціянка*» (Тэртуліян). Сапраўды, сонечная, светлая вера беларуса натуральна злучылася з хрысціянскай верай, якая дадала да маральных запаветаў Сварога і розных першабытна-родавых табу найважнейшую чалавечую якасць — сумленне.

Родная мова, якую захоўвае мастацкая літаратура, і родная вера, падмацаваная прывязанасцю да роднай зямлі, «роднага кута», нацыянальныя традыцыі, звычаі, тып паводзін стваралі нацыянальную культуру.

Такім чынам, гаворачы пра сялянскасць беларускай літаратуры, мы маем на ўвазе не толькі тэматычную яе характарыстыку (літаратура пра вёску), не адраснасць і не паходжанне творцаў, а раскрыццё мастацкага вобраза, які ўвасабляе народны характар, асаблівасці нацыянальнай Душы.

«Мужыцкасць» беларускай літаратуры XX стагоддзя — гэта працяг князёўска-баярскай і шляхецкай традыцыі (эпохі Адраджэння і XIX стагоддзя). Сутнасць з'явы — у рэалізацыі мастацка-эстэтычных законаў звяртання да пэўнага пласту жыцця на парозе яго знікнення.

Адлюстраванне жыцця беларускага народа, перш за ўсё жыцця селяніна, бо сялян у Беларусі была пераважная большасць, — характэрная рыса нашай літаратуры. Не варта прыніжаць яе, называючы «мужыцкай». Наадварот, мы павінны гэтым ганарыцца, як ганарацца інтэлектуалізмам, бо гаворка ідзе менавіта пра філасофію існавання. Сёння навукоўцы шмат пішуць пра «сялянскую цывілізацыю», у значнай ступені знішчаную ў XX стагоддзі. Як мы ставімся да загінуўшых цывілізацый — Егіпта, Вавілона, Антычнасці? З велізарнай зацікаўленасцю, імкненнем набрацца вопыту і смуткам аб былой прыгажосці. Так і тут. Літаратура занатавала тое, што ўжо загінула, можна лічыць, канчаткова (У Алеся Пісьмянкова: «*Мы апошнія з нашага роду, // Каму сняцца вясковыя сны*»). Гэта адбылося не толькі ў нас — фактычна па ўсім свеце. Але, скажам, на Захадзе працэс значна — на стагоддзі — расцягнуўся ў часе, у нас жа ўсё парушылася за два дзесяткі гадоў — 20—30-я. Усе катаклізмы ў вёсцы (калектывізацыя, раскулачванне, хрушчоўскія і «дэмакратычныя» рэформы) — вынік сутыкнення несумяшчальных паміж сабою цывілізацый. Прычым кардынальна разыходзіцца ў сялян і гараджан перш за ўсё светапогляд: у першых — касмацэнтрычны (чалавек уключаны

ў прыродны кругазварот), у другіх — тэхнацэнтрычны. Беларуская літаратура цікавая, значная, глыбокая якраз не толькі адлюстраваннем рэалій жыцця (так бы мовіць, стылем «кантры»), але менавіта праяўленнем у іх унікальнага светапогляду, які ўжо не існуе, хоць самі сяляне і засталіся (у гэтым уся справа!).

Душу ўласнага прыгожага пісьменства добра разумелі беларускія пісьменнікі. Міхась Арочка яшчэ ў 1978 годзе ў вершы «Спрэчка наконт духоўнасці» адказваў тым, хто прыніжаў нашых продкаў: «*Дзе ж падгледзеў, дружа, тую тупасць, // Тую беднасць духу пад страхой? // Там жылі — гасціннасць, мужнасць, мудрасць, // Ды такія, каб — і нам з табой!*» А Пімен Панчанка на схіле жыцця кляў сябе за былое захапленне індустрыяльнай цывілізацыяй: «*Я рос бяздумным дурнем, як і ўсе, // І славіў росквіт, // Светлы век машынны. // Глядзеў з пагардай на каня ў аўсе, // На воз бацькоўскі свежай канюшыны*».

На пачатку анталагічнай традыцыі нашай літаратуры — геніяльная «Новая зямля» Якуба Коласа, значэнне якой бачыцца ў пачатку XXI стагоддзя ўсё лепш. «Якуб Колас пісаў твор, дзе ўсё бачана, ацэнена вачамі, розумам, светаадчуваннем селяніна, паэт не спускаўся да свайго героя з іншага сацыяльнага асяроддзя, а стаяў упоравень з ім, гаварыў ад яго імя, сцвярджаў яго этычны, эстэтычны і духоўны свет», — пісаў Іван Навуменка. Пра вялікасць Якуба Коласа і ўспрыняцце яго творчасці ў наш час піша вядомы беларускі даследчык М. Тычына: «Адчуванне прыроды, унікальныя пейзажы (ні ў кога ў сусветнай літаратуры няма такой колькасці натхнёна намаляваных пейзажаў), паэтызацыя «няўзрачнага» побыту вёскі, палемічная цікаўнасць да ўсяго зямнога, паказ абуджэння пад уплывам сусветнай гісторыі нацыянальна акрэсленай асобы робяць Якуба Коласа мастаком найноўшага часу, прадаўжальнікам класічнай лініі ў сусветнай літаратуры...» Значэнне паэмы яшчэ і ўзрастае на фоне, як было сказана ў пачатку артыкула, новых цывілізацыйных працэсаў, а таксама палітыкі дзяржавы — будаўніцтва аграгарадкоў. Іх жыхарам патрэбна будзе вярнуцца да класічнай спадчыны, каб арганізаваць сваё жыццё на мудрых духоўных пачатках. Наша ж задача — захаваць для наступных пакаленняў каштоўны народны вопыт, занатаваны ў айчыннай літаратуры.

Мы павінны ганарыцца тым, што наша літаратура — сялянская (у анталагічным сэнсе), нягледзячы на ўсю знешнюю разнастайнасць сённяшняй тэматыкі. Праца селяніна — самая творчая праца! Добры гаспадар заўсёды ўлічваў дзесяткі розных фактараў, якія маглі забяспечыць багаты ўраджай, а значыць, дабрабыт, магчымасць вучыць дзяцей, будавацца і інш. У вершы «Веды» Рыгор Барадулін дзівіцца рознабаковасці ведаў сваёй маці: «*Ведала, што да чаго // На небе, // У лузе, // У хаце*».

Гісторыя чалавецтва — гэта барацьба дзвюх сістэм стаўлення да быцця: прагі багацця любой цаной, з аднаго боку, і імкненнем ачалавечыць эканоміку, стварыць больш высакародныя гаспадарчыя адносіны — з другога. Апошняе якраз характарызуе вясковае існаванне. Вышэйшая мэта быцця — не грамадства спажывання, а больш годнае, духоўна багатае жыццё людзей. І пазнанне іншабыцця — менавіта для таго, каб зрабіць жыццё лепшым. У кожнага народа — сваё іншабыццё, свая Таемная Рэальнасць, нешта нябачна-метафізічнае, што выяўлена ў калектыўнай душы і, безумоўна, у культуры. Яно, прыхавана-містычнае, сакральнае, абумоўлена нашай леса-поле-рачной прасторай, нашай у аднолькавай ступені любоўю і да Неба, і да Зямлі. Такая любоў якраз і ўласціва найперш селяніну. Яе выявіла беларускае прыгожае пісьменства, што і абумовіла яго нацыянальную спецыфіку, зрабіла унікальным сярод іншых народаў планеты.

**Міхась КЕНЬКА**

# ЛІТАРАТУРНЫЯ СУВЯЗІ

**Мастацкая** літаратура любога народа не можа развівацца ізалявана. У розных краінах свету літаратурная творчасць працякае па-свойму, у адпаведнасці з гістарычнымі, культурнымі, псіхалагічнымі асаблівасцямі народа. У адных краінах літаратура ўжо выйшла на новыя рубяжы, выявіла нешта наватарскае, перадавое, у другіх яна адстае, топчацца на месцы, паўтарае саму сябе. Менш развітым літаратурам даводзіцца падцягвацца, пераймаць вопыт, засвойваць новае. Літаратурны працэс у яго гістарычным абсягу — гэта пастаянная змена метадаў, напрамкаў, з'яўленне новых плыняў, абнаўленне стылю, формы і зместу твораў. Утварыўшыся недзе ў адной краіне, новае паступова пачынае развівацца ў другой, трэцяй, ахоплівае ўсё новыя краіны, рэгіёны, кантыненты. Бывае і так, што пераймаецца далёка не самае лепшае: творы, якія могуць дэстабілізаваць становішча ў краіне, садзейнічаць абуджэнню расавай, рэлігійнай, нацыянальнай варожасці, пашырэнню нянавісці, безгустоў'я, нізкапробшчыны, амаралізму ў грамадстве. У тых краінах, якія дбаюць пра выхаванне насельніцтва ў духу здаровай маралі, высокіх агульначалавечых каштоўнасцей, такой літаратуры ставіцца заслона. Цэнзура ў такіх выпадках патрэбна, яна не павінна звязвацца з абаронай правоў чалавека, гэта абарона права народа на незалежнасць. Нельга навязваць іншым народам свае погляды на дзяржаўны лад, веру, мараль. Так сумнавядомая публіцыстычная кніга Гітлера «Мая барацьба», у якой выкладзены ідэі шавінізму, пасля вайны не выдаецца нават у Германіі. Вядомыя выпадкі асуджэння на міжнародным узроўні твораў, якія зневажаюць рэлігійныя пачуцці: «Сатанінскія вершы» Салмана Рушдзі і «Код да Вінчы» Д. Браўна — пацвярджаюць гэта.

Літаратурныя сувязі — неабходная форма творчых кантактаў паміж літаратурамі розных народаў, іх стваральнікамі і чытачамі. Віды сувязей могуць быць самыя розныя: тыпалагічныя, генетычныя, кантактныя. Найбольш пашыраныя з іх кантактныя: пераклад, асабістыя сувязі пісьменнікаў, літаратурная крытыка.

Зразумела, што лепей за ўсё знаёміцца з творамі любога пісьменніка, чытаючы яго ў тым выглядзе, як ён напісаны, на мове арыгінала. Таму ў больш выгадным становішчы аказваюцца чытачы, якія валодаюць не адной, а хаця б дзвюма мовамі, а лепей, калі ведаюць іх некалькі. У большасці краін свету, акрамя роднай мовы, у сярэдняй і вышэйшай школе вывучаецца і яшчэ адна замежная. Ёсць краіны, дзе добра ведаюць некалькі моў, карыстаюцца імі ў паўсядзённым жыцці. На памежжы звычайна ведаюць мову суседзяў. Часам двухмоў'е ў краіне застаецца пасля ўзброеных канфліктаў, захопніцкіх войнаў, доўгага панавання каланізатараў, захопнікаў. У заваяваных краінах насаджаецца мова агрэсара, вядзецца мэтанакіраваная культурная, рэлігійная і моўная экспансія.

Сярод моўных фактараў літаратурных сувязей можа мець значэнне дзяржаўнае двух- або шматмоў'е, шырокія магчымасці для вывучэння і добрага авалодвання замежнымі мовамі на рознага роду курсах, па падручніках-самавучыцелях. Часам на іх можа ўплываць дастатковая або недастатковая распрацаванасць нацыянальнай мовы. У краінах, якія доўгі час не мелі сваёй пісьменнасці, далучыліся да яе значна пазней, чым іншыя, літаратурная мова часцей за ўсё бедная, грунтуецца на гутарковай лексіцы, звязанай з побытавымі паняццямі, адцягненай лексіцы, а таксама слоў, звязаных са сферамі гаспадарчых, дзяржаўных, прафесійных адносін можа не ставаць. Тады яны запазычваюцца з іншых моў, часам праз той жа пераклад, але часцей шляхам стварэння новага па нацыянальных моўных узорах. Праз пераклад засвойваюцца і многія словы, якія ў гэтай краіне не патрэбны для ўжытку, але знаёмыя па апісаннях жыцця ў іншай краіне. Скажам, мы не маем справы з грашовымі адзінкамі некаторых аддаленых ад нас краін, але ведаем пра тое, што ёсць рупія,

тугрык, юань, песа. Мы ведаем, што жыхары пэўных замежных краін носяць кімано, сары, самбрэра, чалму, паранджу, ведаем назвы некаторых нацыянальных музычных інструментаў, танцаў і г. д.

Аднак моў у свеце існуе значна болей, чым іх можа засвоіць чалавек. Таму знаёміцца з сусветнай літаратурай даводзіцца праз мастацкія пераклады. Менавіта праз іх чытачы ва ўсім свеце могуць пазнаёміцца з літаратурай іншых народаў. Паводле звестак, якія ўтрымліваюцца ў рабочым даведніку Index Translationum — базе дадзеных аб творах, перакладзеных на замежныя мовы, складзенай дзякуючы супрацоўніцтву нацыянальных бібліятэк — перакладзена і перакладаецца ва ўсім свеце болей як 250 тысяч аўтараў. Даведнік паказвае, што больш за ўсё перакладзена твораў, напісаных на англійскай, французскай, рускай, італьянскай, іспанскай, шведскай мовах, а таксама на латыні. Пераклады з беларускай мовы стаяць на 46-м месцы. Для параўнання: пераклады з японскай мовы — на 14-м месцы, з кітайскай — на 21-м, з ідыш — на 39-м, грузінскай — на 47-м латышскай — на 48-м. Даюць цікавыя звесткі пра тое, чые творы найбольш перакладаюцца ў свеце, таксама і матэрыялы, абнародаваныя ЮНЕСКА. Паводле іх за апошнія 75 гадоў найбольш часта перакладаліся творы Жуль Верна, Уільяма Шэкспіра, Ганса Хрысціяна Андэрсена, Аляксандра Дзюма, Льва Талстога, Фёдара Дастаеўскага, Антона Чэхава, Анарэ дэ Бальзака, Эрнэста Хемінгуэя, Марка Твэна, а таксама Біблія, творы Уладзіміра Леніна, Карла Маркса, Фрыдрыха Энгельса. Але не будзем занадта цешыцца наяўнасцю шматлікіх перакладаў класікаў. У лік найбольш перакладаемых аўтараў трапілі таксама Барбара Картленд, Даніела Сціл, Дж. Р.-Р. Толкіен, Стывен Кінг, Джон Грышэм, Джэймс Хэдлі Чэйз, Агата Крысці.

А ці павінны дзяржава, прадстаўнікі яе літаратуры клапаціцца пра тое, каб створанае ў іх краіне ведалі за яе межамі? Ці гэта толькі ўнутраная справа — забяспечыць перакладамі чытачоў сваёй краіны дзеля патрэб сярэдняй і вышэйшай школы, адукацыі, павышэння культурнага ўзроўню, зацікаўленасці?

Шматлікія прыклады сведчаць, што практычна ўсе дзяржавы свету апякуюцца забеспячэннем сваіх чытачоў перакладной літаратурай. Культурны ўзровень нацыі вызначае і яе імкненне пазнаёміць насельніцтва краіны са скарбамі сусветнай культуры, стварэнне ўмоў для адукацыі, магчымасцей для азнаямлення з творчасцю замежных пісьменнікаў.

Але ні адна краіна не можа з-за абмежаванасці грашовых сродкаў дазволіць сабе мець пераклады ці не ўсяго, што выходзіць з-пад пяра пісьменнікаў па ўсім свеце. Гэта ўрэшце і не патрэбна. Выбіраецца для перакладу звычайна ў першую чаргу тое лепшае, што створана ў літаратуры на працягу яе развіцця, класіка, вяршынныя дасягненні, высокамастацкія, найбольш папулярныя, надзённыя творы. Аднак сёння нароўні з гэтым праяўляюцца ў перакладчыцкай справе і іншыя фактары, яны выкліканы грашовымі адносінамі.

Ва ўсім свеце цяпер назіраецца ўсплёск папулярызацыі масавай літаратуры невысокага мастацкага ўзроўню, яна захоплівае кніжныя рынкі, навязваецца сродкамі масавай інфармацыі. Рынкавыя адносіны да мастацкай літаратуры прыводзяць да таго, што і самі пісьменнікі, імкнучыся дагадзіць невысокім густам найбольш масавай катэгорыі чытачоў, дбаюць перш за ўсё пра тое, каб іх кніжкі раскупляліся, прыносілі гарантаваны прыбытак, а таму пішуць не дзеля высокіх ідэалаў, а дзеля ганарару, стабільнага заробку. І сярод перакладаў, на жаль, апошнім часам першынство аддаецца не вельмі высокага кшталту творам-аднадзёнкам.

Безумоўна, і самі пісьменнікі не супраць таго, каб іх творы чыталі ў іншых краінах, многія імкнуцца наладзіць сувязі з перакладчыкамі за мяжой, з літаратурнымі часопісамі, выдавецтвамі, дзе б яны маглі надрукавацца. Драматургі зацікаўлены ў тым, каб іх п'есы ставіліся не толькі на радзіме. Кантактныя сувязі пісьменнікаў — адзін з найбольш дзейсных сродкаў узаемадзеяння літаратур. Скарыстоўваюцца любыя магчымыя іх віды: асабістае знаёмства, сяброўства, гутаркі, ліставанне, удзел у пісьменніцкіх з'ездах, канферэнцыях, тыднях культур, творчыя камандзіроўкі, замежныя паездкі, падарожжы. Як тут не згадаць пра сустрэчы А. Пушкіна

з А. Міцкевічам, сяброўства А. Куляшова і А. Твардоўскага, іх працяглае ліставанне, творчыя кантакты Я. Коласа з П. Кабзарэўскім, Я. Брыля і М. Танка з польскімі пісьменнікамі і г. д.

Добра, калі за межамі краіны ёсць людзі, зацікаўленыя ў пашырэнні ведаў пра чыю-небудзь літаратуру, перакладаюць яе, прапагандуюць. Да нядаўняга часу знаёміў з беларускай літаратурай у ГДР У. Чапега, цяпер у Германіі друкуецца А. Разанаў. Так ці іначай прадстаўляюць нашу літаратуру ў Вялікабрытаніі В. Рыч і А. Макмілін, у Польшчы — А. Баршчэўскі, Ч. Сэнюх, Я. Чыквін, У. Зямчонак , У. Хаўстовіч, Г. Тврановіч, С. Кавалёў, у Расіі — І. Бурсаў, У. Бутрамееў, Л. Турбіна, А. Казловіч, П. Кошаль, А. Кажадуб, на Украіне — М. Львовіч, у ЗША — Ц. Ліякумовіч, Э. Гурэвіч, у Ізраілі — Ю. Канэ. Нядаўна з'явіўся прадстаўнік беларускай літаратуры і культуры ў Швецыі — Дзмітры Плакс — мастак, пісьменнік, перакладчык, журналіст. Ён быў стваральнікам беларускай службы «Радыё Швецыі», якая праіснавала з 2004 па 2009 год. Ды і «знутры» працуюць на замежжа перакладчыкі В. Стралко, І. Чарота, раней нямала перакладалі з беларускай мовы Б. Спрынчан, А. Дракахруст, У. Жыжэнка, У. Машкоў, Н. Кіслік, В. Тарас, Г. Рымскі, П. Стэфановіч.

І ўсё ж даводзіцца са скрухай адзначаць, што сёння беларускую літаратуру за мяжой ведаюць мала. Што там казаць — пра само існаванне Беларусі дзе-нідзе амаль што нічога не ведаюць. Ёсць сведчанне, паводле паведамлення з Інтэрнета, што некаторыя з італьянцаў памятаюць Скарыну, Мікалая Радзівіла Сіротку, але большасць іх нават не ведае, што ёсць такая краіна — Беларусь. І гэта — Еўропа! Што ж тады казаць пра больш аддаленыя мясціны…

Можна многа згадваць пра выданне кніг беларускіх аўтараў у замежжы, але колькі б дзе ні выдавалася зборнікаў, нават анталогій, цэласнага ўяўлення пра нашу літаратуру яны нідзе даць не могуць. Тут патрэбна іншае. Каб уяўляць, што такое іншанацыянальная літаратура, трэба пазнаёміцца з адпаведнай манаграфіяй па яе гісторыі ці хаця б якімі звесткамі пра асобныя перыяды яе развіцця, пра творчасць таго ці іншага пісьменніка. Гэта добра разумелі яшчэ пачынальнікі новай беларускай літаратуры, нашы класікі М. Гарэцкі і М. Багдановіч. Імкнучыся прадставіць беларускую літаратуру польскаму чытачу, М. Гарэцкі зрабіў адмысловы варыянт яе гісторыі на польскай мове — «Krótki zarys historyi literatury białjruskiej», а для ўкраінскага надрукаваў у часопісе «Червоний шлях» агляднЫ артыкул «Білоруська література». М. Багдановіч яшчэ ў 1912 годзе збіраўся зрабіць нарыс гісторыі беларускай літаратуры для рускага чытача, аб чым сведчыць урывак з гэтай працы, які знойдзены ў архіве пісьменніка. А ў больш познія часы такую спробу зрабіў Інстытут літаратуры Акадэміі навук БССР, стварыўшы ў 80-х гадах двухтомную гісторыю беларускай літаратуры на рускай мове. Але бадай што ўвесь яе наклад прадаваўся ў Беларусі. Дапытлівым рускім чытачам заставалася толькі звяртацца да раздзелаў пра беларускую літаратуру ў шматтомных выданнях «История всемирной литературы» ды «История литератур народов СССР», выдадзеных у Маскве. А ці ёсць цяпер манаграфіі па гісторыі беларускай літаратуры ў палякаў, літоўцаў, украінцаў? Нас гэта не турбуе, а хто б лепш прадставіў сваю літаратуру, як не мы самі. Ёсць жа ў нас навукоўцы, дасведчаныя ў замежных літаратурах — паланісты, гебраісты, украіністы і г. д. Вядома, цяпер існуюць аб'ектыўныя цяжкасці для выдання не тое што літаратуразнаўчых, але і мастацкіх твораў…

Пісьменнік не павінен забывацца і пра сваіх суайчыннікаў, мацаваць сувязі з імі. І многія не абмяжоўваюцца толькі кантактамі з чытачамі праз саму кнігу, імкнуцца сустракацца з імі на прэзентацыях сваіх твораў, выступаць па радыё, на тэлебачанні, перапісвацца. Дзякуючы такім сустрэчам у пісьменніка не толькі становіцца больш чытачоў, якія будуць выбіраць менавіта ягоныя кнігі, але і ён сам можа лепей зразумець іх запатрабаванні, каб у новым творы задаволіць іх. Бывае ж, што чытачы робяць слушныя заўвагі, просяць прадоўжыць твор, каб як мага далей не расставацца з любімымі персанажамі. Успамінаюцца два выпадкі. Падчас сустрэчы дзяцей з Янкам Маўрам адзін дапытлівы школьнік пацікавіўся, а дзе ўзялі Мірон і Віктар на ненаселеным востраве вяроўку, каб звязаць злачынцу. І ў наступным выданні

«Палескіх рабінзонаў» гэтая недарэчнасць была аўтарам папраўлена. Пры сустрэчы з Міхасём Лыньковым дзеці прасілі напісаць пра Міколку-паравоза ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Міхась Ціханавіч адказаў, што не можа гэтага зрабіць, бо ў часы вайны Міколка ўжо не быў хлопчыкам, але напісаць пра дзяцей на вайне паабяцаў.

Сувязь пісьменнік—чытач падтрымліваецца, вядома, у першую чаргу праз тое, што напісанае шырока распаўсюджваецца дзякуючы публікацыям.

Кнігадрукаванне — магутны каталізатар літаратурных узаемасувязей. Нездарма ж вынаходніцтва друкавальнага станка адразу ж рэзка павялічыла кола чытачоў, паспрыяла развіццю аўтарскай літаратуры, з'яўленню пісьменнікаў-прафесіяналаў, ажывіла працэсы ўзаемадзеяннння, узаемаўплываў у літаратурах Еўропы.

Арыентавацца ў бязмежным кніжным моры чытачу можа дапамагчы літаратурная крытыка. У розныя часы яна зведала перыяды як вялікай папулярнасці, так і заняпаду. Бывалі часы, калі крытыкі былі вельмі папулярныя, да іх думкі прыслухоўваліся, іх ацэнкамі кіраваліся. Усім вядома, які ўклад у фарміраванне не толькі густаў чытачоў, але і эстэтычнай, грамадскай думкі ўнеслі выдатныя рускія крытыкі Вісарыён Бялінскі, Мікалай Дабралюбаў, Мікалай Чарнышэўскі, Дзмітрый Пісараў, Аляксандр Герцэн. Сярод вядомых беларускіх крытыкаў, што заслужылі сабе прызнанне як удумлівыя, аўтарытэтныя дарадцы чытачоў, назаўсёды застануцца Адам Бабарэка, Рыгор Бярозкін, Варлен Бечык, Тамара Чабан. Росквіт беларускай крытыкі ў 60—80-я гады сёння змяніўся, на жаль, пэўным заняпадам. Магчыма, гэта адбылося таму, што знізіўся і ўзровень самой літаратуры; твораў, якія выклікалі б да сябе ўсеагульную ўвагу, нешта апошнім часам не назіраецца ні ў нас, ні ў замежных краінах.

На кантакты між літаратурамі можа аказвацца і негатыўнае ўздзеянне: цэнзура, праследаванні пісьменнікаў за іх творчасць. У часы СССР многіх замежных пісьменнікаў не перакладалі, баючыся, што іх творы зробяць негатыўны ўплыў на савецкага чытача. Усім цяпер вядома і пра сталінскія рэпрэсіі, якія прывялі да гібелі многіх пісьменнікаў ці адлучэння ад творчасці. Пазней няўгодных уладзе пісьменнікаў вымушалі пакінуць радзіму. Пісьменнікі-дысідэнты працягвалі пісаць і за мяжой, але часта здаралася і так, што, пазбаўленыя радзімы, яны ўжо не маглі настроіцца на новы лад, знайсці сябе на чужыне.

Важную ролю ў кантактных сувязях па лініі пісьменнік — чытач адыгрываюць выдавецтвы. Яны не толькі друкуюць кнігі, але і прапагандуюць іх. Выдавецтвы зацікаўленыя і ў тым, каб кнігі іх аўтараў закупляліся за мяжой. Ці не таму міжнародныя кніжныя кірмашы збіраюць столькі выдаўцоў з самых розных краін? У часы СССР амаль што адзінай магчымасцю прадаць свае кнігі за мяжу і купіць замежныя былі штогадовыя Маскоўскія міжнародныя кірмашы. На іх заключалі кантракты і апцыёны (папярэднія пагадненні) пераважна з прадстаўнікамі выдавецтваў з тагачаснага сацыялістычнага лагера, прычым імкнуліся прадаць так званыя «сацыяльна значныя» выданні, у якіх паслядоўна праводзіліся камуністычныя ідэі. Цяпер міжнародны кніжны кірмаш праходзіць штогод у лютым і ў нашай сталіцы.

У савецкія часы кнігі, выдадзеныя ў рэспубліках, рабіліся папулярнымі дзякуючы іх перакладам на рускую мову; пасля публікацыі ў Маскве іх у сваю чаргу перакладалі (часцей за ўсё з рускіх перакладаў) на мовы саюзных рэспублік і замежныя. Да прыкладу, творы В. Быкава, У. Караткевіча, І. Шамякіна, І. Мележа і іншых найбольш папулярных беларускіх пісьменнікаў перакладаліся на замежныя мовы менавіта з рускіх перакладаў, таму што тых, хто ведаў беларускую мову хаця б для таго, каб зрабіць падрадкоўнік, часцей за ўсё не аказвалася. Многія пісьменнікі якраз і перасягалі межы нацыянальнай вядомасці дзякуючы Маскве. Некаторыя з іх нават рабіліся свайго роду знакавымі фігурамі, літаратурнымі прадстаўнікамі рэспублік. Ад Беларусі такімі прадстаўнікамі былі спачатку Купала і Колас, пазней Броўка і Крапіва. Ад некаторых рэгіёнаў мелася толькі па адным прадстаўніку: ад аварцаў заўсёды выступаў Гамзатаў, ад калмыкаў — Кугульцінаў, ад літоўцаў — Межэлайціс, ад эстонцаў — Смуул. Дзеля сведчання дружбы народаў кожнае выдавецтва абавязвалі час ад часу друкаваць творы пісьменнікаў з іншых рэспублік, шырока

адзначаліся юбілеі самых выдатных прадстаўнікоў іншых літаратур, у тым ліку і выхадам зборнікаў перакладаў іх твораў. Цяпер выдавецтвы ўжо не заказваюць пераклады да юбілейных дат замежных пісьменнікаў, дэкад літаратур народаў-суседзяў, не выдаюць «абы адбыць» пераклады дзеля падтрымання справы дружбы народаў. Калі што і робіцца ў гэтым накірунку, то дзякуючы ініцыятыве саміх перакладчыкаў. Так у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 2007 годзе да юбілею І. Франка выйшаў невялікі зборнік «Народзе мой», у якім прадстаўлены ўзоры паэзіі, прозы і драматургіі славутага ўкраінскага пісьменніка ў перакладах В. Рагойшы. Ён жа сумесна з Т. Кабржыцкай выступіў укладальнікам анталогіі для школьнікаў «Мае браты, мае суседзі» (Маст. літ., 2008), у якой змешчаны творы ўкраінскіх, польскіх, чэшскіх, латышскіх і літоўскіх аўтараў, якія вывучаюцца ў сярэдняй школе. Да іх дададзены агляды гісторыі сувязей народаў-суседзяў, кароткія, але змястоўныя нарысы творчасці пісьменнікаў, прадстаўленых у анталогіі. Вось гэта і ёсць рэальны ўклад у пашырэнне ведаў аб літаратурах суседніх народаў.

Нельга забыцца і пра ролю бібліятэк у пашырэнні літаратурных сувязей. Не кожны можа купіць патрэбную яму кнігу, ды, зрэшты, і не кожная кніга, якая зацікавіць чытача, можа аказацца патрэбнай яму настолькі надоўга, каб трымаць яе дома. У бібліятэцы чытач можа не толькі пазнаёміцца з кнігай, але і атрымаць дадатковую інфармацыю пра яе. Цяпер бібліятэкі часта праводзяць прэзентацыі кніг, агляды новых паступленняў, сустрэчы з пісьменнікамі. Патрэбную кнігу, якой у бібліятэцы няма, можна заказаць нават з іншай краіны праз міжбібліятэчны абанемент.

Роля сродкаў масавай інфармацыі ў пашырэнні вядомасці літаратурных твораў таксама неацэнная. Перш чым выдаць свае творы кніжкай, пісьменнік можа надрукаваць іх у літаратурным часопісе, аддаць на радыё. З нядаўняй пары літаратурныя творы сталі змяшчаць на CD ROOM ці DWD ROOM, змяшчаць у Інтэрнеце, заносіць у памяць камп’ютэра. Замест паліц, застаўленых кнігамі, у хатняй бібліятэцы можна мець усяго некалькі дыскаў, а то і зусім не мець, знаходзячы патрэбнае ў «сусветнай павуціне». З’явілася ўжо нават так званая сецевая літаратура. Дзякуючы камп’ютэрнай тэхніцы спрасціўся працэс друкавання, няма патрэбы ў друкарскім наборы, шматразовай перадрукоўцы. Пасля распаду СССР у Беларусі заснавана многа прыватных выдавецтваў, кнігі ўжо не чакаюць выдання па некалькі гадоў, іх можна, маючы сродкі, выдаць вельмі аператыўна.

Навейшыя віды носьбітаў інфармацыі і сродкаў іх запісу дазволілі мастацкаму твору без перашкод перасягаць любыя межы, у Інтэрнеце можна заказаць тэксты з замежных бібліятэк, знайсці арыгіналы, каб аператыўна перакласці іх. І гэта таксама спрыяе пашырэнню кантактаў паміж літаратурамі свету. Аб’ём матэрыялу ў Інтэрнеце вельмі вялікі, на сёння ён складае больш як 320 мільёнаў дакументаў, гэта нават цяжка сабе ўявіць. На жаль, у Інтэрнеце, а таксама і на дысках прадстаўлена не так ужо многа твораў беларускіх пісьменнікаў, як у перакладах, так і ў арыгінале. А што дае магчымасць іншакраіннаму карыстальніку Інтэрнета адшукаць твор нацыянальнай літаратуры хаця б і ў арыгінале? Многае. Па-першае, з імі могуць знаёміцца нашы землякі, што жывуць за мяжой, іх могуць чытаць у беларускіх дыяспарах ЗША, Канады, Аўстраліі, Расіі, Аргенціны — для іх жа пераклады рабіць не трэба, а «вывесіць» арыгіналы ў сеціве намнога прасцей. Па-другое, арыгіналы могуць скарыстоўваць перакладчыкі, не прыкладаючы вялікіх намаганняў для пошукаў кніг, часам нават і недаступных у іншай краіне. Так, менавіта з Інтэрнета браў арыгіналы твораў польскіх пісьменнікаў Г. Жавускага і Г. Сянкевіча аўтар гэтых радкоў, і скарыстаў іх у працэсе перакладу. Гэта нават аказалася зручней — арыгіналы адразу аказаліся ў памяці камп’ютэра, там жа, на камп’ютэры ствараліся і беларускія тэксты твораў польскіх аўтараў.

Прадстаўленне твора, напісанага для свайго нацыянальнага чытача, іншакраіннаму чытачу, стварае нямала праблем. Розніца моў — не самая цяжкая з іх. Працэс успрымання мастацкай літаратуры звязаны яшчэ і з розніцай у ментальнасці народаў, адрозненнем жыццёвага вопыту чытачоў, няведаннем пра пэўныя дэталі побыту, звычаяў, гісторыі і культуры іншага народа.

Так, у інтэрв’ю Дзмітрыя Плакса для Інтэрнета згадваецца пра водгалас у Швецыі на кнігу В. Быкава «Кар’ер», перакладзеную на шведскую мову: «У пачатку 1990-х яна атрымала тут вельмі добрую крытыку, аднак... Тое, пра што Быкаў пісаў большую частку жыцця, можа зацікавіць шведскае грамадства толькі з гледзішча гісторыі. Каб зразумець быкаўскую псіхалогію і мараль вайны, у шведаў няма ўласнага досведу. Пра што тут казаць — 200 год яны не ўдзельнічалі ў войнах». І адваротны прыклад. У савецкія часы беларускія выдавецтвы ўпарта навязвалі выдаўцам ГДР кнігі пра ўдзел беларусаў у Другой сусветнай вайне, але немцы іх браць не хацелі, і зразумела, чаму. Наўрад ці ім прыемна было б чытаць пра зверствы іх суайчыннікаў на беларускай зямлі. Ды і з адпаведных кніг пісьменнікаў ГДР запомнілася хіба аповесць Дзітэра Ноля «Прыгоды Вернера Хольта», перакладзеная на рускую мову, відаць, з прычыны антываеннай накіраванасці твора. Але ўсё роўна было непрыемна чытаць старонкі пра тое, як галоўны герой ваяваў на Усходнім фронце, забіваў, магчыма, і нашых суайчыннікаў.

Так, сапраўды, ёсць спецыфіка ўздзеяння на іншакраіннага чытача літаратуры сучаснай і гістарычнай. Іншаземцы не любяць, калі ім нагадваюць пра канфлікты між народамі ў мінулым. Некалі ў Польшчы Янку Брыля спыталі, чаму ў Расіі не перакладаюць «Агнём і мячом» Г. Сянкевіча. Брыль адказаў: «Па той жа прычыне, з-за якой палякі не перакладаюць «Тараса Бульбу». Сапраўды, ёсць у гэтых кнігах радкі, у якіх рускі, украінскі, польскі народы выведзены не ў лепшым выглядзе. І якія б тлумачэнні, спасылкі на гістарычныя ўмовы не дадаваліся, але ж непрыемны асадак застаецца. А ў адносінах паміж народамі павага да нацыянальнага гонару вельмі важная.

І яшчэ адна спецыфічная цяжкасць. Іншаземцы часта не могуць зразумець нацыянальнага гумару, асабліва, калі камічны эфект ствараецца на чыста сваіх праявах бесталкоўшчыны, бюракратызму, непаразуменняў у сямейных, бытавых і грамадскіх узаемаадносінах, не ўласцівых насельнікам далёкіх ад нас сваёй культурай, гісторыяй, ладам жыцця краін. У такіх выпадках нават тлумачэнне нічога не дае. Што ж, бываюць і непазбежныя страты. Цяжка перадаць у перакладзе камізм, які грунтуецца на гульні слоў, алюзіях, рэмінісцэнцыях, парадзіраванні таго, што вядома чытачу арыгінала, але недаступна чытачу перакладу.

І ўсё ж пераклад ужо даўно і паспяхова ўстанаўлівае сувязі паміж чытацкімі пакаленнямі ў розных краінах. І ёсць добрыя перспектывы для мацавання такіх сувязей у далейшым.

Кантактныя літаратурныя сувязі праз пераклады выклікаюць да жыцця і больш апасродкаваныя віды сувязей — генетычныя. Да іх адносяцца літаратурныя ўплывы, запазычанні, наследаванні, перапрацоўкі. На кожнага пісьменніка ўплывае створанае яго папярэднікамі, да якой бы літаратуры яны ні належалі, сваёй роднай, ці іншакраіннай. Вядома, у першую чаргу наследуецца створанае пісьменнікамі з яскрава выяўленай творчай індывідуальнасцю, выдатнымі прадстаўнікамі нацыянальных літаратур, наватарамі, першапраходцамі ў авалодванні новым. Захапленне пісьменніка творчасцю іншакраіннага аўтара можа выявіцца ў розных формах. Гэта і вольныя пераклады, наследаванні, запазычанні, трансфармацыі твора-першакрыніцы. Звычайна яны характэрныя для ранняга перыяду развіцця нацыянальных літаратур і для ранняй творчасці паэтаў. Пры гэтым пэўныя прыпадабненні могуць адносіцца не толькі да творчасці замежных сучаснікаў, але і твораў больш ранніх эпох. Дзяржавін на свой лад перарабляў вершы Анакрэона. Я. Княжнін перарабіў па-свойму паэму французскага паэта Ж. Грэсэ. В. Жукоўскі натхняўся сюжэтамі Т. Мура, Ф. Гальма, Г. Бюргера. І. Крылоў перарабляў сюжэты баек Лафантэна і Эзопа. У творчасці А. Пушкіна наследаванні таксама былі. Згадаем хаця б яго «прыстасаванне для сябе» верша Гарацыя «Exegi monumentum» у сваім «Я памятник себе воздвиг». Уплыў англійскага паэта Д. Байрана на А. Міцкевіча выявіўся не толькі ў перакладах асобных яго вершаў, але і ў рамантычнай афарбоўцы яго вершаў і балад. У ранняй творчасці Я. Купалы былі вольныя пераклады і наследаванні з Т. Шаўчэнкі, М. Някрасава, І. Крылова, А. Міцкевіча. Так, скарыстаўшы першы радок санета польскага паэта

А. Асныка, Я. Купала па-свойму развіў яго тэму, змяніўшы форму твора ў сваім вершы «Я хацеў бы», дзе беларускі паэт хаця і не хавае, што гэта «наследаванне з Асныка», аднак гэта па сутнасці і не наследаванне, і не пераклад, а самастойны твор, у якім ад формы верша польскага паэта застаўся толькі прыём — паўтор-зачын. І зместам, і колькасцю строф, і рытмічным ладам ён зусім інакшы, чым прататып.

Уплывы могуць быць і апасродкаваныя, сярод іх творчае засваенне прыёмаў пісьма, прыпадабненне, перайманне элементаў вобразнасці, выкарыстанне кампазіцыйных прыёмаў, упершыню ўведзеных кімсьці з замежных аўтараў. Пад уплывам перакладаў твораў Э. Хемінгуэя аказаліся некаторыя з рускіх пісьменнікаў-шасцідзесятнікаў (Ю. Казакоў, В. Аксёнаў), якія спрабавалі імітаваць яго дыялог, стылёвую манеру. Пэўны ўплыў на іх жа зрабілі і пераклады раманаў Э. М. Рэмарка. У А. Куляшова шэраг вершаў ранняга перыяду творчасці напісаны пад С. Ясеніна, А. Пушкіна. Да ўплываў адносіцца і запазычанне персанажаў, сюжэтаў, дэталяў іншакраіннага твора. Шырока скарыстоўваецца замежная міфалогія, асабліва антычная. Сюжэты і персанажы Бібліі таксама ўвасобіліся ў творах пісьменнікаў розных краін. Згадаем хаця б вобраз Хрыста, увасоблены ў такіх творах, як «Майстар і Маргарыта» Булгакава і «Буранны паўстанак» Ч. Айтматава. У сусветную літаратуру ўваходзяць так званыя вечныя вобразы — персанажы, якія выйшлі за межы сваёй краіны, набылі агульначалавечае значэнне і ўвасобіліся ў творах, напісаных у розных краінах, у розныя часы. Сярод іх — Гамлет, Фаўст, Дон Жуан, Праметэй.

Мастацкія пераклады ўваходзяць у скарбніцу нацыянальнай культуры.

Таму не дзіва, што праз іх адбываецца ўзбагачэнне таксама і ў сферах сюжэтабудавання, вобразнай тканіны, матываў і жанравых разнавіднасцей твораў, а таксама стыляў і метадаў.

Тыпалагічныя сувязі — найбольш апасродкаваныя, яны звязаны з тым, што літаратуры розных краін развіваюцца нераўнамерна. Аднак у іх, раней ці пазней, адбіваюцца вынікі сходных стадый грамадска-палітычнага і культурнага развіцця народаў. Рознага роду сыходжанні, аналогіі, адпаведнасці ў творчасці пісьменнікаў, якія не мелі паміж сабой ніякіх кантактаў, не былі знаёмыя з творамі сваіх іншакраінных сучаснікаў, але тым не меней пісалі ў сходнай манеры, самастойна прыходзілі да пэўных трансфармацый, абнаўлення формы, адмаўляліся ад старога ў імя станаўлення новага. Асабліва нагляднае праяўленне тыпалагічных сыходжанняў назіралася на ранніх стадыях гістарычнага развіцця нацый, калі кантакты паміж літаратурамі розных народаў былі не такімі пашыранымі. Затое ў сучаснасці мы назіраем хуткае перайманне таго новага, што прыйшло ў літаратуру якога-небудзь народа. Успомніць хаця б, як неўзабаве пасля публікацыі рамана пісьменніка з далёкай Калумбіі Г. Гарсія Маркеса «Сто гадоў адзіноты», скарыстаныя ім прыёмы спляцення рэальнасці з міфалогіяй, былі імкліва падхоплены ў розных краінах. Самы свежы прыклад: дэтэктыў Д. Браўна «Код да Вінчы» тут жа выклікаў шэраг прыпадабненняў, перапеваў, скарыстанне пэўных прыёмаў некаторымі аўтарамі дэтэктываў, у тым ліку і расійскіх. Трэба сказаць што і сам бестселер Д. Браўна скарыстоўвае ідэю, выяўленую ў кнізе М. Бейджэрта, Р. Лі і Г. Лінкальна «Святая кроў і святы Грааль», выдадзенай яшчэ ў 1982 годзе. Яе аўтары нават падавалі праз гэта ў суд на Д. Браўна. Рускі пісьменнік М. Анікін таксама заявіў, што Д. Браўн скарыстаў сюжэт ягонай кнігі.

Тут якраз будзе дарэчы згадаць і пра негатыўныя праявы літаратурных сувязей — эпігонства і плагіят. Калі эпігонства — творчасць у рэчышчы стылю якоганебудзь пісьменніка — з'ява распаўсюджаная, але натуральная, то плагіят — публікацыя чужога твора пад сваім прозвішчам — гэта не што іншае, як крадзёж, выкарыстанне чужой працы. Выкрыты плагіят — справа падсудная, а той, хто да яго апусціўся, выклікае яшчэ і маральнае асуджэнне.

Літаратурныя сувязі цяпер ахопліваюць увесь свет, усе кантыненты Зямлі, і паранейшаму прыносяць добры плён.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# «НА СІНІМ БАБРЫ Ў БАРЫ...»

## КРУПКА — ТРАВА ЗАЛАТАЯ

**Наша** жыццё тым і цікавае, што нярэдка паданні ў чымсьці як бы дапаўняюць рэчаіснасць, надаючы часам ёй яшчэ большую вабнасць і прыцягальную сілу. Крупская зямля — не выключэнне. Тычыцца гэта і паходжання назвы цяперашняга раённага цэнтра. Крупкі, ці Сангушкаў былі вядомы з сярэдзіны XVI стагоддзя як мястэчка ў Аршанскім павеце, а статус горада атрымалі нядаўна, толькі ў 1991 годзе.

Ёсць меркаванне, што назоў Крупкі ўзнік ад назвы аднайменнай ракі, на якой, калі верыць мясцовым паданням, некалі размяшчаліся млыны-крупадзёрні. Бытуе аднак і іншая думка: гэты тапонім з'яўляецца зыходным ад слова «крупка», а яно, у сваю чаргу, азначае адну з раслін (лацінская назва Draba). Дарэчы, пра гэта нагадвае і герб Крупак, што быў зацверджаны рашэннем Крупскага райвыканкама ад 27 мая 1999 года, а прыкладна праз месяц, 22 чэрвеня 1999-га яго ўнеслі ў Гербавы Матрыкул Рэспублікі Беларусь. На гербе Крупак у блакітным полі так званага «галандскага» ці «венгерскага» шчыта над хвалістым сярэбраным пасам адлюстравана кола вадзяного млына. Унізе ж герба знаходзіцца сярэбраная трава крупка з залатымі кветкамі.

Нельга не згадаць, аднак, яшчэ адну легенду, што вытлумачвае, адкуль з'явіліся Крупкі. Прынамсі, у паэтычным яе варыянце, што ўвасоблены ў вершы «Паданне», аўтарам якога з'яўляецца вядомы беларускі паэт, ураджэнец Крупак Міхась Калачынскі:

Спрадвеку, як людзі сцвярджаюць,
Праз бор наш гасцінец ляжаў.
Тут неяк паслы праязджалі
Ў Масковію з дальніх дзяржаў.

Ноч заспела іх «над рэчкай у змрочнай глушы», дзе яны напаткалі мясцовага хлопца, які здзівіў іх сваёй дасціпнасцю. Тым не менш яны ўсё ж засумняваліся ў ягонай дасведчанасці. Таму вырашылі пакпіць з яго і «сказалі, што знатным ён стане. // Заклад таму — сорак манет, // Абы на гасцей запытанні // Адказваў з адумам, як след». Той згадзіўся і годна вытрымаў гэты іспыт, а яшчэ, на большае здзіўленне падарожнікаў, зазначыў: «... такія // Усе ў нас ... на ўсё мастакі»:

Вяльможы, пачуўшы пра гэта,
Заклад аддалі юнаку.
А ён, не злічыўшы манеты,
Шпурнуў іх у ноч, за раку.
Пад зорамі золата крупкі
Мільгнулі, як плойма іскрын.
Тут потым і выраслі Крупкі
На сінім Бабры ў бары.

## МАЛОЕ — ЧАСТКА ВЯЛІКАГА

— Дык і сапраўды ў вас «усе... на ўсё мастакі»? — запытаўся я ў начальніка аддзела культуры Крупскага райвыканкама Таццяны Мельнік пасля таго, як пагаварылі-паразважалі з ёю пра тое, адкуль пайшлі Крупкі.

— Вы ў гэтым яшчэ сумняваецеся? — Таццяна Іванаўна прамовіла такім тонам, які не выклікаў пярэчання, і, не чакаючы майго адказу, усміхнулася: — Хоць я ў чымсьці і разумею вас. Як у той песні...

— У якой яшчэ песні? — не зразумеў я.

— Памятаеце? «Городок не велик и не мал».

— Дык вось вы пра што?



*Таццяна Мельнік.*

Сапраўды, тое, што сказана ў знакамітай песні пра горад аленяводаў і рыбакоў Нар'ян-Мар, цалкам стасуецца як да саміх Крупак, так і да ўсяго раёна. У параўнанні са шмат якімі іншымі адміністрацыйна-тэрытарыяльнымі адзінкамі як нашай краіны ў цэлым, так і Міншчыны ў прыватнасці, іх вялікімі не назавеш. У тых жа Крупках пражывае ўсяго нейкіх восем тысяч чалавек. Але ў дадзеным выпадку правільным будзе і знакамітае выслоўе: «Малы залатнік ды дарагі».

Мне стала крыху няёмка, бо, сам таго не жадаючы, быццам засумняваўся ў значнасці таго, што робіцца на гэтай зямлі, хоць падстаў для гэтага не было ўжо хоць бы таму, што ў Крупках я быў не ўпершыню і мог упэўніцца, што і сам горад, і раён маюць багатыя і слаўныя традыцыі, звязаныя з мінулым. Дый сённяшні дзень крупчан таксама па-свойму адметны. Асабліва ж ганарацца яны тым, што з іхніх мясцін родам лётчык-касманаўт, двойчы Герой Савецкага Саюза Уладзімір Кавалёнак, які нарадзіўся ў вёсцы Белае. Ягоны бюст і ўстаноўлены ў самым цэнтры горада, непадалёку ад таго месца, дзе знаходзіцца будынак райвыканкама. Дарэчы, будынак гэты — помнік архітэктуры. Праўда, нядаўняга перыяду — усяго толькі 60-х гадоў мінулага стагоддзя, але, пагадзіцеся, такое таксама рэдка дзе напаткаеш, усё ж раённая вертыкаль (гэта ні ў якім разе не папрок, а толькі сведчанне рэальнасці) стараецца знайсці для сябе больш сучасныя апартаменты.

— Дык вы ж бывалі ў нашым музеі, — вывела мяне з одуму Мельнік, — то маглі пераканацца, якая багатая ў ім экспазіцыя.

Што праўда, то праўда. Паездка ўлетку 2004 года стала запамінальнай у немалой ступені і таму, што пашчасціла зазірнуць ў Крупскі гісторыка-краязнаўчы музей, які на той час літаральна толькі месяц-другі назад, а калі канкрэтна, то 30 чэрвеня 2004-га прыняў першых наведвальнікаў у сваім новым будынку. Але гісторыя яго, безумоўна, большая.

Яшчэ 26 мая 1995 года з мэтай адраджэння і захавання нацыянальнай культурнай спадчыны, падтрымкі і станаўлення ўсіх відаў і накірункаў мастацтва, гісторыі развіцця горада і раёна ў Крупках быў адкрыты аматарскі гісторыка-краязнаўчы музей. Наколькі ўпэўнена ён пачаў працаваць, сведчыць тое, што ўжо 27 снежня 1995 года рашэннем калегіі ўпраўлення культуры Мінскага аблвыканкама яму было нададзена званне народнага.

— То, можа, з музея і пачнём знаёмства з культурным жыццём Крупшчыны? — прапанаваў я Таццяне Іванаўне.

— А чаму б і не, — пагадзілася Мельнік.

Дарэчы, апроч гісторыка-краязнаўчага музея ў падначаленні раённага аддзела культуры знаходзіцца 28 клубаў, 30 бібліятэк, мастацкая галерэя і раённы Дом рамёстваў, 2 музычныя школы з філіяламі ў вёсках Дуброўка, Хацюхава, Замкі, Ігрушка. Працуюць 163 клубныя фарміраванні, 23 аматарскія аб’яднанні і клубы па інтарэсах, 561 гурток дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, 87 гурткоў мастацкай самадзейнасці.

## СУСТРЭЧА, ЯКАЯ НЕ МАГЛА НЕ АДБЫЦЦА

Пра захаванне гісторыка-культурнай спадчыны горада і раёна, яе збору шмат парупілася першы дырэктар гэтага музея Таццяна Белая. Гэта дзякуючы ёй за кароткі час удалося афарміць змястоўную экспазіцыю, якая працягвае папаўняцца новымі матэрыяламі. Першыя ж напрацоўкі рабіліся не без дапамогі Таццяны Мельнік, на той час нядаўняй выпускніцы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка. Рэч у тым, што цяперашні начальнік аддзела культуры Крупскага райвыканкама — па прафесіі гісторык. У згаданай вышэйшай навучальнай установе набыла спецыялізацыю «Гісторыя і сацыяльна-палітычныя дысцыпліны».

— І адкуль у вас такая цікавасць да мінуўшчыны? — захацелася даведацца мне.

— На выбар мною прафесіі, — пачулася ў адказ, — шмат паўплывала мая настаўніца гісторыі Аляксандра Нічыпараўна Мінкова. Як спецыяліст, яна карысталася вялікім аўтарытэтам. І не толькі сярод школьнікаў. Дастаткова сказаць, што з 1958-га па 1974 год Мінкова з’яўлялася членам рэдакцыйнага савета ўсесаюзнага часопіса «Преподавание истории в школе», што выходзіў у Маскве. Аляксандра Нічыпараўна была выкладчыкам па прызванні, а яшчэ настаўнікам у шырокім разуменні гэтага слова. Не толькі ў сэнсе таго, каб нечаму вучыць, даваць пэўныя веды. Яна ўсіх нас менавіта настаўляла. Якімі быць. Што ведаць. Да чаго імкнуцца. Таму мы, вучні, любілі яе, не кажучы, што паважалі. Але, — працягвала Мельнік, — дзякуючы Аляксандры Нічыпараўне, мы зразумелі, наколькі багатая гісторыя не толькі нашай рэспублікі, а і раёна, горада. Я ж мясцовая. Нарадзілася ў Крупках. Па сённяшні дзень, хоць і давялося мне шмат дзе пабываць, лепшай зямлі для мяне няма і быць не можа.

З гэткім жа ўсведамленнем і паступала яна на гістарычны факультэт тагачаснага Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага, які, калі атрымлівала дыплом аб вышэйшай адукацыі, стаў універсітэтам. Таму і вучыцца было лягчэй, што ўсвядомлена выбрала свой будучы прафесіянальны шлях. У няменшай, а шмат у чым і ў большай ступені такі выбар дапамог у працы, калі па размеркаванні стала выкладаць гісторыю ў Гапонавіцкай сярэдняй школе.

Гэта быў пачатак педагагічнай работы Таццяны Мельнік. Працягвала ж вучыць дзяцей у Крупскай пасялковай СШ, куды яе перавялі ў 2000 годзе. Менавіта ў гэты перыяд, а заняў ён сем гадоў, веды, атрыманыя ў ВНУ, памножаныя на практычны вопыт, што пакрысе папаўняўся, і далі добры плён. Дзякуючы маладой настаўніцы, многія вучні па-сапраўднаму захапіліся гісторыяй, а некаторыя з іх валодалі такімі багатымі ведамі, што заваёўвалі дыпломы на абласных і рэспубліканскіх алімпіядах. Не кажучы пра раённыя, дзе рэдка хто трапляўся роўны ім.

Акурат у гэты перыяд, калі Таццяна Іванаўна са сваімі вучнямі, вобразна кажучы, старанна пераварочвала гістарычныя пласты, каб сярод іх знайсці найбольш прыдатныя для пасеву зерня духоўнасці, другая Таццяна, толькі Якаўлеўна, клапацілася пра тое, як зрабіць лепей, каб тое, што дало моцныя парасткі ў іншыя часы, у нашы дні не толькі не завяла, а магло квітнець і развівацца далей.

Гэтым разам ужо ў душах людзей, неабыякавых да сваёй гісторыі, дла свайго мінулага. Праз экспазіцыю музея, што меўся станавіцца дзяржаўным і пераязджаць у новае памяшканне.

Дзве Таццяны — Белая і Мельнік — проста не маглі не сустрэцца. Дзеля таго, каб сумеснымі намаганнямі працаваць над экспазіцыяй гісторыка-краязнаўчага музея, што знаходзіўся ў стадыі станаўлення. Багаты вопыт Таццяны Якаўлеўны, памножаны на малады энтузіязм, цудоўную прафесіянальную падрыхтоўку Таццяны Іванаўны, не маглі не прынесці дастойны, выніковы плён. Гэта Белая разумела, таму і прапананавала Мельнік супрацоўнічаць.

— Не развітваючыся са школай, — расказвае Мельнік, — я і пачала разам з Таццянай Якаўлеўнай працаваць над стварэннем музейнай экспазіцыі. Аплата была чыста сімвалічная, галоўнае...

Я, не ўспрыміце гэта не тактоўным, не ўстрымаўся, перапыніў яе:

— Галоўнае — энтузіязм. Ці я памыляюся?

— Так гэта, але не менш важна і тое, — удакладніла Таццяна Іванаўна, — што, працягваючы працаваць у школе, я ўсё больш пераконвалася, наколькі мне блізкая музейная справа. Як бы лепей сказаць.... — Мельнік крыху задумалася, — па душы яна мне, таму і хацелася ўкладаць у яе ўсю сябе.

Чарговы раз пазнаёміўшыся з экспазіцыяй крупчан, я зразумеў, чаму на экране камп'ютэра, што стаіць на рабочым стале начальніка аддзела культуры Крупскага райвыканкама, у якасці малюнка-застаўкі выкарыстана менавіта выява будынка музея. Сапраўды: у тым што зроблена ўжо — часцінка душы Таццяны Іванаўны і душы тых, з кім яна працавала разам. Душа ж — гэта тое, што пастаянна знаходзіцца разам з чалавекам.

## УСЁ СВАЁ, УСЁ АДМЕТНАЕ

Экспазіцыя музея створана такім чынам, што дазваляе паступова, пачынаючы з самай глыбокай старажытнасці, прасачыць развіццё гэтага кутка беларускай зямлі. Крупчане датай заснавання свайго райцэнтра лічаць 1575 год. Першыя ж насельнікі ў тамашніх мясцінах з'явіліся яшчэ на мяжы трэцяга і другога тысячагоддзяў да нашай эры, у перыяд бронзавага веку. Меркаваць так дазваляюць каменныя прылады, знойдзеныя ў час раскопак. Першы ж адшуканы жалезны выраб тычыцца ўжо другога стагоддзя нашай эры.

Пра ўсё гэта і можна даведацца, завітаўшы ў музей. Шматлікія экспанаты падабраны па тэматыцы і ў экспазіцыі лагічна дапаўняюць адзін аднаго. Гэта тычыцца розных перыядаў жыцця Крупак і тэрыторыі цяперашняга Крупскага раёна. Спачатку Крупкі ўваходзілі ў склад Аршанскага павета Віцебскага ваяводства і належалі Сангушкам. Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 годзе ў складзе Бобрскай валасці Сенненскага павета Магілёўскай губерні ўвайшлі ў Расійскую імперыю.

Віток за вітком складвалася біяграфія Крупшчыны. Асобныя яе моманты і ўвасоблены ў матэрыялах музея. Некаторыя, магчыма, адлюстраваны і не так шырока, як таго хацелася б, ды ці можна ахапіць неахопнае. Не трэба забываць, што лепш кіравацца падыходам (яго нязменна і прытрымліваюцца крупскія музейшчыкі, прадаўжаючы тое, што рабіла Белая), каб меней выкарыстоўваць копій, пачэрпнутых з абласных ці рэспубліканскіх музеяў.

Асабліва шырока і разнастайна паказаны перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Сімвалічна, што пры адкрыцці музея прысутнічаў адзін з актыўных змагароў з фашызмам, былы лётчык-ас, Герой Савецкага Саюза Мікалай Зайцаў, які нарадзіўся на чыгуначнай станцыі Крупкі. Мікалай Якаўлевіч зрабіў 185 баявых вылетаў, збіў 2 гітлераўскія самалёты, знішчыў каля 20 танкаў, больш як 20 аўтамашын, 43 гарматы, 20 вагонаў.

Зала, прысвечаная сучаснай Крупшчыне, адначасова выкарыстоўваецца і як выставачная. Ёсць у ёй і тое, што больш нідзе не пабачыш. У экспазіцыі знаходзяцца здымкі, што адлюстроўваюць розныя перыяды з жыцця і дзейнасці лётчыка-касманаўта Уладзіміра Кавалёнка, прадстаўлены некаторыя ягоныя дакументы, трэніровачны касцюм, цюбікі з харчаваннем, якія ён браў з сабой у палёт.

## ДЗЕЦІ, КАЛІ ЛАСКА...

Цяпер Крупскі гісторыка-краязнаўчы музей узначальвае Тамара Бальбот. Між іншым, Тамара Уладзіміраўна — таксама гісторык па адукацыі і шмат гадоў працавала настаўніцай. Хоць на гэтай пасадзе і нядаўна, ды паспела не толькі адразу ўвайсці ў курс справы, а і годна прадаўжае тыя напрацоўкі, што рабіліся тады, калі дырэктарамі гэтай значнай для горада і раёна ўстановы культуры была Белая, а потым і Мельнік. Працягваць жа ёсць што, бо ўжо сфарміравана нямала традыцый.

У прыватнасці, правядзенне розных выставак, сярод якіх «Аб чым гавораць посцілкі», «Ганчарная прыгажосць», «Салома, лаза і бяроста», «Выцінанка», «Вышыўка і карункапляценне»... Істотна тое, што для знаёмства з імі прыцягваюцца і дзеці. Але паколькі часам не так і проста прывезці вучняў з вясковых школ у музей, дык сам ён пайшоў ім насустрач, пачаўшы праводзіць акцыю «Музей — дзецям». У рамках яе, напрыклад, была арганізавана выязная выстаўка скульптур «Драўляны цуд», што экспанавалася ў Дзянісавічах, Гапонавічах, Ухвале, Ігрушцы, Ротані, Слабадзе, Язбах, у Крупскай пасялковай школе і СШ № 3 саміх Крупак.

Не абыдзены ўвагай і самыя маленькія. Навуковы супрацоўнік музея Святлана Домненка ў час канікулаў наведала ўсе школы і дзіцячыя сады, кіраўнікам якіх былі прапанаваны запрашальныя білеты з праграмай музейна-педагагічных занятак. Указвалася месца правядзення мерапрыемстваў, называліся тэмы экскурсій.

Тэма адной з іх «Гульня беларуская нам навекі дадзена любай Радзімаю ад дзядоў і прадзедаў». Мэта правядзення гэтага мерапрыемства — арганізацыя вольнага часу дзяцей, стварэнне для хлопчыкаў і дзяўчынак святочнай, радаснай атмасферы. Адно з такіх мерапрыемстваў праводзілася ў музеі з выхаванцамі дзіцячага сада № 2 Крупак.

## УЗЫШЛО ЯПОНСКАЕ СОНЦА

І не ў самой Японіі, якую, як вядома, называюць Краінай Узыходзячага Сонца, а ў Крупках. Адбылося гэта падчас выстаўкі «Культура і традыцыі Японіі», што ладзілася ў музеі. Матэрыялы для яе прадаставіла пасольства гэтай краіны ў Рэспубліцы Беларусь. Адкрыццё экспазіцыі праходзіла з удзелам Часовага паверанага ў справах Японіі ў нашай дзяржаве Фукуда Набуюкі. У сваім уступным слове ён адзначыў, што Японія — краіна дынамічнага развіцця, а народ яе імкнецца да ўсяго прагрэсіўнага, гатовы пераймаць і ўдасканальваць навейшыя сусветныя дасягненні. Адзначыў ён і тое, што ў Японіі і Беларусі ёсць, на жаль, і трагічнае «сваяцтва»: абедзве краіны пацярпелі ад атама.

Успамінамі аб наведванні Японіі падзяліўся начальнік Крупскага ўпраўлення магістральных газаправодаў ААТ «Белтрансгаз» Багдан Грыгарчук. Ягоныя ўражанні былі падмацаваны кадрамі з аматарскага відэафільма, знятага падчас паездкі ў Краіну Узыходзячага Сонца.

Выстаўка расказала пра традыцыі, культуру Японіі. Цікаўнасць наведвальнікаў, прынамсі, выклікалі маскі тэатра Но, які з'яўляецца на сённяшні дзень самым старым сярод прафесіянальных сцэнічных калектываў у свеце, і бярэ свой пачатак з XVI стагоддзя. Адметнасць гэтага тэатра ў тым, што ягоныя акцёры не

карыстаюцца грымам і мімікай. Асноўны сродак выяўлення артыстычных магчымасцей у іх — маскі, з якімі выконваюцца галоўныя ролі. На сучасны момант такіх масак каля 200, што дазваляе адрозніваць персанажаў па вобліку, узросце, характары... На выстаўку трапіла, праўда, усяго пяць масак, але і гэтага было дастаткова, каб наведвальнікі музея ўпэўніліся, наколькі адметны тэатр Но. Як і Японія ў цэлым — пра што засведчылі таксама розныя варыянты паветраных змеяў, прывезеных з гэтай краіны. Наколькі унікальная Японія, падцвердзіла і экспазіцыя яе нацыянальнай кухні, з якой таксама можна было пазнаёміцца, патрапіўшы на гэтую выстаўку.

Выстаўка ж, наладжаная сумесна з пасольствам Кітайскай Народнай Рэспублікі ў нашай краіне, зрабіла больш блізкім для жыхароў Крупак і раёна Кітай. Работу ў гэтым накірунку мяркуецца працягваць і надалей, бо падобныя напрацоўкі перспектыўныя. Гэта садзейнічае павелічэнню колькасці наведвальнікаў музея, якія ахвотна ідуць, каб пашырыць свой кругагляд, болей даведацца пра іншыя краіны.

## РУЧНІКІ, ПРА ЯКІЯ ВЕДАЮЦЬ У ГАЛАНДЫІ

Наладжана супрацоўніцтва з армянскай кампаніяй «Уніэкафор», якая вывучае трытонаў, але адначасова праводзіць вялікую асветную дзейнасць, ладзіць выстаўкі, розныя сустрэчы. Дый самому прэзідэнту гэтай кампаніі Сааку Антанесяну блізкая эстэтычная прыгажосць, бо ён сцвердзіў сябе і як арыгінальны мастак. З ягонымі творамі таксама можна было пазнаёміцца ў музеі.

— Калі адкрывалася першая армянская выстаўка, — расказвае Тамара Бальбот, — усё было наладжана такім чынам, каб наведвальнікі адразу пераканаліся, што іх чакае сустрэча з прыгожым. Святочны настрой стварала чароўная музыка гэтай краіны. Віноўніцай жа ўрачыстасці была маладая мастачка Ані Атаян, якая прапанавала 50 сваіх лепшых работ. Называлася гэтая экспазіцыя «З роднай Арменіі — у родную Беларусь». Тым самым Атаян падкрэслівала, што нашая краіна, дзе яна жыве цяпер, паколькі паступіла ў Беларускі дзяржаўны універсітэт, гэтаксама блізкая ёй, як і Арменія, дзе яна нарадзілася.

Канечне, крупчане, прапагандуючы культуру іншых народаў, не забываюць і пра сваю, беларускую. Што гэта сапраўды так, паказала, у прыватнасці, выстаўка «Матчын ручнік». З ёю, між іншым, звязана цікавая гісторыя.

Якраз тыя дні, калі працавала гэтая выстаўка, у Крупкі завітаў грамадзянін Галандыі Эндзі Томас. Як высветлілася ў час сустрэчы з музейнымі работнікамі, ён цікавіцца касмічнымі праблемамі, захапляецца касманаўтыкай. Ехаў з намерам сустрэцца з самім Кавалёнкам, будучы перакананым, што той рэгулярна бывае на сваёй радзіме. Зразумела, Уладзіміра Васільевіча галандскі госць не напаткаў. З музеем жа пазнаёміўся з задавальненнем. Асабліва зацікавіла яго выстаўка «Матчын ручнік».

Аказалася, бабуля Томаса родам з Крупшчыны. Таксама ў маладосці, дый у больш сталыя гады займалася ткацтвам. Як жа быў уражаны Томас, калі, пазнаёміўшыся з некаторымі ручнікамі, упэўніўся, што яны вельмі падобны на тыя, што ёсць у яго хатняй калекцыі. Паабяцаў па вяртанні на радзіму сфатаграфаваць іх, і прыслаць здымкі ў музей. Сваё абяцанне ён выканаў.

## ПРАПАГАНДАВАЦЬ ЁСЦЬ ШТО

Няпісанае правіла крупчан — як мага шырэй знаёміць працаўнікоў горада і вёскі з творчасцю сваіх землякоў, а таксама тых, хто нарадзіўся ў іншых мясцінах, але жыве тут. Прапагандаваць жа ёсць што, у чым пераканала персанальная

выстаўка майстра па вышыўцы, члена Саюза майстроў народнай творчасці Белай. Таццяна Якаўлеўна, адпрацаваўшы не адно дзесяцігоддзе на ніве культуры, цяпер знаходзіцца на заслужаным адпачынку. У час гэтай выстаўкі яна па сутнасці трымала творчую справаздачу перад землякамі, якія прыйшлі ў гісторыка-краязнаўчы музей на спецыяльна адкрытую ў Год зямлі экспазіцыю «Россыпы таленту».

Лепей і сказаць цяжка, бо сапраўды на ёй былі россыпы ткацтва. Так як Белая тчэ ручнікі, могуць ткаць нямногія. Толькі застаецца павучыцца ў яе і ўменню вышываць карціны і падушкі. А яшчэ ж яна вяжа сурвэткі. Дый звычайныя каўнерыкі можа такім чынам аздобіць, што яны адразу ператвараюцца ў творы мастацтва. За ўсім гэтым — талент, Богам дадзены, які, дзякуючы натхненню, нястомнай працы, даў такі жаданы плён.

Тое ж самае можна сказаць і пра Аляксея Гарбунова. Аляксей Аляксеевіч — чалавек цікавага лёсу. Ваенны па прафесіі, ён ваяваў у Афганістане, цяпер намеснік старшыні раённай арганізацыі воінаў-афганцаў. Праз усё сваё жыццё пранёс захапленне разьбой па дрэве. Ягоныя работы добра вядомыя не толькі ў Крупках, а і далёка за межамі Крупшчыны. Адна з іх, падораная аўтарам, знаходзіцца нават у калекцыі Кавалёнка. Наколькі шчодры талент гэтага народнага самародка, лішні раз засведчыла персанальная выстаўка Гарбунова ў карціннай галерэі.

З некаторымі жывапіснымі работамі самадзейнага мастака Аляксея Гаміна можна пазнаёміцца заўсёды, калі ўдасца завітаць у бібліятэку-карцінную галерэю, што знаходзіцца ў аграгарадку Ігрушка. Аляксея Іванавіча, які жыў непадалёку, у вёсцы Радзіца, паколькі разменяў свой дзевяты дзесятак, дзеці забралі да сябе, а творы, падораныя ім, засталіся. Ёсць яны і ў аддзеле народнай адукацыі Крупскага райвыканкама, і ў Цэнтры народнай творчасці, і ў некаторых школах. Асобныя ж набыты калекцыянерамі ЗША, Канады, Германіі, Расіі і годна папаўняюць іхнія калекцыі.

Ігрушка — радзіма вядомай мастацтвазнаўцы Галіі Фатыхавай. Галія Ахметаўна заўсёды жаданы госць у Крупках. Яна ж парупілася і аб адкрыцці ў карціннай галерэі выстаўкі твораў мастака-прафесіянала, дацэнта Акадэміі мастацтваў Аляксандра Ксяндзова. Сталася так, што Аляксандр Паўлавіч, які пастаянна прымае ўдзел у шматлікіх выстаўках як на Беларусі, так і за мяжой, упершыню вынес свае работы на суд землякоў. І застаўся вельмі задаволены тым, што ягоная выстаўка «Нараджэнне Венеры» выклікала такую вялікую цікавасць.

У Барыса ж Аракчэева, ураджэнца Расіі, сувязі з Крупкамі даўнія. Яшчэ ў маі 2005 года, калі галерэя толькі адкрывалася, ён падарыў ёй тры свае работы. Цяпер жа твораў Аракчэева ў фондах галерэі сем. Іх можна было пабачыць у экспазіцыі «Творчая дынастыя. Аракчэевы».

Назва невыпадковая: справу Барыса Уладзіміравіча (дарэчы, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, таму адкрыццё гэтай выстаўкі і было прымеркавана да 65-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў), працягваюць ягоныя дочкі Алена, Марына і Аксана. Спасцігаюць сакрэты жывапісу і ўнукі.

Напярэдадні ж Дня беларускага пісьменства і друку былі запрошаны пісьменнікі-землякі. З Васілём Зуёнкам, Змітраком Марозавым, Іванам Цітаўцом і іншымі літаратарамі сустрэліся вучні школ горада і раёна. На працягу дзвюх гадзін гучалі вершы, музыка, песні. Ініцыятарам правядзення такога, несумненна, важнага мерапрыемства былі Мельнік і кандыдат гістарычных навук Дзмітрый Хромчанка, які з’яўляецца ўкладальнікам гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць» Крупскага раёна. І тут крупчане паказваюць прыклад іншым. Яны не абмежаваліся томам, што ў 1999 годзе выйшаў у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», а па ўласнай ініцыятыве выдалі яшчэ адзін, які з’яўляецца годным дапаўненнем першага. Чаму б падобным шляхам не пайсці і ў іншых раёнах?

## ГУМАР — СУР'ЁЗНАМУ ПАДМОГА

Крупчане — людзі, не пазбаўленыя гумару. Хоць у гэтым яны наўрад ці могуць параўнацца са знакамітымі аўцюкоўцамі, не кажучы ўжо пра габраўцаў, тым не менш, таксама па слова ў кішэню не лезуць. Дый да розных народных прыкмет, што нясуць у сабе прымхлівасць, ставяцца па-філасофску: чаму быць — таго не абмінуць, а будзе тое, пра што дбаць старанна, імкнуцца, каб задуманае не толькі збывалася, а і абавязкова прыносіла добры плён.

Іначай як растлумачыць тое, што менавіта 1-м красавіка 2005 года пазначана распараджэнне райвыканкама аб стварэнні Дома рамёстваў, які размясціўся на другім паверсе Крупскага гарпасялковага Дома культуры, што знаходзіцца ў Крупках-2. Сёй-той гэты пасёлак нават гатовы называць свайго роду спальным раёнам саміх Крупак.

Не збіраюся спрачацца, наколькі правільнае падобнае вызначэннне. А вось тое, што ў спальным раёне, прабачце за каламбур, спаць у шапку не збіраюцца, засведчана тымі добрымі справамі, якія здзейснены ўжо за не такі і працяглы час работы гэтай установы культуры.

Пад адной страхой сабраліся тыя, хто паспяхова працягвае лепшыя нацыянальныя традыцыі ў розных відах народных промыслаў — працуе сем гурткоў па прыкладным мастацтве. У аднолькавай ступені гэта тычыцца і дзяцей, і дарослых, сярод якіх таксама знаходзіцца нямала тых, хто не пазбаўлены таленту, а на пачатку жадання праявіць сябе, засведчыць, наколькі здатны ў творчасці, якая людзям, абыякавым да нацыянальнай культуры, можа падацца не вартай увагі. Маўляў, навошта, для прыкладу, тыя ж аплікацыі са скуры ці саломкі, разьба па дрэве, вышыўка, калі наўкола і так шмат чаго цікавага і прывабнага. Ды творчасць рэч такая, што калі нечым захапляешся, то дзеля гэтага гатовы ахвяраваць і часам, і іншымі заняткамі.

У зале ўстаноўлены два ткацкія станкі, аднаму з якіх ужо больш як сто гадоў. Дому рамёстваў яго падарыла ткачыха Надзея Крыварот, якой яго перадала маці. Другі ж, зроблены нядаўна, па-сутнасці ідэнтычны старажылу. На ім і спасцігаюць сакрэты ткацтва школьнікі пад кіраўніцтвам вопытнага майстра Яніны Мікульчык. Поруч з традыцыйнымі відамі творчасці развіваюцца і новыя. Такія, як бісерапляценне, вырабы са скуры, вадкага пластыка, «маляванне» карцін метадам набівання іголкай. Для таго, каб авалодаць гэтымі сакрэтамі, як і іншымі, неабходна сапраўдная захопленасць пэўным відам творчай дзейнасці.

Прыклад падобнай апантанасці паказвае сама дырэктар Дома рамёстваў Таццяна Сухаплюева. Таццяна Леанідаўна паспяхова працуе ў галіне ткацтва. Уручную тчэ габелены, па-майстэрску робіць лялькі з ільновалакна. Дый шмат чым іншым паспяхова займаецца. Але, як чалавек творчы, не задавальняецца нават тым, каб кожную новую рэч па-свойму аздобіць. Ёй абавязкова хочацца зрабіць нешта такое, каб яно не толькі прынесла задавальненне самой, а і іншым.

## КАСЦЮМЫ, ВЕРНУТЫЯ З НЕБЫЦЦЯ

Так сталася тады, калі Сухаплюева ўзялася ўзнавіць касцюмы, у якія некалі апраналіся мясцовыя жыхары. Ды, зразумела, не ў самым далёкім мінулым, а бліжэй да нашага часу. Аднак, як высветлілася, няма дакладных звестак нават наконт касцюмаў, што тычыцца канца XIX — пачатку XX стагоддзяў. Таццяне Леанідаўне давялося звяртацца па кансультацыю да супрацоўнікаў Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры, якія, трэба адзначыць, ахвотна пайшлі ёй насустрач. Па іхняй падказцы Сухаплюева і ўзялася за ажыццяўленне задуманага.

Да працы над калекцыяй з пяці камплектаў жаночага і мужчынскага адзення былі прыцягнуты лепшыя ткачыха Яніна Мікульчык, швачка Алена Шкор, а



*Таццяна Сухаплюева з касцюмамі, вернутымі ёю з небыцця.*

таксама майстрыхі-вышывальніцы Ніна Сухенка і Лідзія Бяляўская. Усё рабілася, зразумела, уручную. Гэта была вельмі карпатлівая праца, калі даводзілася ў працэсе яе штосьці адчуваць інтуітыўна, нешта дарабляючы.

Яно і не дзіўна. Замалёўка таго ці іншага касцюма, прапанаваная спецыялістамі, давала аб ім толькі агульнае ўяўленне. Неабходна было самім падабраць патрэбныя ніткі, выкраіць тканіну так, каб апратка не толькі добра выглядала, а і з'яўлялася зручнай у карыстанні.

З пастаўленай мэтай усе, хто ажыццяўляў гэтую няпростую задачу, справіліся паспяхова. Лішні доказ таму — абласная выстаўка майстроў народнай творчасці Міншчыны. Асабліва даспадобы прыйшліся наведвальнікам яе льняныя мужчынскія штаны з кашуляй. Знайшліся нават жадаючыя набыць іх. Ды дзе там! Эклюзіўныя рэчы, як вядома, продажу не падлягаюць.

Створаны таксама і стылізаваныя пад даўніну два сцэнічныя народныя касцюмы. У задумках жа Таццяны Леанідаўны вярнуць з забыцця вясельную апратку, якая некалі ў кожным рэгіёне вылучалася сваёй адметнасцю.

— Справіцеся? — не ўстрымаўся я, каб не запытацца ў яе.

— Я ў гэтым не сумняваюся, — адказала Сухаплюева. — Аднаго хацелася б: каб нашым жаданням ды яшчэ надзейнае навуковае падмацаванне. Не будзеш жа ўвесь час звяртацца па кансультацыю да навукоўцаў інстытута праблем культуры. Іншая справа, каб быў свой дыпламаваны спецыяліст па дэкаратыўна-прыкладной творчасці.

## ЗЗЯЙЦЕ, ЗОРАЧКІ, ЗЗЯЙЦЕ

Калі гаворка заходзіць пра юныя дараванні, Таццяна Мельнік ажыўляецца. Гэта і зразумела. Выраз «настаўнік, выхавай вучня» ў сферы мастацтва, культуры набывае асаблівы сэнс. Ад таго, якая прыйдзе творчая змена, залежыць, ці будзе тое добрае, што ўжо набыта і зроблена, належным чынам прадоўжана. Крупчанам наконт гэтага сумнявацца не даводзіцца.

— Прыехалі б на некалькі дзён, — гаворыць Таццяна Іванаўна, — то арганізавалі б для вас выступленне нашых юных артыстаў, а так, — на яе твары мільгае засмучэнне, што адразу ўступае месца ўсмешцы, — давядзецца паверыць на слова.

— То расказвайце.

— У нас некалькі сваіх зорачак, — радасна прамаўляе начальнік аддзела культуры, — адно не ведаю пра каторую з іх пачаць расказваць.

— Бадай, з самай юнай.

— Самая юная — Даша Сманцар. З чатырох гадоў спявае, але паспела ўжо дасягнуць немалых творчых поспехаў. Год жа назад, калі ў Барысаве праходзіў II абласны конкурс вакальнага майстэрства «Музычныя пацеркі», яна заняла першае месца ў намінацыі «салісты-вакалісты ад 7 да 12 гадоў». І гэта пры тым, што творчае саперніцтва было вялікае, а ў журы знаходзіліся вельмі аўтарытэтныя людзі, у тым ліку і тыя, хто сам паспяхова выступае ў вакальных жанрах. Скажам, удзельнікі вядомага дуэта «Аляксандра і Канстанцін» Аляксандра Кірсанава і Канстанцін Драпеза, лаўрэат міжнародных конкурсаў, выканаўца рамансаў Таццяна Бандарэнка. Але ўсе яны аддалі ў той намінацыі, у якой Даша выступала, перавагу менавіта ёй. Іначай і быць не магло, бо яна мае ярка выражаны народны голас, а прафесіяналы такую якасць цэняць.

Немалаважна і тое, што калі большасць удзельнікаў згаданага конкурсу спявалі так званую эстраду, дык Сманцар у якасці конкурсных нумароў узяла народныя песні «Ой, ці дома пан-гаспадар?», «Ой, на лета красна!» і «Сокал, мой саколе». Даша атрымала дыплом лаўрэата і кубак з надпісам: «Лаўрэат першай ступені. Другі конкурс вакальнага майстэрства».

— А хто з вашых юных і маладых дараванняў гэтаксама паспяхова і ўпэўнена, так сказаць, нанізвае «музычныя пацеркі»?

— Наша зорачка, як мы пра яе кажам, Вераніка Чарняўская. Глядзіце, — Мельнік паказала мне раённую газету «Крупскі веснік» за 10 кастрычніка 2009 года.

Адзін з матэрыялаў у ім называўся «І зноў Ніка атрымала Ніку». Гаворка ў ім ішла пра традыцыйны, чацвёрты па ліку фестываль «Моладзь — за Саюзную дзяржаву», што праходзіў з 22 па 28 верасня ў расійскім горадзе Растоў-на-Доне. У ліку дэлегатаў ад Беларускага рэспубліканскага Саюза моладзі і ўдзельніц конкурсу маладых выканаўцаў ад Беларусі ў ім прымала ўдзел і крупчанка Вераніка Чарняўская. Хоць конкурс быў і немалы — дзевяць спевакоў ад Рэспублікі Беларусь і дзесяць — ад Расійскай Федэрацыі, менавіта прадстаўніца з Крупак заняла першае месца. І гэта пры тым, што яна з'яўлялася самай юнай сярод канкурсантаў.

Гэта не першая перамога Веранікі, з якой, хочацца спадзявацца, цягам часу вырасце прафесіянальная спявачка. Ва ўсякім разе дзяўчынка паступіла ў Гомельскі каледж мастацтваў. Хоць і выбрала аддзяленне харавога дырыжыравання, аднак марыць і ў далейшым працягваць спяваць.

Свае поспехі і ў іншых маладых творчых дараванняў. Так, у рэгіянальным конкурсе юных піяністаў, што праходзіў у Барысаве, першае месца заняў выхавальнік дзіцячай музычнай школы Максім Сушыцкі. Нязменна прыносяць свае адкрыцці традыцыйныя раённыя агляды-конкурсы дзіцячай творчасці, якія так і называюцца — «Крупскія зорачкі», а таксама агляды тэатральных калектываў, калектываў вакальна-харавога жанру, патрыятычнай песні. Летась такім адкрыццём стала юная салістка Халопеніцкага гарпасялковага Дома культуры Яна Семіжон.

— Мабыць, ёсць на вашай зямлі і дзіцячыя калектывы, якія дасягнулі немалога поспеху? — задаю чарговае пытанне Мельнік.

— Адзін узорны дзіцячы фальклорны ансамбль «Крупчаняты» Крупскага сельскага Дома культуры чаго варты.



*Выступаюць «Крупчаняты».*

## «КРУПЧАНЯТЫ» ПОСПЕХАМІ БАГАТЫ

Да месца сказаць, што на Крупшчыне пяць калектываў носяць ганаровае званне «народны». Два з іх працуюць пры раённым Цэнтры культуры: ансамбль народнай песні «Жывіца», якім кіруе Маргарыта Еўсявіцкая, і духавы аркестр на чале з Віктарам Кухаранкам. А яшчэ гэта клуб майстроў «Таленты Крупшчыны», які стварала Белая, а цяпер яе справу прадаўжае Вольга Баяркіна, студыя разьбы па дрэве з Аляксеем Гарбуновым. Гэткага ж звання ўдастоены і калектыў народнай песні «Крупчанка», што працуе пры Крупскім СДК пад кіраўніцтвам Ірыны Паплаўскай.

Калі ж ёсць «Крупчанка», то чаму б не з'явіцца і «Крупчанятам»? Хоць бы таму ўжо, што некаторыя ўдзельнікі юнага ансамбля, калі стануць дарослымі, змогуць папоўніць саму «Крупчанку». Падобная ідэя нарадзілася ў 2001 годзе, калі «дарослы» калектыў меў ужо немалы ўзрост — трыццаць гадоў і сем гадоў насіў званне «народнага». Так пры «Крупчанцы» і з'явілася дзіцячая вакальная група. Пачатак быў настолькі ўпэўнены, што першая ж пастаноўка, ажыццёўленая ёю — абрад «Масленіца» — па сённяшні дзень знаходзіцца ў рэпертуары.

У самастойны ансамбль вакальная група ператварылася ў 2002 годзе, калі юныя таленты ўзяла пад сваю творчую апеку Іна Махмудава. Дзякуючы Іне Ірыкаўне сцэнічнае ўвасабленне набылі такія традыцыйныя беларускія народныя абрады, як «Каляды», «Гуканне вясны», «Зажынкі». Пра сур'ёзнае стаўленне да справы сведчыць і тое, што на змену акампанементу пад баян і фанаграме, кожнае выступленне пачало суправаджацца ігрой на розных народных інструментах, а таксама на скрыпцы.

«Крупчаняты» не засталіся незаўважанымі. Ужо ў 2003 годзе іх запрасілі на абласны агляд сельскай мастацкай самадзейнасці. Пазней быў удзел у многіх мерапрыемствах, але сапраўднае прызнанне прыйшло двума гадамі пазней, калі «Крупчаняты» атрымалі права выступаць на рэспубліканскім свяце-кірмашы «Дажынкі», якое ладзілася тады ў Слуцку. Хоць адбор калектываў мастацкай самадзейнасці для ўдзелу ў свяце праводзіўся самы строгі, тым не менш крупскі дзіцячы ансамбль не «згубіўся» сярод іншых. Два новыя нумары — песня «Чачотачка» і «Крывы танец» былі сустрэты дружнымі воплескамі гледачоў, якім

спадабалася і само выступленне, дый тое, што юныя артысты выйшлі ў новых прыгожых касцюмах, якія яшчэ ў большай ступені падкрэслівалі адметнасць фальклорна-абрадавых пастановак.

Ад Махмудавай эстафету кіраўніцтва «Крупчанятамі» прыняла малады спецыяліст Ганна Каравацкая (цяпер ужо Клімковіч). Прыйшлі новыя выканаўцы, узрасло майстэрства тых, хто паспеў сцвердзіцца. Пашырыўся і рэпертуар, у які, поруч з ранейшымі нумарамі, хораша ўпісаліся пастаноўка «Юр'еўскія забавы», народныя песні «Вясна-красна наставала», «Як ішлі мы з Талакою», «Паехала Каляда», «Святы вечар» і іншыя.

Прысваенне звання «ўзорны» надало калектыву яшчэ большай упэўненасці ў сабе, выклікала жаданне працаваць з найбольшай творчай аддачай.

— То можа «Крупчаняты» і да народнага калектыву дарастуць? — выказаў я меркаванне.

Таццяна Іванаўна ўхілілася ад адказу, толькі зазначыла:

— На прысваенне звання «народнага» цяпер мы рыхтуем калектыў народнай песні «Ляночак», што працуе пры Лянокскім Доме культуры, і мастацкім кіраўніком якога з'яўляецца Таццяна Карповіч. І сама яна, і салісткі Каміла Аляксандрава, Людміла Дземідзюк, Таццяна Груніна, Святлана Драніца, Наталля Паплаўская восенню з'яўляліся ўдзельнікамі святочнай канцэртнай праграмы ў нашым горадзе-пабраціме Сонечнагорску. Уявіце сабе: ім давялося выступаць на адной сцэне з такімі вядомымі расійскімі калектывамі, як групы «Прэм'ер-міністр», «Божая кароўка», «Гарачыя сэрцы», танцавальны калектыў «Гжэль». Тым не менш поспех «Ляночка» быў відавочны. Спявалі нашы дзяўчаты ўжывую, ды так хораша, таму гледачы доўга не хацелі іх адпускаць. Кіраўнік Сонечнагорскага муніцыпальнага раёна Ю. Панкратаў уручыў ансамблю «Ляночак» пісьмо-падзяку за плённую работу на карысць раёна і ў сувязі з 80-годдзем яго ўтварэння.

## КАЛІ СПРАВА АГУЛЬНАЯ, ТО І НАМАГАННІ АГУЛЬНЫЯ

Як чалавек сціплы, Таццяна Мельнік у гаворцы са мною пастаянна старалася падкрэсліць, што начальнікам аддзела культуры яна працуе нядаўна, таму ва ўсім, што дасягнута, яе асабісты ўклад не такі ўжо і вялікі. Сціпласць, вядома, рэч добрая, але нельга не прымаць і іншае.

Чалавек, самаахвярна ўлюблёны ў родны край (прафесія гісторыка ў дадзеным выпадку вельмі да месца), яна стараецца рабіць усё для таго, каб праз самадзейнасць, культуру ў цэлым крупская зямля яшчэ больш славілася. І ў гэтым, безумоўна, вялікае значэнне належыць духоўнаму патэнцыялу, які і фарміруецца праз усё тое, што патрапляе пад вызначэнне — духоўнасць, прыгажосць.

Таццяне Іванаўне працаваць і складана, але адначасова і лёгка. Складана ў тым сэнсе, што пакуль шмат да чаго ёй яшчэ трэба даходзіць, самасцвярджаючыся як кіраўнік на новым месцы. Аднак адначасова рабіць гэта і лёгка, бо поруч з ёю людзі, якія гэтаксама, як і яна, разумеюць, што хлеб і песня павінны пастаянна знаходзіцца як бы ў адной звязцы. Пачынаючы са старшыні Крупскага райвыканкама Міхаіла Амельянчука, які таксама імкнецца да ўсяго даходзіць сам.

Міхаіл Міхайлавіч, хоць і ўзначальвае раённую вертыкаль таксама нядоўга, паспеў ужо добра ўнікнуць не толькі ў гаспадарчыя, а і ў культурныя справы. Вырашэнне актуальных задач вытворчасці (Крупшчына — раён сельскагаспадарчы), безумоўна, забірае ў яго шмат часу, але ён стараецца бываць і на асноўных мерапрыемствах, якія праводзяць культасветработнікі. Прынамсі, па-за ягонай увагай не прайшло тое, што ладзілася ў сувязі з 65-годдзем вызвалення Беларусі

ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а цяпер скіравана на годную сустрэчу 65-годдзя Вялікай Перамогі.

Невыпадкова, выступаючы мінулай восенню на ўрачыстасцях, прысвечаных Дню работнікаў культуры, Амельянчук зазначыў:

— Сыходзячы з пабачанага, магу зрабіць вывад, што культура ў раёне жыве і будзе жыць. У вас цудоўны патэнцыял і вы ўмееце заахвоціць людзей, узняць ім настрой.

Словы старшыні райвыканкама не разыходзяцца са справай. З боку раённай вертыкалі работнікі культуры заўсёды атрымліваюць дзейсную падтрымку. Яны заахвочваюцца маральна і матэрыяльна. Асобныя ж юныя артысты з'яўляюцца стыпендыятамі райвыканкама. Выдзелена яна і калектыву «Крупчаняты».

Гэтаксама клапоціцца праблемамі культуры і намеснік старшыні райвыканкама Уладзімір Загорскі, які курыруе сацыяльную сферу. А яшчэ Мельнік заўсёды знаходзіць паразуменне з начальнікам ідэалагічнага аддзела Ларысай Глінскай.

Абедзве яны — Глінская і Мельнік — прыгожыя, энергічныя. Адзінае, у тым, што ў Ларысы Сяргееўны куды большы вопыт работы, якім яна і стараецца дзяліцца з начальнікам аддзела культуры. Гэтыя два аддзелы райвыканкама, якія ўзначальваюць яны, умеюць наладзіць сваю работу такім чынам, што не проста ўдала дапаўняюць адзін аднаго, а, па-сутнасці, працуюць разам.

— Калі рыхтаваліся да 65-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, — згадвае Глінская, — сумесна правялі канцэртна-інфармацыйны тур. Пабывалі ва ўсіх 53 вёсках, якія ў раёне з'яўляюцца аддаленымі. І ў кожнай з іх выступілі з канцэртамі. Адначасова расказалі жыхарам, а гэта ў большасці сваёй старыя людзі, аб справах у раёне. Паведамлялі нават пра тое, што не заўсёды напаткаеш у раённай газеце.

Па гэткім жа прынцыпе дзейнічалі ідэалагічны аддзел і аддзел культуры і ў час уборачнай кампаніі. Было створана 15 канцэртных атрадаў — адзін раённы, а астатнія па тэрытарыяльным прынцыпе, у кожным сельсавеце. Немагчыма перадаць словамі, як сустракалі ўдзельнікі жніва самадзейных артыстаў і інфармацыйныя групы, якія ў час абедзеннага перапынку выступалі на палявых станах, на таках. Усё гэта трэба было бачыць на свае вочы. У аднолькавай ступені ўзнімалі настрой і песні, і танцы. Дый зноў жа — інфармацыйныя паведамленні.

Хіба не цікава было даведацца вяскоўцам пра тое, як іхняя гаспадарка па тэмпах жніва выглядае ў параўнанні з іншым?! Гэткі ж інтарэс выклікалі і паведамленні пра дасягненні на раённым уборачным фронце. Пасля ідэалагічныя работнікі расказалі аб жніве ў вобласці, па ўсёй краіне. Поспехі людзей акрылялі. Калі ж эстафету бралі самадзейныя артысты, то некаторыя камбайнеры не вытрымлівалі, пачыналі танцаваць разам з імі, а то і падпяваць ім.

* * *

Пакідаў я Крупкі пад вечар. Спяшаўся на аўтобус, што ішоў у Мінск з Новалукомля. Стаяла сцюдзёнае надвор'е. Нават крыху падмарожвала. Ды холаду не адчувалася. І таму, што ставала ўражанняў, ад якіх узнімаўся настрой. Дый Мельнік і Глінская ўзяліся мяне праводзіць, а калі поруч такія жанчыны, то на марознае надвор'е ўвагі не звяртаеш...

Крупкі ўсё ж не хацелі мяне адпускаць. Калі прыйшоў чаканы аўтобус, аказалася, што ў ім няма вольных месцаў. З вялікай цяжкасцю ўсё ж удалося ўгаварыць вадзіцеля. Так і ехаў я, стоячы, да Барысава. З думкамі, што гэта шчасце пабываць яшчэ раз там, дзе некалі «выраслі Крупкі // На сінім Бабры ў бары», і дзе бруіцца іншая рака — культурная, у якой так шмат прытокаў, а выток, як і мае быць, адзін — тое, што назапашвалася на крупскай зямлі на працягу стагоддзяў, і што ашчадна зберагаецца, каб гэтаксама радаваць нашых нашчадкаў, як і радавала нашых продкаў, а сёння радуе нас саміх.

Ганад ЧАРКАЗЯН

# НА ХВАЛЯХ ВЕЧАЛЛЯ

**Кожны** раз, калі намаўляюся сустрэцца з Барадуліным, мяне ахоплівае пачуццё ціхай невымоўнай радасці. Хоць і сустрэч гэтых было — не пералічыць. Ды жыццё — яно і ёсць жыццё, цячэ, мяняецца, але працягваецца. За трыццаць гадоў знаёмства з паэтам я і сам памяняўся. Ну, тое ж самае жыццё ўнесла свае карэктывы, ды і ўзрост... На нашых вачах, на нашым жыцці для велізарнай колькасці людзей адбыліся рэвалюцыйныя, катастрафічныя змены. Зробленае і напрацаванае ў той, колішні час, цяпер здаецца далёкім і нерэальным.

Калі ўпершыню я распавядаў Барадуліну розныя гісторыі пра Арменію, пра жыццё там маіх супляменнікаў, іх звычаі, традыцыі, ён сказаў:

— Больш нікому не кажы пра гэта. Лепш пішы... Прозу... У нас нямала ахвотнікаў карыстацца чужымі сюжэтамі... — І тут жа дадаў: — Я перакладу на беларускую. Будзе цікава... Шмат каму будзе цікава.

Што Рыгор Барадулін любіць «гумарнуць», ведаюць усе. Гэту рысу і нават уласцівасць ягонага характару я адчуў пры нашай першай сустрэчы ў 1979 годзе. Тады ён працаваў у выдавецтве «Мастацкая літатарура». Я ішоў па выдавецкім калідоры, а насустрач ён, пахаджаючы па-барадулінску адметна. Не паспеў я і паздароўкацца, як ён спытаўся:

— Вы Чарказян?

Я спачатку сумеўся, але і сам, добра разумеючы гумар, падумаў: адкуль жа ён ведае мяне?

— А як вы дазналіся? — пытаюся.

— Ды гэта вельмі проста. Такіх каларытных насоў (ён паказвае на свой і ўглядаецца, якая ў мяне будзе рэакцыя) у нас мала. Але ж ёсць...

— Ну, не толькі ж у мяне, Бог не пакрыўдзіў і Барадуліна...

— Ды ўсё ж у вас арліны, — шчыра засмяяўся ён, — а ў мяне — як у мяне...

Гэта была наша невыпадковая сустрэча, асаблівая, радасная, незабыўная, важная для майго жыцця і творчасці. І, як часта здараецца, усе вызначальныя ў жыцці сустрэчы — нібыта выпадковыя.

Але ж потым Рыгор Іванавіч прызнаўся, што даведаўся пра мяне ад Пятра Усцінавіча Броўкі, свайго выдатнага земляка. А памяць у Барадуліна выключная, вось ён і змог «вылічыць» мяне. А яшчэ ж і вершы чытаў, і фотаздымак бачыў.

Няхай яно было і далёка па часе, але тыя гады засталіся нашымі — з радасцю і смуткам, з поспехамі і няўдачамі. Тады мы жылі сваім жыццём, а творчасць, літаратура, і асабліва паэзія, былі сапраўдным, рэальным чыннікам духоўнасці чалавека. Людзі любілі вершы, чыталі, захапляліся імі і лічылі сябе саўдзельнікамі жыцця паэзіі. Сувязь паміж пісьменнікам-паэтам і чытачом была высакароднай, шляхетнай і ўзаемапаважнай. Існавала цэлая кагорта сапраўдных творцаў, і ў гэтай кагорце Рыгор Барадулін займаў і на той час сваё асаблівае месца. Месца гэтае ніколі не было цёпленькім. Ва ўсе часы таленавітыя людзі адчувалі сябе не зусім утульна... Гэта не наша сучаснае вынаходніцтва, гэта тысячагадовая нічым неапраўданая завядзёнка любой цывілізацыі... Прыкладаў мноства.

Усім знаўцам беларускай паэзіі, і ўвогуле беларускай літаратуры добра вядома пра сяброўства Барадуліна і Уладзіміра Караткевіча. Гісторыю пра тое, што Барадулін часта паўтараў на развітанне з сябрам сваю ўлюбёную фразу «Я табе пазваню з трамвая», Рыгор Іванавіч тлумачыў так:

— У выпадку, калі пад сумненнем была магчымасць званка, я заўжды паўтараў, што пазваню з трамвая. Гэта азначала, што званка можна было і не дачакацца... Тады мабільная сувязь уяўлялася фантастыкай...

Зрэшты, я занадта дэталёва цікаўны. Кожная падрабязнасць — гэта спосаб лішні раз дакрануцца да мінулага. На Усходзе часта гавораць: «Справы майго сябра — мае



*Рыгор Барадулін і Ганад Чарказян.*

справы». А, як ні паглядзі, да Усходу я маю наўпростыя адносіны. Вось такая цікаўнасць мною і валодае.

Вось яшчэ адна гісторыя з Уладзімірам Караткевічам барадулінскімі словамі:

— У тыя гады мы адчувалі сябе разняволенымі і шчаслівымі. Але бывалі моманты, калі гэткае шчасце трэба было насыціць яшчэ якім-небудзь зместам, дадаць нейкі элемент, нейкі экспромт, востры жарт. Чаго толькі ні выдумлялі...

— Ты ведаеш, мой сябра Рыгорка? — кажа Караткевіч.

— Не ведаю, — тут жа адказвае Барадулін — ён не дае сябру закончыць думку.

— Ты яшчэ нічога не ведаеш, а ўжо ўпэўнены, што ўсё ведаеш... Як заўжды.

— Упэўнены, — адказвае Барадулін.

Караткевіч спыняецца і вельмі сур'ёзна, запаволена падбіраючы словы, паведамляе сябру:

— Заснавальнік дома Раманавых Іван Кабыла быў канюшым майго дзеда.

Гэта для Рыгора выдатная пажыва для разваг і для кпінаў. Так яны гутарылі. Так жылі.

— Ды ты што, Валодзя, які такі дзед, пабойся Бога. Дынастыі дома Раманавых больш як трыста гадоў! Які такі дзед? Ён што, Кашчун Бессмяротны?

Караткевіч бачыць, што яго прыпёрлі ў кут і агучвае іншую версію:

— Ну добра, я папаўся. Не дзед, але прадзед, якая розніца? І трыста ці дзвесце гадоў — яны ж побач! Мне здаецца, ты, Рыгорка, ні халеры ў гісторыі не разбіраешся...

Мне цяпер здаецца, што я сам прысутнічаў пры той іхняй размове. Такая размова магла адбыцца толькі паміж добрымі, шчырымі сябрымі, якія любяць адзін аднаго. Гэта так натуральна, што тут дадасі, акрамя таго, як гэта застаецца толькі са светлым сумам успамінаць. І Барадулін успамінае з сумам тыя дні і свайго паплечніка, сябра, аднадумца, і захапляецца ягонай душэўнай цеплынёй.

— Калі падыходзіць да гэтага прынцыпова, трэба было весці дзённік і добрасумленна запісваць даты сустрэч і тэмы размоў. Але ці запішаш, пра што гутараць сабе двое дарослых людзей? — падводзіць вынік Барадулін.

З універсітэцкіх гадоў ён добра памятае вайсковую кафедру. Там камандаваў адстаўны генерал (прозвішча Барадулін прасіў не называць). У школе ў Рыгора Івана-

віча было кепска з матэматыкай. Ён тады дапамагаў з нямецкай мовай аднакласніку, а той яму — з матэматыкай. Гэткі прымітыўны школьны бартэр. Усе былі задаволеныя. А на вайсковай кафедры генерал быў строгі, а ў Барадуліна слабая матэматыка, рашыць задачу пра гаўбіцу не было магчымасці. Але Барадулін не разгубіўся. І пасвойму дастаўаў генерала несупынным пытаннем: колькі каштуе снарад? Відаць, генералу так апрыкла пытанне студэнта, ці мо і кпін адчуў, але называе генерал нейкую дэталь гарматы і загадвае Барадуліну яе паказаць.

І цяпер Барадулін прызнаецца, што да гэтага часу шукае тую дэталь на гаўбіцы, калі яна яму дзе-небудзь сустракаецца, і да гэтага часу не ведае, дзе яна знаходзіцца.

А тады генерал раззлаваўся і сказаў:

— Вось яна, у вас пад носам...

Урэшце генерал не вытрымаў і пайшоў да прарэктара.

— Барадуліна трэба выключыць, бо такіх студэнтаў у нас яшчэ не было, — далажыў прарэктару генерал.

Супадзенне, але ў тыя дні якраз выйшаў калектыўны зборнік універсітэцкіх паэтаў «Падарунак». Прарэктар добра ведаў пра гэта і, відаць, нямала радаваўся, бо патлумачыў ваяку:

— Барадулін? О, сапраўды, такіх студэнтаў у нас яшчэ не было.

Кажуць, загадчык вайсковай кафедры пакрыўдзіўся.

— Я вам пра справу кажу... А вы мне пра нейкія сцішкі...

Зразумела, кожнаму патрэбна займацца тым, чым яму належыць. Нейкі мінімум ведаў трэба мець і пра тое, што ніколі не спатрэбіцца. Але кожны чалавек павінен рабіць тое, што ён можа рабіць лепш за іншых. А калі чалавек у нечым па-сапраўднаму таленавіты — яго трэба шанаваць і падтрымліваць. Толькі ў жыцці гэта не заўсёды атрымліваецца. Маем сваіх самародкаў, але чамусьці шануем чужыя падробкі. Забываем пра свае таленты, пераймаем заморскае, часам зусім не лепшае. Пішам на сваёй мове з памылкамі, а чужыя словы перапісваем сажнёвымі літарамі і чапляем на самых людных месцах.

Мы працавалі разам з Рыгорам Барадуліным у выдавецтве «Мастацкая літаратура» тры гады. Ён — добрая душа. Спагадлівы, абавязковы, шчодры, чэсны. Прынцыповы. Не любіў і не любіць здраднікаў, як усе нармальныя людзі. Заўжды гаворыць праўду ў вочы. Чалавек-паэт, які любіць свой дом, сваю сям'ю, жонку, дачку, унучку, сваю Радзіму. Як паэт ён удасканаліў сваю мову да ўзроўню залатавуста. Ён, як геніяльны канструктар мовы, праз свой верш, а вершам праз музыкальны, непаўторны, меладычны, своеасаблівы лад, падобны па чысціні на ваду Свіцязі, робіць сваю справу. Узбагачае духоўную скарбніцу беларуса, паказвае яе яшчэ не раскрытую самабытнасць.

Кожны чалавек робіць тое, што можа. І наколькі можа. Барадулін зрабіў настолькі шмат, стварыў такую музыку верша, якая будзе гучаць у вяках, пакуль і будзе існаваць беларуская культура, мова, дзяржава. І беларуская нацыя не перастане ганарыцца гэтым здабыткам. Як і паэтам, які ўсё гэта стварыў. Вялікім і любімым сынам народа часам многае і даруецца. Ніколі сам чалавек, адзін, сам па сабе не можа быць гэткім эталонам, меркай без аніякай хібы. Эталонам могуць быць справы ягоных рук, душы, розуму, якія і надалей паслужаць людзям. А, як вядома, у скарбніцах духоўнасці захоўваецца толькі сапраўднае, падробак там не трымаюць...

Успомнім, колькі пяску і друзу трэба перамыць, каб знайсці хоць бы адну крупінку золата або невялічкі дыямент. Каб быць паэтам, трэба быць вялікім працаўніком. Менавіта такі народны паэт Рыгор Барадулін, сапраўдны пясняр беларускай зямлі. Ён і сёння жыве жыццём творцы з даважкам жыццёвых клопатаў, радасці і расчараванняў. Гады бяруць сваё, а зрабіць трэба яшчэ шмат.

Мая ўнучка Волечка намалявала малюнак.

— Дзед, — кажа яна, — я намалявала дзядулю Барадуліна.

Я гляджу на малюнак, пытаюся:

— Волечка, як ты здолела намаляваць дзядулю Барадуліна, калі ты яго ніколі не бачыла?

Малая не разгубілася і, узяўшы мяне за руку, павяла да кніжных паліц:

— Вось глядзі, — кажа чатырохгадовая Волечка, — раз Барадулін, два Барадулін, тры Барадулін, чатыры Барадулін... Вось фотаздымкі. А ты кажаш — не бачыла!

Праз пяць хвілін зноў падыходзіць:

— Дзед, а ў другім пакоі таксама Барадулін...

Я пра гэта раней і не думаў. Аказваецца, амаль на ўсіх маіх кніжных паліцах Барадулін. Жыве і творыць на вуліцы Мележа, і прысутнічае духоўна, у выглядзе надрукаванай паэзіі, у доме сябра — на вуліцы, некалі названай у гонар ліквідатара дынастыі Раманавых.

28 чэрвеня 2004 года ў Ватыкане Рыгора Барадуліна прыняў Папа Іаан Павел ІІ. Паэт падарыў Папе кнігу ягонай паэзіі ва ўласным перакладзе на беларускую мову. У родныя Ушачы Барадулін вярнуўся з блаславеннем Папы.

Праз тыдзень з прычыны хваробы з Рыгорам Іванавічам здарыўся прыкры выпадак. Упаў з вялікай вышыні. Унізе стаялі закапаныя слупкі ад лаўкі. Ён упаў на зямлю між слупкоў. Ніводнай драпіны.

— Бог убярог, — коратка тлумачыць Барадулін.

І я думаю, што Бог дапамог, збярог. І яшчэ — калі Бог пасылае чалавеку выпрабаванні, ён адначасова і беражэ яго, у нечым ахоўвае.

— Калі чалавек знаходзіцца між жыццём і смерцю, і калі ёсць за што ўратаваць чалавека, Бог дорыць яму жыццё. Таму жыццё заўсёды трэба пражыць, як Боскі дар. Ашчадліва, беражліва. Нават не пражыць, а зберагчы гэты дар, — менавіта гэтыя словы сказаў Барадулін.

Сапраўды.

Ніхто ў беларускай літаратуры не выяўляў вобраз маці так глыбока, як Рыгор Барадулін. Мне пашэнціла ведаць яшчэ аднаго такога надзвычай глыбокага песняра гэтай вечнай тэмы. Гэта геніяльны прадстаўнік усходняй цывілізацыі, армянскі паэт Аванес Шыраз. Ён, помніцца, хадзіў сабе па Ерэване, а за ім цягнуўся натоўп цікаўных. Сустрэчныя спыняліся, віталі паэта, нехта абавязкова далучаўся да натоўпу, ішоў следам. Аднойчы Аванес Шыраз падпісаў мне кнігу, з добрай усмешкай зірнуў на мяне і сказаў:

— Я ўчора цябе бачыў.

Якая выдатная памяць!

Армяне яго любілі яшчэ і за тое, што ён пісаў пра іх мары, пра любоў да маці, а значыць, — і да Радзімы. Уся творчасць Аванеса Шыраза прасякнута тэмай маці і Радзімы. Армяне ганарацца Аванесам Шыразам, а беларусы — Рыгорам Барадуліным.

— Я люблю творчасць Аванеса Шыраза, — прызнаецца Рыгор Іванавіч. — О-о! Гэта паэзія, — дадае паэт і глядзіць у неба.

Так кажуць і армяне — усё адтуль, усё Богам дадзена.

Зразумела, вялікі бачыць вялікае на адлегласці. А калі б Рыгор Іванавіч мог прачытаць вершы Аванеса Шыраза па-армянску, ён бы вохнуў. Думаецца, вохнуў бы і сам Шыраз, калі б змог прачытаць вершы Барадуліна па-беларуску.

У гады сумеснай працы ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» Барадулін насіў з сабой падабедак, клапатліва спакаваны жонкай Валянцінай Міхайлаўнай. Абавязкова прысутнічаў там хлеб з мукі грубага памолу, невядома скуль здабытае сала, неверагодна смачнае. Была там і пляшачка гарэлкі. На той час Рыгор Іванавіч быў ужо непітушчы. Ён мяне за вочы называў Сумным Гранатам. Такое мог прыдумаць толькі Барадулін. Чаму я атрымаў менавіта такую мянушку, да гэтага часу не магу высветліць. У яго былі такія маленькія сярэбраныя чарачкі, і ён мог пачаставаць каго хацеў. Сам, зразумела, не піў. Але абавязкова дадаваў, што сваё ўжо выпіў. Аднак яму было прыемна паўдзельнічаць у самой працэдуры, паглядзець, як гарэлка льецца ў далікатны посуд.

— А як курды п'юць? — пытаўся Рыгор Іванавіч, калі бачыў, што не можа зламаць маё супраціўленне.

— Кубкамі, Рыгор Іванавіч, шклянкамі, чарпакамі, вёдрамі, бочкамі...

— А-а-а, значыць, не п'юць. Цяжка ім будзе выжыць у гэты складаны, смутны час... А ты, калі і не п'еш, пішы. За тваёй спінай сорак мільёнаў цвярозых людзей. Яны чакаюць многага ад цябе... Пішы.

— Рыгор Іванавіч, не сорак мільёнаў курдаў і езідаў за мной, а сорак мільёнаў плюс адзін беларус...

— Тады зробім карэкціроўку. Значыць так, запомні на ўсё жыццё, за табой сорак мільёнаў курдаў і езідаў (дай Бог ім дзяржаўнасці), Рыгор Барадулін і мае дзесяць мільёнаў беларусаў... Адказнасці яшчэ больш. Запомні гэта.

Ішлі гады, і Рыгор Барадулін, нягледзячы на сваю занятасць, пераклаў пяць маіх кніг прозы і паэзіі, перакладае і цяпер. Гэты факт не толькі падтрымлівае мяне маральна, ён мяне акрыляе. І такое адчуванне, што не проста так пражыў я жыццё. Такімі вялікімі асобамі ў літаратуры, як Рыгор Барадулін былі і застаюцца для мяне Пятрусь Броўка і Васіль Быкаў. Я ўдзячны ім за тое, што яны засталіся ў маім жыцці як людзі ўзорных чалавечых адносін. Шчырыя, таленавітыя, бескарыслівыя творцы. Дзіўна, што яны ўсе з адной мясціны — з Віцебшчыны. Відаць, гэтая зямля асабліва ўрадлівая на таленты. Гэта таксама лёс. Гэта родная зямля падарыла ім талент і не памылілася ў выбары.

Калі іду да Барадуліна дамоў, заўсёды паднімаюся на ліфце. Так атрымліваецца хутчэй. Дарога да яго скарачаецца імгненна. Але сыходзіць ад яго не хочацца, таму марудна спускаюся па лесвіцы, якая то выходзіць вокнамі на вуліцу, то зноў заварочвае ўнутр дома. Так пяць разоў. Аднойчы Барадулін патлумачыў:

— Разумееш, гэта яшчэ нічога. Вось ёсць дамы, якія абграваюць вуліцу. А мне думаецца, было б цікава ў такім доме сабраць жыць праекціроўшчыкаў і чыноўнікаў, якія ўхвалілі гэты праект. Уяўляю, як у мароз і снег, крый Бог, зламаецца ліфт, яны спускаюцца ці падымаюцца на свой паверх з абавязковым выхадам на адкрытае паветра...

Я спускаюся па лесвіцы і ўспамінаю свае пытанні:

— Колькі кніг выходзіла, дзядзька Рыгор?

— Не памятаю.

— На колькіх мовах друкаваліся?

— Не памятаю.

— З якіх моў перакладалі?

— Не памятаю.

Рыгор Барадулін згадаць не можа. А я ведаю літаратара, які (паводле ягонага ж прызнання) раніцай лічыць свае кнігі злева направа, а вечарам — справа налева, каб не забыць іх колькасці. І адразу ўзгадваю свайго далёкага земляка, які некалькі разоў на дзень пералічыў сваіх баранчыкаў у спадзяванні, што здарыцца цуд і іх стане хоць бы на адно ягня больш.

Правільна робіць Барадулін, што не ламае галаву над матэматычнымі падлікамі. Ён жа сам прызнаваўся, што не любіў матэматыку. Ды і навошта гэта яму? Калі каму трэба, той і падлічыць. А вось другі адказ Барадуліна я запісаў у спадзяванні, што ўсё правільна данясу да прыхільнікаў яго таленту:

— Усё жыццё хацелася пісаць вершы для сябе. Але была надзея, што яны яшчэ каму-небудзь могуць спадабацца. На жаль, чытачоў усё менш і менш... а пісьменнікаў усё больш. Я імкнуўся напісаць такое, што закранула б мяне па-сапраўднаму... У гэтым, думаецца, і заключаецца мэта творчасці. Калі ты проста любіш тое, што напісана табою — гэта канец. На сваю творчасць трэба глядзець збоку. Калі і збоку падабаецца — можаш тварыць далей. Самае галоўнае — не пісаць вершы згодна прадуманага загадзя плана. Тады гэта ўжо рамяство. Так працуе сталяр, ганчар. Ёсць пэўная мяжа, калі нават каваль робіцца не проста майстрам сваёй справы, але творцам, сапраўдным мастаком. Немагчыма кіраваць вершам — ён кіруе табою. Верш павінен быць непрадказальным. Апошні суддзя — гэта чытач, калі, вядома, ён яшчэ існуе... Я часам здзіўляюся, што ў нашым шкодным асяродку (маю на ўвазе пісьменніцкі асяродак), кожны лічыць сябе класікам, і пры гэтым нічога не робіць, каб ім стаць. Тут ужо ўсё ў руках Бога. І дзяржава не дапаможа, ніхто не дапаможа. І не трэба, каб пра цябе якісьці чыноўнік пісаў характарыстыку, ацэньваў. Спачатку неабходна стварыць глебу, грунт, а калі гэтага няма, то што тут паробіш. Час усё паставіць на сваё месца. На Усходзе добра кажуць, што ад жадання мецъ халву больш соладка ў роце не стане. Слова — гэта аснова, прыўкраснае слова — гэта ўжо не проста аснова, а падваліны, падмурак. На добрым падмурку можна пабудаваць прыгожы і трывалы дом. Ты ж лепш ведаеш... (Ён меў на ўвазе маю будаўнічую прафесію).

Я задаю Рыгору Барадуліну, на мой погляд, няпростае пытанне:

— Цяжка быць народным паэтам?

— Калі хочаш, прадэманструю.

— Хіба гэта магчыма?

— Магчыма, і, калі хочаш, з тваёю дапамогаю, — ён мудра адводзіць вочы.

А я баюся, што ён прыдумае нешта такое, пра што потым будзе няёмка ўспамінаць. Трэба быць напагатове. Разыграе — і не адчуеш. Ён жа Барадулін.

І ўжо дапамагае апрануць мне горскую бурку і папаху, якія нядаўна яму падаравалі аварцы з Дагестана. Спецыяльная дэлегацыя прыязджала ў Беларусь для ўручэння. Падае мне сертыфікат у рамачцы, які так і называецца «Сэртыфікат Удзячнасці». Ніжэй тэкст: «Народнаму паэту Рэспублікі Беларусь Барадуліну Рыгору Іванавічу за вялікі ўклад у папулярызацыю карацінскай мовы, за пераклад на беларускую мову зборніка вершаў паэта Х. Асадулаева «Гаро». За ўмацаванне дружбы паміж беларускім і дагестанскімі народамі, за веліч душы і бескарыслівую цвёрдасць», і подпіс: «Старшыня рэгіянальнай грамадскай арганізацыі «Карата», дэпутат Народнага Сходу Рэспублікі Дагестан па Ахвахскім раёне Г. Муслімаў».

Мне падумалася, што такі сертыфікат маглі ўручыць Барадуліну і мае землякі. Але пакуль не ўручылі.

Тады я прызнаўся, што набытак гэты надзвычай адказны, важкі, але таксама і пачэсны. Потым знаёмлюся з граматай, якую падпісаў міністр культуры Дагестана Г. Курбанаў: «Рыгору Барадуліну за ўмацаванне дружбы і супрацоўніцтва».

Гэтыя фармальныя адзнакі ўвагі і пашаноты чамусьці з часам забываюцца. Напэўна, у цяперашні час дружба і ўзаемапавага маюць зусім іншую цану.

Але самая нечаканка пільнавала мяне наперадзе. Прыводжу тэкст пастановы № 11 аднаго з дагестанскіх сельсаветаў ад 20 красавіка 2009 г. цалкам:

1. Прысвоіць званне Ганаровага грамадзяніна сяла Карата Ахвахскага раёна Рэспублікі Дагестан Барадуліну Рыгору Іванавічу, народнаму паэту Рэспублікі Беларусь, з выдзяленнем зямельнага ўчастка ў мясцовасці «Губані»;

2. Барадулін Р. І. на тэрыторыі сяла Карата карыстаецца ўсімі льготамі, якія ўстаноўлены для дадзенай катэгорыі грамадзян;

3. Хадайнічаць перад дэпутатам Народнага Сходу Рэспублікі Дагестан Адахваскага раёна Муслімавым Г. ад імя жыхароў сяла Карата ўручыць грамату ганаровага грамадзяніна Барадуліну Р. І. з выездам у горад Мінск Рэспублікі Беларусь.

Старшыня сходу, кіраўнік МА «Сельсавет «Карацінскі», М. Шахруеў».

Усё, што тут напісана, было цалкам выканана. Ведаю, што ў Рыгора Іванавіча за многія гады было мноства ўзнагарод. Па-чалавечы кранальнай была гэтая ўзнагарода ад прыхільнікаў таленту нашага народнага паэта. Вось сапраўды — вялікае бачыцца здалёк. Усё ў жыцці адбываецца паводле тых ці іншых заканамернасцей. Барадулін ставіцца да дагестанцаў з павагай, з разуменнем. А дагестанцы ў адказ як умеюць, як могуць... Яны добра ведаюць, хто такі Рыгор Барадулін.

Я згадаў Петруся Броўку, які напісаў прадмову да маёй першай кнігі «Прочность». Там былі такія словы: «Курд піша на курдскай і армянскай, жыве ў Беларусі і выдаецца на рускай мове». Я цяпер разумею, якой дружбай мы ўсе тады былі з'яднаныя. Скажуць, што тады быў іншы час. Час, праўда, быў іншы, ды людзі засталіся тыя ж. Многія, большасць, яшчэ жывыя і здаровыя. Робіцца сумна, як паступова губляецца ў нас усё добрае, што мелі.

Я пакідаў дом Брадуліна, дом асаблівай цеплыні, асаблівага прызначэння, храм цяпла і духоўнасці для многіх і многіх людзей.

Барадулін, як звычайна, праводзіў мяне да ліфта, а я, як заўсёды, спусціўся па лесвіцы на вуліцу, унутр, на вуліцу, унутр, на вуліцу. Каб расцягнуць свае прыемныя ўражанні.

Накрапваў дробны дождж. Я ішоў дахаты, а ён застаўся там, творыць. Яму споўніцца 75 гадоў. І слава Богу... Жыццё працягваецца. У дзень яго нараджэння я падыму сярэбраную чарку са словамі: «Сябра мой і брат... Я ганаруся табой».

***Пераклад з рускай.***

**Серафім АНДРАЮК**

# СВАЯ ДЗЯЛЯНКА Ў ЖЫЦЦІ І Ў ЛІТАРАТУРЫ

У кожнага з нас свая жыццёвая дарога, свой жыццёвы лёс. І гэта нягледзячы на агульнасць этнічных вытокаў, прыродных умоў, нягледзячы на наяўнасць агульнага гістарычнага вопыту, аднаго і таго ж сацыяльна-бытавога асяроддзя. Больш таго, думаецца, што якраз гэтая чалавечая адрознасць аб'ядноўвае людскую супольнасць на самых розных узроўнях яе развіцця, гарманізуе яе, з'яўляецца ўнутранай крыніцай развіцця, руху наперад. Цікавыя не натоўп, не бясколерная людская маса, а асоба, яркая індывідуальнасць. У творчым асяроддзі гэта неяк асабліва відавочна і адчувальна. Тут кожны творчы лёс выяўляе і сцвярджае сваю непасрэдную залежнасць ад лёсу жыццёвага, абумоўленасць ім. І чым больш багатая біяграфія творцы на падзеі для яго важныя, а то і лёсатворныя, тым больш глыбокай, значнай будзе яго творчасць. Сведчанне таму — творчасць пісьменнікаў ваеннага пакалення, а таксама дзяцей вайны. Гэта ўжо сцверджана, стала фактам гісторыі нашай літаратуры: лёс жыццёвы вызначае лёс творчы. І не толькі ў плане падзейнай асновы, наяўнасці якіхсьці момантаў біяграфічных ці то рэальных прататыпаў асноўных персанажаў, але і ў духоўна-эмацыянальным напаўненні, прынцыпах і прыёмах мастацкага ўзнаўлення рэчаіснасці і аўтарскага самавыражэння. У гэтым выпадку для творцы, майстра слова галоўнае — быць шчырым, адкрытым, верным свайму таленту, сабе. У такім разе вернасць сабе — гэта вернасць жыццю, гістарычнаму вопыту ў іх індывідуальна-мастацкім увасабленні. І яшчэ момант істотны. У вернасці мастака, творцы сабе — крыніца арыгінальнасці, незалежнасці ў літаратурным працэсе, неабходнасці для чытача. Бо яго, чытача, можа прывабіць і зацікавіць толькі слова новае і шчырае.

Падумалася пра ўсё гэта пры больш шырокім і грунтоўным знаёмстве з творчасцю Міколы Кусянкова — вершамі, апавяданнямі, раманамі «Явар з калінаю», «Арляк і зязюля», «Хмель каля вольхі».

Падумалася напярэдадні пісьменнікавага 75-годдзя.

75 гадоў — дата вызначальная на жыццёвай дарозе кожнага. Звычайна да гэтых гадоў чалавек раскрывае, рэалізуе свае ўнутраныя магчымасці, творца — выяўляе духоўны патэнцыял. У многіх выпадках, калі не ў большасці, усё выяўленае, рэалізаванае ўжо атрымлівае праверку і ацэнку жыццём, часам.

На вялікі жаль, Кусянкоў не дажыў да гэтай вызначальнай даты: памёр у 2004 годзе. Зробленае ж ім у літаратуры і дзеля літаратуры (як рэдактарам) дазваляе гаварыць пра яго як пра асобу, якая рэалізавала сябе ў сваёй творчай сутнасці. Сёння на нацыянальнай ніве беларускай літаратуры ёсць свая дзялянка, сціплая, але адметная па-свойму і ў Міколы Кусянкова. Адметная рэальнай жыццёвай асновай, героямі, духоўным зместам, своеасаблівай эмацыянальнай напоўненасцю. І вось гэты свой мастацкі свет вельмі непасрэдна звязаны з жыццёвым лёсам пісьменніка — і падзейна, і духоўна-эмацыянальна. Бо Кусянкоў адносіцца якраз да тых аўтараў, хто спачатку свае творы пражывае і перажывае, чыя творчасць з'яўляецца выяўленнем не толькі ўнутранага свету, але і жыццёвых калізій, гісторый пройдзенага жыццёвага шляху, як бы яго своеасаблівым працягам. Праўда, не ўсяго жыццёвага шляху, не ў поўным яго аб'ёме, а толькі перыядаў надзвычай важных, вырашальных, тых, якія найбольш адбіліся ў свядомасці, асабліва глыбока засталіся ў памяці.

І яшчэ. Свет духоўны ў яго творах — не гучны, не публіцыстычна завострны і ваяўнічы, а стрыманы, спакойны, заглыблены — быццам непасрэдна перанесены з штодзённых жыццёвых паводзін іх аўтара. У сэнсе пэўных маральных прынцыпаў, этычных нормаў Кусянкоў які быў у жыцці, такі і ў літаратуры. У мяне ёсць падставы так сцвярджаць, бо была магчымасць бачыць яго зблізку, назіраць у працы, у паводзінах.

У 1985 годзе М. Кусянкоў прыйшоў у выдавецтва «Мастацкая літаратура», дзе я тады працаваў галоўным рэдактарам, на пасаду загадчыка рэдакцыі прозы. Па маёй прапанове і просьбе. Пазней займаў пасады намесніка галоўнага рэдактара, галоўнага рэдактара, загадчыка групы па выданні кніг «Памяці». Асабіста мне давялося працаваць з Міколам Сяргеевічам гадоў дванаццаць. Былі гэта гады не лёгкія для выдавецтва. Можа, асабліва для яго кіраўніцтва. Цяжкасцей было аж занадта — і фінансавых, і кадравых, узнікалі пытанні і непасрэдна рэдактарскага характару. І якраз у такіх умовах, у такіх сітуацыях, сітуацыях часам дзесьці крытычнага характару, раскрываецца чалавек, выяўляецца і правяраецца яго сутнасць. Як прафесіянал-рэдактар Кусянкоў быў выдатны. Добра ведаў гісторыю нацыянальнай літаратуры, упэўнена арыентаваўся ў тагачасным літаратурным працэсе, валодаў бездакорным літаратурна-мастацкім густам, адчуваў роднае слова.

У рэдакцыйна-выдавецкай кухні, часта мітуслівай, перапоўненай эмоцыямі, перагружанай творчымі амбіцыямі, знешнімі пазалітаратурнымі ўздзеяннямі, часта бывае вельмі цяжка вытрымліваць аб'ектыўнасць у ацэнках твораў і творчасці, у рэкамендацыях да выдання, у захаванні пэўнай чарговасці. Кусянкову гэта ўдавалася. Можа, як нікому іншаму ў выдавецтве. Можна было б падумаць часам, што тут ён занадта ўважлівы да розных ведамасных правілаў і рэкамендацый. Гэта, відаць, было не як асноўнае, вырашальнае. Галоўнае — прафесіяналізм і сумленнасць. У гэтым аснова аб'ектыўнасці. Пры яго схільнасці да адзіноты, нейкай як бы ўнурыстасці, ён быў зусім пазбаўлены эгацэнтрызму, хоць у малой ступені негатыўных адносін да чалавека. У адстойванні справядлівасці, праваты настойлівы, упарты, хоць і не рэзкі ў сваёй упартасці. Тактоўнасць, уважлівасць, памяркоўнасць — ва ўзаемаадносінах з аўтарамі і супрацоўнікамі. Мне не помніцца ніводнай, хоць бы нават нязначнай, канфліктнай сітуацыі, якая б узнікла па яго віне ці з-за яго якіхсьці неабгрунтаваных патрабаванняў, беспадстаўных прэтэнзій. Яго праца ў выдавецтве, паводзіны ў калектыве, узаемаадносіны з калегамі пакідалі адчуванне даверу, надзейнасці, прыстойнасці, сціпласці.

Творчасць Кусянкова як бы прэзентуе, на мастацкім узроўні сцвярджае гэтыя высокія духоўныя чалавечыя якасці. Паміж паводзінамі непасрэдна чалавечымі і мастакоўскімі, па сутнасці, няма разрыву. Ёсць пераход з жыцця ў творчасць. І ў плане падзей, гісторый, сітуацый, і, напэўна, у плане духоўна-эмацыянальным. Выток і пачатак — у жыцці, у жыццёвай біяграфіі пісьменніка. Па ўзросце Кусянкоў адносіцца да пакалення, чыё дзяцінства было апалена бязлітасным полымем вайны. У літаратуры гэтае пакаленне было названа філалагічным. Кусянкова-пісьменніка аднесці да пакалення філалагічнага праблематычна. Хоць і ён таксама атрымаў філалагічную адукацыю: у 1971 годзе скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы СП СССР, завочна скончыў у 1982 годзе факультэт журналістыкі БДУ. Ён, калі так дазволена будзе сказаць, прыйшоў у філалогію ад літаратуры. Тыя ж, каго адносяць да філалагічнага пакалення, наадварот ад філалогіі прыйшлі ў літаратуру. Яны выйшлі з філалогіі. Іх галоўны жыццёвы вопыт — гэта вопыт вайны. Гэта вопыт іх фізічнага, эмацыянальнага і духоўнага станаўлення. Далей — вучоба і творчасць. У Кусянкова ўсё неяк інакш. Скончыў ён сямігодку (1950) і паступіў у лясны тэхнікум. Пасля заканчэння тэхнікума (1953) каля трох гадоў працаваў памочнікам ляснічага і ляснічым у Калінінградскай вобласці, а пазней, у 1956—1969 гг., — тэхнікам і інжынерам-таксатарам на роднай Гомельшчыне ў лесаўпарадчай экспедыцыі. Неаднойчы выязджаў на палявыя работы ў Сібір.

А да гэтага было зусім не светлае і не радаснае дзяцінства. Бацька памёр рана. У 6 месяцаў у 1935 г. быў узяты на выхаванне бацькамі маці ў вёску Кругавец. Тут ён і вучыўся. Тут яго малая радзіма, тут прайшлі і гады ваеннага ліхалецця.

Значна пазней у сваёй аўтабіяграфіі, змешчанай у 2-й кнізе «Памяць. Добрушскі раён», Кусянкоў скажа: «Мы, дзеці ваеннай і пасляваеннай пары, — апошняе пакаленне, у вачах якога непасрэдна адлюстраваўся той суровы час». У творчасці тыя драматычныя падзеі былі ўвасоблены ў некалькіх апавяданнях, у асобных вершах. Што ж да працы лесаўпарадчыкам, якая захапіла амаль два дзесяцігоддзі жыццёвай біяграфіі пісьменніка, то яна сталася, па сутнасці, галоўнай крыніцай творчасці, абумовіла яе характар.

Лес — гэта жыццёвы матэрыял, канфлікты, героі, гісторыі, сітуацыі, асяроддзе, атмасфера, эмацыянальны лад, вобразнасць. Зборнікі паэзіі «Дуброва» (1990), «Чага» (1995), кніга апавяданняў «Завязь» (1987), раманы «Явар з калінаю» (1994), «Арляк і зязюля» (1998), «Хмель каля вольхі» (2000) — самі назвы выразна сведчаць, якой жыццёвай стыхіяй народжаны гэтыя кнігі і творы; стыхіяй лесу, яго атмасферай, паветрам, абставінамі, яго падрабязнасцямі напоўнены творы. Яшчэ адно сведчанне з аўтабіяграфіі: «…Тарфяны пах — гэта пах майго дзяцінства, і невыпадкова ў мой раман «Явар з калінаю» ён увайшоў у якасці істотнага мастацкага кампаненту, ды перабраўся ён і ў другі мой раман «Арляк і зязюля»!

Дзіцячае чыста непасрэдна-эмацыянальнае ўспрыманне лесу, аплодненае ў юнацкія і маладыя гады прафесійна-вучэбным яго пазнаннем, свядомым асэнсаваннем, з'явілася невычэрпнай крыніцай, багацейшай асновай спасціжэння часу і чалавека, выгрунтавала духоўныя крытэрыі дабрыні і прыгажосці. І калі ў паэзіі 60-х гадоў [кнігі «Жывіца» (1966) і «Без прывалу» (1969)] прырода, лес успрымаюцца пераважна ў светла-сонечных танах, іх малюнкі адцяняюць, падкрэсліваюць святочна-аптымістычнае адлюстраванне жыцця і часу, то ў паэзіі 90-х узнаўленне прыроды — гэта ўзнаўленне тагачаснага жыцця — складанага, драматычнага, балючага. Тут ужо роздум пра лёс роднага краю, пра драматычную сучаснасць. Прызнанні ў любві да бацькоўскай зямлі глыбокія, шчымлівыя, адкрытыя. Бо час, зробленае чалавекам не дазваляе гаварыць інакш.

Пазарасталі хаты з дварамі,
Век мы не зналі гэткіх пакут,
Бо загубілі, бо адабралі,
Абгарадзілі дротам наш кут.

Пазарасталі тыя магілы,
Дзе ўжо хітае вецер крыжы.
Кут наш палескі, краю наш мілы,
Як без цябе пражыць, адкажы.

Горкі матыў чарнобыльскай катастрофы, пранізвае паэзію гэтага часу. Гэтая бяда для паэта — яго асабістая, бяда родных мясцін. У «Баладзе пра мухамор» усё бачна ў канкрэтным вобразе лася, для якога родны лес становіцца чужы. Яда стала горкай, усяго ахоплівае нудота:

І тое ж зялёнае вецце з галін
Звісае над пысаю свежа.
Ды горкаю ўжо, як чарнобыль-палын,
Здаецца лісцвяная ежа.

Суквецця ружовага збоку шчыкне —
Прагорклы і цвет іван-чаю…

На чалавека «з-за колкіх дратоў» глядзіць мутнымі вачыма. Ды і чалавек сышоў адсюль.

Ніхто, як бывала, не косіць травы,
Ніхто ў буданах не начуе.

Час перабудовы, час крутых перамен і змен, з аднаго боку, выявілі адкрыта, выразна многія жыццёвыя з’явы ў іх рэальнай сутнасці, сапраўдным змесце, з другога — чалавеку надалі сапраўдную відушчасць, абвастрылі зрок і слых, сардэчную чуйнасць, самаацэнку. Паэт ужо не проста бачыць палескі «край асушаны — край распяты», не проста пратэстуе: «Калі ў гарэмы за мяжу, / Як у палон, вязуць дзяўчатак: / На глум — і цела і душу!», на пытанне: «Дзе праўда?» катэгарычна адказвае: «Усюды падман і блуд»… Ён задае пытанні ўжо і самому сабе:

А можа, мне ўшчуваць сябе самога,
Што на зямлі ўсё менш і менш святога?..

У заключных радках верша «Выціскаю з сябе раба» сцвярджае і пытае:

Але вельмі ж ва мне яго многа! —
Божа, скончыцца раб мой ці не?..

Усё благое, адмоўнае ў жыцці, у гісторыі народа не належыць некаму персанальна, не якойсьці групе людзей. Яно ўсіхняе, наша, наш боль і сорам. Яно перадаецца і будучыні. Пра гэта з болем, горыччу гаворыцца ў вершы «Мы».

Мы скажам:
Нам самім яно абрыдла,
Стагоддзе наша —
Смерцю ўсланы шлях;
Па ім на захад і на ўсход,
Як быдла,
Нас у Асвенцім гналі
І ў ГУЛАГ.

Патрэбны былі мужнасць, творчая адказнасць, сапраўдная любоў да народа, каб гаварыць так. Але і ў гэтыя пераломныя гады, гады адмаўлення многіх штучна-надуманых каштоўнасцей, гады пастаянных пераглядаў і пераацэнак Кусянкоў-паэт знаходзіць аснову жыццёвай устойлівасці, духоўнага ажыўлення ў прыродзе роднага краю. Дзесьці пакалечанай, здратаванай, але прыгожай, жыццядайнай, вечнай. Апісанні прыроды, лесу, Прыпяці ў вершах найбольш паэтычныя, светлыя, жыццесцвярджальныя. Прырода лучыць чалавека з сусветам, з гісторыяй, з мінулым і будучым. Тут М. Кусянкоў і паэтычны, і афарыстычны:

Лес — толькі ён сапраўднае бяссмерце.
Бяссмерце — лес. Бо чалавечы род
Бясконцы толькі разам з ім, зялёным…

Драматычная для прыроды Палесся паслячарнобыльская сітуацыя абвастрае паэтычную відушчасць і чуйнасць, арганічна лучыць паэзію жыцця з паэзіяй народнай творчасці, паэзіяй народа, краю.

Ах, як мінаюць вякі!
Гляну праз леты і зімы —
Скрозь васількі, васількі.
Вечная песня радзімы.

М. Кусянкоў, паэт і чалавек, доўгі час знаходзячыся ў вельмі цесных стасунках з прыродай, з лесам, у пазнейшыя гады, ужо калі перайшоў на літаратурна-рэдактарскую працу, як бы нанова пачаў перажываць свае адносіны да наваколь-

нага свету, таго свету, які жыў у ім з мінулых гадоў, адчуваць яго канкрэтна, рэальна, у колерах і танах.

Бачу ў лесе ружовую кветку,
Чую тонкі і ўкрадлівы рух —
Так шыпшына, нібыта ў разведку,
Пасылае свой водар на луг.
……………………………………..
Чую, пахне рамонак гаркавы —
Ажно горыч і мёд на губах.
Там багун, тут палын ля канавы,
І сыходзяцца — пах на пах!...

У гадзіны неспакою, жыццёвай турботнасці паэт шукае ў прыроды дапамогі, душэўнай заспакоенасці. Ды ідзе час, мяняецца свет і жыццё, і ён адчувае, як «збалелая ўжо, не густая» дуброва просіць у яго дапамогі, шэпча: «Памажы». Матыў дапамогі прыродзе, Палессю, лесу з’яўляецца ў паэзіі канца 80-х — першай паловы 90-х адным з галоўных. Можа, нават эмацыянальна вызначальным. У 90-я гады шырока пяройдзе ў творы празаічныя, асабліва ў апошні раман трылогіі «Хмель каля вольхі».

Трылогія М. Кусянкова (раманы «Явар з калінаю», «Арляк і зязюля», «Хмель каля вольхі») — твор выніковы. Выніковы ў тым сэнсе, што ў ім найбольш поўна і глыбока ўвасоблены жыццёвы вопыт пісьменніка і чалавека. Вопыт, набыты на працягу многіх (амаль дваццаці) гадоў у працы, да якой душа ляжыць, якую ты робіш адказна, з добрым веданнем. Але зноў жа вопыт не прафесійны, а вопыт душэўны. Вопыт узаемаадносін з навакольным светам, з іншымі людзьмі. Жыццёвы матэрыял, па сутнасці, ва ўсім яго аб’ёме ўзяты з жыцця, асабіста аўтарам уведаны, у большасці рэальна ім перажыты. Гэта матэрыял ягоны — і творча, і жыццёва-прафесійна. Персанажы, канфлікты, падзеі, гісторыі, сітуацыі, сацыяльна-бытавое і прыроднае асяроддзе — усё тут для пісьменніка сваё, асабістае. І вось такая асабістая ўведанасць пра што пішаш, перажытасць абумовіла праўдзівасць усяго па-мастацку ўзноўленага, пераствbooранага. Праўдзівасць не толькі ў апісанні ўсяго, звязанага з лесам, у апісанні жыцця лесу, у раскрыцці ўнутранага свету людзей, у перадачы агульнай атмасферы тых гадоў. Сваім жыццёвым матэрыялам трылогія не мае сабе падобнага ў нацыянальнай літаратуры. Лес тут не проста асяроддзе, тым больш не фон падзей. Гэта своеасаблівы свет, у якім адбываюцца падзеі, у якім жывуць людзі, у якім творыцца гісторыя. У апісанні, а хутчэй узнаўленні прыроды, лесу, пісьменнік дакладны, па-мастацку выразны. І гэта не толькі аўтарскія апісанні. Так бачаць і ўспрымаюць навакольны свет і галоўныя героі — той жа Гаркуша ці то жонка яго.

Згадвае яна сваё мінулае, асабліва сумны эпізод яго асенняй пары, дзе існуе поўная адпаведнасць паміж душэўным станам чалавека і прыродай. Выходзіць у лес яна. Заўважае, што ўсё ў лесе пад яе настрой: «Не пяюць птушкі, а на бярозах ужо і пасмы жоўтыя бачу, а гэта ў алешніку ручэй — як быццам той самы, але вясною ён так светла журчыць, а цяпер маркотна, глуха мармыча, і крапіва над ім цёмная, і паклычаная, можа, лось брыў, а дзе-нідзе яна і палегла. Толькі браткі за ручаём аж гараць паўз дарогу — яны і жоўценькія, і сінія, колер з колерам перамяшаўся, але такія вясёленькія, яны, можа, і цешаць камусьці вока, толькі не мне… Крушынавы куст… Як абсыпаны ягадамі, яшчэ толькі пачырванелымі, на брусніцы падобнымі, але пракідваюцца і спелыя, чорныя».

Праўда, разгорнутых маляўнічых апісанняў прыроды, лесу ў раманах не шмат. Бо героі іх не назіраюць збоку. Яны ў гэтай прыродзе жывуць, бачаць і адчуваюць пастаянна. Роля прыроды ў творы іншая. У адносінах да яе, у стасунках з ёю раскрываюцца людскія характары, выяўляецца іх сутнасць, больш ярка вылучаецца канфліктная аснова твора. І, самае галоўнае, жыццё прыроды,

жыццё лесу, паказанае шырока, ярка, глыбока, дзесьці падкрэслівае, сцвярджае (у супастаўленні з жыццём чалавека) адвечныя законы прыгажосці, натуральнай мэтазгоднасці і разумнасці.

Непасрэдныя сюжэтныя падзеі ахопліваюць дзесьці апошнюю трэць мінулага стагоддзя. Пачынаюцца летам 1971 года — гэта першы раман, другі і трэці — сярэдзіна 90-х. Час выключна няўстойлівы, зменлівы, супярэчлівы ва ўсіх адносінах. Сюжэтную падзейную аснову трылогіі складаюць сямейныя гісторыі. У гэтым сэнсе трылогія жанрава ўяўляе сабою своеасаблівую сямейную сагу, дзе паказаны асабістыя лёсы трох пакаленняў палешукоў. Лёсы неардынарныя, жыццёва і псіхалагічна няпростыя, у многіх выпадках непрадказальныя і невытлумачальныя. Пісьменнік гэтую складанасць, неадназначнасць і невытлумачальнасць паводзін і ўчынкаў персанажаў імкнецца вытлумачыць і аб’ектывізаваць своеасаблівым размеркаваннем апавядальных галасоў. Голас аўтара гучыць мала. Пра сябе, свае гісторыі, жыццёвыя перыпетыі, свае думкі, перажыванні расказваюць самі героі, тыя, хто найбольш у гэтым зацікаўлены, ці то іхнія апаненты. Тым самым дасягаецца большая аб’ектыўнасць узнаўлення, парушаецца аднастайнасць эмацыянальнага ладу, тону і рытму апавядання.

Узнаўляючы падзеі гісторыі, перажытыя і ўведаныя ў гады 60—70-я, М. Кусянкоў напоўніў іх і падзейна, і духоўна, і псіхалагічна жыццём, атмасферай 90-х. І як для мяне асабіста, дык вось гэтая здольнасць перадаць, узнавіць атмасферу перабудовы з яе пафасам адмаўлення, няпэўнасцю і нявызначанасцю маральных і сацыяльных крытэрыяў з’яўляецца, можа, найбольш істотнай якасцю раманаў. Прычым гэтая сацыяльна-бытавая няўстойлівасць узмацняецца ўзрушэннем больш шырокім і глабальным — катастрофай чарнобыльскай. Гэтая ўзрушанасць часу, пераацэнка каштоўнасцей, дух адмаўлення, неакрэсленасць станоўчых памкненняў часу ў найбольшай ступені ўвасоблены ў вобразе Гаркушы. Вобраз гэты найбольш глыбокі, арыгінальны і… неадназначны. Менавіта ў ім грунтоўна ўвасоблены час, атмасфера пераломных гадоў нашага жыцця. Ён нясе ў сабе канфлікт паміж часам змен, духоўных узрушэнняў і прыроднай устойлівасцю, якую ўвасабляе палескі край, палескія лясы. Для самога ж пісьменніка якраз гэта было самым важным — і ў жыцці, і ў творчасці. Пра гэта ён пісаў.

Не прымаю пушчы пасівелай
Ад густой чарнобыльскай імжы…
Русь, якую называюць Белай,
Сінь нябёс і Прыпяць зберажы.

Хай вірыць яна ў глыбі ўскіпелай,
А над ёй хай птушкі гнёзды ўюць.
Русь, якую называюць Белай,
Я памру, а ты заўсёды будзь.

**Сяргей НІКІЦЕНКА**

# «ПРЫВІТАННЕ, МІХАІЛ ЦІХАНАВІЧ!»

***З «народных» лістоў да Міхася Лынькова***

**Трыццатага** лістапада мінулага года споўнілася сто дзесяць гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага празаіка, дзіцячага пісьменніка, крытыка, літаратуразнаўцы і грамадскага дзеяча Міхася Лынькова.

Міхаіл Ціханавіч нарадзіўся ў вёсцы Зазыбы Лёзненскага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і чыгуначніка. Яго дзіцячыя гады прайшлі ў казарме на перагоне між станцыямі Тошчыцы і Рагачоў. Закончыў двухкласную школу пры Рагачоўскай настаўніцкай семінарыі, а потым, у 1917 годзе, і саму семінарыю. Настаўнічаў у Ліпініцкай земскай школе (цяпер Буда-Кашалёўскі раён Гомельскай вобласці). З-за нястачы будучы народны пісьменнік мусіў працаваць на чыгунцы, нафтаскладзе, на выгрузцы дроў, займацца прыватнымі ўрокамі.

Матэрыяльныя цяжкасці не перашкаджалі М. Лынькову весці актыўную грамадскую дзейнасць. Падчас настаўніцтва ў Ліпініцкай школе ён прымаў актыўны ўдзел у працы сельсавета, камітэта ўзаемадапамогі, у арганізацыі ў вёсцы першага кааператыва.

У 1918 годзе падчас час нямецкай акупацыі Міхаіл Ціханавіч быў адным з арганізатараў ліпініцкага партызанскага атрада. У 1919—1922 гадах служыў у Чырвонай Арміі, прымаў удзел у савецка-польскай вайне.

Пасля дэмабілізацыі настаўнічаў у мястэчку Свержань Рагачоўскага раёна. У 1925—1928 гадах ён займае пасаду адказнага сакратара і намесніка рэдактара бабруйскай акруговай газеты «Камуніст», якую ўзначаліў у 1928—1930 гг. Быў арганізатарам і кіраўніком Бабруйскай філіі «Маладняка».

У 1930 годзе М. Лынькоў пераехаў у Мінск, дзе да 1932 года працаваў у Дзяржаўным выдавецтве БССР і паралельна кіраваў літаратурным аб'яднаннем БелААП. У 1932—1934 гадах быў сакратаром аргкамітэта Саюза пісьменнікаў Беларусі. У 1934—1941 гадах Міхась Лынькоў — галоўны рэдактар часопіса «Полымя рэвалюцыі». З 1938 па 1948 год ён узначальваў праўленне Саюза пісьменнікаў БССР. У 1939 годзе пісьменнік прыняў удзел у паходзе Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь у якасці рэдактара газеты «Беларуская звязда» (орган паліткіравання Беларускага фронту).

Міхаіл Ціханавіч праявіў пісьменніцкі талент і ў час Вялікай Айчыннай вайны. У 1941—1942 гадах ён рэдагаваў франтавую газету «За Савецкую Беларусь», якая выходзіла на Заходнім, Цэнтральным і Бранскім франтах. У 1943—1946 і 1949—1952 гадах пісьменнік займаў пасаду дырэктара Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва Акадэміі навук БССР.

Міхаіл Ціханавіч Лынькоў абіраўся кандыдатам у сябры Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР (1921—1931); дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР (1940—1945); неаднаразова ўдзельнічаў у рабоце сесій Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый як сябра дэлегацыі БССР; быў акадэмікам Акадэміі навук БССР і сябрам Саюза пісьменнікаў СССР.

Цікавым і насычаным было жыццё Міхася Лынькова. Але яго галоўнай справай заставалася літаратурная дзейнасць. Мяркую, што няма сэнсу ў чарговы раз пералічваць творы літаратара, многія з якіх сталі класікай беларускай літаратуры. Талент пісьменніка можна лічыць закапаным у зямлю, калі яго жыццё і творчасць не знаходзяць водгуку ў сэрцах чытачоў. І наадварот, надзелены тысячамі званняў і рэгалій, аўтар можа быць не прыняты і не зразумелы чытачом — сваім галоўным крытыкам. Гэтую акалічнасць неабходна ўлічваць, аналізуючы творчую спадчыну пісьменніка.

Пры вывучэнні творчасці Міхася Лынькова варта звяртацца не толькі да перапіскі з вядомымі культурнымі і грамадскімі дзеячамі, якая часцей за ўсё прыцягвае ўвагу даследчыкаў. Меркаваць пра тое, наколькі асоба і творчасць пісьменніка адпавядалі запатрабаванням свайго часу, нам дазваляюць лісты ад родных, знаёмых і чытачоў, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Акрамя таго, даследаванне гэтай часткі архіўнай спадчыны Міхаіла Ціханавіча дае важныя звесткі аб фарміраванні светапогляду і творчага падыходу самога пісьменніка.

Пры чытанні гэтых пасланняў уражваюць адносіны іх аўтараў да савецкай штодзённасці. Тое, над чым мы сёння прывыклі іранізаваць, сучаснікам пісьменніка здаецца натуральным і непахісным. Падзеі, значэнне якіх у наш час могуць адэкватна ўспрымаць толькі іх сведкі, удзельнікі і гісторыкі, складалі жыццё карэспандэнтаў Міхася Лынькова.

Сёння многія дазваляюць сабе разважаць над тым, што магло б чакаць Беларусь у выпадку перамогі фашысцкай Германіі. А ў 1945 годзе Міхаілу Ціханавічу пісалі: *«Гарачы прывет, Міхаіл Ціханавіч! Віншую з Перамогай над праклятым ворагам, Міхаіл Ціханавіч! Жадаю Вам шчасця і доўгай дзейнасці на карысць Радзімы»* (Ліст ад Н. К. Логівінай, 1945)[1].

Савецкі лад знаёмымі пісьменніка ўспрымаецца як галоўная ўмова існавання народа, як заваёва, якую неабходна аберагаць. [Я. Е.] Караткевіч у 1968 годзе пісаў: *«Як бурна прайшоў наш 1917 год, колькі папрацавалі мы ў галодныя і халодныя гады, як арганізавалі барацьбу за ўмацаванне савецкай улады, за граматнасць і культуру нашага народа»*[2]. Савецкія памятныя даты ўспрымаюцца як асабістыя святы, становяцца падставай для пажаданняў здароў'я, шчасця: *«Прывітанне, Міхаіл Ціханавіч. Віншую вас і вашу сям'ю са святам 46-й гадавіны Кастрычніка. Жадаем вам асабіста і вашай сям'і добрага здароўя і доўгіх гадоў жыцця»*[3] (Ліст ад П. І. Леванкова, 1963 год).

Атаясамленне сваёй асобы з лёсам Камуністычнай партыі, цвёрдая вера ў хуткую перамогу камунізму часта былі вызначальнымі фактарамі ў фарміраванні светапогляду знаёмых і чытачоў М. Лынькова. *«Працуйце смела і бадзёра, бо шчасце і спакой нашага савецкага народа ахоўваюць доблесныя ўзброеныя сілы СССР. Ваенныя маракі настойліва авалодваюць баявым майстэрствам, каб у любую хвіліну даць знішчальны адпор зарваўшымся імперыялістам, якія марацьзняволіць наш шчаслівы народ»*[4] (Ліст ад Н. Катлінскага, 12.01.1954).

Можа падацца незразумелым, якія адносіны да жыцця і творчасці Міхася Лынькова маюць думкі, разважанні і светапогляды людзей, якія яму пісалі. Паспрабую растлумачыць. Чалавек, як вядома, — істота сацыяльная. Таму ўсе бакі жыцця савецкага чалавека мусілі залежаць ад людзей, якія яго акружалі. І Міхась Лынькоў не быў выключэннем. Тое, што самыя розныя людзі пісалі яму аб сваіх адносінах да палітычных і сацыяльных працэсаў, якія адбываліся ў краіне, сведчыць пра тое, што ў яго творах чытачы знаходзілі адлюстраванне рэчаіснасці.

Дарэчы, яны самі пра гэта пісалі: *«[...] учора бычыў кінакарціну «Міколка-паравоз» [...]. Паверце мне, я з такой радасцю глядзеў гэтую карціну, што праседзеў 2 сеансы запар на месцы. Цудоўная карціна. Яна мне напамінае і сваё юнацтва ў тыя гады бо калі я пайшоў ў Чырвоную Гвардыю, мне было 15 год я ж таксама бачыў немцаў ў 18 годзе...»*[5] (з ліста М. П. Рака, 09.07.1957).

Значэнне твораў Міхася Лынькова заключаецца ў тым, што яны адпавядалі светапогляду чытачоў, на якіх былі разлічаны. Гэта дазваляе разглядаць іх не толькі як крыніцы па гісторыі айчыннай літаратуры, але і шукаць у іх звесткі па гісторыі штодзённасці і развіцця сацыяльнай думкі беларусаў. Таму асоба і творчасць Міхася Лынькова не страчваюць актуальнасці і ў наш час.

***Пераклаў з рускай мовы***
***і публікацыю падрыхтаваў***
***С. Нікіценка.***

**№ 1**
Ліст ад Пелагеі Цімафееўны Шалабадавай (сястры М. Лынькова)

*Прывітанне, дарагі братка Міша!*

*Паведамляю табе, што ліст я твой атрымала, за які вельмі ўдзячна. Я думала, што ніколі ўжо не буду атрымліваць лісты ні ад каго, калі занялі нас немцы, але вялікае дзякуй нашай Чырвонай Арміі, што прагнала ворага, і я маю магчымасць перапісвацца са сваімі роднымі братамі і сястрой. Сардэчна спачуваю табе з прычыны страты тваёй сям'і. Многа сямей загубілі гады ў Рагачове ў 41-м годзе восенню. Я не магла без страху слухаць аб здзеках. Маё сэрца чула страту тваёй сям'і […].*

*Дарагі братка, страціла я сваіх сыноў Грышу і Мішу. Грыша пераждаў шмат страху пры немцах. Вельмі баяліся, каб не забралі яго ў Германію. Ганялі на работы, пакаштаваў і палак. Потым пачала моладзь хавацца па лясах. Грыша пайшоў у партызанскі атрад і загінуў ад цяжкага ранення. Ён пахаваны ў Бялыніцкім раёне Магілёўскай вобласці. Не магу забыць яго.*

*Міша памёр у кастрычніку 43 года ад дыфтэрыі за тры дні. Як не было зусім хлопчыка.*

*Зараз у мяне маленькі сынок Вася. 18 чэрвеня будзе два гады. Пачаў было хадзіць, але зараз зусім не можа. Мабыць, слабыя ногі ад дрэннага харчавання. Вера таксама кінула мне сына Мішу, а сама пайшла вучыцца. Яна выйшла замуж у суседнюю вёску Сялец. Вёску гэтую потым спалілі немцы з людзьмі. Вера са свякроўю выратаваліся ў нас, а так усё згарэла. Яе муж быў у партызанах, потым на фронце. Таксама загінуў. Мікіта зараз у Чырвонай Арміі. Быў угнаны немцамі на работу, але ў канцы чэрвеня ўцёк ад немца. Гаспадарка мая цяпер вельмі вялікая: кошка ды адна кура. Хата засталася цэлай. Двароў 15 спалілі немцы і ў Станькаве, калі адступалі. […]*

*Дасылаем усе вітанне табе. З прывітаннем, твая сястра Поля.*

*25.03.1943*

БДАМЛМ, Ф. 191, Воп. 1, Спр. 476, Л. 1

**№ 2**
Ліст ад [Н. П.] Баранава

*03.03.1952*

*Прывітанне, Міхаіл Ціханавіч!*

*Ваш перавод атрымаў 25.02.1952. Але з адказам затрымаўся. Вельмі ўдзячны за Вашу ўвагу. Болей Вас не буду турбаваць сваімі лістамі. У Вас і так шмат працы. Мне Вы болей не пішыце — ня варта Вам траціць увагу на пустую перапіску. Калі-небудзь, калі ў мяне зменяцца мае асабістыя справы, дам Вам ведаць.*

*Усё ніяк не збяруся пачаць пісаць. (Відаць, таму, што таленту няма!)*

*Выключна трапна і дакладна сказаў Вялікі чалавек К. Маркс: «Усякае пачынанне складанае…»*

*Не кожны чалавек пачне для сябе нешта новае. Вельмі шмат трэба задаткаў для гэтага.*

*Шмат займаюся вывучэннем твораў У. І. Леніна і І. В. Сталіна. Многа таксама займаюся чытаннем мастацкай літаратуры. Думак у галаве многа, а перанесці гэта на паперу не кожны зможа. Аб гэтым смуткую.*

*Па партзаданні, кірую гуртком па вывучэнні гісторыі партыі. […]*

*Да пабачэння!*

*З найлепшымі пажаданнямі (подпіс).*

БДАМЛМ Ф 191, Воп. 1, Спр. 477, Л. 17

**№ 3**
Ліст ад [Н. П.] Баранава

*15.04.1956*

*Міхаіл Ціханавіч!*

*Прабачце, што я патурбаваў і нават засмуціў Вас сваёй паштоўкай, бо я лічыў, што не даслаў яе. […] Я быў у благім настроі, зайшоў на пошту і сеў пісаць лісты. Я хацеў напісаць Вам коратка, але ў мяне не атрымалася і [я] кінуў пісаць, вырашыў не пісаць Вам лістоў да першага мая: «Навошта — думаю — яго турбаваць». Напісаў*

*сваім родным два — тры лісты [і] пайшоў з пошты. А гэтую паштоўку згубіў ці пакінуў на стале. Лічыце, што яе няма і кіньце ў печ.*

*Жыву я, як кажуць «на халастым ходзе». Без працы, як і большасць звольненых афіцэраў. Калі б жыў дзе-небудзь у РСФСР, Беларусі, Украіне, я б даўно працаваў пастаянна. Тут умовы іншыя. Кватэрамі мяняцца ніхто не хоча з іншых гарадоў. Кватэра вялікая, у цэнтры горада, але жыць тут нікому з сям'і не хочацца. Тут вучыцца ў інстытуце малодшая дачка не хоча (яна заканчвае [школу] у гэтым годзе). Старэйшая заканчвае Ленінградскі інжынерна-будаўнічы інстытут і, напэўна, [яе] накіруюць на Усход. Мы жывём з жонкай не мірна, а пасля раз'езда дзяцей наогул будзе немагчыма. Вось такая сітуацыя. Калі б маглі пасадзейнічаць пераезду ў Віцебск (або ў Мінск), [то] гэта было б выдатна. […]*

*Са студзеня 1955 г. я пачаў пісаць карціну «Чкалаў просіць дазволу ў І. В. Сталіна аб пералёце праз Паўночны Полюс». Але зараз кінуў. Моцна засмуціўся пасля даклада аб «кульце асобы і яго выніках». […] Зрэшты я і палове не веру ў абвінавачаннях І. В. Сталіна. Але ўсё роўна непрыемна.*

*Вось пакуль усё. […]*

БДАМЛМ Ф 191, Воп. 1, Спр. 477, Л. 38

**№ 4**

Ліст ад Н. Г. Алейнікавай

*5/VIII-56г.*

*Паважаны таварыш Лынькоў! Вы, мабыць, ужо забылі пра прыхільніцу Вашай цудоўнай кнігі «Незабыўныя дні»? А я не забыла гэту кнігу і ўсё чакаю яе працяг. Вы мне абяцалі яе скончыць у пачатку гэтага года, але вось ужо прыйшоў жнівень, а кнігі няма. Няўжо Вы адклалі яе заканчэнне і мне прыйдзецца яшчэ доўга чакаць? Калі Вам не будзе цяжка, вельмі прашу Вас напісаць мне, калі Вы збіраецеся яе скончыць, і ці можна будзе набыць яе ў Магілёве як мага хутчэй або адкуль мне яе выпісаць, каб хутчэй прачытаць. Прабачце за тое, што турбую Вас, але я думаю, Вы зразумееце маё жаданне дачакацца заканчэння кнігі, якая так моцна ўразіла мяне. Жадаю Вам усяго, усяго добрага, а галоўнае — пасляховага заканчэння маёй любімай кнігі.*

*Шчыра паважаючая Вас (подпіс)*

БДАМЛМ Ф. 191, Оп. 1, Д. 483, Л. 1

**№ 5**

Ліст ад М. П. Рака

*31/I 62г.*

*Дарагі наш сябар, Міхаіл Ціханавіч!*

*Атрымаў Ваш ліст, сардэчна дзякую, проста шкада, што Вы турбаваліся. Вы такі нездаровы. Ну вельмі хочацца, каб Вы былі заўсёды здаровы і жылі яшчэ доўга-доўга. Трэба ж дажыць да камунізму. Я гляджу, не так ужо і многа засталося наперадзе. А якое ж жыццё будзе. Каб быў мастаком, [то можна было б] маляваць яго на палатне, а пакуль даводзіцца распавядаць рабочым — сваім слухачам на бяседах, як цяжка было ў гады Грамадзянскай вайны, бо я пайшоў 5/II 1919 у Чырвоную Гвардыю і, канешне, успамінаю часам вельмі многа цікавага. Потым гады разрухі, нэп, нашыя пяцігодкі і раптам абрыў — вайна, зноў мабілізацыя ўсіх нерваў, усяго мозга, [усяго] нутра і выстаяць, мала таго — выстаяць і перамагчы. […] Не аслаб вораг, у моцы яшчэ бяздушша […], чэрствасць, эгаізм, але яно ўсё пройдзе, і я ў гэта веру.*

*Мы ж вось унізе, у гушчы масы бачым шмат цяжкага, сутыкаемся з гэтым злом на кожным кроку. Але што зробіш. […]*

*Я то працую вельмі многа, стамляюся, канешне, квартальны план 1962 г. ужо выканаў за месяц, але вельмі стаміўся: гады, здароўе кепскае, а энергіі шмат. Галоўнае жаданне — зрабіць яшчэ больш.*

*А Вам патрэбен вялікі адпачынак. І хочацца, каб Вы сваёй працай яшчэ ўзбагацілі наш народ.*

*Прыміце наша сяброўскае, братэрскае вітанне Вам і Соф'і Захараўне, сям'і ад мяне і жонкі.*

*Крэпка паціскаю руку.*

*З глыбокай павагай (подпіс)*

БДАМЛМ, Ф. 191, Воп. 1, Спр. 481, Л. 39

**№ 6**

Ліст ад [Я. Е.] Караткевіча

*Прывітанне, Дарагі Міхась!*

*А ўсё ж не зусім прыемна сядзець каля тэлевізара і глядзець-слухаць выступленні тых, хто толькі крыху дакрануўся да бурлівых падзей нашага юнацтва і не зусім удала распавядае аб тым, што як эстафета пакаленняў мае быць яркім, маляўнічым, ад усёй душы перададзеным жывым бадзёрым словам, хоць і сямідзесяцігадовага чалавека, але такога, які застаўся камсамольцам дваццатых гадоў.*

*Так я адчуваў сябе 27 снежня, калі вечарам перадавалі «Аганёк» з Мінска. Як бурна прайшоў наш 1917 год, колькі папрацавалі мы ў галодныя і халодныя гады, як арганізавалі барацьбу за ўмацаванне савецкай улады, за граматнасць і культуру нашага народа.*

*Не так многа засталося нас, жывых сведкаў (дзеля сціпласці не кажу, што ўдзельнікаў, ды падчас і актыўных), якім ёсць аб чым сказаць, ёсць што перадаць, нават дзеля навучання нашчадкаў.*

*Я і думаю, што «ўперадглядзячыя» што-небудзь арганізуюць. На Украіне, напрыклад, усім «доўгажыхарам» няма спакою. У самыя аддаленыя, глухія вуглы іх запрашаюць, выкарыстоўваюць поўнасцю. А гэта ж так неабходна зараз, калі наш брат сыходзіць у бестэрміновы адпачынак.*

*Пачні, дарагі, ці падкажы таму, ад каго залежыць пачаць, а падтрымка, я думаю, будзе актыўная.*

*Напішы сваё меркаванне па гэтым пытанні.*

*Будзь здароў. Вітанне сям'і.*

*Твой (подпіс)*

*30.12.1968*

БДАМЛМ Ф. 191, Оп. 1, Д. 480, Л. 5

**№ 7**

Віншавальная ад [Я. Е.] Караткевіча

*Прывітанне, дарагі Міхась! Прымі наша віншаванне с Першым Мая, з Днём Перамогі, з дваццаціпяцігоддзем разгрому фашызму Германіі. Слова «Перамога» пішу з вялікай літары не таму, што на восьмым дзесятку стаў бязграматным, а таму, што гэта сапраўды Перамога, годная пакланення ўсяго чалавецтва перад гераізмам Савецкага салдата — Чалавека таксама з найвялікшай літары.[...]*

*Цалую моцна. (Подпіс)*

*[1970]*

БДАМЛМ Ф. 191, Оп. 1, Д. 480, Л. 7

---

[1] БДАМЛМ Ф. 191, Воп. 1, Спр. 480, Л. 24

[2] БДАМЛМ Ф. 191, Воп. 1, Спр. 480, Л. 5

[3] БДАМЛМ Ф. 191, Воп. 1, Спр. 480, Л. 16

[4] БДАМЛМ Ф. 191, Воп. 1, Спр. 483, Л. 28

[5] БДАМЛМ Ф. 191, Воп. 1, Спр. 481, Л. 34

**Павел ШПІЛЕЎСКІ**

# «МАЗЫРШЧЫНА»

*Ад горада Мазыра з набярэжнай ракі Прыпяці. — Легенда аб двух братах, першых заснавальніках Мазыра. — Жаночы Кляштар цыстэрыянак. — Святая гара. — Смяротная даліна. — Чортава гара. — Летапісныя паданні аб Мазыры з XII стагоддзя да цяперашняга часу. — Мангольскія і татарскія спусташальнікі. — Умацаванне горада пры Сігізмундзе III. — Сляды гарадскіх умацаванняў. — Гара Сторож і хутар Лупія. — Казацкі правадыр Міхне. — Прывілеі Мазыра і яго старостава. — Мазыр у цяперашні час. — Спаскі кірмаш. — Кірмашовы гандаль. — Адукаванае мазырскае грамадства. — Г. Франкоўскі і паэт Неслухоўскі. — Дваранскае вучылішча. — Кірунак мазырскіх мяшчан. — Іх гарнітуры і цяга гараджанак да ўбораў. — Чарвец — мясцовая фарба. — Часовы тэатр і рэсурсы. — Крамы і гандлёвыя кропкі. — Жалезная руда. — Рускія і габрэйскія гандляры. — Піліпоны. — Гарадскія будынкі і сады. — Старажытная цясніна. — Цэрквы і касцёлы. — Спаская і Замкавая гара. — Сляды старажытнага замка. — Замкавая вуліца. — Старажытныя літоўскія шалі. — Мазырскія граматы ў гарадскім магістраце. — Скрыгалаў: яго гарадзішча або гарадок; курганы і насыпы. — Каменны замак Барбараў са старадаўнімі вежамі.*

Я пад'язджаў да Мазыра з рэчыцкага гасцінца і павінен быў перапраўляцца праз суднаходную, звілістую раку Прыпяць, якая доўгім, шырокім вэлюмам расцілаецца ля самага падножжа арыгінальна пабудаванага горада. У чаканні парома я любаваўся на Мазыр з прыстані, ля якой злёгку калыхаліся розныя судны с аснасткай, вядомыя пад імем *берлінак*[1], у тым ліку невялікі прыгожы параход са сцягам: з'ява рэдкая ў аддаленым глухім павеце Расіі.

Быў позні летні вечар… У хуткіх хвалістых водах Прыпяці адлюстроўваліся незлічоныя агні хат і будынкаў, раскінутых на палогіх берагах высокіх гор, з-за вяршыняў якіх віднеліся блішчастыя купалы і жалезныя крыжы цэркваў, — а там — абрывістая даліна, ізноў горы, ізноў будынкі, ізноў хаткі, ізноў агеньчыкі. І так увесь горад, як бы сыходзячы ад імклівых прыліваў хуткай ракі, разпоўзся то ў далінах між уцёсамі, то на кручах і хрыбтах некалькіх пагоркаў. А гэтыя кручы, гэтыя хрыбты пагоркаў усе да аднаго аблямаваны то густымі хмызнякамі дзікіх дрэўцаў, то хараша ўладкаванымі садамі з паўнаважкімі грушамі і слівамі, якімі славіцца Мазыр на ўсю губерню. Адразу відаць, што гэта не поўнач. І чыстае паветра, і раскошная расліннасць, і вясёлыя песні гаманкіх перавознікаў мімаволі прымушалі забыцца на халодны, паважны Пецярбург: цэлая тысяча вёрст аддзяляла яго ад маляўнічага, фантастычнага Мазыра.

Праз паўгадзіны я ўжо ўзбіраўся на бясконцыя кручы і потым з мазырскіх гор яшчэ раз зірнуў на пакінутую ўнізе Прыпяць: які добры і прыгожы горад!

Не шмат такіх куткоў. Нядзіўна, што Мазыр апяваецца ў народных песнях і ў вершах мясцовых паэтаў. У гэтых песнях, складзеных у даўнія, глыбокія часы, згадваецца пра фантастычныя прыгоды волатаў дагістарычнай эпохі, да якой адносяць першапачатковую пабудову Мазыра. Мазыр, як і вялікая частка старажытных заходнерускіх гарадоў, мае сваю дагістарычную легенду, якая, можа быць, упрыгожана выдумкай, але абапіраецца на помнікі даўніны, якія захаваліся да цяперашняга часу. Паданне прыпісвае пачатак пабудовы Мазыра двум братам, выхадцам з Кіева, якія пасяліліся на вышынях стромкіх берагоў Прыпяці з мэтай зарабляць рыбным тлушчам. Браты нядоўга жылі ў згодзе між сабой.

Старэйшы быў страшны вырадак і зненавідзеў малодшага, статнага прыгажуна, за перавагу, аказанаю яму маладой суседкай, а, галоўнае, за хуткае ўзбагачэнне: малодшаму шанцавала ў гандлі, і ён быў багацейшы за старэйшага. Каб пазбавіцца ад зайздрослівага брата, малодшы брат жадаў расстацца са старэйшым і пасяліцца далей ад яго. Гэта яшчэ больш раздражніла злога брата і калі сапраўды малодшы абвясціў аб сваім намеры, старэйшы не жадаў выдаць яму належнай паловы тавара (тлушчу) і загадаў сваім работнікам выкінуць яго прэч. Малодшы брат сабраў дружыну і абвясціў вайну старэйшаму. Заспеты знянацку, старэйшы брат звярнуўся па дапамогу да вядзьмаркі, якая жыла побач на высокай востраканечнай гары, і чараўніца з'явілася да яго на дапамогу з незлічоным войскам падуладных ёй духаў. Бой завязаўся няроўны, і малодшы брат павінен быў загінуць. Але прыгажосць выратавала яго: падчас бою чараўніца настолькі была здзіўленая дзівосным абліччам малодшага героя, што загадала спыніць бітву і прапанаваць яму мір. Але старэйшы брат не пагадзіўся і патрабаваў вайны: «Мой жыр!» — крычаў ён, — я не саступлю яму ні адной меркі!» З гэтымі словамі ён накіраваўся на полчышчы духаў. Абражаная чараўніца ўзмахнула чарадзейным мячом, і гара распалася на дзве часткі. У прорве, якая ўтварылася, загінуў старэйшы брат, не перастаючы крычаць: «Мой жыр!» «Не, мой жыр! — выгукнуў малодшы, стоячы на абрыве падзеленай гары, — табе не ўдалося пакрыўдзіць мяне». Пасля гэтага чараўніца прапанавала малодшаму брату перанесці сваю хату на яе гару, але ён адмовіўся і, ашуканая ў сваіх надзеях, вядзьмарка, на бяду яму, сама пасялілася на другой палове рассечанай гары і доўга не пераставала мучыць яго сваімі чарамі і насланнямі. Нарэшце малодшы брат, па радзе жонкі, паставіў крыж на сваёй гары, і чараўніца не адважылася дакрануцца да святога месца. Адгэтуль назва Святая гара. У цяперашні час там знаходзіцца цудоўны жаночы кляштар цыстэрыянак, з царквой у імя святога Міхаіла. Кляштар гэты пабудаваны з каменя і цэглы, красуецца ў цяністай даліне, над рэчкай Цыстэркаю, паміж гарамі, зарослымі старадаўнім лесам. Агароджа таксама каменная з высокімі варотамі, упрыгожанымі螺 рознымі статуямі каралёў, фундатараў і ахвярадаўцаў. Упрыгожванні кляштара належаць кіеўскаму падчашаму Сігізімунду Шукшту і княгіні Камароўскай, якія жылі ў самім канцы XVII стагоддзя. У 1713 годзе кароль Аўгуст II яшчэ больш упрыгожыў кляштар дарагімі абразамі, а ў 1742 годзе Аўгуст III падарыў яму значны маёнтак і некалькі надзелаў зямлі, на якіх цяпер разведзены велізарныя фруктовыя сады.

Тут жа па суседстве, з оўручскага гасцінца, бачна высокая востраканечная гара. На самой верхавіне гэтай змрочнай і адасобленай гары разрасліся неабсяжнай таўшчыні і надзвычайнай вышыні вечназялёныя хвоі, якія надаюць гары нейкі маркотны, тужлівы выгляд і мімаволі падтрымліваюць у народзе паданне, што ў ёй жыве чараўніца, якая загубіла старэйшага брата. Яна, зрэшты, і завецца Чортавай гарою. Месцам пагібелі старэйшага брата просты люд называе глухі, цёмны зараснік у непраходным гушчары, які выгінаецца між густымі лясамі кляштара цыстэрыянак і Кімбароўкай або Смяротнай далінай[2].

Як бачыце, народ вельмі ўдала звязаў паданні аб братах з назвамі апісаных мясцовасцей. У гэтых мясцовасцях, змешчаных у чатырох вярстах ад цяперашняга Мазыра, народнае паданне шукае пачаткі назвы самога горада, якое паходзіць ад слоў: Мой жыр, — Мажыр, Мазыр; здагадкі свае засноўвае на сугуччы з назвай блізкага прытока, што ўпадае ў Прыпяць: — Манжыр'е. Па народным паданні, пакінуты на Святой гары брат хутка зрабіўся багатым уладальнікам навакольных земляў і потым перанёс сваю рэзідэнцыю на тое месца, дзе зараз раскінуты горад Мазыр.

Такія вусныя дагістарычныя паданні аб Мазыры, не падмацаваныя вызначанай храналогіяй, без сумневу, узыходзяць да XI стагоддзя. Гістарычная летапісная эпоха гэтага горада пачынаецца з XII стагоддзя. На падставе летапісаў Мазыр варта лічыць адным са старажытных славяна-рускіх паселішчаў. Як здабытак

рускіх князёў, Мазыр спачатку лічыўся горадам Тураўскага княства і нават князі тураўскія, роўна як і біскупы, зваліся доўгі час тураўскімі і мазырскімі. Потым, з падзеннем Тураўскага княства, Мазыр разам з Туравам і наогул з усёй цяперашняй Мінскай губерняю, падпаў пад уладу мацнейшага Кіеўскага княства. У 1158 годзе кіеўскі князь Ізяслаў Давыдавіч саступіў Мазыр разам з некалькімі іншымі гарадамі чарнігаўскаму князю Святаславу Ольгавічу[3]. Так пераходзіў Мазыр ад аднаго княства да другога на працягу ўсіх смут паміж рускімі князямі, пакуль, нарэшце, разам са шматлікімі ўдзельнымі рускімі валадарствамі, не падпаў пад уладу Літвы, якая забрала ў свае рукі ўвесь заходнерускі край. У 1174 годзе вялікі князь літоўскі Скірмунт, «з звитяжством вяликим пошел на русскую землю и взял город Мозырь, Чернигов и другие»[4]. У XIII стагоддзі, падчас мангольскай няволі на Русі, Мазыр не раз зведаў напады гэтых нялюдскіх уладароў, якія наводзілі жах на ўсю Літву і ўвесь заходнерускі край сваімі рабаваннямі і спусташэннямі. У 1227 годзе арда татараў спаліла паўгорада і ўсе прылеглыя да Мазыра ваваколлі ўздоўж рэчкі Акунёўкі, а ў 1241 войскі Батыя канчаткова разрабавалі і разбурылі ўвесь Мазыр[5].

Не паспелі адбудаваць горад, як тая жа ненасытная мангольская арда ўварвалася праз Валынь у Мазыр і зноў не пакінула ў ім каменя на камені. Мінула дзесяць гадоў, Мазыр акрыяў ад спусташэння, і цяжка было пазнаць у новаадбудаваным горадзе сляды спусташэння. З’явілася моцная крэпасць і некалькі абарончых замкаў, так што не мала каштавала высілкаў Менглі-Гірэю ажыццявіць свае планы, задуманыя па нагаворы мяцежнага Глінскага ў 1508 годзе, калі заходнерускі край паступова пераходзіў ва ўладу Польшчы. Міхаіл Глінскі жадаў пры дапамозе гэтага хана зрабіцца ўдзельным князем мазырскім і валынскім, але, на злосць падбухторшчыку, хан не выканаў яго надзей, і Мазыр пакуль заставаўся ва ўладзе мангольскай. У пачатку XVI стагоддзя ў заходняй Русі ўмацавалася панаванне Польшчы, і Мазыр павінен быў, паступова згладжваючы элемент рускай іерархіі, падпарадкоўвацца ўплыву польскай адміністрацыі і нават рэлігійных утварэнняў, вядомых пад імем уніі. Польшча пераназвала ўсе старажытныя рускія княствы ў ваяводствы, і вось з’явілася ваяводства Мінскае, у склад якога ўвайшоў Мазыр як горад павятовы, пераўтвораны пасля, нароўні з іншымі гарадамі, у староства з прывілеямі магдэбургскага права. Што ж тычыцца рэлігійных пераўтварэнняў, то мазырскае праваслаўе ўмела цвёрда вынесці працяглае змаганне з каталіцызмам, які распаўсюджваў унію і, больш энергічна за іншыя суседнія акругі абараніла свае старажытныя правы, так што Мазыр менш як іншыя заходнерускія гарады спазнаў пакуты ад новаўвядзенняў уніяцкай прапаганды. З актаў Мінскай губерні вядома, што ў Мазырскім краі чысціня праваслаўнага вучэння падчас уніі захавалася ва ўсёй сваёй недатыкальнасці не толькі паміж простым народам, але нават у асяродку гарадскіх абывацеляў (Гл. Акты і граматы Мінскай губерні).

У першыя гады панавання Сігізмунда І перакопскія татары сталі трывожыць заходнерускі край, і Мазыр адзін з першых патрапіў у лік ахвяр татаршчыны. Набегі татарскія на Мазыр спарадзілі герояў, паміж якімі народныя песні ўслаўляюць адважнага бясстрашнага Базара, родам грэка. Базар не раз граміў татараў і ва ўзнагароду за свае заслугі атрымаў ад Сігізмунда маёнтак Іпагор, паблізу Мазыра. Праз два гады Базар быў узяты ў палон татарамі і забіты[6]. Іпагор перайшоў у валоданне другога такога ж адважнага ваяра Дзям’яна Ленкі, які зваўся ў граматах: Лянко Іпагорскі. Тое ж прозвішча Лянко перарабілася ў Лянкевіча. Адзін з Лянкевічаў быў першым Мазырскім старастам[7]. Нягледзячы на з’яўленне такіх герояў, татары ўсё-такі не пакідалі Мазыр у спакоі, і ў 1534 годзе неміласэрна выпалілі горад і перарэзалі жыхароў.

Толькі ў 1611 годзе, па рашэнні каралеўскага сойма, загадана было сабраць са ўсяго мазырскага краю неабходную суму для аднаўлення разбуранага Мазыра. Гэта прызначэнне цяжарам легла не толькі на абывацеляў — валадароў маёнткаў,

але і на сялян; за супраціў і невыкананне соймавага прысуду спаганяўся вялікі штраф (40 літоўскіх грыўняў). Пры адсутнасці грошай плацілі натураю: забіралі скаціну і нават адзежу. Вось на гэтыя сродкі па загадзе караля Сігізмунда III пабудавана ў гэты час і каменная крэпасць і ўвесь горад абведзены высокімі валамі з сямю абароннымі вежамі або фартамі. Сляды гэтых насыпных валаў захаваліся вакол Мазыра да цяперашняга часу: вышыня іх роўная з гарамі, на якіх раскінуты горад. За гэтымі валамі цягнуцца у розных накірунках сляды іншых умацаванняў, якія рабілі непрыступнымі мазырскія муры: так на паўднёвым захадзе ад горада бачыцца насыпная гара — Вартаўнік, дзе падчас татарскага пагрому ваколічныя хутаранцы, якія замянілі апалчэнцаў, абавязаны былі адбываць дзённую і начную варту. Такія ж апалчэнцы складалі часовы гарнізон і на сямі абаронных фартах. У адной з навакольных сяліб, вядомай пад імем Лупні, самай непрыступнай па сваім месцазнаходжанні, таксама была ўмацаваная цытадэль, або замак, абведзены рвом: рэшткі яе ўмацаванняў прыкметныя яшчэ і цяпер. Такіх замкаў, падчас татарскіх набегаў, было шмат вакол усяго Мазыра, таму што Мазыр служыў прытулкам для ўсіх жыхароў Палесся[8].

Умацаваны такім чынам горад мог адважна процістаяць неўладкаваным натоўпам перакопскіх рабаўнікоў, але не лёгка было яму супраціўляцца арганізаванаму войску, якое дзейнічае па ўсіх правілах ваеннай тактыкі, якім было Войска польскае пры каралі Сігізмундзе III. Выпадак для таго прадставіўся праз дваццаць гадоў. У валадаранне гэтага заходнерускага ўладара, жорсткага дэспата і рэлігійнага фанатыка, усе заваяваныя ім рускія вобласці трывалі страшны прыгнёт і паборы, а таму нядзіўна, што ўслед за рухам усяго казацтва на Украіне паднялося і насельніцтва заходнерускіх ваяводстваў. Прыкладам сваіх суайчыннікаў і адзінаверцаў захоплены былі і мазыране. У 1648 годзе казацкі правадыр Міхненка з адборнай дружынай украінцаў абыходзіў гарады Мінскага ваяводства і схіляў жыхароў на свой бок для супрацьстаяння польскаму самаўладству. Мазыр ахвотна далучыўся да дружыны Міхненкі і доўга ўпарта трымаў абарону, нягледзячы на вялікія польскія сілы, якія асаджалі яго. Нарэшце польскі князь Януш Радзівіл падаспеў на дапамогу палякам з пяцітысячным атрадам і штурмам узяў Мазыр, пасля чаго абышоўся з жыхарамі самым нялюдскім чынам: загадаў іх тапіць і кідаць у агонь. Паплаціўся жыццём і адважны Міхненка: Януш уласнаручна адсёк палоннаму галаву і ўторкнуў яе, для зганьбавання, на замкавы шпіц[9]. У 1659 годзе падчас усеагульнага літоўскага паўстання Мазыр незваротна быў разбураны і спалены[10]; але ўсё яшчэ знаходзіўся пад польскай уладай і не мог вызваліцца ад чужых яму пастаноў магдэбургскага права, якое ўвёў Сігізмунд III ва ўсім заходнерускім краі для канчатковага знішчэння ў ім асноўнага старажытнарускага адміністрацыйнага элемента. Апошні раз згадваецца ў летапісных актах аб Мазыры, як аб ленным маяраце польскай адміністрацыі, у 1670 годзе (ад 20 кастрычніка), менавіта ў грамаце караля Міхала[11], і ў 1685 годзе (11 мая), у грамаце караля Яна III, якая захоўваецца ў гарадскім магістраце, але не ўвайшла ў збор актаў Мінскай губерні. У ёй вызначаецца гарадская ўласнасць мазырскіх мяшчан. У грамаце караля Міхала гаворыцца аб аднаўленні прывілеі Сігізмунда III гораду Мазыру на магдэбургскае права, герб і гарадскія зборы: абвесткі, дзесяціну, памернае, кармавое, вагавае, возавае, васкабойнае і паводнае, таксама аб стварэнні двух кірмашоў у Мазыры і гандлі на іх па панядзелках і пятніцах. Тут жа Мазыр завецца падстараствам. Апошнім падстарастам быў Ян Лянкевіч-Іпагорскі[12]. Затым у XVIII стагоддзі, са спыненнем польскага валадарства ў заходнерускім краі, Мазыр вяртаецца ў склад аднапляменнай Расіі і прымае характар ранейшага чыста рускага горада, рэзка аддзеленага ў Мінскай губерні ад іншых яе гарадоў і толькі блізка падыходзячага да Пінска і Турава па духу, характару народа і нават па мясцовым адзенні.

У цяперашні час, не гледзячы на частыя пажары на працягу пяцідзесяці гадоў і асабліва моцны пажар у 1856 годзе, які знішчыў ледзь не большую пало-

ву будынкаў, Мазыр належыць да ліку самых прыгожых і ўтульных мястэчкаў заходнерускага краю. Сталых жыхароў у ім, па апошніх статыстычных дадзеных, 4700 душ, але як партовы горад, ён мае шмат часовых пасяленцаў, асабліва ўлетку, калі прыстань яго, на працягу паўвярсты, бывае абстаўленая living рознымі вялікімі і малымі суднамі — у пераважнай большасці прускімі і пазнанскімі берлінкамі. У гэты час Мазыр ажыўляецца і ўяўляе сабой сумесь плямёнаў і гаворак: да таго ж улетку бываюць два кірмашы, з якіх адзін, так званы Спаскі, які пачынаецца 6 жніўня і працягваецца каля трох тыдняў, асабліва цікавы. На Спаскі кірмаш з'язджаецца дваранства і купецтва не толькі з суседніх паветаў, але нават з іншых губерняў. Прускія і пазнанскія купцы скупляюць лён, пяньку, сала, воўну, свіную шчаціну, вэнджаную рыбу, рыбны тлушч і скуры: усё гэта складае вельмі выгодны матэрыял для мясцовага гандлю. І трэба заўважыць, што мазырскія гаспадары (больш мяшчане) і некаторыя памешчыкі з поспехам збываюць азначаныя тавары. Асабліва раскупляюцца скуры і рыбны тлушч: мазырскія мяшчане амаль усе рыбаловы і гарбары; некаторыя з іх прадаюць гэтага тавару на вялікія сумы. Мазырскія скуры адрозніваюцца вырабам, сакрэт якога мясцовыя прамыслоўцы хаваюць ад усіх: кажуць, яны ўжываюць нейкі асаблівы сок, які здабываецца з пажыўных лясных раслін.

Падчас кірмашу на галоўнай плошчы горада ўладкоўваецца цэлая калонія дашчаных крам і балаганаў, у якіх можна знайсці розныя прывазныя рэдкасці, замежныя і тубыльныя, якія дасылаюцца з Варшавы, Вільні, Кіева і Мінска. Галоўная роля на кірмашы належыць габрэям, без пасрэдніцтва якіх не можа весці аптовага продажу ні адзін прыезджы, асабліва пачатковец: або вазьмі для дапамогі габрэя, або ён будзе ва ўсім замінаць, распаўсюджваючы самы невыгодны слых аб тваім тавары. Габрэй абавязкова павінен быць пасрэднікам паміж прадаўцом і пакупніком, ад чаго мае вядомы адсотак з прададзеных рэчаў. Паміж прывазнымі таварамі сустрэнеце залатыя і срэбныя вырабы, сукно, шаўковыя матэрыі і кнігі — не толькі рускія і польскія, але і замежныя. Да гонару мазырскага адукаванага грамадства трэба сказаць, што кнігі раскупляюцца імі ахвотна. Акрамя гэтых кніг, некаторыя мазыране выпісваюць нават часопісы і сочаць за надзённасцю. Мне не раз даводзілася бываць у суполках такіх людзей, якія з любоўю займаюцца навукамі і мастацтвамі, рупліва распрацоўваюць матэрыялы па гісторыі заходнерускага краю, з захапленнем аддаюцца даследаванням мясцовых старажытнасцей і адкрыццям у галіне прыродазнаўчых навук. З задавальненнем магу, у гэтым выпадку, указаць на адукаванага навукоўца, аматара старажытнасцей, гарадскога прэзідэнта і павятовага памешчыка п. Франкоўскага, які збірае рэдкія славянскія манеты і які дасягнуў вялікіх поспехаў у справе вывучэння мазырскіх курганоў і розных іншых старажытных насыпаў, якімі, як я сказаў у першым раздзеле, багаты мазырскі край. Між іншым, я абавязаны п. Франкоўскаму за некаторыя звесткі пра помнікі даўніны горада Мазыра. Гэты ж годны навуковец даў мне магчымасць пазнаёміцца з актамі і граматамі гарадской ратушы і магістрата. Ад яго я даведаўся пра выдатны талент мясцовага паэта п. Неслухоўскага, які апеў прыгоды некаторых мазырскіх герояў — часоў татарскіх набегаў — у гучных, лёгкіх вершах[13]. Франкоўскі карыстаецца агульнай падтрымкай мазыран за тое збліжэнне грамадства, чаму ён дапамагае сваімі таварыскімі зборамі. Асабліва карысна гэтае збліжэнне для настаўнікаў мазырскай гімназіі або, як яе яшчэ завуць, дваранскага пяцікласнага вучылішча. Ад гэтых карысных збораў і гутарак грамадства робіцца больш сучасным. Набывае новыя погляды і больш дакладны кірунак педагогіка. Настаўнікі, у сваю чаргу, дзеляцца імі з выхаванцамі і з большаю ахвотай развіваюць сваю педагагічную дзейнасць, якая, пры іншым грамадскім настроі у іншых малых гарадах, як вядома, часта ўсыпляецца правінцыйнаю апатыяй і потым ухіляецца ад свайго дабратворнага прызначэння. Таму мазырскае дваранскае вучылішча адметна вылучаецца сярод іншых павятовых педагагічных устаноў Мінскай губерні і лічыцца ўзор-

ным: з яго выйшла нямала талковых маладых людзей, якія з выдатным поспехам маглі праходзіць сталічныя універсітэцкія курсы. Нягледзячы на сваю руцінную назву, вучылішча дапускае ў свае класы і дзяцей мазырскіх мяшчан, якія таксама могуць служыць прыкладам для мяшчан іншых мінскіх паветаў. У дзяцей мазырскіх мяшчан ёсць адна выдатная рыса: закончыўшы вучэнне яны не саромяцца вяртацца да заняткаў сваіх бацькоў і нават апранацца ў мяшчанскае адзенне, якое, трэба зазначыць, даволі прыстойнае і ахайнае. Мужчыны ходзяць у доўгіх ботах і лямцавых бурых капелюшах з шырокімі палямі; зімой капелюшы замяняюцца футравымі шапкамі кшталту старажытных баярскіх. Сурдут з бурага хатняга сукна з доўгімі крысамі і частымі зборкамі ў стане; у некаторых ён абшываецца ля каўняра і закаўрашоў сінімі або іншымі каляровымі шнуркамі. Узімку носяць футравыя (ваўчыныя і мядзведжыя) шырокія кажухі. Жанчыны — абавязкова ў чаравіках, часцей з абцасамі, а па святах — з крамнымі падборамі і металічнымі спражкамі. Галовы пакрываюць (старыя) наміткамі[14], лямцамі[15] і каляровымі хусткамі, звычайна павязанымі накшталт татарскай чалмы; маладзіцы і, наогул, дзяўчаты носяць белыя хусткі, з-пад якіх заўсёды выпускаюцца дзве касы з каляровымі, уплеценымі на канцах, стужкамі. Некаторыя мяшчанкі фарсяць у гарадскіх сукенках і не пакрываюць (улетку) нічым галовы, прыбраныя па-моднаму. Але гэта, ўласна, франціхі-мяшчанкі, якія, на жаль, захапляюцца панскімі ўборамі і ўяўляюць з сябе варон у паўлінавых пер’ях. Цяга да ўбораў моцна развіваецца паміж мяшчанкамі-мазыранкамі, якія пераймаюць пры гэтым ад паноў і розныя модныя грашкі. Эмансіпаваная мяшчанка не рэдкасць у Мазыры, магчыма таму, што яна падбухторваецца да франтаўства сваёю прыгажосцю, якая спакушаецца падарункамі гараджан. Да таго ж мазырскія мяшчанкі занадта ўразлівыя, бесцырымонныя і жвавыя ад прыроды. Звычайна ж яны ходзяць у суконных даволі грацыёзных жупянках[16], абшытых каляровымі стужкамі, а зімою ў кажушках у абліпку. Яшчэ грацыёзныя іх гарсэты, большай часткай з яркіх шаўковых, ваўняных, суконных, паркалёвых і нярэдка аксамітавых тканін; у гэтых гарсэтах, з шматлікімі бліскучымі гузікамі спераду і ззаду, з разразнымі баскінамі ніжэй таліі, без рукавоў, хораша абмалёўваецца стройны жаночы стан. З-пад гарсэта бачны вялікія плоеныя або проста складчатыя каўняры белай кашулі, рукавы якой заканчваюцца ля кісці рукі чымсьці накшталт уздутых абшэвак або буфаў, перацягнутых шырокаю стужкаю і прышпіленых вялікімі каніфольнымі запінкамі. Паверх каўняра адзяваецца мноства нітак пацерак з бурштыну, граната, каралу і шклярусу са срэбнымі манетамі. Гэтая спадчына бабуль і прабабуль, якая пераходзіць з сям’і ў сям’ю, яе не прадаюць нават у выпадку крайняй беднаты. Дадаткам гарсэта служыць андарак[17], які не закрывае ног: ён робіцца часцей з ваўнянай тканіны хатняй нарыхтоўкі, што афарбоўваецца выдатна-трывалай фарбай, вядомай пад назвай чарвеца. Чарвец гэты здабываецца з нейкіх палявых і лясных кветак, якіх вельмі шмат на Мазыршчыне, і дае цудоўную, чыстую яркачырвоную фарбу, якая зусім не аблазіць. Шматлікія прыезджыя замежныя прамыслоўцы імкнуліся ўлавіць таямніцу афарбоўвання чарвяцом і потым рабілі ў сябе доследы, але, па іх жа прызнанні, мазырская фарба значна чысцейшая і ярчэйшая. Для падрыхтоўкі гэтай фарбы не ўжываюць ніякіх мудрагелістых сродкаў, кладуць толькі нейкі рачны камень, які раствараюць у гарачай вадзе, але гэтага каменя і не называюць і яго не лёгка дастаць; ім запасаюцца вытворцы ў вядомы час года. Колер мазырскіх андаракаў кідаецца ў вочы ўсякаму новаму чалавеку і нельга не пажадаць, каб нашы натуралісты звярнулі сур’ёзную ўвагу на чарвец, які, гавораць, выключна водзіцца на глебе мазырскай і рэчыцкай і не можа прышчапіцца да іншых грунтоў, як у гэтым упэўніліся замежныя кірмашовыя прамыслоўцы, якія без поспеху спрабавалі разводзіць яго на сваёй зямлі. Чарвяцовыя андаракі такія прывабныя для простага мазырскага люду, што шматлікія — з большым дастаткам — сялянкі лічаць абавязковым мець у сваім гардэробе для ўрачыстых дзён хоць адзін прыгожы мяшчанскі андарак. Шкада толькі, што з

любоўю да андарака ў мазырскіх мяшчан не ўкараняецца і любоў да адукацыі: цемната страшная паміж простым сельскім людам!

Падчас Спаскага кірмашу для прыезджага дваранства і мясцовых гараджан ладзіцца часовы тэатр, які мае, зрэшты, сталае памяшканне ў знарок падрыхтаваным будынку. Будынак невялікі, але не пазбаўлены некаторай прывабнасці ва ўнутраным аздабленні. Прыезджая мінская губернская трупа, якая ў цяперашні час знаходзіцца ў казённым вядзенні, забяспечана жалаваннем і карыстаецца летнімі канікулярнымі водпускамі. У складзе гэтай трупы ёсць некалькі адукаваных артыстаў і артыстак, сярод якіх прываблівае сваёй натуральнаю ігрой і прыемным гучным голасам маладая дзяўчына спадарыня Драздоўская, якая збіраецца нават дэбютаваць на сталічнай сцэне. Прыязджаюць таксама артысты-музыкі і ладзяць неблагія канцэрты. Але галоўнай кірмашовай забаўкай бываюць рэсурсы, гэта значыць, высакародныя танцавальныя зборы, да якіх загадзя падрыхтоўваюцца мазырскія дамы. Ёсць такія, якія не здавальняюцца таварамі сваіх мазырскіх гандляроў і вырабамі мясцовых мадыстак, а выпісваюць матэрыі і нават уборы калі не з Варшавы і Пецярбурга, дык абавязкова з Вільні або хоць з Мінска. А можна знайсці сёе-тое і ў мазырскіх гандлёвых кропках, у ліку якіх ёсць некалькі крам, і вядома модных крамных прылаўкаў… У Мазыры можна налічыць больш як сотню ўсялякіх крам, асабліва многа тых, у якіх прадаюцца вырабы, зробленыя на Мазыршчыне з мазырскай жалезнай руды. Я забыў сказаць, што на грунтах мазырскіх горных цяснін маецца жалезная руда, якая апрацоўваецца ў мясцовых жа рудокопнях. Лепшымі жалезнымі рудамі багатыя пласты зямлі, якія ляжаць уздоўж берагоў ракі Славечны. Вялікая частка крам складае ўласнасць аферыстаў габрэяў, якімі дастаткова напоўнены Мазыр і ў руках якіх увесь дробны гандлаль: габрэі і меднікі, і срэбнікі, і залатых спраў майстры, і краўцы, і гадзіншчыкі, і гаспадары корчмаў, кавярань, кандытарскіх. Ёсць, аднак, корчмы і кандытарскія хрысціянскія, якія і чысцейшыя і прыстойнейшыя. Габрэі — і фактары, і вястоўшчыкі, і рассыльныя; яны ж употай займаюцца продажам безбандэрольнага тытуню і цыгар. Смешна чуць іншы раз пытанне жыда гандляра-тытунніка: «Якога вам тытуню, з бандэролем ці без бандэроля?» Калі без бандероля — вас павядуць у такое цёмнае падзямелле, што вы ўявіце сябе ў якіх-небудзь старажытных катакомбах. Зразумела, і ў гэтае змрочнае месца павядуць вас толькі па знаёмстве; чалавека новага, свежага, з ветру — не пусцяць туды, габрэй трошкі і асцярожны. Дзіўна, што габрэі не перабілі ў мазырскіх мяшчан рымарства і шавецтва: шаўцы ў Мазыры больш хрысціяне. З іншых жа хрысціянскіх крамнікаў вядомыя так званыя рускія, гэта значыць тыя, якія перасяліліся з вялікарускіх губерняў. Гэтыя рускія купцы гандлююць чаем, самаварамі, ікрой, салёнай рыбай і варэннем, але іх крам мала, падаецца, усяго дзесяць. Да ліку хрысціянскіх мазырскіх гандляроў, як тыпу мясцовых прамыслоўцаў, належаць так званыя піліпоны[18], што раз'язджаюць па кірмашах з соллю, або гароднінай і насеннем, якія яны так добра ўмеюць вырошчваць і гадаваць на сваіх па-майстэрску апрацаваных палях і ў шырокіх гародах: іх цыбуля, бульба, гарбузы і асабліва агуркі вядомыя па ўсім заходнерускім краі, трапляюць нават у Маларосію і ў польскія губерні. Велічыня цыбулін, гарбузоў і агуркоў проста здзіўляе.

Большасць будынкаў у Мазыры даволі правільнай і прыгожай архітэктуры ў рускім стылі з прымешкам гатычнага і візантыйскага элементаў, якія пераважна ўвасоблены на порціках і фасадах стрэх, упрыгожаных разьбой і насечкамі. Прыгожы выгляд будынкаў дапаўняецца прасторнымі дварамі і вялікімі садамі, без якіх, падаецца, не абыходзіцца ні адзін будынак у горадзе. Сады гэтыя яшчэ больш прываблівваюць тым, што знаходзяцца на ўзгорках, якіх шмат у і без таго гарыстым Мазыры. Паміж узгоркамі знойдзеце некалькі глухіх цяснін; але самая таямнічая і загадкавая па сваім спіральным паглыбленні, якая, па народным павер'і, не мае дна, — старажытная цясніна, што завецца Татарскай, у якой быццам бы загінулі сотні перакопскіх татараў ад рукі адважнага Базара. У паглыб-

ленні цясніны вясною, часам у даждлівае лета, вертыкальна б'е са дна чыстая празрыстая крынічная вада. Цясніна разразае вялікую гару[19], парослую цяністай ляшчынай, лістоўніцаю і дзікімі ружамі, сярод якіх з задавальненнем можна пагуляць у самае гарачае лета. Зрэшты, гэтая гара сапраўды з'яўляецца любімым месцам адпачынку гараджан, нягледзячы на тое, што не лёгка патрапіць туды па стромкай, звілістай сцяжынцы. Але мазаранам прывычныя такія сцяжынкі і дарожкі: яны сустракаюцца ў горадзе на кожным кроку. Нават самі вуліцы цягнуцца з гары на гару; адзіная прамая вуліца — уздоўж набярэжнай Прыпяці. Нельга, аднак, сказаць, каб у Мазыры не было каменных будынкаў: ёсць некалькі і нават даволі вялікага памеру. Самае значнае месца паміж каменнымі будынкамі займае Бернардынскі манастыр, размешчаны на вялікай гары. Ён заснаваны ў 1654 годзе, але ў апошні час, са знішчэннем ордэна бернардынаў, уяўляе сабой руіны. Каталіцкае набажэнства здзяйсняецца ў драўляным саборным касцёле — фары, заснаваным польскім каралём-прапагандыстам Сігізмундам III у 1616 годзе, па хадайніцтве мазырскага старасты Балтазара Стравінскага. Праваслаўных цэркваў дзве: саборная, на высокім, стромкім кургане, да якога вядзе доўгая лесвіца з цэлаю сотняй прыступак, і прыхадская — Пятніцкая. Абедзве гэтыя царквы драўляныя. Па стылі вонкавай пабудовы і ўнутраных упрыгожванняў, абразоў і купалоў яны носяць адбітак старажытнасці: ва ўсякім разе, першая — саборная — вылучаецца арыгінальнай, старажытнай архітэктурай і абразамі візантыйскага стылю, не скажонымі ўплывам уніяцтва. І архітэктура, і жывапіс сведчаць аб пабудове саборнай царквы ў эпоху дауніяцкага праваслаўя. Што тычыцца прыхадской, то ўжо сама назва: Пятніцкая — паказвае на яе старажытнасць. Вядома, што такую назву цэрквы атрымоўвалі ад Пятніцкіх канцоў, гэта значыць, вуліц або падаленых прадмесцяў горада; а канцы існавалі толькі ў старажытных рускіх гарадах, напрыклад, у старажытным Пскове і Ноўгарадзе[20]. Зрэшты, існаванне праваслаўных цэркваў у Мазыры з найглыбейшай старажытнасці не падлягае сумненню: іх было, па паданні, нават шмат. Прынамсі, вядома аб існаванні вялікай каменнай царквы Спаскай, ад якой атрымала назву галоўная гара Мазыра[21]. На гэтай гары была царква і гарадскі замак, які замяняў крэпасць. Адгэтуль назва той жа гары — замкавая; нават вуліца, якая агінае Замкавую гару, завецца дагэтуль Замкавай[22].

Сляды старажытнага каменнага замка захаваліся ў паглыбленні гары, пры раскопках якой знаходзілі паленую цэглу, фрагменты ланцугоў і розных іншых жалезных рэчаў. Замак гэты існаваў у Мазыры да пачатку XVIII стагоддзя: самая позняя згадка пра яго сустракаецца ў каралеўскай грамаце, выдадзенай у 1670 годзе на імя мазырскіх стараст для ўразумення судовых спраў, якія вырашаліся ў палатах замка[23]. Як відаць з граматы, у гэты час замак меў яшчэ сваё адміністрацыйнае значэнне і рашэнні яго ўплывова дзейнічалі на палітычны лад горада без адрознення саслоўяў і званняў. Гэтым жа рашэнням падпарадкоўваліся як мясцовыя, так і замежныя гандлёвыя людзі, з тым толькі адрозненнем, што правы гандляроў не цалкам падпарадкоўваліся магдэбургскім пастановам. Гандлёвы клас шмат у чым кіраваўся законамі рускай, або літоўскай юрысдыкцыі, але менш за ўсё магдэбургскім правам. Помнікам літоўскай даўніны могуць служыць грамадскія гарадскія шалі, выстаўленыя на замкавым пляцы, да якіх павінны былі звяртацца, у выпадку абважвання, усе пакупнікі. На гэтых жа вагах павінны былі ўзважваць усе зборы і мыты, як з мясцовых, так і з прыезджых купцоў. Гэтыя ж самыя шалі, пад імем літоўскіх, існуюць і цяпер на рынкавым пляцы, але без усякага ўжывання: яны моцна забіты ў зямлю. Уся іх аснова з масіўнага жалеза, вагою ў некалькі пудоў. Нельга не звярнуць увагі, што польскія каралі, падчас свайго валадарства ў заходнерускім краі, вынішчаючы ўсё рускае і літоўскае, не знішчалі ваг літоўскіх, якія былі ў вялікім ужыванні ў заходніх губернях, у тым ліку і ў горадзе Мінскай губерні — Мазыры. Прынамсі, мазырскія шалі захаваліся са спрадвечных часоў. Аб іх гаворыцца яшчэ ў 1572 годзе ў грамаце Аўгуста II, якая дагэтуль ацалела ў архіве гарадскога магістрата. Там жа захоўваюцца і

іншыя старажытныя граматы. Я меў выпадак праглядаць граматы ад 1572 года (аб гарадскіх парадках, аб мастах і судах у замку), 1577 года (аб гарадскіх зборах і мыце, дакладней — мыце з піва), 1670 года (аб сцвярджэнні магдэбургскага права), 1680 года (аб гандлі і зборы за лоўлю рыбы) і 1685 года (аб гандлі па пятніцах). Ва ўсіх гэтых граматах згадваецца аб уласнасці гарадскіх мяшчан на землі ад рэчкі Лупні ўздоўж Прыпяці да пратокі Акарызы.

Недалёка ад Мазыра, падаецца — у дваццаці вёрстах, на гасцінцах тураўскім і давыдгарадзецкім, пры рацэ Прыпяці, ляжыць старажытнае мястэчка Скрыгалаў, аб якім, як аб старажытным горадзе, згадваецца ў польскіх летапісах. Цяпер яно складае ўласнасць п. Аскеркі. Але быў час, гавораць старыя людзі, калі ў ім дзейнічаў вялікі гандаль лесам і адбываліся дваранскія соймы, калі Скрыгалаў лічыўся ўмацаваным і непрыступным горадам. У доказ такой здагадкі спасылаюцца на суседняе гарадзішча, як на рэшткі старажытнай скрыгалаўскай крэпасці. Народ дагэтуль заве гарадзішча Гарадком. Гарадзішча гэтае не што іншае, як шырокі пляц сярод густога лесу, які займае некалькі дзесяцін. Яно акружана высокімі землянымі акопамі і глыбокім ровам з вадой. Будучы прыцемнена глухім непраходным лесам ад самога Скрыгалава, гарадзішча амаль не прыкметна для тых, хто праязджае па вялікай тураўскай дарозе. Уся яго плошча зарасла векавымі дубовымі дрэвамі, якія яшчэ больш надаюць яму таямнічасці. Але той, хто б захацеў бліжэй азнаёміцца з гарадзішчам, убачыўшы штучны насып грунту, мімаволі прыйшоў бы да несумненнай высновы аб нейкім старажытным яго значэнні. Яшчэ больш упэўніўся б ён у сваёй здагадцы, калі б крануў грунт якой-небудзь рыдлёўкай або плугам: на самай малой глыбіні трапляюцца кавалкі гліны, цэглы, часанага каменя, нават сям-там абломкі мармуровых, паліраваных пліт. Частку такой пліты мне самому давялося бачыць. Распавядаюць, што некалькі гадоў таму нейкі цярплівы археолаг-землякоп, які капаў у адным кутку пляца, адкрыў цэлую лесвіцу з мармуру, пад якой прасочвалася вада, як быццам, са штучнага водаправода. На жаль, тым і канчаюцца аповеды скрыгалоўскіх старажылаў: мясцовы памешчык не аматар старога і не цікавіцца скарбамі такой мясцовасці ў сваіх уладаннях. Што тут было на самай справе, цяжка сказаць з упэўненасцю: няма ніякага дакладнага падання аб гарадзішчы…. Адзіныя сведкі мінуўшчыны — кругавы вал і ўсярэдзіне самога гарадзішчы — магілы розных велічынь, мноства малых і вялікіх курганоў….

А вось таксама старажытнае мястэчка — Юрэвічы над Прыпяццю, на паўднёвы ўсход ад Мазыра; каля гэтага мястэчка таксама ёсць штосьці накшталт гарадзішча з курганамі, празванае Градняю. Тут жа на значным узвышэнні, паміж Прыпяццю і прыгожым возерам, красуецца каменны замак Барбараў, закрыты ля падножжа ланцугом пагоркаў. Старажытная архітэктура гэтага замка, зубчастыя вежы, калоны, шпіцы, глыбокія равы, канавы, падземныя хады і надводныя ланцуговыя масты надаюць будынку характар нейкага асаблівага часу, ледзь не рыцарскага, калі толькі рыцарства існавала ў заходнерускім краі. Барбараў належыць п. Аскерку, уладальніку Скрыгалава.

* * *

[1]Берлінка — пласкадоннае судна берлінскай работы; яно даволі даўгаватае і вузкае, з мачтамі і каютамі.

[2]Завецца таксама Цёмнай далінай.

[3]Летапіс Даніловіча, стр. 117—119.

[4]Pomniki do dziejów Lit. Nar., летапіс Нарбута, — стр. 6. § 11.

[5] Kojałowicz, 1, 80.

[6] Нашчадкі Базара і цяпер існуюць на Мазыршчыне пад прозвішчам Базарэвічаў. Сярод татар быў яшчэ герой Сайкер, які пасяліўся ў Мазыры. Ад яго пайшло прозвішча Сайкоўскіх.

[7]Збор грам. і акт. Мінскай губерні № 142. Староста адпавядае абласному намесніку з правам леннага ўладальніка.

[8] Аб усіх гэтых замках і цытадэлях ёсць звесткі ў старажытных фундушавых запісах панскіх уладанняў.

[9]Histor. Belli Cosacco-polonici, Pestini, 1789 an. p. 116; Histor. Jana Kazimira, выд. Рачынскага, I. 91.

[10]Вось што сказана аб гэтым разбурэнні ў прысудзе соймавага паседжання 1676 года: «Разрабаваны і спалены горад Мазыр уяўляе страшэнныя руіны. Ад забойства выратавалася ўсяго некалькі дзясяткаў жыхароў».

[11]Збор стар. акт. і грамат Мінскай губерні, № 142.

[12]Там жа.

[13]Асабліва добрая яго паэма, названая па назве ракі — Прыпяць — Прыпеіда. У гэтай паэме, якая складаецца з 50 старонак, паэт у выдатных вершах распавядае аб геройстве Сайкера, татарскага правадыра, што кінуў лагер і перайшоў на бок мазырскага апалчэння. Па-мастацку малюецца мясцовасць прыгожага хутара Іпагора, бой казакоў на вяршынях мазырскіх гор і каханне Сайкера да адной прыгожай мазыранкі. Паэма напоўненая апісаннямі нораваў мазыран, іх гасціннасці, а таксама рознымі мясцовых паданнямі і павер’ямі.

[14]Намітка — доўгае вузкае покрыва з белага палатна, нярэдка самага тонкага, з ажурнай тканінай на канцах; покрывам гэтым некалькі раз абкручваюць галаву, па баках вісяць канцы.

[15]Лямец — штосьці накшталт какошніка ў выглядзе чатырохкутніка, канцы якога спускаюцца назад.

[16]Жупянка — род паліто ніжэй калена з таліяй у абліпку.

[17]Андарак — верхняя спадніца, якая аблямоўваецца ўнізе махрамі; у больш заможных ён абшываецца аксаміткамі, часцей чорнага колеру. Андаракі бываюць часам вельмі каштоўныя.

[18]Піліпоны — нашчадкі старажытнай раскольніцкай секты, якая атрымала назву ад свайго заснавальніка Філіпа. Яны з даўніх пор перасяліліся з Чарнігаўскай губерні ў Мазыршчыну і займаюцца выключна агародніцтвам; ходзяць у вялізных ботах, змазаных дзёгцем і ў чорных паяркавых капелюшах.

[19] Гавораць, што гэта старажытны магільны курган.

[20] Гл. кнігу п. Красава аб месцазнаходжанні старажытнага Ноўгарада.

[21] «Прыпеіда» п. Неслухоўскага, т. I, стр. 34.

[22]Так называлася яна і ў 1577 годзе. Збор мазырскіх грамат у гарадскім магістраце, грам. под № 1.

[23] Збор актаў і грамат Мінск. губерн. №142.

***Пераклад і падрыхтоўка***
***да друку Аляксандра Вашчанкі.***

## Люты

**1**

— 50 гадоў з дня нараджэння (1960) Сцяпанава Ігара Аляксандравіча, беларускага акцёра.

**2**

— 75 гадоў з дня нараджэння (1935) Пранько Уладзіміра Аляксандравіча, беларускага кінааператара.

**4**

— 80 гадоў з дня нараджэння (1930) Міхеенкі Анатоля Міхайлавіча, беларускага самадзейнага разьбяра па дрэве.

**5**

— 80 гадоў з дня нараджэння (1930) Янкоўскага Расціслава Іванавіча, беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР.

— 75 гадоў з дня нараджэння (1935) Палітыкі Апанаса Паўлавіча, беларускага гумарыста, празаіка, паэта.

**6**

— 60 гадоў з дня нараджэння (1950) Гуршчанкова Мікалая Ігнатавіча, беларускага графіка і акварэліста.

**7**

— 85 гадоў з дня нараджэння (1925) Сторажавай Людмілы Іванаўны, беларускай актрысы, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

— 60 гадоў з дня нараджэння (1950) Трахімёнка Сяргея Аляксандравіча, беларускага пісьменніка і юрыста. Піша на рускай мове.

**8**

— 200 гадоў з дня нараджэння Хруцкага Івана Фаміча (1810—1885), беларускага жывапісца.

— 155 гадоў з дня нараджэння Гласко Івана Антонавіча (1855—1881), беларускага публіцыста, дзеяча рэвалюцыйнага руху.

— 50 гадоў з дня нараджэння (1960) Душачкіна Андрэя Андрэевіча, беларускага акцёра, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

**9**

— 80 гадоў з дня нараджэння Тараса Валянціна Яфімавіча (1930—2009), беларускага перакладчыка, паэта, празаіка.

**11**

— 90 гадоў з дня нараджэння Рудзько Дзмітрыя Васільевіча (1920—1998), беларускага цымбаліста, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

— 75 гадоў з дня нараджэння Кусянкова Міколы (Мікалая Сяргеевіча; 1935—2004), беларускага паэта, празаіка.

**13**

— 305 гадоў з дня нараджэння Радзівіл Францішкі Уршулі (1705—1753), асветніцы і драматурга.

— 50 гадоў з дня нараджэння (1960) Хілько Юрыя Іванавіча, беларускага графіка.

**14**

— 105 гадоў з дня нараджэння Дзядзюшкі Уладзіміра Іосіфавіча (1905—1973), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР.

